*Міхась Скобла*

# Дзярэчынскі дыярыюш

Гістарычны нарыс
Артыкулы
Эсэ

Мёнск
«Беларускі кнігазбор»
1999

УДК 882.6-4
ББК 84(4Беи)
С 44

Кніга выдадзеная ў рамках праекту
«Местачковы рэнэсанс».

Фінансавая падтрымка:
*Валянцін Дубатоўка,*
*Віктар Каладзкі.*

Аўтар выказвае асаблівую падзяку
князю *Яўстаху Севярыну Сапегу* (Найробі) за спрыяньне.

Шчыры дзякуй дабрадзеям,
чыя чыннасьць дапамагла ў працы
над гістарычным нарысам
«Дзярэчынскі дыярыюш»:

*Марыі Каламайскай-Саед* (Варшава),
*Ларысе Вікторцы,*
*Валянціну Дубатоўку,*
*Вячаславу Качуку,*
*Анатолю Кірвелю* (Санкт-Пецярбург),
*Уладзімеру Кісламу,*
*Пятру Марціноўскаму,*
*Алесю Краўцэвічу,*
*Уладзімеру Ляхоўскаму,*
*Віталю Савічу,*
*Ігару Марціноўскаму.*

ISBN 985-6318-49-1

# ДЗЯРЭЧЫНСКІ ДЫЯРЫЮШ

## *Гісторыя адназа мястэчка*

*Хутар ляжаў у шырокай нізовіне. Вялікай падковай яго акружала кукурузнае поле. Зялёнае войска, спыненае нябачным палкаводцам, нерашуча тапталася ля самых прысадаў, ківаючы касматымі кіяхамі-бунчукамі.*

*Аднойчы, уявіўшы сябе кавалём-вярнідубам і паваліўшы долу не адзін дзясятак двухмэтровых кукурузінаў, я неўпрыкмет адышоўся занадта далёка ад роднай сялібы. Ваяўнічая пыха імгненна зьмянілася на роспач, баёвыя клічы – на безадпаможны дзіцячы плач. Праз гадзіну блуканьня я выбрыў з кукурузнай пушчы на лугавіну з другога боку поля. Перад вачамі ляжала мястэчка, пра якое я чуў безьліч разоў і адкуль маці часам прыносіла пахучыя смачныя сайкі. Прыцягваў увагу даўжэзны будынак местачковай школы, у якую, я ведаў, хадзілі мае старэйшыя браты. Але найбольш запалі ў дзіцячую ўражлівую душу два самыя прыгожыя будынкі – белая царква і чырвоны касьцёл. Такі мой першы ўспамін пра мястэчка Дзярэчын...*

*Што я мог ведаць пра гісторыю мястэчка, калі быў вучнем Дзярэчынскай сярэдняй школы? Такога прадмету, як краязнаўства, у школах дваццаць гадоў таму, як, зрэшты, й цяпер, не было. На ўроках гісторыі мы праходзілі царства Урарту і Вялікую францускую рэвалюцыю, вучылі на памяць імёны эгіпэцкіх фараонаў і расейскіх цароў. Любоў да савецкай*

*радзімы нам стараліся прышчапіць мясцовыя партызаны-ветэраны, якія час ад часу выступалі перад намі з успамінамі. Праўда, з тых самых урокаў гісторыі мне было вядома, што на дзярэчынскіх могілках пахаваны генэрал напалеонаўскай вайны, а мураваны помнік пры дарозе на Масты паставілі калісьці нейкія манахі-дамінікане.*

*Дарога да Дзярэчына працягвалася й пасьля заканчэньня школы ды пераезду ў сталіцу. Яна пралегла праз усю Заходнюю Беларусь. Яшчэ студэнтам уманўўся я зь сябрамі штолета выбірацца ў вандроўкі. Мы аб'ехалі ўсю Гарадзеншчыну й Берасьцейшчыну. Дапамагалі дзядзьку варушыць сена ў Крэўскім замку, ад якога захаваліся толькі магутныя сьцены, падобныя на каменныя соты. Узднымаліся, як на вяршыню, да ляснога палаца ў Косаве, са сьценаў якога як на далоні быў відаць мэмарыяльны камень на месцы хаты, дзе нарадзіўся Тадэвуш Касьцюшка. У Івацэвіцкім раёне паблізу вёскі Бабровічы выявілі балота зь дзіўнай назвай Пагоня, дзе, паводле ўспамінаў дзевяностагадовага дзеда, «пры цары» была ўзята ў аблогу грамадка паўстанцаў...*

*Былая слава й веліч іншых гарадоў і мястэчкаў распальвалі цікавасьць да сваіх ваколіцаў. І калі неяк мы разам з машынай апынуліся ў прасторных абдымках Ружанскага палаца, заехаўшы на спасьвенае рознай жыўнасьцю дворышча, я ўжо ведаў, што аднойчы гісторыя на запятках княскай карэты пераехала адсюль наўпрост у Дзярэчын.*

*Пагартаўшы беларускія й польскія энцыкляпэдыі, я канчаткова пераканаўся, што маё роднае мястэчка мае сваю векавечную мінуўшчыну. Былі ў ёй у свой час і палац, і старажытны кляштар з падземнымі пераходамі, і нават вайсковая акадэмія.*

*Дзярэчын паступова паўставаў з глыбінь вякоў, як затанулая Атлянтыда...*

ІСНУЕ дзіўная завядзёнка – сьвяткаваць юбілеі, беручы за пункт адліку першую прыгадку паселішча ў летапісе. Нават калі гэтая прыгадка сьведчыць пра пажар, пры якім паселішча выгарала датла, ці пра руйнаваньне ягоных падворкаў ворагамі. Атрымліваецца парадокс – юбілейная дата жыцьця адлічваецца ад даты сьмерці. Так сталася пазалетась і зь не зусім круглым юбілеем беларускай сталіцы. 930-годзьдзе сьвяткавалі, пазначыўшы нараджэньне Менску 1067 годам, калі адбылася вядомая бітва на Нямізе, у выніку якое горад быў спалены.

Дзярэчыну ў гэтых адносінах пашанцавала. Першае ўпамінаньне пра яго мае выключна мірны характар. Як паведамляецца ў Літоўскай мэтрыцы, Дзярэчын у 1416 годзе быў падараваны вялікім князем Вітаўтам Васілю Капачу: «...За верную службу его, што он чыніл у цэзара і у папежа. Далі есмо ему Деречін зо всімі селы і пушчою, как держал Дремут, вечно і непорушно у прок і его шчадком». Ад ранейшага гаспадара баярына Дрэмута да новага ўладальніка Дзярэчын перайшоў буйным і добра загаспадараным маёнткам. А значыць, жыцьцяпіс незнакамітага сёньня мястэчка сягае ажно ў чатырнаццатае стагодзьдзе й дазваляе лічыць бліжэйшыя гарады Масты, Дзятлава і Зэльву малодшымі братамі Дзярэчына.

Адкуль жа паходзіць назва Дзярэчын? Вядомы тапаніміст В. Жучкевіч выводзіць яе ад народнага прозьвішча «деречення», што ў сучаснай расейскай мове азначае «драчун». Паводле гэтае вэрсіі, далёкія прашчуры сучасных дзярэчынцаў надта ўжо любілі памахаць кулакамі. Магчыма, паважаны дасьледнік і мае рацыю, бо дзярэчынскі люд і ў пятнаццатым, і ў дваццатым стагодзьдзях не вызначаўся асаблівым міралюбствам у адносінах да суседзяў. За мінулыя стагодзьдзі сьведчаць запісы ў судовых кнігах, да якіх мы, каб узнавіць каларыт тых часоў, неўзабаве зьвернемся, а за наша стагодзьдзе можа выступіць сьведкам аўтар гэтых радкоў, як непасрэдны наглядач, а часам

і ўдзельнік шматлікіх разборак вёска на вёску. Але асабіста мне ніколі не падабалася быць нашчадкам нейкіх «дзерачэняў», ды й вельмі ўжо чужароднымі чуліся ў беларускай мове словы «драчун», «драться».

А таму мяне вельмі ўсьцешыў запіс у актавай кнізе слонімскага гарадзкога суда, зроблены 12 сьнежня 1575 года: «Подданые пана Руденского на имя Андрей Дрыка а Ярош Тишкевич признались, иже мы подлазили двои бчолы – одны у Коптева каменя, у сосне, верх зломленый, а другую у Шарой сосне, а бортники княжие, оповедавши то копе, признать мусили, тые бчолы от вашое *деречи* не отошли». Тагачасныя пчаляры-бортнікі даставалі пчаліныя раі з калодаў, і гэты занятак называўся *дзярэчай*. То чаму далёкімі продкамі дзярэчынцаў павінны быць бэйбусы з пудовымі кулакамі, а не ўраўнаважаныя бортнікі, што даглядалі «божых жывёлак», як называе пчолаў адна беларуская кніга пачатку нашага стагодзьдзя? З маімі самадзейнымі тапанімічнымі вышукамі пагадзіўся й нараджэнец вёскі Грабава, колішні выпускнік Дзярэчынскай школы, доктар філялёгіі й прафэсар Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Павал Сьцяцко – з умовай, што слова «дзярэча» напачатку сталася мянушкай альбо прозьвішчам, а ўжо потым спрычынілася да ўтварэньня назвы мястэчка.

У сувязі з гэтым прыгадваецца адзін амаль неверагодны факт, што меў месца ў жыцьці аўтара гэтых радкоў. Пасьля першага курса ўнівэрсытэцкага навучаньня я быў прыкліканы ў савецкае войска і два гады таптаў салдацкімі ботамі землі свабодалюбных Летувы й Заходняе Украіны. У Летуве нас адкрыта называлі «дэсантас акупантас», а ў Львове на начных рэпэтыцыях парадаў бацькі-камандзеры ўвесьчасна папярэджвалі, каб мы гулялі па горадзе толькі вялікімі групамі. І вось аднойчы, кіруючыся ў пешым парадку на палігон, наш дэсантна-штурмовы батальён спыніўся на прывал у засьнежанай па самыя стрэхі карпацкай вёсачцы. Стомленыя пераадоленьнем горнае

хрыбтавіны, хлопцы пападалі на разасланыя плашч-палаткі, зладаваўшы пад галовы пляскатыя дэсантныя заплечнікі. Некалькім чалавекам на чале з сяржантам Барысам Андрусішыным (ён быў родам з тутэйшых мясьцінаў і, як потым выявілася, даводзіўся стрыечным братам славутаму беларускаму сьпеваку Данчыку) было дазволена прайсьціся па сьцішанай вясковай вулачцы. І якое было маё зьдзіўленьне, калі першы сустрэты намі гуцул на пытаньне, як называецца навіслая над вёскай горная крыжавіна, адказаў проста і ясна, як белы дзень, – Дзярэчын. Прайсьці пешкі, пераадолець на цягніках, самалётах, верталётах і «бээмдэшках»* тысячы кілямэтраў, каб зь Дзярэчына трапіць у Дзярэчын!.. На схілах карпацкага Дзярэчына да гэтай пары жыве многа пчаляроў – той жа гуцул пачаставаў «зморaных салдацікаў» сваёйскім мёдам. Вярнуўшыся з войска дамоў, я не супакоіўся, пакуль не спраўдзіў цікавую для мяне назву ў аўтарытэтнай «Encyklopedji Powszechnej». Ёсьць такі горны масыў у Карпатах!

Але вернемся да колішніх уладароў Дзярэчына беларускага. Род Капачоў валодаў паселішчам на працягу цэлага стагодзьдзя. 9 верасьня 1493 года сыну Васіля Капача двараніну гаспадарскаму Яцку Капачэвічу ваяводам троцкім і маршалкам земскім Пятром Яновічам было выдадзена афіцыйнае пацьверджаньне, што Дзярэчын вечна мае належаць яму, ягонай жонцы ды іхнім нашчадкам. У пацьверджаньні паведамлялася, што Дзярэчын быў падараваны Васілю Капачу «со всими тыми присельники: с Лижневичи, з Бахаревичи, з Луконицою, со всею Мерю, с Валкевичи, с Кропою, з Дорогайном, з Неткавичи, с Озеряны, з Дрытовом, с Щаряны, с Котчыною, с Угриняны, з дворцом Бережки, с ставы и з млыны». Дваранін гаспадарскі Яцак Капачэвіч, знаходзячыся ў сталым веку, турбаваўся, каб маёмасьць пасьля ягонай сьмерці ня трапіла ў чужыя рукі, прасіў «абыхмо ему тое именье Деречин листом потвердили». І пісар

* БМД – баявая машына дэсантная.

паслухмяна выводзіў: «Ино мы то ему потвержаем и его жоне, и их детем, и потом будучим их нащадком, вечно и непорушно, с всим с тым, што к тому именью здавна прислухает, и с присельники, и з людьми, и з землями пашными и бортными, и з сеножатьми, и з ловы, с хмелищи и с озеры, с ставы. Волен он тое именье отдати и продати и по души дати, и к своему лепшому обернути, как сам налепей разумеючи. А на твердость того и печать нашу казали привесити к сему нашому листу».

Пасьля сьмерці Яцка Капачэвіча ў 1501 годзе Дзярэчын адышоў ягонай сястры Ганне Сангушкавай. Пачынаючы з 1505 года часткай Дзярэчына валодаў каралеўскі пісар Аляксандар Нікольскі, які прыняў удзел у змове братоў Міхала, Васіля ды Івана Глінскіх. Пасьля выкрыцьця мяцяжу ў 1508 годзе ягоныя ачольнікі ўцяклі ў Масковію, а каралеўскі пісар мусіў паплаціцца маёнткам, які перайшоў да Сымона Палазовіча. Наступныя сто гадоў у Дзярэчыне гаспадарылі князі Сангушкі, Адзінцэвічы, Палубінскія, Вішнявецкія, Валовічы, Нарбуты. У 1609 годзе адзінымі ўладальнікамі Дзярэчына, у якім тады было 62 двары і налічвалася каля 430 жыхароў, сталі Палубінскія. Князь Аляксандар Палубінскі адкупіў мястэчка ў Самуэля Валовіча і ягонае малжонкі Гальшкі Сапяжанкі. Падчас куплі 26 кастрычніка 1609 года быў складзены падрабязны інвэнтар мястэчка й Дзярэчынскай воласьці. Паводле гэтага інвэнтару Аляксандру Палубінскаму адыходзіў «двор Деречинский зо всим будованьем и з огороды овощовыми, з навозы, погноями, з грунтами вшелякими оромыми и неоромыми, на пашню дворную здавна приналежачыми и зо вшелякими пожитками». Новага гаспадара займелі й жыхары Дзярэчына Савасьцян Дойлід з пасербамі (пасынкамі) Апанасам і Дзямянам, Курыла Семашковіч з сынам Сымонам, Трахім Кушнярэвіч, Марцін Вайтовіч, Мацей Кавальчук, Мікалай Танкапляс, Ждан Чараніца, Сьцяпан Жамойцін, Андрэй Полька з сынам Сымонам, Міхалка з Андрэеўшчыны, Бартулей з Мазалеўшчыны, Марцін Рука з

сынамі Максімам ды Іванам, Нестар Ашменіч з сынамі Васкам ды Фурсам, Войт Тыхна з сынам Грышкам, Сілька Гаўрыловіч, Докгіль Новік, Ждан Швец і Якуб Швец...

Да Дзярэчынскай воласьці ў той час належалі паселішчы Ланцавічы ў Глыбокім Вугле, Мяхоўск, Мілявічы, Дарагляны, Боркі, Аднога, Русакі, Алекшыцы, Маразовічы, Савічы, Бібікі, Грабава, Крывічы, Залацеева, Крупава, Вайнілава, Каменка, Шчара, Гольчава, Курылавічы, Займішча, Нацкава, Монькавічы, Даўгаполічы, Збляны, Бахарэвічы, Шуткі. Ці ня ўсе гэтыя назвы амаль бязь зьменаў можна адшукаць і на сучаснай карце – напрыклад, у даўнім Вайнілаве бязь цяжкасьці пазнае свае родныя сучасныя Вайнілавічы вядомы літаратуразнаўца Анатоль Верабей.

Складзены ў Дзярэчыне інвэнтар быў запэўнены пяцьцю пячаткамі й подпісамі судзьдзі Васіля Зянкевіча, падсудка слонімскага Фёдара Яўлашэўскага ды пісара Яроша Яўлашэўскага. У якасьці вокладак для інвэнтару былі выкарыстаныя старонкі з старажытнага Эвангельля XII стагодзьдзя, напісанага на пэргамэне.

На самым пачатку шаснаццатага стагодзьдзя ў Дзярэчыне існавала царква Сьвятога Спаса. Вядомая ўжо нам Ганна Сангушкава, выконваючы волю памерлага брата Яцка Капачэвіча, у 1501 годзе адпісала «к святому Спасу в Деречине: попу земля Романовская, а человек Буневич, а другий человек Трида, а третий человек на озере Кисель, а четвертый человек Жук; а дьякону земля Дашека, а человек Рац, а другий человек Юц, а третий человек Пилип, а дьякону копа грошей, а попу копа грошей...». Трэба сказаць, што й надалей дзярэчынскай царкве не пагражацьме нэндза. Так, у 1612 годзе князь Аляксандар Палубінскі шчодра надзеліць царкоўны прыход чатырнаццацю валокамі зямлі з уласнага маёнтка Нябайкі, што за некалькі вёрстаў ад Дзярэчына.

Аднак наведваньне храма ў сьвяты не магло ўтрымаць дзярэчынцаў ад спраў зусім ня боскіх у будзённыя дні. Ледзь не штодня сьпяшаліся пасыльныя зь Дзярэчына «да кніг земскіх» у павятовы Слонім, каб расказаць пра чарговую бойку. На даручэньне суда ў мястэчка пачасту наведваўся возны для збору рэчавых доказаў.

Трэба зазначыць, што ў шаснаццатым стагодзьдзі, як і цяпер, дзярэчынцы падазрона ставіліся да сваіх суседзяў – жыхароў навакольных паселішчаў Букштава і Катчыны, Угрыні й Залацеева. Увесну 1566 года дойліда Угрынскага войтаўства Стася Станкевіча ў адным зь дзярэчынскіх двароў пакрыўдзіла пападзьдзя – зьняла й схавала ягоную шапку. Ня змогшы справіцца з свавольнай пападзьдзёй, Стась пайшоў жаліцца ўраднiку князя Вішнявецкага Яну Цыгану. «А тот, – даваў неўзабаве паказаньні разгублены дойлід, – не чинячи мне никоторое справедливости, первей сам кордом збил и руку левую выбил, а потом пугами бивши, псами з двора выгнал.»

Ян Цыган наводзіў пастраху на ўсю дзярэчынскую ваколіцу. Праз тры тыдні пасьля візыту дойліда Станкевіча прозьвішча няўрымсьлівага ўрадніка ізноў трапляе ў судовую кнігу. На гэты раз ён загадаў арыштаваць на дзярэчынскім кірмашы маляціцкіх сялянаў Івана Муляра ды Пракопа Янцовіча і «привести до себе и с коньми и с возами их, якож их водили не наче, яко злодеев, а привели до него до господы и держал их колько годин, а просил паруки, не вем за што».

Нярэдка дзярэчынцы рабілі набегі на суседнія ўладаньні. І тут не абыходзілася бязь Яна Цыгана. 5 сьнежня 1565 года ён падахвоціў ураднікаў іншых князёў дзярэчынскіх паслаць у Маляціцкую пушчу цівуноў Кунка Карэвіча, Юруту Даўгаполіча і Ясюту Шчарбацэвіча. А тыя «тыну дубового сорок коп побрали, пятьдесят секер взяли и чоловека одного на имя Кузьму Занцовича з ручницы дей в ногу пострелили и коня под ним убили...».

14 верасьня 1559 года ў слонімскі земскі суд прыехаў чалавек ад дзярэчынскага князя Фёдара Палубінскага. Спаважна расказаў пра чарговы злачын: тыдзень таму чужакі з Троцкага павету Міткевіч Якавіцкі й Рыла Бранец зьбілі на горкі яблык княкага службоўца Ждана Федаровіча. «То пак еще, – запісваў пісар з словаў пасыльнага, – не маючи на том досыть, тот же Яковицкий того ж дня, в суботу у Дворе Деречанском, перед сеньми княжны Марьи, Ваську Звегу збил и зранил и отнял кубков шесть серебряных по две гривны, а ложок серебряных тузин, в которых чотыри гривны сребра». Князь Фёдар Палубінскі з возным гаспадарскім Станіславам Радзілоўцам дапыталі й агледзелі пацярпелых: «Иж видели на Ждану Федоровичу на пальцу правой руки рану крывавую, а на Ваську Звезе рану – ухо правое утято, на скуре зависло, на руце правой на локти рана рубаная крывавая, на плечах чотыри раны рубаных».

Часам і князі, забыўшыся на княскі гонар, адносіны паміж сабою высьвятлялі папросту. Улетку 1566 года адзін з уладальнікаў Дзярэчына Андрэй Адзінцэвіч падаў у суд на падстаросту слонімскага Лаўрына Сідароўскага: «Будучи на беседе у мещанина господарского слонимского Уласа, то пак он, нет ведома для которое причины, невинне звазнившися мене самого збил и сороматил, скленицами и куфлями за мною кидал, гонячи за мною аж за двери и ледве-м перед ним утек, и с того часу шапку мою бархоновую он сам з мене сорвавши и до господы свое понес».

Але ня толькі чужыя шапкі й дубовы тын цікавілі дзярэчынцаў. Часам прычынай ваяўнічага нападу маглі паслужыць памкненьні зусім іншага кшталту. Пра што й засьведчыў запіс у судовай кнізе ад 11 лютага 1566 года. Пані Настасься Сушкова сарамліва расказала, як дзярэчынскі пан Жыгімонт Грунеўскі «в небытности мужа... с помощниками своими, наехавши моцно кгвалтом на дом малжонка моего, челедь дворную збил и

зранил, и з двору поразгонял, ■ я-м сама ажем перед ним у светлицы замкнула, то пак он, до мене добываючися, двери повыбивал...».

Варта прызнаць, што й сёньня ў Дзярэчыне не зьвяліся пасьлядоўнікі пана Грунеўскага. Мясцовы дом культуры на сваім вяку пабачыў іх незьлічонае мноства. Пазмагацца за даму сэрца дзярэчынскія дзецюкі заўсёды лічылі пачэснай справай. Юр запаляў кроў, і пад дзявочы піск ішлі ў ход штыкеціны з прыдатнымі для блізкага бою часткамі дошкі гонару... А неяк адзін дзярэчынскі залётнік на грунтоўным падпітку зараўнаваў да сваёй маладзіцы... бюст Чарняхоўскага, што стаяў перад калгаснай канторай, і адбіў сканфужанаму генэралу вуха.

Гартаючы Акты слонімскага земскага суда сярэдзіны шаснаццатага стагодзьдзя, мы раз за разам пераконваемся, што дзярэчынцы не давалі сумаваць судзьдзі Міхайлу Сакалоўскаму і яго памочніку Пацею Яльцу.

КАБ адвадзіць сваіх падданых ад сьцежак грахоўных, князь Канстанцін Палубінскі ў 1618 годзе фундуе ў Дзярэчыне парафіяльны касьцёл з кляштарам. Князь і князёўна на імя Сафія засноўваюць пры кляштары шпіталь на дванаццаць убогіх. Князь у 1637 годзе падпісвае адмысловы тастамант, які мусіў рэгуляваць функцыянаваньне шпіталю. Паводле княскага распараджэньня насельнікі гэтай богаўгоднай установы павінны былі тройчы на дзень адгаворваць пацеры. А дзярэчынскі пробашч на ўтрыманьне шпіталю штогод атрымліваў з княскага маёнтка 24 бочкі жыта, 8 бочак ячменю і неабходную суму грашыма. Апрача гэтага Канстанцін і Сафія Палубінскія падаравалі кляштару два свае фальваркі – Старое Сяло і Падзольле, сем валокаў лесу, возера, млын і зямлю пад кляштарны гарод.

Да эпохі ваяўнічага атэізму заставалася яшчэ тры стагодзьдзі, і людзям ніхто не перашкаджаў думаць пра вечнае

жыцьцё. У 1625 годзе ксёндз Далецкі адпісаў Дзярэчынскаму кляштару ўласны маёнтак Альшэвічы коштам 3000 залатых. Праз шэсьць гадоў кляштар ізноў пабагацеў – на гэты раз ужо Міхал Палубінскі ахвяраваў 2000 залатых, атрыманых ад маёнтка Катчыны. За гэткі шчодры дарунак князь прасіў рэгулярна памінаць ягоную душу пасьля сьмерці. Але пры далейшым жыцьці Міхал Палубінскі, напэўна, яшчэ шмат награшыў, бо ў 1643 годзе да ранейшай ахвяры палічыў патрэбным дадаць яшчэ тысячу.

Заможны люд таксама падпісваў з кляштарам дамовы рознага кшталту. Так, нейкая Дарота Вайніловіч пажадала, каб пасьля таго, як яе душа ўзьнясецца да Бога, цела яе пахавалі за кляштарнай агароджай. Манахі ахвотна згадзіліся, узяўшы з просьбіткі трыста залатых.

Насельнікі кляштару за свае паслугі бралі ня толькі грошы ды землі. У 1673 годзе ад шчодрай Хрысьціны Палубінскай-Каменскай было атрымана: трыццаць галоў буйной рагатай жывёлы, дваццаць авечак, дзесяць сьвіньняў, шэсьць індычак, два прыгожыя дываны й бочка солі.

На жаль, божыя служкі ня толькі маліліся і паміналі. У 1691 годзе ўвесь Дзярэчын абляцела вестка, што адзін манах забіў селяніна зь вёскі Крывічы.

Дзярэчынскія манахі, маючы багатых фундатараў, зь цягам часу пашыралі свае ўплывы. Дзейнасьць кляштара асабліва разгарнулася пасьля таго, як ён стаў належаць ордэну дамініканаў. Да манахаў пачаў зьвяртацца паспаліты люд ня толькі па духоўную дапамогу. Напрыклад, шляхціц Бейнаровіч у 1751 годзе прасіў кляштарнага прыёра Мацьвея Пяшкоўскага паспрыяць у спагнаньні зь віленскага гараднічага Пятра Савіцкага (вось куды сягала сфэра ўплыву дзярэчынскага кляштару) 5775 залатых. У выпадку посьпеху кляштару належала атрымаць 4775 залатых. Няблага аплочваліся юрыдычныя паслугі ў васямнаццатым стагодзьдзі!

Кляштар багацеў. Пры ім былі адчыненыя школа і бібліятэка. Заміж драўлянага касьцёла манахі-дамініканы ў 1690 годзе змуравалі цагляны. Ён быў знадворку атынкаваны й накрыты дахоўкай.

У Гарадзенскім нацыянальным гістарычным архіве захоўваецца падрабязнае апісаньне дзярэчынскага касьцёла, які быў урачыста асьвечаны віленскім біскупам Міхалам Зянковічам у 1741 годзе як храм Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі. Перанясемся ў думках у далёкі 1820 год і выкарыстаем унікальную магчымасьць пазнаёміцца з унутраным інтэр'ерам касьцёла, які потым будзе зьнішчаны пажарам. Узыходзім па жалезным каваным ганку, адчыняем дзьверы і...

Зялёны мармур, якім выслана касьцельная падлога, прыемна лашчыць вока.

Позірк міжволі спыняецца на шасьці ва́зах тонкай работы, у якія праз высокія вокны зазіраюць цікаўныя сонечныя промні. Права- і леваруч, пры касьцельных сьценах, выштукаваныя мармуровыя каплічкі нябесных заступнікаў – сьвятых Антонія, Тамаша, Вінцэнта і Анёла Ахоўніка.

Сьцены й скляпеньні размаляваныя на матывы біблейскіх сюжэтаў коштам князя й кашталяна Вялікага Княства Літоўскага Міхала Сапегі.

Пад касьцёлам – восем лёхаў, але толькі да трох вядуць акаваныя жалезам дубовыя дзьверы, уваходы ў астатнія замураваныя мармуровымі плітамі. У касьцёле ажно восем алтароў, да якіх варта падысьці бліжэй.

Алтар Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі выразаны з дрэва і пазалочаны, упрыгожаны зьверху дзьвюма фігуркамі анёлаў. Пасярэдзіне алтара вялікі абраз, што па-майстэрску ўзнаўляе Унебаўзяцьце Маці Божай. На другім алтары зьмешчаны маляваны на палатне абраз, на якім Пан Езус прывязаны да слупа. На трэцім алтары – абраз Найсьвяцейшай Маці пад срэбнай шатай. На чацьвёртым – вялікі абраз у пазалоча-

най раме, на якім сьвяты Дамінік уваскрашае памерлага. На пятым – сьвяты Вінцэнт з абраза прамаўляе да народу. (Два апошнія абразы нядаўна прывезеныя зь Вільні – не праміне пахваліцца ксёндз.) Шосты алтар дастаўся сьвятому Тамашу (мастацкая вартасьць ягонай выявы выклікае пэўны сумнеў). На сёмым алтары абраз, перад якім падлога вышараваная каленямі вернікаў, – укрыжаваньне Пана Езуса. Сьвяты Антоні ўпадабаў сабе месца на восьмым алтары. Насупраць амбону – мармуровы манумэнт князёў Сапегаў.

У 1866 годзе касьцельны арганіст будзе выкурваць пчолаў, што самавольна пасяліліся на званіцы. Маленькі вугельчык выкаціцца з дымара ды станецца прычынай вялікага пажару, пасьля якога старажытны дзярэчынскі касьцёл аднавіць ня ўдасца. Расейская цывільная адміністрацыя хуценька перадасьць рэшткі касьцельнай маёмасьці слонімскаму касьцёлу, куды неўзабаве будзе вымушаны выправіцца й дзярэчынскі ксёндз Любатынскі.

А бліжэйшы да Дзярэчына катчынскі касьцёл быў зачынены яшчэ тры дзесяцігодзьдзі таму. Праваслаўныя епархіяльныя ўлады тлумачылі гэта тым, што «помещик Полубинский не желал отстроить храм по обряду восточной церкви».

ЛЁС многіх беларускіх мястэчкаў выклікае шкадобу. На працягу стагодзьдзяў у іхных замках тварылася гісторыя, у іхных палацах балявалі каралі й вялікія князі, на іхных тэатральных прэм'ерах лічыла за гонар прысутнічаць эўрапэйская арыстакратыя.

Сёньня яны ціхмяна дажываюць свой век. Не зьбярогшы сьведчаньняў свае былое велічы, пасупова ператвараюцца ў звычайныя вялікія вёскі. Іх нават не ратуе статус савецкіх гарадзкіх пасёлкаў, што дазволіла некаторым мястэчкам зрабіцца цэнтрамі раёнаў. Усё зь цягам часу прыходзіць у запусьценьне. Ці, як казалі старажытныя рымляне, – Sic transit gloria mundi.

Але чаму слава сьвету не мінае для польскіх мястэчкаў? Я прыгадваю сёлетнюю вандроўку ў мястэчка Казімер Дольны – гэта сто кіляметраў ад Варшавы ў бок Любліна. Дзьве тысячы чалавек насельніцтва. Два мільёны турыстаў штогод! Мясцовыя дастапомнасьці – касьцёл васямнаццатага стагодзьдзя, рэшткі замка на высокай гары, дом-музэй літаратара Ружэвіча. Амаль у кожным беларускім мястэчку гэта ўсё ёсьць. Хіба музэй тутэйшаму пісьменьніку пакуль ня створаны.

Я хадзіў па зацішных брукаванках Казімера Дольнага і прыгадваў гразкія вуліцы Турава. А Тураўскае княства нароўні з Полацкім можа прэтэндаваць на лаўры першабеларускай дзяржавы!

Я бавіў час за куфлем піва ва ўтульнай «Зялёнай тавэрне» ды пад гукі піяніна ўспамінаў зэльвенскую прыдарожную забягалаўку «Встреча», дзе піва наліваюць у такі посуд, што яно адразу пачынае нагадваць нешта супрацьлегла іншае...

Я сядзеў на імшы ў тамтэйшым касьцёле, разглядаў незвычайную кандэлябру з ласіных рагоў, і мне рабілася непамысна ад думкі, што зь дзярэчынскага храма падчас аднаўлення сьмецьця вывезьлі ажно пятнаццаць трактароў «Владимирец», празваных у народзе «лапатунамі».

Заняпад калісьці слаўных паселішчаў гістарычна абумоўлены – патлумачыць мне разважлівы чытач. Збудавалі наводдаль чыгунку, праклалі новую дарогу, сплытчэла рака – і пайшоў гандаль іншымі шляхамі.

Гэта памяць наша пайшла іншымі шляхамі...

Дзярэчын і сёньня стаіць на даволі бойкім месцы – на скрыжаваньні дарог Слонім – Ваўкавыск – Гародня. Да бліжэйшай чыгуначнай станцыі ў Зэльве – 12 кіляметраў. Да Слоніма – 34, як і да Мастоў. Да абласнога цэнтра – 120, дзьве гадзіны на аўтобусе. Да колішняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага – Навагрудка – прыблізна столькі сама. Жыхароў, паводле перапісу трыццацігадовай даўнасьці, – 991 (для параўнаньня – у 1878 годзе іх было 2269 чалавек).

Сёньняшняя колькасьць жыхароў у мястэчку была ўжо напрыканцы сямнаццатага стагодзьдзя, калі ім завалодаў княскі род, пры якім Дзярэчыну было наканавана перажыць найбольшы росквіт. 22 верасьня 1685 года дачка маршалка Вялікага Княства Літоўскага Аляксандра Гіляра Палубінскага Ізабэла Алена выходзіць замуж за стольніка Вялікага Княства Літоўскага Юрыя Станіслава Сапегу. Мястэчка ад Палубінскіх пераходзіць да новых уладальнікаў. Ад гэтай пары амаль паўтара стагодзьдзі Дзярэчын належаў Сапегам. І яны паказалі сябе нядрэннымі гаспадарамі.

У другой палове сямнаццатага стагодзьдзя ў самім Дзярэчыне і належных да яго прысёлках (слова «вёска» зьявілася толькі ў дзевятнаццатым стагодзьдзі) на адзін сялянскі двор прыпадае 0,8 умоўнай запрэжкі (адну запрэжку складалі конь і два валы). У васямнаццатым стагодзьдзі кожная сялянская гаспадарка прыдбала яшчэ па адным кані. Як на сёньняшні дзень, тагачасныя сяляне жылі зусім ня бедна. Мяркуйце самі – на сярэднюю сялянскую сям'ю прыпадала 3 каровы, 5 авечак, 3 сьвіньні й 1 каза.

У сапегаўскіх маёнтках выкарыстоўвалася двухразовае ворыва зямлі. Дзярэчынскі селянін таксама мог паўтарыць наўсьлед за летапісцам шаснаццатага стагодзьдзя: «Кгды час оранья пришел и я тыи нивки первый и другой раз орал и жито засеял». Сеялі на пагноях альбо на прастапольлі (без выкарыстаньня ўгнаеньняў). У васямнаццатым стагодзьдзі ў Дзярэчын упершыню было завезена гатунковае насеньне: арабская пшаніца, эгіпэцкае, швэдзкае ды саксонскае жыта, вугорскі авёс. У інвэнтарных апісаньнях наднямонскіх мястэчкаў XVI–XVII стагодзьдзяў пералічваецца звычайная і для нашага стала гародніна: капуста, цыбуля, морква, гуркі, буракі, пятрушка, рэпа. У местачковых садах сьпелі вішні, яблыкі, грушы, чарэсьні, агрэст, парэчкі – таксама звыклыя і для нас ласункі. Але складальнік аднаго зь інвэнтароў не прамінуў зафіксаваць у Дзярэчыне экзатычны на той час вінаград.

Ня дзіва, што дзярэчынцы мелі ў сваіх засеках жыта замор-скіх гатункаў і ласаваліся вінаградам. Дзярэчын тады быў пар-товым мястэчкам – праз Шчару і Нёман меў выйсьце да Бал-тыйскага мора. Яшчэ славуты Леў Сапега, які з 1585 года зай-маў пасаду слонімскага старосты, пабудаваў на Шчары цэлую флятылію. У Каралявец, Гданьск і Рыгу з наднямонскіх лясоў вывозілі каштоўную драўніну. Асабліва шмат экспартавалі попе-лу, які нарыхтоўваўся ў адмысловых лясных будах. Так, на пра-цягу 1598–1599 гадоў на Каралявец было адпраўлена 326 лаш-таў попелу (адзін лашт складаў 120 пудоў). Вывозілі таксама збожжа, футры, воск, скуры – на рынках Нямеччыны, Чэхіі ды Італіі тавары зь Вялікага Княства Літоўскага ішлі наросхапы.

Аднак не заўжды ўсё ладзілася ў новых гаспадароў Дзярэчы-на, і ў 1711 годзе Юры Станіслаў Сапега закладае Дзярэчын за 54 000 фунтаў цеханоўскаму падчашаму Уладыславу Астроў-скаму ды ягонай жонцы Марыяне з Марозаў. Праз дванаццаць гадоў Антон Сапега выкупляе мястэчка, каб празь сем гадоў із-ноў закласьці яго нейкаму Флярыяну Булгарыну за 55 000 зала-тых. У 1739 годзе Дзярэчын вяртаецца ва ўласнасьць Сапегаў. Неўзабаве Аляксандар Сапега прадае мястэчка за 150 000 за-латых свайму дзядзьку Міхалу, падляскаму ваяводу. Пры апошнім ў 1750 годзе ў Дзярэчыне атабарыўся канвэнт віленскіх айцоў дамініканаў. Па сьмерці Міхала Дзярэчынам валодае Міхал Кса-вэры, паводле тастаманту якога мястэчка пераходзіць да ягона-га брата Аляксандра Міхала Сапегі, канцлера Вялікага Княства Літоўскага.

Апошні распачынае ў мястэчку актыўную гаспадарчую дзей-насьць. На той час да Дзярэчына належала 14 маёнткаў і 55 вё-сак з 959 валокамі ўробленых земляў (адна валока раўнялася 21-му гэктару). У агульнай колькасьці гэта было 1508 дамоў, 10 000 чалавек. Сёньня столькі жыве ў раённым цэнтры Зэльве (а Дзярэчын з 1966 года стаў належаць да Зэльвенскага раёна, пабыўшы перад гэтым у Ваўкавыскім і Мастоўскім).

Менавіта пры Аляксандру Міхалу Сапегу ў Дзярэчыне ўпершыню зьявілася бульба, безь якое сёньня немагчыма ўявіць беларускі стол. Найлепш за ўсіх суайчыньнікаў і найвычарпальней за ўсе даведнікі пра гэты жыцьцёва неабходны прадукт сказаў у «Бульбяной баладзе» народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін:

*Гаспадыня стала,*
*Багіня,*
*Беларуска ружовашчокая.*
*Над катлом німб гарачы гіне,*
*Рупіць німбу расплыцца аблокамі.*
........................................................
*З бульбай хрэсьбіны, і Каляды,*
*І Дзяды з паганскаю кульбаю,*
*І адведкі, і тыя нарады,*
*Дзе прамоўцы трывалыя бульбаю.*

*У прысмакаў слабая спакуса.*
*Пахнуць бульбаю нашы кронікі.*
*Маннай зь неба кармі беларуса,*
*Ляжа спаць –*
*Сьняцца клёцкі, дзяронікі.*

*Бульба з намі ідзе вякамі,*
*Бульба тоўчаная, цалкамі,*
*Бульба параная, бульба вараная,*
*І нішчымная, і засквараная.*
*Бульбай посьцім і разгаўляемся,*
*З бульбы выгнанай пахмяляемся.*
........................................................
*Да ўсяго звыкаем памалу,*
*Аж ня верым, што родам з Амэрыкі*
*Бульба.*

*Думаем, ад крухмалу*
*Мы ня гнемся, як і каўнерыкі!*

Жывучы на хутары, мы й звычайную крамную манну лічылі за далікатэс, ня тое што нябесную. Хоць на стале заўсёды было ўдосталь хлеба і да хлеба. Але аднойчы раніцай я прачнуўся ад ляманту. Выявілася, што мае старэйшыя браты застрайкавалі й не хацелі йсьці ў школу. А ўсё з-за таго, што маці чамусьці не сьпякла, як звычайна, падыходных бульбяных блінцоў, тых самых, якія ў народзе зь любоўю называлі «божымі анучкамі».

Так што аўтар гэтых радкоў з самых юных гадоў меў магчымасьць пераканацца ў незаменнасьці бульбы.

Да завезенай з-за акіяну бульбы, як і да розных рэлігіяў і народаў, у Вялікім Княстве Літоўскім адносіліся з павагай. Калі ж расейская імпэратрыца Кацярына пачала пад прымусам уводзіць бульбу ў сваіх уладаньнях, сяляне яшчэ доўга ставіліся з падазрэньнем і непрыязнасьцю да заморскае госьці.

У другой палове васямнаццатага стагодзьдзя ў сельскай гаспадарцы Вялікага Княства пачынаюць выкарыстоўвацца веялкі, ці, як іх тады называлі, «арфы» альбо «млыны для ачысткі зерня». На пачатку 90-х гадоў у Дзярэчыне ўжо працавала шэсьць такіх «арфаў», завезеных з Караляўца.

Вядома, па плыткаводнай Сіпе да Дзярэчына не магло ўзьняцца ніводнае судна, нават самая пласкадонная барка. Таму Аляксандар Міхал Сапега збудаваў на Шчары, пры паселішчы Воля, уласную прыстань, да якой было ўсяго некалькі вёрстаў. Гандлёвая флятылія плавала па маршруце Дзярэчын–Каралявец. З Балтыкі ў дзярэчынскія ваколіцы водным шляхам дастаўляліся лісабонская, гётэборгская ды пруская соль (да адкрыцьця беларускіх радовішчаў пройдзе яшчэ нямала часу), жалеза, французкае віно й ангельскае піва, шкло і шклатара, разнастайнае абсталяваньне.

У 1761 годзе Аляксандар Міхал Сапега даставіў з Каралявецкага порта ў свой валянскі порт на Шчары сукна на 3000 за-

латых, солі на 5300 залатых і розных спажывецкіх тавараў на 2900 залатых. У Каралявец па Шчары, а потым па Нёмане ў той жа год паплыло: жыта – на 8856 залатых; пшаніцы – на 588 залатых; пянькі, пакульля й рагозы – на 90 залатых.

У Дзярэчыне і пасьля паўвекавога калгаснага прыгону зьбіраюць неблагія ўраджаі. У васямнаццатым стагодзьдзі на не атручанай нітратамі зямлі, трэба думаць, радзілі значна смачнейшыя культуры. Пры Сапегах пачынае разьвівацца жывёлагадоўля. На мурожных лугах пасьвяцца пародзістыя ангельскія авечкі. Іх трымалі асобна ад мясцовых, ■ мэрыносам саксонскай пароды *электарал* будавалі нават адмысловыя ўцепленыя кашары. Ёсьць сьведчаньне, што, калі па дзярэчынскіх ваколіцах пракацілася эпідэмія яшчуру, княскія аканомы на ратаваньне каштоўных мэрыносаў не шкадавалі гарэлкі з сольлю (якая, як памятаем, прывозілася здалёку). Двойчы на год – у траўні й верасьні – авечак, папярэдне памыўшы, стрыглі. Кожны мэрынос мусіў разьвітацца з фунтам (амаль паўкіляграмам) воўны.

Увесну 1794 года дзярэчынскі аканом склаў разнарадку ўсім прыналежным маёнткам аб гуртоўцы жывёлы паводле ўзросту і аб выгане статкаў на летнія выпасы. У дакумэнце фігуравалі ангельскія ды вялікапольскія авечкі й галяндзкія каровы. Згодна з другой разнарадкай, толькі ў галоўным маёнтку заставалася зімаваць 100 галоў буйной рагатай жывёлы. Даглядчыкі пільна сачылі, каб пагалоўе было здаровым і прадукцыйным. Для выбракаванай жывёлы ў Дзярэчыне пэрыядычна наладжваўся адмысловы кірмаш.

Гадавалі ў сапегаўскіх уладаньнях і сьвіньняў. Паводле інструкцыі, на адкорм кандыцыйнага парсюка зь княжацкіх засекаў выдзялялася поўная *віленская бочка* – каля чатырохсот кіляграмаў – жыта, ячменю, аўса і грэчкі. Выхад гатовай прадукцыі павінен быў складаць: 2 апольцы сала па 50 фунтаў, 40 кілбасаў па паўлокця кожная, 4 кумпякі й 40 фунтаў тлушчу. Так што наведнік аднаго з заезных дзярэчынскіх двароў

мог замовіць сабе на вячэру смачную мачанку зь сьвіной каўбаскай, а ў дарогу ўзяць колькі скрылёў падсушанага ў каморы кумпяка, сакрэт прыгатаваньня якога ў ваколіцах Дзярэчына памятаюць да гэтай пары.

АЛЯКСАНДРУ Міхалу Сапегу належалі шматлікія паселішчы на велізарнай тэрыторыі. Калі б мы задумалі трапіць у яго былыя ўладаньні сёньня, неабходна было б перасякаць межы трох незалежных дзяржаваў – Беларусі, Польшчы ды Украіны. Князь мусіў хоць зрэдку бываць у Вязыні на Валыні, у Ружане і ў Варшаве, дзе на вуліцы Закрочымскай меў палац. І усё ж у 1760–1770 гадох ён найчасьцей жыў у Дзярэчыне. Да гэтага самага часу адносіцца ўзьнікненьне ўстановаў, у існаваньне якіх сёньняшні местачковец можа паверыць хіба што з пэўнай доляй іроніі.

Дык вось, паводле праектаў прыдворнага архітэктара Сапегаў Яна Самуэля Бэкера ў Дзярэчыне ў 1765 годзе будуецца тэатар, а праз тры гады закладаецца Вайсковая акадэмія. У ёй павінны былі навучацца трыццаць сыноў вышэйшых дзяржаўцаў Вялікага Княства Літоўскага.

Дзярэчынскі тэатар спачатку прымяркоўваўся пад летнія паказы, але неўзабаве архітэктар атрымаў заданьне рэканструяваць будынак, павялічыўшы сцэну й глядацкую залю. Што ж зь сябе ўяўляў тэатар, які ён меў рэпэртуар на працягу амаль трох дзясяткаў гадоў свайго існаваньня? Тэатральная трупа складалася з 60 чалавек – менавіта гэткай колькасьці актораў зь дзярэчынскіх і зэльвенскіх рахункаў Сапегі былі выплачаныя заробкі ў студзені 1765 года. Разам з прафэсыйнымі акторамі ў спэктаклях часам бралі ўдзел і маладыя Сапяжанкі – князь меў чатырох дачок. Не пуставала сцэна і паміж тэатральнымі сэзонамі – запрошаныя з Варшавы настаўнікі вучылі юных дзярэчынцаў балетнаму майстэрству.

На жаль, нам невядомыя сьведчаньні відавочцаў тэатральных пастановак у Дзярэчыне. Але, напэўна, рэпэртуар дзярэ-

чынскага тэатра быў падобным да рэпэртуару тэатра ружанскага, бо абодва яны належалі аднаму гаспадару.

Вось што запісаў у сваім дзёньніку тагачасны літаратар Юльян Урсын Нямцэвіч пасьля наведваньня ружанскай рэзыдэнцыі ў 1778 годзе: «Запрасіў нас князь А. Сапега ў тэатар. Заля была новая, чыстая, дэкарацыі сьвежыя. Акторы, падрыхтаваныя зь юных сялянаў і сялянак, сыгралі па-французку апэрэтку Русо «La devin village», як мне тады падалося, няблага».

Апошні спэктакль, які мне яшчэ ў школьным веку давялося паглядзець у дзярэчынскім доме культуры, называўся «Зьбянтэжаны Саўка». Усачыць за ўсёй дзеяй мне перашкаджала тое, што ў галоўнай ролі быў заняты дырэктар нашай школы Міхась Канстанцінавіч Януль. Ён вучыў нас нямецкай мове, зь цяжкасьцю таймуючы ў сабе талент вялікага артыста. Я ня ўпэўнены, ці карысталася б сёньня посьпехам опэра Жана Жака Русо на дзярэчынскай сцэне, нават калі б з Парыжу прыехаў сам аўтар, які калісьці меў невытлумачальную сымпатыю да Беларусі й зьбіраўся пераехаць жыць у Белавескую пушчу. А камэдыя Леапольда Родзевіча ішла пры поўным аншлягу ды суправаджалася выбухамі рогату, калі зьбянтэжаны Саўка выседжваў яйкі альбо сноўдаўся па сцэне зь дзьвярыма на плячох. Што ж, у кожнай эпохі свае духовыя каштоўнасьці.

А тады, у другой палове васямнаццатага стагодзьдзя, на Беларусі пашыраліся ідэі Асьветніцтва. У жыцьці асобы й грамадзтва быў абвешчаны прыярытэт асьветы, навукі й розуму. Саслоўныя традыцыі саступалі месца звычайным чалавечым пачуцьцям, як у фінале прыгаданай вышэй опэры Русо. Яе гераіня адпрэчвае каханьне гарадзкога арыстакрата ды вяртаецца ў вёску да свайго суджанага. Паказваючы сваім знакамітым гасьцям опэру з такім сюжэтам, Сапега як бы пакепліваў зь іх шляхецкага гонару.

Тэатар у Дзярэчыне праіснаваў да 1795 года. Калі будынак задумалі прыстасаваць пад новыя патрэбы, узьнікла праб-

лема – куды падзець тэатральную заслону? Створаная мастаком К. Отальсанам на сюжэт купаньня Дыяны-паляўнічай, яна мела бясспрэчную мастацкую вартасьць. Урэшце на аголеную Дыяну ўпала вока тэатральнага антрэпрэнёра Дз. Мараўскага, і заслона была прададзеная для новага тэатра ў Вільні. Прыняўшы каштоўны груз, дырэктар віленскага тэатра загадаў зрабіць ва ўліковай кнізе наступны запіс: «Занавес был привезен из Деречина, он изображал купель Дианы, с гротом нимф, состоящим из приличной группы, в которую входило восемнадцать фигур».

У фамільнай бібліятэцы Сапегаў у 1761 годзе меўся цэлы драматургічны аддзьдзел. Калі меркаваць па ім, на дзярэчынскай сцэне маглі ставіцца п'есы Русо, Карнэля і Расіна, італьянскіх, гішпанскіх драматургаў, творы Францішка Багамольца і Уршулі Радзівіл. З апошнім аўтарам у рэжысэра маглі быць праблемы, бо Сапегі да княскага роду Радзівілаў ніколі ня мелі вялікай любасьці. І прычына гэтага – не банальнае спадужніцтва ў раскошы, як часам пісалі савецкія гісторыкі. З Ружанаў і Дзярэчына ў бок Нясьвіжу чуліся папрокі зусім іншага кшталту. Сапегі абвінавачвалі Радзівілаў у недахопе беларускага патрыятызму, у зачастым аглядваньні апошніх на Варшаву. Пра гэта мне летась давялося пачуць, як кажуць, зь першых вуснаў, ад... князя Сапегі. Але ня будзем прысьпешваць падзей.

Князь Міхал Сапега, заняты дзяржаўнымі й гаспадарскімі клопатамі, не заўсёды мог наведваць тэатральныя паказы. Куды больш заўзятай тэатралкай была ягоная жонка Магдалена Агнешка зь Любамірскіх. Пра гэтую жанчыну варта распавесьці больш падрабязна. Першы яе муж памёр неўзабаве пасьля вясельля. Пашлюбаваўшыся з Сапегам, прыгожая й энэргічная Магдалена неадкладна занялася прасоўваньнем князя, на той час полацкага ваяводы, на больш высокія дзяржаўныя пасады. Злыя языкі сьцьвярджалі, быццам бы князь атрымаў булаву польнага гэтмана дзякуючы найперш таму, што перад жончы-

нымі вабнотамі не ўстаяў сын аднаго з высокіх дзяржаўцаў. Пасьля абраньня каралём Станіслава Аўгуста Панятоўскага Магдалена становіцца каралеўскай фаварыткай, вытрымаўшы канкурэнцыю з жонкай мсьціслаўскага ваяводы. Польскія гісторыкі да гэтага часу ня могуць падлічыць, колькі дзетак зьявілася на сьвет у выніку рамана Станіслава Аўгуста з Магдаленай Агнешкай. Вядома, што на дваіх зь іх – сына Міхала (ці ня ў гонар законнага мужа названы?) і дачку Канстанцыю, аддадзеных на выхаваньне ў купецкую сям'ю, клапатлівая матуля да самай сьмерці не шкадавала грошай.

Магдалена наведвала тэатральныя спэктаклі ў Варшаве й Парыжы, вяла бурнае сьвецкае жыцьцё. Мабыць, узьнікненьне тэатраў у Дзярэчыне і Ружанах сталася магчымым дзякуючы найперш яе захапленьням. Княгіня рэдка бавіла час з князем у адным палацы – забаг абодвум было з чаго выбіраць. На думку вядомага пісьменьніка Юзафа Крашэўскага, Сапега звычайна жыў асобна ад жонкі, бо «не хацеў быць сьведкам яе рамана з каралём».

Аднак тэатар быў не адзінай арыстакратычнай забавай у Дзярэчыне. Па сьведчаньні вядомай дасьледніцы музычнай культуры Вольгі Дадзіёмавай, у васямнаццатым стагодзьдзі мястэчка было адным з цэнтраў музычнага жыцьця на Беларусі. У Дзярэчыне тады існавалі прыватнаўласьніцкая капэля, вайсковая капэля й сьвецкая навучальная ўстанова з выкладаньнем музыкі. У капэлі, што належала Аляксандру і Казімеру Сапегам і дзеяла з 1765 да 1820 года спачатку ў Ружанах, а потым у Дзярэчыне, былі занятыя музыкі: клявэсыніст Жабро, скрыпач і скрыпічны майстар М. Паўкэр, скрыпач і кампазытар Т. Зыгмунтоўскі, клявіцымбаліст Бэльке. Дзярэчын чуў капэлістаў зь нязвыклымі замежнымі прозьвішчамі Тэнэрына, Фэзэрыа, Карнэр. Ад сваіх італьянскіх ды францускіх калегаў не адставалі беларусы Якуб Казлоўскі, Дамінік Пташынскі й Лукаш Шышкоўскі. Двух апошніх падараваў Сапегу славуты гарадзенскі мэцэ-

нат Антоні Тызэнгаўз. У сапегаўскай капэле выступаў вядомы скрыпач Чыпрыяні Карм'е. Вучань славутага А. Назары, ён даваў канцэрты ў Санкт-Пецярбургзе ды Варшаве. Слых дзярэчынскіх мэляманаў цешыў чэскі піяніст Войцах Жыўны, які потым стане першым настаўнікам Фрэдэрыка Шапэна. Адмыслова для капэлі пісаў музыку нямецкі кампазытар Ёган Шульц.

Другі дзярэчынскі музычны калектыў апрача мазурак і паланэзаў мусіў развучваць вайсковыя маршы й называўся вельмі паважна – капэля пешага палка Вялікай Булавы Вялікага Княства Літоўскага. У 1774 годзе ў яе склад уваходзілі спадары Літкоўскі, Пядзішароўскі, Сарацачынскі, Сісловіч і Ханцінскі.

Трэба думаць, капэлісты не сядзелі бяз працы. Першая капэля павінна была абслугоўваць усе прыдворныя забаўляльныя імпрэзы – а сапегаўскія балі цягнуліся часам да раніцы. Яна суправаджала таксама ўсе тэатральныя пастаноўкі – а ў Дзярэчыне, як мы памятаем, быў вялікі попыт на французкія опэры. Апошні кароль польскі й вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, пачуўшы капэлю ў 1784 годзе ў Ружанах, застаўся дужа задаволены й загадаў шчодра ўзнагародзіць музыкаў. Другая капэля, мабыць, уздымала баявы дух выхаванцаў дзярэчынскай Вайсковай акадэміі.

Каб ня надта сумаваць па жонцы, якая шукала прыгодаў у Варшаве, князь Аляксандар Міхал Сапега не шкадаваў грошай на жыцьцё свайго двара ў Дзярэчыне. У 1776 годзе выдаткі склалі каля 43 000 залатых, у тым ліку на асабістыя патрэбы князя пайшло 6 500 залатых, на дваровую кухню – 4 500, на плату прыслузе, конюхам і лесьнікам – амаль 30 000 залатых. Жаўнеры-наймíты, чым абавязкам было нясеньне ганаровай варты й стральба з гарматаў падчас урачыстасьцяў, атрымалі 2 000 залатых. Заўважым, гэта былі толькі дваровыя выдаткі. А каб хоць прыблізна ўявіць, што азначала ў той час сума сорак тры тысячы залатых, мы параўнаем яе з гэтак званымі вытворчымі выдаткамі. Дык вось, на ўсю велізарную дзярэчынскую

гаспадарку (разьвіцьцё жывёлагадоўлі, будаваньне суднаў на Шчары, выплату заробкаў ды інш.) з сапегаўскіх рахункаў у тым жа годзе было зьнята трохі больш за 26 000 залатых. На вяртаньне пазыкаў і судовыя выдаткі князь мусіў раскашэліцца яшчэ на шэсьцьдзесят з паловаю тысячаў. А агульны бюджэт дзярэчынскага маёнтка склаў амаль 130 000 залатых. Выходзіць, каля траціны грошай ішло на бяседы й забавы, падчас якіх князь спрабаваў забыць спакусьлівыя вочы сваёй прыгажуні Магдалены Агнешкі.

У 1786 годзе Аляксандар Міхал Сапега здае недабудаваны Ружанскі палац у арэнду пад габрэйскую мануфактуру ды канчаткова абсталёўвае княскую рэзыдэнцыю ў Дзярэчыне. Саксонец Я. С. Бэкер, паклікаўшы на дапамогу мясцовага архітэктара Лаўрына Гуцэвіча, перабудоўвае Вайсковую акадэмію ў вялікі палац. Старэйшыя дзярэчынцы яшчэ памятаюць гэтае шыкоўнае збудаваньне, што стаяла ўздоўж цэнтральнай вуліцы непадалёк ад сёньняшняй больніцы. Палац прастаяў амаль паўтара стагодзьдзі й быў дарэшты зьнішчаны неўзабаве пасьля Другой сусьветнай вайны апанаванымі шалам руйнаваньня пераможцамі.

Старыя фотаздымкі данесьлі да нас ягоны выгляд. Палац быў аднапавярховы, меў прастакутную форму. Мансарду на галоўным фасадзе падпіралі чатыры пары калюмнаў. На трохкутным франтоне ўзвышаўся гэрб Сапегаў, адным з галоўных складнікаў якога была сьвятая для беларусаў Пагоня.

Апрача дваццаці двух жылых пакояў у палацы знайшлося месца для карціннай галерэі, бібліятэкі ды ўнікальнага княскага архіву, да зьмесьціва якіх мы яшчэ вернемся. На ўнутраным двары знаходзіўся сонечны гадзіньнік, за якім цікавалі масянжовыя Адам і Ева. Статуі стаялі каля палаца да 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя, праўда, нехта паквапіўся на грацыёзную Евіну руку. А мо проста схацеў перайначыць дзярэчынскую Еву на Вэнэру Мілоскую, але не давёў задуманага да канца. Потым

статуі зьніклі. І толькі праз ладны кавалак часу нехта бачыў аднарукую Еву ў адной з гарадзенскіх корчмаў... Пасярод двара стаяў высокі слуп-звоньніца, паўсюль разьвешваліся ліхтары з каляровымі шкельцамі. У сьцены палаца былі ўмураваныя адмысловыя канавязі зь меднымі й срэбнымі колцамі. У флігелях жыла шматлікая прыслуга. За палацам месьціліся стайні, карэтныя майстэрні, садоўніцкія збудаваньні. Пры палацы, паводле распрацовак Андрэ Ленотра, быў пасаджаны вялізны, амаль на два дзясяткі гэктараў, парк, называны «малым Вэрсалем». Ён разьмяшчаўся на трох тэрасах, меў шырокія каштанавыя алеі, вялікія сажалкі.

У час, калі Бэкер з Гуцэвічам шчыравалі над пераробкай акадэміі ў палац, у Дзярэчыне ўжо меўся пладаносны сад, у якім налічвалася 446 садовых дрэваў – сто сем грушаў, восемдзесят дзевяць яблыняў, восемдзесят пяць сьліваў, дваццаць пяць чарэсьняў, шмат пэрсікаў і абрыкосаў. Пры адбудове палацу й добраўпарадкаваньні садова-паркавай тэрыторыі над каналам быў высаджаны вінаград і абсталяваныя чатыры гадавальнікі амаль на дзьве тысячы саджанцаў. Былі таксама змураваныя чатыры цагляныя аранжарэі. У першай насычаліся жыцьцядайным сонечным сьвятлом лаўры й гранаты, распускаліся кветкі; у трох астатніх сьпелі апельсіны, ананасы ды інжыр. У вольны ад догляду асноўных прамысловых культураў час дзярэчынскі садоўнік разводзіў расьліны зь дзіўнымі назвамі *божае дрэва* і *сабачы язык*.

У сапегаўскім садзе можна было паласавацца грушамі бэргамотамі, белымі бэрамі, маслаўкамі, якубоўкамі, памяранцаўкамі, паннамі. Гасьцей частавалі адмысловым гатункам, выведзеным непасрэдна ў Дзярэчыне, які называўся *сапяжанкі*. На яблычнага Спаса можна было рызыкнуць налаташыць крамянабокіх штэцінаў ці кальвіляў, чырвоных, белых і нават залатых ранэтаў. Падпільнаваўшы момант, калі княскі садоўнік у зацішку на марудным агні рыхтаваў для прышчэпаў спэцыяль-

ную мазь з воску, сьвінога сала й драўнянага алею, можна было паспрабаваць нарваць дзяўчыне нарцысаў альбо туліпанаў, півоняў альбо ружаў, ляўконяў альбо іпамеяў – залежна ад таго, якім кветкам аддае перавагу ваша каханая. Можна было, вядома, зарыгінальнічаць – злаўчыцца і вынесьці якую-небудзь надта ўжо экзатычную кветку ў гаршку, якіх па аранжарэях стаяла ажно 1323!

Сапегі ўмелі гаспадарыць, умелі яны й пагуляць. Пра баляваньні шматлікай сапегаўскай радзіны хадзілі легенды. Нярэдка ў госьці да магутнай княскай дынастыі завітвалі каралі. Гісторыі вядомы факт, калі адзін з Сапегаў частаваў у Ружанах Жыгімонта І, наліваючы віно ў вялікі кубак з горнага крышталю, які зьмяшчаў цэлы гарнец (амаль тры літры). Кубак гэты называўся «Іванам». Невядома, ці хапіла яго каралеўскай мосьці духу асушыць адным махам гарнец віна, але калі яму гэта ўдалося, да паслугаў яго вялікасьці быў другі, амаль гэткі ж з аб'ёму кубак, менаваны «Іваніха».

Сучаснікі не хавалі зьдзіўленьня, апісваючы, якія шчодрыя пагасьціны наладжваў іншаму каралю, Уладыславу IV, у тых жа Ружанах Казімер Леў Сапега ў 1644 годзе. Пасьля гулянкі, што доўжылася дзевяць дзён, князь падараваў каралю вялікую залатую місу коштам дзьве тысячы дукатаў, галяндзкія шпалеры для каралеўскай спальні за тысячу дукатаў. Каралева атрымала шыкоўны пярсьцёнак за шаснаццаць тысячаў дукатаў і сабалёвую футру, дастаўленую з Масковіі. Каралеўская сьвіта таксама не была забытая. Канцлер павёз з сабою ў сталіцу срэбны пацір, біскуп – два саракі сабалёў. Фрэйліны цешыліся з падараваных каштоўных пярсьцёнкаў, падкаморы прымервалі на пояс шаблю ў залатой аправе, ксяндзы-асыстэнты пералічвалі кожны сваю сотню дукатаў...

Уладыслаў IV таксама прыкладўся да «Івана», і, відаць, ня раз. Бо, яшчэ не пасьпеўшы выехаць з Ружанаў, выдаў каралеўскі ўказ. Згодна з воляй манарха, на «Івана» зваліліся нечуваныя

прывілеі: ад гэтай пары кубак павінен быў зьберагацца пад замком, і выносіць яго на людзі мелі права няйначай як у суправаджэньні шматлікай прыслугі пад музычныя маршы й сто гарматных стрэлаў!

Перанёсшы сваю рэзыдэнцыю з Ружанаў у Дзярэчын, Сапегі не зьбіраліся парушаць вясёлых традыцыяў. Вось як апісвалі «Литовские Епархиальные Ведомости» за 1888 год адзін зь дзярэчынскіх Вялікадняў: «На самой середине стола был ягненок, изображающий «Agnus Dei», цельный; это блюдо кушали только дамы, сенаторы, сановники и духовные. Стояли 4 огромные кабана (по числу времен года). Каждый кабан содержал внутри свинину, aliac окорока, колбасы, поросят. Кухмейстер показал удивительное искусство в приготовлении этих кабанов. Стояло tandem 12 оленей, тоже зажаренных целиком, с золотыми рогами, прямо на удивление, и начинены они были дичью, aliac зайцами, тетеревами, домашнею птицей, нардвами: эти олени изображали 12 месяцев. Вокруг были разложенные саженные куличи, числом столько, сколько дней в году, преудивительные лепешки, мазуры, жмудские пироги, все убранные бакалеей. За ними было 365 «баб», по числу дней в году, каждая с надписями, вензелями, так что многие только читали, а не кушали. Что до бибенды, то было на столе четыре стопы, exemplum 4 времен года, наполненные вином еще времен короля Стефана. Tandem 12 серебряных кружек с вином из погреба короля Сигизмунда, exemplum 12 месяцев. Tandem 52 серебряных боченка in gratiam 52 недель, с вином испанским, кипрским и итальянским. Дале 365 бутылей с венгерским вином; а для челяди 8760 кварт (бутылок) меду, приготовленного в Березе, т.е. столько, сколько в году часов».

Пакінуўшы без увагі абазнанасьць карэспандэнта «Литовских Епархиальных Ведомостей» у лацінскай і францускай мовах, падзівуемся і мы з былых княскіх застольляў. А заадно

выкажам спадзеўку, што алені на бяседны стол прывозіліся з сапраўдных паляваньняў у пагудастых пушчах, а не страляліся пад п'яную руку за некалькі сотняў крокаў ад кухні ў вальерах дзярэчынскага зьвярынца. Бо адна справа – перамагчы зьвера на ловах, і зусім іншая – страляць у зьвязьненага й безабароннага. Хочацца верыць, што аленям у сапегаўскім зьвярынцы жылося нязгорш, як і ласям, ланям, сарнам, мядзьведзям і нават вярблюдам.

У XVIII стагодзьдзі суседняе зь Дзярэчынам невялікае мястэчка Зэльва нечакана праславілася на ўсю Эўропу. Прычынай гэтага стаўся каралеўскі прывілей, які атрымаў у 1720 годзе Антоні Казімер Сапега на правядзеньне ў мястэчку штогадовых «ярмонок или торгов». Ад таго часу пачынаецца гісторыя славутага зэльвенскага кірмашу, аднаго з найбуйнейшых у Рэчы Паспалітай. Кірмаш праводзіўся з 25 ліпеня да 25 жніўня, але задоўга да яго пачатку Зэльва прыкметна ажывала. Мясцовыя возьнікі цэлы месяц не выпрагалі коней, па дарогах удзень і ўночы рухаліся вазы ў напрамку Слоніма й Гародні, Вільні й Рыгі, Бярдычава й Дубны. Адзін з самых пладавітых пісьменьнікаў сьвету, аўтар каля шасьці сотняў раманаў і аповесьцяў, наш зямляк Юзаф Крашэўскі ўганараваў Зэльву эксклюзыўнай кнігібкай, зь якой адзін сказ набыў афарыстычнае гучаньне. Сказ той тычыўся зэльвенскага кірмашу: «Зь вельмі даўніх часоў Зэльва і яе жыхары падпарадкоўваюцца дзіўнаму правілу – адзінаццаць месяцаў кожнага году марнеюць і толькі месяц жывуць».

На час кірмашу насельніцтва мястэчка ўзрастала да трох тысячаў чалавек. Нягледзячы на тое, што паблізу цэнтральнай гандлёвай плошчы быў пабудаваны заезны двор на дзьвесьце месцаў, тутэйшыя жыхары няблага зараблялі, прымаючы гандляроў у падгасподнікі. Так, за адносна невялікую плату можна было атрымаць начлег і сталаваньне ў местачкоўцаў Восіпа

Скібы, Івана й Мікалая Верстакоў, а таксама ў Лейзера Шуляка і Бэркі Жарменскага.

На зэльвенскім кірмашы ішоў вялікі гандаль конямі. Некаторыя купцы трымалі свае табуны наводдаль ад мястэчка, на добрых выпасах, каб тавар ня страціў належнага выгляду. Сапега сваіх славутых жарабцоў ангельскай, турэцкай, дацкай і нэапалітанскай пародаў прыганяў на торг зь Бярэжак і Алексічаў. Ружанскі габрэй Левэнбэрг гандляваў у Зэльве звычайнымі коньмі, браў ад ста да двухсот рублёў за галаву і, вядома ж, ня мог скласьці канкурэнцыі князю.

Падлічыўшы дзённыя барышы, Зэльва не заціхала і ўночы. Пачаўшы замочваць удалую куплю вечарам у рэстарацыі, меннаванай на заморскі лад кафэгаўзам, купец мог працягнуць гулянку ў начной карчме, трапна празванай «сабачаю горкай», дзе, трэба думаць, наведвальніка чакаў поўны набор начных забаваў.

Сёньняшні зэльвенскі рэстаран «Зальвянка» можа толькі марыць пра поўнае альбо частковае спадкаемства ад свайго прыкірмашнага папярэдніка. Як і ўся прыціхлая Зэльва можа толькі летуценна ўсьміхнуцца, прыгадаўшы падзеі двухсотгадовай даўніны. Ці не таму ў вершы зэльвенскага паэта Юркі Голуба чутно непрыхаванае шкадаваньне пра былыя слаўныя часы:

*На тых дарогах і сьляды,*
*І успаміны ў пыльным зельлі.*
*Здалёк купцоў склікала Зэльва:*
*З гарачай Турцыі,*
*Як зь Ельні,*
*Абозы рыпалі сюды.*

*Наўкол пішчала і раўло,*
*І стража сытая сіпела,*
*Калі карэце на крыло*
*Ступаў размашыста Сапега.*

*Вушамі стрыглі жарабкі,*
*Ляцелі гузікі і лейцы.*
*А ён вірыў, уласны Лейпцыг,*
*Дзе свой тавар і жабракі.*

*Падвальчык пані Валабрыньскай*
*Прымусіць пець – не гараваць,*
*Пакуль кішэнь у стане брынькаць*
*І ў стане ўзьняцца галава.*

Прыняўшы пару кухляў з рук пані Валабрыньскай, захмялелы купец вылазіў на Божы свет і дзіву даваўся. Перад кірмашовым людам выступалі фокусьнікі, жанглёры й акрабаты. Цыган вадзіў вучонага мядзьведзя, і выхаванец Смаргонскай акадэміі вытвараў сапраўдныя цуды – гандляры лезьлі пад вазы ад рогату. Хлопчыкі-клікуны запрашалі наведацца ў перасоўны тэатрык, каб паглядзець французкую мэлядраму «Трыццаць гадоў з жыцьця гульца» альбо падняць настрой праглядам лёгкіх камэдыяў «Прыгожая гаспадыня» ці «Дзе швэндаюцца нашыя мужыкі».

Аднак паступова зэльвенскі кірмаш страчвае свой размах. З адкрыцьцём чыгункі Варшава – Санкт-Пецярбург патокі тавараў пачалі абмінаць Зэльву. Праўда, некаторыя дасьледнікі галоўнай прычынай заняпаду лічаць тое, што ў адзін час кірмашовыя зборы былі цалкам аддадзеныя на водкуп габрэям. Махінацыяў апошніх не змаглі спыніць і трыццаць жаўнераў, тэрмінова прысланых з Гарадзенскага гарнізона.

Аднак яшчэ ў 1859 годзе праз зэльвенскі кірмаш праходзіла процьма тавараў. Так, ваўняных рэчаў было прададзена на 93 000 рублёў, шаўковых і напаўшаўковых – на 69 000, ільняных і пяньковых – на 55 000, хустак, халатаў і дываноў – на 19 000, футраў – на 34 000. За розныя прылады з жалеза з кішэняў пакупнікоў было выкладзена 33 000, за вырабы зь

медзі – 15 000 рублёў. Посуд і рознае начыньне з парцаляны й крышталю ацэньваліся ў 14 000 рублёў. Заморскі тавар таксама карыстаўся сталым попытам: цукру было прададзена на 14 600 рублёў, тытуню – на 2 500, чаю – на 2 000, кавы – на 1 600, усходняга віна – на 2 000 рублёў. Купцы прыяжджалі ў Зэльву з розных бакоў сьвету. Да прыкладу, у 1857 годзе на кірмаш было завезена расейскіх тавараў на 466 000 рублёў, эўрапэйскіх – на 182 000 і азіяцкіх – на 8 000 рублёў.

Ня надта кемячы, як гэта можна было прадаць чаю й віна на аднолькавыя сумы, я з задавальненьнем напаткаў у кірмашных справаздачах адзін запіс. Аказваецца, і зэльвенскі кірмаш жыў клопатам ня толькі пра хлеб надзённы ды каву сьвяточную. Віленскі кнігар Рафаловіч прывозіў у Зэльву кнігаў і эстампаў ажно сто пудоў! Вось калі, выходзіць, зэльвенцы перажылі пік ахвоты да чытаньня.

Гандлёвыя абароты зэльвенскага кірмашу ўвесьчасна меншалі. Замест паважных рыскіх ды турэцкіх купцоў у Зэльву сталі завітваць гандляры ніжэйшай маркі. Вось як іх ахарактарызаваў вядомы гісторык і статыстык, генэрал расейскай арміі М. Без-Карніловіч: «Кто из русских отправляется сюда торговать? Записавшийся в гильдию сиделец или мелкий торговец с капиталом в несколько тысяч, накупив дрянного товара, а половину его взяв у купцов в долг, приезжает сюда для торгов – и за вещь, стоящую в Москве гривенник, берет 20–25 копеек, смотря по лицу, с кого можно взять, возьмет непременно. Божба и присяга ему нипочем, его занимает нажива и барыш, чего старается достигнуть любыми путями».

Але ў жыцьці дзярэчынскіх ваколіцаў кірмаш яшчэ доўга адыгрываў немалаважную ролю. Дзярэчынскія бандары, стэльмахі, кушняры яшчэ шмат гадоў вазілі ў Зэльву сваю прадукцыю. Ехалі на брычках, ішлі пешкі цераз Валькевіцкія горы вясёлыя дзярэчынцы. Вярталіся почасту пад хмелем, мужчыны сыпалі жартамі. Нейкі весялун, няйнакш пераначаваўшы на «са-

бачай горцы», аднойчы нагнаў сораму на кабетаў у квяцістых шаляноўках, гучна агаласіўшы прыпеўку:

*Ішла баба з Зэльвы –*
*Захацела вельмі...*
*Аб вярбу пацёрлася*
*І далей папёрлася!*

Заснавальнік зэльвенскага кірмашу князь Антоні Казімер Сапега ў 1739 годзе знайшоў сабе вечны прытулак у Дзярэчыне, пад скляпеньнямі дамініканскага касьцёла...

ПАСЬЛЯ вяртаньня з войска ў 1987 годзе мы зь сябрам паехалі на колькі дзён у Гародню. Сябра служыў у Нямеччыне, я таксама прабыў два гады на чужыне, хоць і не такой далёкай; наглытаўшыся дасхочу тугі па Радзіме, мы спадзяваліся хутка акрыяць у старажытным беларускім горадзе. Доўга блукалі па Старым Замку, сьцішана стаялі перад Каложай, што ў адчаі выбегла на самую наднёманскую строму. Зайшлі й у музэй гісторыі рэлігіі. Пакуль сябра прымерваўся да дзьвюхручнага крыжацкага меча з жахотным надпісам «Drink Blut» («Пі кроў»), [redacted] ня мог адвесьці вачэй ад адной гэаграфічнай карты. На ёй былі пазначаныя старыя беларускія друкарні. Паводле карты, у Бярэсьці кнігі ціснулі ўжо ў 1558 годзе коштам Мікалая Радзівіла Чорнага, у Заблудаве з 1568 года – з ласкі Рыгора Хадкевіча, у Гародні з 1775 года – дзякуючы падтрымцы Антонія Тызэнгаўза, у Слоніме з 1777 года – стараньнем мэцэната Міхала Агінскага, у Полацку, на радзіме першадрукара Францішка Скарыны, толькі з 1787 года – пастараліся мясцовыя езуіты... Але мяне найперш зацікавіла адна дата – друкарскі варштат у Дзярэчыне быў чуцён ужо ў 1585 годзе! І быў ён сапегаўскім.

Але Сапегі завалодалі Дзярэчынам на сто гадоў пазьней, у выніку шлюбу стольніка Вялікага Княства Літоўскага Юрыя

Сапегі з Ізабэлай Аленай Палубінскай – пра гэта мы ўжо згадвалі. Дык што, памыліліся складальнікі карты?

Але тая самая дата пазьней сустрэлася аўтару гэтых радкоў у некаторых старых выданьнях. Вось адно зь іх у чорным дыхтоўным пераплёце ляжыць перада мной на стале. Беларускі том «Живописной России», выдадзены ў 1882 годзе. Разьдзел «Просвещение и народное творчество в Литве», старонка 101. Аўтара, энцыкляпэдыста й адкрывальніка беларускай даўніны Адама Ганорыя Кіркора, у мяне язык не павернецца абвінавачваць у фальсыфікацыі. А таму паспрабуем уявіць, што адбывалася ў ваколіцах Дзярэчына напрыканцы шаснаццатага стагодзьдзя.

Акурат у гэты час, [redacted] калі больш дакладна, 20 ліпеня 1585 года, Леў Сапега, які тады быў падканцлерам Вялікага Княства Літоўскага, атрымлівае ад караля Стэфана Баторыя прывілей на слонімскае староства. Перанёсшы з Ваўкавыску ў Слонім падрыхтоўчыя соймікі, зрабіўшы горад над Шчарай месцам сваёй галоўнай рэзыдэнцыі, Леў Сапега пачынае набываць у слонімскіх абсягах маёнткі. Так што прысутнасьць Сапегаў у тыя часы ў мясьцінах слонімска-дзярэчынскіх была адчувальная. Магчыма, з Ласоснай і Ружанамі, Белавежай і Сідароўшчынай Леў набыў і частку Дзярэчына. Ня ўсе дакумэнты аб куплях-продажах паўтысячагадовай даўніны зьбераглліся да нашага часу, ня ўсе зьберажоныя трапілі пакуль на вочы дасьледнікам.

А друкарні Льву Сапегу былі дужа патрэбныя. Кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III выдаў падканцлеру прывілей на выключнае права друкаваць Статут Вялікага Княства Літоўскага. Таго, хто б асьмеліўся парушыць каралеўскую волю, чакала кара ў 5000 вугорскіх флярынаў і канфіскацыя ўсіх выдадзеных кніг.

За тры гады дзярэчынскія друкары набраліся вопыту, і ў 1588 годзе выдавец-манапаліст Леў Сапега мог даручыць ім (у

падмогу віленскім Мамонічам) адказную справу – друкаваньне апошняй, самай дасканалай рэдакцыі Статута.

Мне хочацца, каб чытачы паверылі ў такое небезпадстаўнае гістарычнае дапушчэньне. І хай даруе шаноўны Адам Кіркор за гэткую вольную інтэрпрэтацыю ягоных навуковых вышукаў. Я чамусьці ўпэўнены, што друкарня ў Дзярэчыне праз шэсьцьдзесят гадоў пасьля Скарыны – цалкам магчымая зьява. І дзярэчынскі патрыятызм тут ні пры чым.

Аўтар гэтых радкоў зьбіраўся пайсьці ў першую клясу, калі невядомага дзярэчынскага друкара ўславіў на старонках абласной газэты «Гродненская правда» сямнаццацігадовы паэт зь недалёкіх ад Дзярэчына Кастровічаў Уладзімер Ягоўдзік:

*На злосьць панам, на злосьць падпанкам,*
*на радасьць Бацькаўшчыне ўсёй*
*друкар у Дзярэчыне старанна*
*станок друкарскі ладзіў свой.*

*Ён ладзіў, каб на роднай мове*
*для ўсіх суродзічаў сваіх*
*адкрыць шляхі да зораў новых, –*
*да кніжных скарбаў залатых.*

Да кніжных скарбаў Сапегі здаўна былі неабыякавыя. Іхні кнігазбор зьяўляўся найбагацейшым у Вялікім Княстве Літоўскім – нароўні зь бібліятэкай Радзівілаў. Заснавальнікам сапегаўскага кнігазбору лічыцца Леў Сапега, якога вядомы летувіскі знаўца кніжнай справы Лявас Уладзіміравас назваў першым яснавяльможным бібліяфілам.

Вокладка аднаго старога фаліянту захавала надпіс, зроблены рукой даўно сатлелага безыменнага ўладальніка: «Cara captivitas» («Мілы палон»). Так і Леў Сапега, магутны дзяржаўны муж, праз усё жыцьцё ня мог пазбыцца мілага палону кніг. У тастаманце, расьпісваючы нашчадкам свае нажытыя за нема-

лы век багацьці, ён не забыўся распарадзіцца, каму пяройдзе «бібліятэка ружанская, таксама як і іншыя кнігі, стараньнем маім сабраныя».

А сабраў Леў Сапега каля 3000 тамоў. Сёньня такія кнігазборы не зьяўляюцца рэдкасьцю. Але падбор аўтараў мог бы зрабіць гонар самаму інтэлектуальнаму кніжніку. На паліцах сапегаўскай бібліятэкі сабралася паважная кампанія мысьляроў і красамоўцаў: Арыстотэль і Вэргілій, Ціт Лівій і Флявіян Вэдэцый, Эразм Ратардамскі й Авідый... Уявім сабе, як на загад падканцлера бібліятэкар подбегам кіруецца ў кнігасховішча і прыносіць адтуль «Кароткія камэнтары да сусьветнай гісторыі», выдадзеныя манахамі-картузыянамі ў 1564 годзе. А вунь і сам гаспадар схіліўся над томам Цыцэрона, каб зрабіць выпіску для амаль закончанай прадмовы Статута: «Яко Цыцеро поведил, иж естесмо невольниками прав для того, абысьмы вольности уживати могли».

Аляксандар Міхал Сапега, пра якога мы ўжо згадвалі, таксама шанаваў кнігу. У Публічнай бібліятэцы Санкт-Пецярбурга захаваўся эксьлібрыс князя. Вось як апісаў сваю знаходку беларускі дасьледнік Мікола Нікалаеў: «Гэта відарыс трыюмфальнай аркі, на вяршыні якой алегарычная фігура славы трымае шчыт з двойчы перакрыжаванай стралой – знак гэрба «Ліс». Па баках – бюсты мужчын у «сармацкім» стылі з лаўровымі вянкамі на галовах; яшчэ ніжэй, па абодвух баках на прыступках, – нябесныя сфэры. П'едэстал аркі заслонены разгорнутымі кнігамі, на старонках якіх лацінскія надпісы: «Помнікі Сапегаў», «Леў Сапега», «Архіў Сапегаў», «Матэматыка», «Усеагульная гісторыя».

Пры Аляксандру Міхалу і яго спадкаемцах ружанская бібліятэка працягвае папаўняцца новымі рэдкімі выданьнямі. З эўрапэйскіх сталіцаў у беларускае мястэчка трапляюць «Француская граматыка» (Парыж, 1700), «Жалезная маска, альбо Незвычайныя прыгоды бацькі й сына» (Гаага, 1750), раман

С. Рычардсана «Нявыдуманыя ангельскія лісты, альбо Гісторыя кавалера Грандысана» (Амстэрдам, 1772). Па выдатна ілюстраваным двухтомавіку французкага прыродазнаўцы акадэміка А. Гацье можна было вывучаць яшчэ й гісторыю гравюры. А едучы з Ружанаў у Дзярэчын, Сапегі маглі захапіць на дарогу лягчэйшае чытво – Сэрвантэса, Вальтэра ці Мантэск'ё.

26 траўня 1760 года бібліятэкар Міхала Антонія Сапегі на загад гаспадара склаў «Рэестар кніг, што знаходзяцца ў слонімскай бібліятэцы пана графа Сапегі, падканцлера Вялікага Княства Літоўскага», які налічваў 193 назвы. Рэестар быў падзелены на тэматычныя разьдзелы: «Аб дзяржаве» – 20 кніг, «Гісторыя» – 43 назвы, «Духоўныя кнігі» – 24, «Мэдыцына» – 4, «Слоўнікі» – 4, «Паэзія» – 10 назваў. Сярод астатніх чатырох дзясяткаў былі пералічаныя выданьні, якія сьведчылі пра зацікаўленьні гаспадара мясцовай, ліцьвінскай тэматыкай: «Статут Вялікага Княства Літоўскага», «Падарожжа Мікалая Радзівіла ў Палястыну», «Статут ордэна Базылянаў», творы віленскіх схаластаў пад загалоўкам «Бісер філязофіі». Мінулае замежных земляў было прадстаўлена ў рэестры «Гісторыяй Масковіі» Д'Амэтры й «Сармацкімі войнамі» Старавольскага. Каштоўнасьці слонімскай філіі сапегаўскага кнігазбору дадае й тое, што ў рэестры прыгадваюцца інкунабулы – рукапісныя кнігі: «Манускрыпт на розных мовах», «Манускрыпт-дыскусія пра скаргі праваслаўныя»...

Чаму нас так зацікавіў слонімскі кніжны рэестар? Ды таму, што пераважная большасьць вышэйзгаданых выданьняў – на гэта ёсьць адпаведны дакумэнт – неўзабаве была перавезеная ў галоўную, дзярэчынскую бібліятэку, да кніжных багацьцяў якое мы яшчэ вернемся.

САПЕГІ ня толькі займаліся палітычнай ды гаспадарчай дзейнасьцю, у вольны час пачытваючы падарожныя дзёньнікі ці навуковыя трактаты іншых. Некаторыя прадстаўнікі шматлікай сапегаўскай радзіны й самі выяўлялі

схільнасьць да сур'ёзных навукаў і любілі аглядаць наваколле з вакна падарожнага дыліжанса. Удумлівым навукоўцам і апантаным падарожнікам быў Аляксандар Антоні Сапега, які, праўда, належаў да адрознай ад ружанска-дзярэчынскай, коданскай галіны роду, але па волі лёсу мусіў застацца ў гісторыі Дзярэчына. Гэтая акалічнасьць змушае нас пільней прыглядзецца да асобы князя.

Аляксандар Антоні нарадзіўся ў 1773 годзе ў Страсбургу, але ўжо ў чатырохгадовым узросьце быў прывезены на радзіму бацькоў. Гадаваўся ў адным з родавых маёнткаў Сямятычы на Падляшшы, дзе ягоным хатнім настаўнікам быў славуты французскі натураліст, хірург і анатам Жан Эмануэль Жылібэр. Апошні пакінуў па сабе добрую памяць на Беларусі – стварыў батанічны сад і мэдычную акадэмію ў Гародні, узначальваў катэдру натуральнай гісторыі й батанікі Віленскага ўнівэрсытэта. Жылібэр не пакідаў бяз увагі свайго вучня й пасьля вяртаньня ў Францыю ў 1783 годзе. Трэба думаць, любоў да прыродазнаўства падлетку прышчапіў менавіта французскі прафэсар, аўтар двухтомавай працы «Флёра Літвы». Пасталеўшы, Аляксандар Антоні выпраўляецца ў экспэдыцыі на Балканы й Апэнінскую паўвыспу, праводзіць колькі месяцаў у Альпах, ажыцьцяўляе навуковыя вышукі ў галіне этнаграфіі й мінэралёгіі. У наступныя гады наведвае амаль усе краіны Цэнтральнай Эўропы, дзе яго часам прымаюць за французкага альбо расейскага шпега. Прывёзшы аднойчы сваю мінэралягічную калекцыю ў Парыж, Аляксандар Антоні зрабіўся заўзятым прыхільнікам Напалеона і нават стаў ягоным асабістым камэргерам. На даручэньне імпэратара ў 1806 годзе выяжджае ў Польшчу і Вялікае Княства, адкуль шле сакрэтныя інфармацыі ў французкую сталіцу. І невядома, чым бы скончылася кар'ера напалеонаўскага камэргера, каб не трагічны выпадак, які адбыўся з князем у Дзярэчыне.

3 верасьня 1812 года Аляксандар Антоні сьвяткаваў дзень народзінаў у маёнтку сваякоў. Пэўне ж, і яму пашчасьціла выпіць

віна з родавай рэліквіі, трохлітровага «Івана». Падвяселены імяніньнік зь сьвітай выказалі жаданьне агледзець дзярэчынскую гаспадарку, чуткі пра якую даходзілі й да Кодані ў Берасьцейскім ваяводзтве.

На жывёльным двары на камэргера Напалеона раптоўна напаў разьюшаны кныр. Выкшталцоны арыстакрат, які браў удзел у сустрэчы францускага імпэратара з расейскім царом Аляксандрам I у Эрфурце, кавалер ордэнаў Залатога Арла, Ганаровай Легіі й сьвятога Губэрта, стаўся бездапаможным перад клыкастым агрэсарам.

Пакуль разгубленая сьвіта адагнала нападніка, князь атрымаў сур'ёзныя раны. Пачалася хуткацечная гангрэна, змагацца зь якой мясцовыя лекары ня ўмелі. Заснавальнік Гарадзенскай мэдычнай акадэміі Жан Жылібэр жыў на той час у далёкім Ліёне й дапамагчы свайму вучню таксама ня мог. Аляксандар Антоні Сапега памёр і быў пахаваны ў Дзярэчыне. Празь дзевяць гадоў ягоныя парэшткі ўрачыста перавезьлі ў Кодань і пахавалі ў фамільным склепе.

Пры жыцьці Аляксандар Антоні пасьпеў выдаць некалькі ўласных кніг, як, напрыклад, «Падарожжа па славянскіх краінах» (Вроцлаў, 1811). Шматлікія ягоныя працы былі надрукаваныя ў розных навуковых часопісах, некаторыя так і засталіся ў рукапісах: «Мінэралёгія», «Табліца адносінаў новых мераў і вагаў францускіх зь літоўскімі й польскімі мерамі й вагамі», «Пра цытрынавы квас», «Пра жалеза» ды іншыя.

Як слынны навуковец і прадстаўнік знатнага вялікалітоўскага роду, Аляксандар Антоні Сапега карыстаўся павагай у наведаных ім братніх славянскіх краях. Пасьля яго паездкі па Харватыі, Босьніі, Герцагавіне й Чарнагорыі паэт Марка Бруяровіч нават склаў у гонар князя вітальную оду.

Ведаў бы нікчэмны дзярэчынскі кныр, якога заслужанага чалавека пазбавіў жыцьця...

НЯГЛЕДЗЯЧЫ на тое, што ў розныя эпохі Сапегам даводзілася пачасту вандраваць паміж Варшавай і Пецярбургам, Парыжам і Масквой, усе яны даволі выразна адчувалі ўласную этнічную прыналежнасьць, многія былі сьвядомымі патрыётамі сваёй зямлі. Няма патрэбы лішні раз узгадваць Льва Сапегу, выдатнага дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, які быў для ўсяго роду прыкладам узорнага слугаваньня Бацькаўшчыне.

На працягу стагодзьдзяў Сапегі пялегавалі мару пра незалежнасьць сваёй Радзімы й гатовыя былі са зброяй у руках змагацца за яе ажыцьцяўленьне. Так, яшчэ напрыканцы сямнаццатага стагодзьдзя Сапегі арганізавалі ўзброены выступ шляхты й сялянаў супраць магнатаў Вішнявецкіх, Пацаў і Радзівілаў, якім падабалася жыць пад апекай Варшавы. Казімер Ян Сапега, польны гэтман і віленскі ваявода, на ўласныя сродкі сабраў пад Гародняй паўтары тысячы жаўнераў і 18 лістапада 1700 года прыняў бой пад Алькенікамі, дзе пацярпеў паразу ад шматкроць большага войска братоў Вішнявецкіх. Але Сапегі не адступіліся ды працягвалі ўзбройваць сялянскія атрады на Віцебшчыне. Барацьба ішла зь пераменным посьпехам. 23 сьнежня 1701 года сапегаўскія адзьдзелы на чале зь Юрэвічам, Хмарам і Більдзюкевічам разграмілі трохтысячнае войска непрыяцеля пад Галоўчынам. А віцебскі летапісец Сьцяпан Аверка тым самым годам пазначыў іншую бітву: «У год 1701, месяца ліпеня 8 дня, войска Рэчы Паспалітай з панамі Пацамі разьбіла дашчэнту 18 700 сабраных супраць іх сялянаў пад Дуброўнаю». Па колькасьці паўстанцаў відно, наколькі сур'ёзнае змаганьне вялі Сапегі. Але сілы былі няроўныя. Дэкляраваньні швэдзкага караля Карла XII у справе дапамогі Сапегам так і засталіся пустымі абяцаньнямі.

Бралі ўдзел Сапегі і ў вядомай Барскай канфэдэрацыі – узброеным выступе супраць стаўленіка расейскай імпэратрыцы Кацярыны II, апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аў-

густа Панятоўскага. Паводле некаторых зьвесткаў, адна з вырашальных бітваў канфэдэратаў з рэгулярным расейскім войскам адбылася ў 1768 годзе непадалёк ад Дзярэчына.

Міналі эпохі, паміралі старыя й каранаваліся новыя каралі, а спадчынная мара Сапегаў пра вольнасьць для роднага краю ніяк не магла ўвідочніцца. Чарговую старонку ў змагарны летапіс упісаў сын Аляксандра Міхала Францішак Сапега – ці не самы легендарны з дзярэчынскіх уладароў. За сваё пяцідзесяцісямігадовае жыцьцё ён пасьпеў пакамандаваць паўстанцкім войскам і адбіць каханку ў Напалеона Банапарта, сабраць велізарную калекцыю старадрукаў ды жывапісных палотнаў і прайграць у карты пятнаццацімільённае багацьце. Францішак сябраваў з Тадэвушам Касьцюшкам і прымаў у Дзярэчыне цара Паўла I, насіў эпалеты генэрала літоўскай артылерыі й меў ранг расейскага таемнага саветніка... Кім жа ён быў папраўдзе, гэты эксцэнтрычны князь, каго сучасьнікі называлі «арыгіналам з замашкамі авантурыста» альбо «байранізаваным эстэтам»?

Францішак прыйшоў на сьвет у Варшаве ў 1792 годзе і падлеткам быў залічаны ў кадэцкі корпус у Пулавах, дзе адным зь ягоных выхавальнікаў быў вядомы тэоляг, гісторык і пісьменьнік Францішак Ксавэры Богуш, будучы аўтар кнігі «Пра пачатак народу й мовы літоўскай». Дасьледнікі сьцьвярджаюць, што ён ня вельмі каб змушаў да навукі свайго знатнага цёзку, але ўсё ж на далейшыя штудыі выправіў яго ў Віленскі ўнівэрсытэт, які ў той час называўся Галоўнай Віленскай Школай.

У 1792 годзе Францішак у складзе літоўскай дэлегацыі выяжджае ў Пецярбург і трапляе на прыйма да Кацярыны II. Ды першае спатканьне з каранаванай асобай пакінула прыкры сьлед у памяці юнака: паводле сьведчаньняў відавочцаў, пасьля заканчэньня аўдыенцыі ён аж заплакаў – так няўдала адрэкамэндаваўся царыцы!

11 лютага 1793 года Францішак Сапега ўзяў шлюб зь Пелагеяй Патоцкай. Пасьля гучнага вясельля, якое адбылося ў Гародні, маладыя правялі мядовы месяц у Дзярэчыне, у спэцыяльна падноўленым дзеля гэтага палацы. Францішак, як адзіны сын, успадкаваў ад бацькі багатыя маёнткі, раскіданыя на вялікім абшары ў розных ваяводзтвах: Ружаны, Мыш, Дзярэчын, Зэльву, Данейкаўшчыну, Сялец, Насевічы, Высокае, Стары і Новы Быхаў (толькі з апошнімі да яго перайшло васямнаццаць тысячаў душ падданых). Яму таксама належалі Шкуды, Доўгапаль, Чарэя і Друя. (Калі шаноўны чытач завітае ў Браслаўскі краязнаўчы музэй, то ўбачыць там партрэт Францішка ды пачуе захапляльную гісторыю пра горад Сапежын, які яшчэ на пачатку сямнаццатага стагодзьдзя меў магдэбургскае права. Праўда, у экспазыцыі ўсё ж варта было б зьмясьціць выявы заснавальніка Сапежына Яна Станіслава альбо Казімера Льва, які пабудаваў у Сапежыне касьцёл і кляштар бернардынаў, ■ не Францішка, чые сымпатыі падзяляліся паміж Парыжам і Дзярэчынам.)

На час, калі бацькаў тастамант уступіў у сілу, дзярэчынскі маёнтак даваў 131 000 залатых грашовага прыходу. І падобна на тое, што маладая жонка пасьля ўсходу сонца не перашкаджала Францішку даводзіць да канца распачатыя бацькам справы. У 1793–1794 гадох на дзярэчынскіх землях адначасова будаваліся: новы бровар, цагляны завод, сукнавальня, млын у Бярэжках, галоўны склад у цэнтральным маёнтку, страхавая сялянская крама ў Крупаве, гумно, стайня, летнія хлявы, асеці для сушкі лёну і канопляў, рачныя судны, карчма, рэстарацыя (кафэгаўз) для наведнікаў зэльвенскага кірмашу.

І будавалася ўсё гэта не на скорую руку. Дасьледнік беларускай архітэктуры Валянцін Калнін нядаўна выявіў у Габінэце Гравюраў бібліятэкі Варшаўскага ўнівэрсытэта папку зь Дзярэчына, у якой захоўваецца 135 архітэктурных праектаў. На аркушы з выявай, што пасавала б хутчэй да сялібы заможнага шляхціца, чытаем надпіс на французкай мове: «Фасад карчмы

«Пад залатой зоркай», што выходзіць на рынак, разьмешчаная ў Дзярэчыне на левым баку». Прасторная заезная карчма (іх яшчэ на польскі манэр называлі абержамі) зычліва зазірае ў вочы мінакоў шасьцю вокнамі. Франтон над уваходам зь ляпною васьміканцовай зоркай узьнесены амаль да вільчака, падтрымліваецца дзьвюма парамі квадратных калюмнаў. У двухсхільным даху прарэзаныя два акенцы авальнай формы, падобныя з выгляду да бойніцаў заўжды напагатоўнай фартэцы. Так што дзярэчынскія выпівохі, забарыкадаваўшыся ў карчме, маглі суткамі трымаць аблогу раззлаваных жонак.

Пакуль будаваўся дзярэчынскі бровар, з поўнай загрузкай працавала вінакурня ў недалёкай Волі – перанесеная яшчэ пры Аляксандру Міхалу з маёнтка Вострава, яна давала штогод 3280 гарцаў гарэлкі. Сёньня дзярэчынцы і вокам не зьміргнуўшы выпілі б яе ўсю, а дзьвесьце гадоў таму з продажу лішкаў атрымлівалі немалы прыбытак. Так, у 1793 годзе за гарэлку, рэалізаваную на зэльвенскім кірмашы, было атрымана амаль 13 000 залатых, што склала дзесяць адсоткаў агульнага даходу.

Не спыняўся пры Францішку і гандаль з Караляўцом. Хіба што пачалі завозіцца новыя тавары. Так, на пачатку 1794 года дастаўлена абсталяваньне для лесапільні (пілы з напільнікамі, сьвярдзёлкі, сякеры ды інш.) і бутэлькі з адмысловымі коркамі для разьліву сьпіртовых напояў.

На пачатку гаспадараньня Францішка ў Дзярэчыне налічвалася 48 000 маргоў княскіх і сялянскіх земляў, трыццаць адсоткаў якіх (16 000 маргоў) займалі лясы. Пры маладым князю зьявіўся як мінімум яшчэ адзін лясок – у красавіку 1794 года ўпаўнаважаны князя загадаў аканому засеяць насеньнем сасны поле зь пясчанай глебай, якое раней было пад ворывам.

Дзярэчынская адміністрацыя сачыла й за станам дарогаў. Самым дагледжаным быў гасьцінец на Ружаны, у лагчынах рабіліся гаці, адхоны замацоўваліся фашынамі, абапал былі пра-

капаныя раўчукі й пасаджаныя дрэвы. (Аўтару гэтых радкоў колькі гадоў таму заманулася праехаць сапегаўскім шляхам на роварах. Удалося ад'ехаць ад мястэчка кілямэтры чатыры – колы грузьлі ў разбрухітанай трактарамі, месцамі пераараной дарозе. Праўда, ладны кавалак шляху праз Целякоўшчыну (назва тутэйшага лесу) быў высыпаны сьвежым пяском, але з такой шчодрасьцю, што мой сталёвы конь ізноў занатурыўся.)

Але шырокай Францішкавай натуры хутка надакучылі гаспадарчыя справы. Яго вабіў сьвет, дзе можна было паказытаць нэрвы, адыграць назад пастаўленае на кон уласнае жыцьцё. Дзярэчынская гаспадарка, што наладжвалася дзесяцігодзьдзямі, пачала даваць збоі. І неўзабаве аканомы абвесьцілі, што маламаёмасныя сяляне, якія не знаходзяць сабе працу ў навакольных маёнтках, могуць наймацца на будоўлю ў Зэльве. У суседняе мястэчка пацягнуліся мяшчане й прыгонныя. Апошнія на падвозцы цэглы зараблялі ў дзень па 2 залатыя. А мяшчане мелі па 2 залатыя 10 грошаў. Найміты ехалі з дому на цэлы тыдзень, апошнюю ноч перад вяртаньнем дружнай талакой бавілі на «сабачай горцы» й вясёлым абозам вырушалі на Дзярэчын.

У 21 год Францішак Сапега атрымлівае званьне генэрала артылерыі, яго генэральскі мундзір упрыгожвае ордэн сьвятога Станіслава.

Як сьведчаць рэляцыі тагачасных расейскіх сакрэтных службаў, Францішак удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстаньня 1794 года. Спадзеючыся на здольнасьці маладога генэрала й на аўтарытэт ягонага прозьвішча, Тадэвуш Касьцюшка спачатку запрапанаваў яму ўзначаліць збройны выступ на Літве. Але ў выніку патаемнай дыпляматыі Францішку дасталася толькі адна дывізыя колькасьцю дзьве тысячы жаўнераў. 22 траўня 1794 года генэрал Сапега дакладвае ў Вільню, што ягонае войска канцэнтруецца ў Дзярэчыне і рыхтуецца да баявых дзеяньняў.

А далей пачалася неразьбярыха. Варшава зь Вільняй, ня могучы падзяліць паўнамоцтваў, прымаюць кожная свае звароты да паспалітага люду, аддаюць няўзгодненыя загады. Вільня, не чакаючы падказак Варшавы, зьвяртаецца да насельніцтва Краю з адмысловым унівэрсалам: «Слухай, народзе літоўскі, што табе гаворыць не кароль слабы зь яшчэ слабейшага трону, не свавольная грамада, а паважнае згуртаваньне спагадлівых тваіх сыноў, якія доўга вызваленьне тваё набліжалі... Адно нам з двух застаецца абраць: выкарыстаць рэшту сілы дзеля свайго вызваленьня альбо загінуць ад рук незычлівых суседзяў».

Тадэвуш Касьцюшка занепакоена пісаў Францішку Сапегу, каб Літва не праяўляла залішняй ініцыятывы. Польскія газэты надрукавалі віленскі ўнівэрсал са значнымі скаротамі, трактуючы яго як спробу расколу паўстанцкіх сілаў. Каб не выпусьціць становішча з-пад кантролю, Касьцюшка мусіў зьвярнуцца да тутэйшага люду з прачулай адозвай: «Літва! Землякі ды суайчыньнікі мае! На вашай зямлі нарадзіўся, і ў запале праведным дзеля Бацькаўшчыны маёй адгукаецца ўва мне найвялікшая прыхільнасьць да таго краю, дзе пусьціў я карані жыцьця... Хто ж я ёсьць, калі не ліцьвін, зямляк ваш, вамі абраны?..».

Але самыя шчырыя звароты не маглі замяніць супольных рашучых дзеяньняў, як таго патрабавала становішча.

Неўзабаве на загад кіраўніка паўстаньня дывізыя Францішка Сапегі зь Дзярэчына перадыслякоўваецца ў Бельск-Падляскі, дзе яе камандзер атрымлівае цыркуляр зь віленскай Тайнай Дэпутацыі (такую назву меў орган кіраваньня паўстаньнем на Літве) з прадпісаньнем выступаць на Гародню, захопленую корпусам расейскага генэрала П. Цыцыянава. Аднак арганізатары паўстаньня на Падляшшы А. Казаноўскі й Я. Стрыенскі пачалі біць у звона, апэлюючы да Варшавы, – Падляшша застаецца бяз войска! У выніку затрымкі паўстанцкай апэрацыі Цыцыянаў меў магчымасьць нясьпешна адысьці на ўсход, абрабаваўшы Гародню да ніткі (у літаральным сэнсе, бо, апрача залатога скарбу,

вывез абсталяваньне ды гатовае сукно з гарадзенскай суконнай фабрыкі).

Францішак заздаваў і напісаў Касьцюшку рапарт аб адстаўцы з пасады камандзера дывізыі, пагаджаючыся служыць у ранзе капітана. Адначасова князь прасіў аб прызначэньні адзінага кіраўніка збройных сілаў паўстанцаў на Літве, бо з 11 траўня 1794 года тут дзейнічалі тры раўнапраўныя генэрал-лейтэнанты – Францішак Сапега, Якуб Ясінскі й Антон Хлявінскі. Але Касьцюшка рапарту не прыняў, «патройны генэралітэт» пакінуў у сіле, а ў Францішкаву дывізыю накіраваў сваіх дарадцаў. Вільня таксама надаслала Сапегу сваіх паўнамоцных камісараў, якія зараз жа пачалі пісаць даносы аб нібыта ўхіленьні Францішка ад вайсковых апэрацыяў.

Не дачакаўшыся зь Вільні дазволу на паход пад Гародню, Ф. Сапега вырашыў на свой страх і рызыку атакаваць адзьдзелы палкоўніка А. Часьменскага каля Бярэсьця. Аднак сутычкі не адбылося – расейцы імкліва адступілі ў бок Пінска.

А на Сапегу пасыпаліся скаргі аб парушэньні субардынацыі...

Урэшце Тадэвуш Касьцюшка вымушаны быў звольніць Францішка з пасады камандзера дывізыі, але абавязаў яго быць дарадцам новапрызначанага кіраўніка генэрала Паўла Грабоўскага.

Апошні не ірваўся ў бой і, калі Цыцыянаў падышоў да Слоніма, палічыў за лепшае адступіць пад Зэльву. Нерашучасьць генэрала віленскія незычліўцы Сапегі тут жа патлумачылі забегамі ягонага саноўнага дарадцы. Зь Вільні ў Ваўкавыск нават прыбыў яшчэ адзін генэрал, Рамуальд Гэдройць, з заданьнем пераняць камандаваньне ад Грабоўскага й Сапегі. Лякальнага вайсковага перавароту, аднак, не адбылося, але Францішка Сапегу ад таго часу пачынаюць абвінавачваць у вайсковай некампэтэнцыі, у анархіі й нават у шпіянажы на карысьць Расеі. «Gazeta Wolna Warszawska» мусіла апраўдваць князя, нагадаўшы пра некаторыя нямалаважныя акалічнасьці. І сапраўды,

«расейскі шпіён» Сапега на пачатку паўстаньня паводзіў сябе вельмі дзіўна, ахвяраваўшы на паўстанцкія справы 6 тысячаў дукатаў гатоўкаю. Апрача гэтага князь адпісаў на патрэбы збройнага чыну даход з аднаго з сваіх маёнткаў у 16 тысячаў рублёў. А сорак сапегаўскіх коней, пакінуўшы ўтульныя стайні, цягалі па вясновай бездаражы гарматы паўстанцаў... Як бачым, князь добра-такі «замаскаваўся», перад тым як падступна перайсьці на бок ворагаў.

Пасьля паразы паўстаньня расейцы не зачапілі адстаўнога камандзера мяцежнікаў, запатрабаваўшы ад яго пісьмовага зааба-вязаньня больш не ваяваць супраць Расеі. 6 студзеня 1795 года Францішак Сапега перадаў праз расейскага военачальніка М. Рапніна пакаянны ліст да Кацярыны II, у якім, ратуючы ад канфіскацыі свае маёнткі, прасіў імпэратрыцу дараваць удзел у паўстаньні. Дачакаўшыся найвышэйшай літасьці, Францішак прыяжджае ў Пецярбург, дзе ў Петрапаўлаўскай крэпасьці адбывае пакараньне зьвязьнены Тадэвуш Касьцюшка. Спрабуючы дапамагчы кіраўніку паўстаньня і даўняму сябру, князь сустракаецца з уплывовымі вяльможамі. Насуперак просьбам цесьця, Станіслава Шчаснага-Патоцкага, які стала жыў у Пецярбурзе, на шматлікіх сьвецкіх раўтах і балях Францішак Сапега, выкарыстоўваючы ўсе даступныя яму мэтады, рыхтуе глебу для вызваленьня Касьцюшкі. Але ягоныя вымогі далі плён толькі праз два гады. І тут ізноў на гістарычнай арэне царкоўна-касьцельнымі купаламі заблішчаў Дзярэчын...

У 1796 годзе Францішак Сапега, ужо маючы ў сваім паслужным сьпісе тытулы расейскага тайнага саветніка й маршалка Менскай губэрні, як дэлегат ліцьвінскай шляхты ўдзельнічаў у каранацыі Паўла I, што адбывалася ў Маскве. І, пэўна ж, не губляў дарэмна часу, завязаў высокае знаёмства, бо цар вяртаўся з Масквы ў Пецярбург праз... Дзярэчын, і Францішак прымаў яго ў сваім фамільным

палацы. Падносячы каранаванай асобе гістарычнага «Івана», Сапега, мабыць, не забыўся замовіць слова за свайго галоўнакамандуючага. Прыехаўшы ў Пецярбург, Павел І, яшчэ не акрыяўшы пасьля дзярэчынскага пахмельля, уласнай пэрсонай наведаўся ў Петрапаўлаўскую цытадэль, да сьмерці перапалохаўшы турэмнае начальства. Цар тут жа, не выходзячы з падзямельля, падпісаў указ аб вызваленьні Касьцюшкі, што праўда, таксама запатрабаваўшы клятвы на вернасьць Расеі. Начальнік паўстаньня прыняў царскую ўмову.

Але землякі-ліцьвіны не змаглі зьмірыцца з ягоным адступніцтвам і прыдумалі Касьцюшку кемлівае апраўданьне. Вось як запісаў яго ў адной з фальклёрных экспэдыцыяў Міхал Федароўскі: «Як Касьцюшку злавілі, то зараз прывялі перад цара, дай казалі яму, каб ён прысягнуў Расеі, так ён сказаў: «На чыёй зямлі стаю, таму прысягаю і за таго голаў палажу!» А ён уперад набраў зямлі ў чобаты, як выяжджаў, і на той зямлі прысягаў...»

Пасьля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе і выезду Тадэвуша Касьцюшкі ў Злучаныя Штаты Амэрыкі на Літве нібыта настаў спакой. Але неўзабаве расейская тайная паліцыя зноў узялася за звыклую справу – была выкрытая група змоўшчыкаў на чале з шляхціцам Фаўстынам Цяцерскім. Імя Францішка Сапегі зноў замільгала ў службовых данясеньнях. Паводле царскай выведкі, у Дзярэчыне ды Ружанах зьбіраліся афіцэры-добраахвотнікі, што меліся таемна выязджаць у Італію, дзе плянавалася стварэньне вызвольных легіёнаў. Але й гэтым разам князю паверылі на слова – ні пра якія легіёны ён, вядома ж, ня чуў і ня ведаў...

Наваяваўшыся ды навыпіваўшыся на брудэршафт з царом, Францішак Сапега ўспомніў, што да гэтае пары не займеў нашчадка... Праз пэўны час шчасьлівы дваццаціпяцігадовы бацька трымаў на руках першынца Яўстаха Каятана, які праз тры дзясяткі гадоў возьме ўдзел у новым паўстаньні. Завяжам, як пісаў Міхась Стральцоў, вузельчык на памяць – нарадзіўся бу-

дучы паўстанец 7 жніўня 1797 года. Няхай расьце, дужэе, каб упісаць сваю старонку ў гісторыю Дзярэчына. А мы пакуль вернемся да ягонага бацькі.

Пасьля чыннага ўдзелу ў нацыянальна-вызвольным паўстаньні й нараджэньня сына Францішак Сапега свой абавязак перад Айчынай палічыў выкананым. Ён пачынае падарожнічаць па эўрапэйскіх сталіцах, дзе з галавой акунаецца ў вясёлае багемнае жыцьцё. І трэба сказаць, фартуна спрыяла былому генэралу літоўскай артылерыі.

У 1803 годзе Францішак Сапега знаёміцца з фаварыткай Напалеона акторкай Маргарытай-Жазэфінай Вэльмэр, якую ўвесь Парыж называў проста – мадмуазэль Жорж. Чым яе peравабіў дзярэчынскі князь, якія чульлівыя словы шаптаў на вуха падчас тэт-а-тэтных сустрэчаў – можна толькі здагадвацца. А парыскія прагматыкі, што даўно страцілі веру ў рамантычныя чалавечыя пачуцьці, тлумачылі ўсё на дзіва лягканічна – Францішак плаціў Жазэфіне пяць тысячаў франкаў за ноч. Як бы там ні было, але Напалеон Банапарт, перайшоўшы Нёман у 1812 годзе, ва ўладаньнях Францішка Сапегі, апрача звыклага вітаньня: «Vive L'empereur!» («Няхай жыве імпэратар!»), мог пачуць іранічныя спачуваньні... Сам Францішак падчас францускай кампаніі палічыў за лепшае адседзецца ў расейскай глыбінцы, што таксама, думаецца, невыпадкова.

Пасьля высылкі свайго нешанцоўнага спадужніка ў амурных справах на выспу Сьвятой Алены Францішак Сапега працягваў свае авантурныя падарожжы па Эўропе.

Хадзілі чуткі, што аднойчы ў Парыжы ён за адну ноч прагуляў у карты пятнаццаць мільёнаў золатам.

У Італіі князю заманулася залезьці ў кратэр Вэзувія, і ён зрабіў гэта, ледзь не задыхнуўшыся ад вульканічнага дыму.

З глыбіняў зямных Францішка пацягнула ў вышыні нябесныя, і ён зь сябрам Корвінам Вышкоўскім скарыў не адну горную вяршыню ў Пірэнэях, двойчы трапіўшы пад сьнегавыя лавіны.

У Гішпаніі, пагляд зеўшы карыду, Сапега падчас застольля з тарэадорамі рызыкоўна абазваў барсэлёнскіх быкоў рахманымі цялятамі. Абяцаў да наступнага сэзону даставіць з свайго дзярэчынскага гадавальніка сапраўднага быка, нашмат большага ды імпэтнейшага за гішпанскіх супляменьнікаў. Калі адзін тарэадор, палічыўшы сказанае князем за нацыянальную абразу, схапіўся за шпагу, верны Корвін Вышкоўскі прыйшоў сябру на дапамогу. Ён распавёў тэмпэрамэнтнаму тарэадору гісторыю, якая адбылася ў Дзярэчыне з камэргерам Напалеона... Гішпанцы слухалі й зьбянтэжана ківалі галовамі – якія ж сапраўды лютыя быкі могуць весьціся ў той дзіўнай краіне, калі тамтэйшыя сьвіньні загрызаюць чалавека насьмерць!

Пабыўшы ў Вэнэцыі, Францішак адчуў сябе паэтам і параўнаў адзін з найпрыгажэйшых у сьвеце гарадоў зь беларускім бабром, які хвост трымае ў вадзе, а галаву прыўзьняў над вадою.

Аб'ехаўшы Эўропу ўдоўж і ўпоперак і вярнуўшыся дахаты, Францішак Сапега спаткаў аднойчы на зэльвенскім кірмашы старога знаёмца Лявона Патоцкага. Апошні занатаваў словы князя, якія й да гэтай пары цешаць слых дзярэчынцаў і помнячы пра якія мае землякі-местачкоўцы могуць вальней пачувацца дзенебудзь на Элісейскіх палёх. Прыгадаем жа й мы выснову спрактыкаванага падарожніка. Дык вось, у Пецярбурзе князю было захаладна, у Партугаліі загорача, у Англіі яму дакучалі туманы, у Вільні не было блізкіх сяброў, у Варшаве князь ня меў з кім перакінуцца ў карты. І толькі ў Парыжы і ў Дзярэчыне Францішак Сапега ніколі не сумаваў, знаходзіў, як і з кім бавіць час.

Мне здаецца, і сёньня Парыж і Дзярэчын кланяюцца адзін аднаму вежамі: адзін – славутай Эйфэлевай, другі – звычайнай, рэтрансьляцыйнай.

ПРЫ Францішку ў дзярэчынскім палацы не змаўкалі балі. За князем касякамі цягнуліся ў Дзярэчын маркграфы й графы, бароны й віконты зь берагоў Сэны,

Рэйна, Луары й Гароны. Францішак з сваіх вандровак прывозіў ня толькі новыя запасы добрага заморскага пітва. На спэцыяльных падводах у родавае гняздо ехалі францускія й ангельскія кнігі, творы мастацтва, набытыя паміж гулянкамі ў начных клюбах. Ведаў бы князь, што станецца зь ягонымі зборамі, лепш працягваў бы калекцыянаваць жаночыя пацалункі...

Неўтаймоўная жарсьць Францішка да зьбіраньня апошніх у Парыжы ці Варшаве не магла застацца незаўважанай зь Дзярэчына. У 1805 годзе дзярэчынскі Казанова мусіў разьвесьціся з жонкай. Але дзярэчынскія апартамэнты князя не ператварыліся пасьля гэтага ў сумнае халасьцяцкае прытульле. Часам балі доўжыліся да самай раніцы. На адзін зь іх завітаў прыгаданы вышэй мэмуарыст Лявон Патоцкі, які пакінуў нам слоўны партрэт Францішка ў інтэр'еры аглухлага ад мэнуэтаў і мазурак дзярэчынскага палаца: «Калі я ўваходзіў, музыка ўжо йграла, моладзь танцавала, старэйшыя гулялі ў карты. Вачыма я шукаў гаспадара дому і ўбачыў яго, як той сядзеў з падкурчанымі нагамі. Ён курыў султанскі тытунь з доўгага муштука, аздобленага надзвычай каштоўным бурштынам, і быў падобны на турэцкага пашу, але без каптана, безь цюрбана, толькі ў чорным сурдуце, зашпіленым пад барадой».

Наведвальнікаў дзярэчынскіх баляў почасту чакалі неспадзяванкі. Аднойчы Францішак прывёз з Парыжу дзьве скрыні й з таемным выглядам распарадзіўся паставіць іх пасярод залі. Увечары, калі сабраліся шматлікія госьці, князь запрасіў паняў падысьці да скрыняў. У адной аказаліся дамскія чаравічкі, у другой – пальчаткі. Гаспадар тут жа запрапанаваў удзельніцам балю прымераць апошнія дасягненьні парыскай моды. Прапанова была настойлівай, мужчыны зь неўдаванай цікавасьцю сачылі за ходам падзеі, і прыўкрасная палова мусіла падпарадкавацца. Чырванеючы ад сораму й натугі, жанчыны спрабавалі абуць чаравічкі, нацягнуць пальчаткі. Але дарэмна. І толькі адной пані Яльцовай замежныя навінкі прыйшліся ў пару. Ці трэ-

ба казаць, зь якімі пачуцьцямі пакідалі дзярэчынскі палац сканфужаныя дамы, праклінаючы свае нязграбныя формы ды лаючы ў думках выбрыкі князя Францішка!

Нягледзячы на падобныя ўчынкі, якія камусьці могуць падацца нетактоўнымі, а нават і жорсткімі, Францішак Сапега ня меў злосьці ў душы. Шчодрасьць ягоную спазналі многія маладзёны, што дашчэнту прагульваліся ў карты. Князь любіў рабіць ахвяраваньні таемна, не спадзеючыся на падзяку ці зычлівыя дзеяньні ў адказ. Не скупіўся даваць пазыкі незьлічоным сваякам. Праўда, разьлічвацца няздольных заплаціць прымушаў зноў жа такі даволі арыгінальным спосабам. Пазычаньнік павінен быў перад сном чухаць князю пяты. Працэдура паўтаралася штовечар, аж пакуль бедны сваяк не вяртаў грошы.

У 1809–1810 гадох Францішак Сапега зімаваў і летаваў у Дзярэчыне, прымаючы шматлікіх гасьцей. Праездам у Расею адведвалі князя выпадковыя знаёмцы па сумесных гулянках з Нэапаля, Парыжа й Варшавы. Часам прыяжджалі й сябры – доктар філязофіі Віленскага ўнівэрсытэту К. Юхноўскі, які быў даверанай асобай Францішка ў гаспадарчых справах, прафэсар таго ж унівэрсытэту М. Када, што на працягу пяці гадоў (з 1794 да 1799) выконваў абавязкі галоўнага архітэктара ў сапегаўскіх уладаньнях.

Застаўшыся на самоце, князь любіў пачытаць Біблію. Зрэдку пасьля полудня, паласаваўшыся ўлюбёным прысмакам – змочанымі ў роме кавалачкамі цукру, – спускаўся ў фамільную збраёўню. З настальгіяй надзяваў сваю запыленую аўгустоўку касьцюшкаўскіх часоў, аглядаў калекцыю вайсковага рыштунку.

Вунь гэтманская булава Льва Сапегі. Неяк Францішак спрабаваў падлічыць, колькі каленаў адзьдзяляе яго ад славутага родзіча, магільны склеп якога, бываючы ў Вільні, ён лічыў сваім абавязкам наведаць. Але радаводнае дрэва, што карэнілася ў стагодзьдзях, раскрывала свае таямніцы занадта

марудна. І князь вырашыў адкласьці гэнэалягічныя росшукі да вальнейшых часоў.

Вунь паліцы, маршальскія жэзлы, сьцягі, штандары й бунчукі, здабытыя ў пераможных бойках з туркамі, расейцамі ды татарамі. На сьценах разьвешаныя сёдлы й вупраж, упрыгожаныя дыямэнтамі.

Вунь палаш Яна Пятра Сапегі, усьвяцкага старосты, які жыў дзьве з паловай сотні гадоў таму й даводзіўся стрыечным братам канцлеру Льву. Быў палкоўнікам пры Дзьмітрыі ІІ Самазванцы, потым у гэткім самым чыне служыў каралю. Пакінуў пасьля сябе вайсковы дзёньнік «Гісторыя крывавага Марса і адважныя рыцарскія справы...»

Францішак браў у рукі бацькаву шпагу ў каралавай аправе і прыгадваў вечна заклапочанае аблічча канцлера Аляксандра Міхала, пры якім быў пабудаваны дзярэчынскі палац. Адносіны паміж бацькам і сынам складваліся няпроста. Магчыма, на іх адбіўся той факт, што пасьля нараджэньня Францішка падазроны князь палічыў яго не сваім сынам і напачатку быў адмовіўся ад бацькоўства...

Па падземным пераходзе Францішак ішоў у скарбніцу й аглядаў вялікі кубак з чыстага золата, на якім красаваліся гэрбы князёў Шуйскіх. Усьміхаўся, гладзячы рукой халодны горны крышталь славутых «Івана» ды «Іваніхі». Заглядаўся на дванаццаць грацыёзных міталягічных фігурак, адлітых са срэбра.

Праходзіў анфілядай пакояў і падоўгу спыняўся каля палотнаў Вэранэзэ і Ван дэр Нэера. У гасьцявой залі на сьцяне відзён быў сьлед ад зьнятай карціны... Пра яе ў наш дзярэчынскі дыярыюш напрошваецца асобная гісторыя.

У першы год шчасьлівага жыцьця з прыгажуняй Пелагеяй Францішак запрасіў у дзярэчынскі палац вядомую варшаўскую мастачку Элізабэт Вігі-Лебрун, якая пісала партрэты эўрапэйскіх манархаў, іншых выбітных асобаў

сваёй эпохі (да нашых дзён у розных музэях сьвету экспануюцца створаныя ёю партрэты французкай каралевы Марыі Антуанэты, лэдзі Гамільтан, мадам дэ Сталь, лёрда Байрана). Мастачка не прымушала маладую гаспадыню пазаваць, рабіла імклівыя накіды падчас вечарынак і баляў. Праз пэўны час партрэт быў гатовы: на ім Пелагею Сапяжыну мастакоўскі пэндзаль спыніў у хвіліны імклівага танца, празрысты шалік ірваўся з узьнятых угару рук танцоркі. Пелагея на карціне нагадвала грэцкую музу Тэрпсыхору, апякунку карагодаў і танцаў. Партрэт уставілі ў пазалочаную раму і павесілі ў гасьцёўні.

Пасьля разводу з Францішкам Пелагея не захацела адмаўляцца ад гучнага прозьвішча і ўдала выйшла замуж за Паўла Сапегу з коданскай лініі, будучага падпалкоўніка французкай арміі, маршалка Аўгустоўскай губэрні ды ўдзельніка масонскай ложы. Адчуваючы сябе вінаватым за распад сям'і, Францішак шчодра адарыў былую жонку сямю тысячамі дукатаў і адпісаў ёй маёнтак Высокае ў Берасьцейскім ваяводзтве.

Пакідаючы назаўсёды Дзярэчын, Пелагея Сапяжына забрала з сабой і ўласны партрэт. Пакуль новы муж хадзіў з Напалеонам на Маскву, уладальніца Высокага адбудоўвала запушчаны палац і малілася ў старой сапегаўскай капліцы за посьпех французкай кампаніі. Але муж-падпалкоўнік вярнуўся з вайны пераможаным і быў вымушаны перавезьці сям'ю ў Варшаву. Так карціна зь Дзярэчына апынулася ў сталіцы Кароны. Пасьля сьмерці Паўла й Пелагеі іхны сын Ксавэры ў 1865 годзе вывез матчын партрэт у Францыю, у мястэчка Бярыц, што на самай мяжы з Гішпаніяй. Да таго часу мастацкая вартасьць карціны атрымала прызнаньне, у каталёгах яе пачынаюць меназаць «Дзярэчынскай Тэрпсыхорай». Сын Ксавэрыя Людвік Сапега ў 1901 годзе ажаніўся з грамадзянкай Францыі Мартай-Элізабэт Маншэ. Іхняя дачка Цаліна Гэнрыета ў шлюбе з гішпанцам дзяцей не нажыла і памерла ў 1990 годзе, маючы ад веку восемдзесят восем гадоў. Увесь гэты час нашчадкі

сапегаўскага роду перахоўвалі «Дзярэчынскую Тэрпсыхору» як дарагую рэлiквiю.

Дзе ж знаходзіцца цяпер карціна, дзьвесьце гадоў таму напісаная ў Дзярэчыне? Нядаўна амэрыканцы польскага паходжаньня Сафія й Станіслаў Ёрданоўскія выявілі «Дзярэчынскую Тэрпсыхору» ў замку Мантрэсо непадалёку ад Бярыца. Гаспадар замка Станіслаў Рэй разумее яе каштоўнасьць і не зьбіраецца прапаноўваць на аўкцыёны. Хто ведае, магчыма, калі-небудзь партрэт Пелагеі Сапяжыны вернецца туды, дзе быў створаны, і зойме належнае месца ў дзярэчынскім краязнаўчым музэі...

У кожным старажытным замку павінны існаваць прывіды. Дзярэчынскі палац ня быў выключэньнем.

Як, магчыма, памятае цярплівы чытач, Дзярэчын перайшоў да Сапегаў у выніку шлюбу Юрыя Сапегі з Аленай Ізабэлай Палубінскай. Дык вось, існавала легенда, што княжна забіла свайго малодшага брата, каб успадкаваць усё бацькава багацьце, у тым ліку й дзярэчынскі маёнтак. З тае пары яе душа вымушаная блукаць па сутарэньнях начнога палаца ў чаканьні апошняга суда.

Прывід княгіні Палубінскай неаднойчы бачылі ў старым парку маладыя пары, што хацелі адасобіцца ад вясёлых кампаніяў пад векавымі дрэвамі. Часам у скрыпача падаў долу смык, калі за вакном разьвяселенага палаца яму бачыўся зьнежывелы жаночы твар.

Аднойчы паненкі пасьля балю вырашылі праверыць мужнасьць сваіх кавалераў. І абралі дзеля гэтага ня лепшы спосаб — дзецюкі павінны былі па чарзе схадзіць на могілкі й прынесьці адтуль па кветцы сваім абраньніцам. Але ўжо першы зь іх куляй уляцеў у асьветленую залю ды, заікаючыся, распавёў, што каля могілкавай брамы яго перастрэла сама княгіня Палубінская і сказала, што на яе магіле кветкі не растуць.

Аўтар гэтых радкоў, быўшы падлеткам, таксама меў шанец сустрэцца з княгіняй Палубінскай. Закончыўшы восьмую клясу, я ўсё жніво адпрацаваў разгрузчыкам зерня на аўтамабілі. Апошнія камбайны пакідалі поле цёмначы, на элеватары часам даводзілася выстойваць чаргу, потым ручная разгрузка. Дадому выбіраліся а першай, а то й ■ другой гадзіне начы. А дарога на мой хутар ляжала акурат паўз старыя могілкі. Дзіўна, як мой ровар ня ўрэзаўся ў якую прыдарожную сухастоіну, бо як толькі наўзбоч дарогі пачыналі мільгаць крыжы, я заплюшчваў вочы й машынальна працягваў круціць пэдалі ў напаўпрытомным стане. Але княгіня Палубінская праігнаравала мяне, за што ■ ёй бясконца ўдзячны.

Затое Францішку Сапегу паказвалася яна даволі часта. Аднаго разу князь сустрэў Палубінскую, ідучы на дамоўленае спатканьне да заежджае пані. І хоць жарсьць спальвала ягонае сэрца, Сапега не адважыўся прайсьці праз прывід – а княгіня стаяла якраз перад пакоем, дзе млела ў чаканьні чарговая ахвотніца да Францішкавых пешчаў. Раніцай наступнага дня пакрыўджаная пані выехала не разьвітаўшыся. А князь пафілязофску заўважыў, што прычынай начнога інцыдэнту сталася звычайная жаночая зайздрасьць.

Княгіню Палубінскую ўбачыў аднойчы над сваім ложкам у дзярэчынскім палацы генэрал Міхал Грабоўскі, які заехаў да Францішка на пагасьціны. Прывід папярэдзіў, каб ён асьцерагаўся бываць на Дняпры. Баявы генэрал раніцай нават пасароме́ўся расказаць гаспадару пра начное здарэньне. Праз некалькі гадоў Міхал Грабоўскі загінуў, на баку напалеонаўскіх войскаў штурмуючы Смаленск, які, як вядома, стаіць на Дняпры.

Памёр Францішак Сапега ў 1829 годзе ў Дзярэчыне – пра гэта захаваўся запіс у парафіяльных кнігах. Пахаваны ў Бярозе-Картузкай, дзе на той час былі выбудаваныя шыкоўныя фамільныя пахавальні.

Калі хто з вас, шаноўныя чытачы, бачыў мастацкі фільм «Таямніцы Парыжа», пастаўлены паводле аднайменнага твора францускага пісьменьніка Эжэна Сю, той, напэўна, памятае калярытны вобраз шляхетнага і бясстрашнага Рудольфа дэ Гэральштайна, створаны непараўнальным Жанам Марэ. Прататыпам францускага князя паслужыў князь беларускі – нястомны шукальнік прыгодаў, калекцыянер і вандроўнік, улюбёны ў Парыж і Дзярэчын, – Францішак Сапега.

А закончым мы расповяд пра перадапошняга ўладара Дзярэчына трапным выслоўем ягонага сучасьніка мэмуарыста Лявона Патоцкага: «Францішак за Айчыну лічыў увесь сьвет, аднак сьветам для яго была Айчына».

У ЛЕТКУ 1997 года наш вандроўны «джып» спыніўся каля прыдарожнага паказальніка «Капліца», ад якога ў глыб лесу вяла засыпаная гліцай ледзь значная каляіна. Мы зь сябрамі вярталіся з падарожжа па Берасьцейшчыне, кіраваліся ў бок Слоніма, і ніякіх помнікаў да самых Жыровічаў на нашай вандроўнай карце ня значылася. Заінтрыгаваныя невядома кім і дзеля чаго пастаўленай пасярод лесу капліцай, мы збочылі з аўтамагістралі й ужо праз мэтраў дзьвесьце напаткалі вялізны валун з накрэсьленай на яго насупленай лабаціне схемай ваенных дзеяньняў 1812 года. А чарговы паказальнік гасьцінным жэстам запрашаў праехаць яшчэ паўкіляметра.

І вось на залітай сонцам лясной паляне мы пабачылі незвычайнае відовішча – гонка-мядзяныя сосны абступілі пачцівым паўкружжам змураваную з чырвонай цэглы ўнебаўзьлётную капліцу. Ля яе падножжа ляжалі парэшткі ўскладзенай, відаць, падчас колішняга ўрачыстага адкрыцьця ганаровай гірлянды – высахлыя яловыя галінкі, перавітыя пабляклай бел-чырвона-белай стужкай. На сьценах абгароджанай масыўнымі ланцугамі капліцы – мэмарыяльныя шыльды, па якіх можна было выву-

чаць гісторыю вайны з Напалеонам. Узнаўляю паводле фотаздымка адну зь іх:

Беларускія дывізыі
й палкі – удзельнікі
вайны 1812 года.
У складзе расейскай арміі
пяхотныя дывізыі:
3-я, 7-я, 11-я, 17-я, 23-я, 24-я;
пяхотныя палкі:
Берасьцейскі, Віцебскі, Магілёўскі, Менскі, Полацкі;
уланскія палкі:
Беларускі, Гарадзенскі.

У складзе арміі Напалеона
палкі са штаб-кватэрамі
пяхотныя:
18-ы (Вільня), 19-ы (Расіёны), 20-ы (Гародня),
21-ы (Беласток), 22-і (Менск);
уланскія:
17-ы (Купішкі), 18-ы (Нясьвіж), 19-ы (Навагародак),
20-ы (Пінск).

Хто той невядомы дойлід, што збудаваў пасярод лесу прыгажуню капліцу? Які мясцовы краязнаўца парупіўся пра выштукаваньне памятных шыльдаў? Кім і калі была ўскладзеная пад наглядам хвояў бел-чырвона-белая гірлянда? Ні на адно з гэтых пытаньняў мы, агледзеўшы капліцу ў восем вачэй, так і не знайшлі адказу. Яшчэ адзін помнік сотням і тысячам беларусаў, што склалі свае галовы на чарговай чужой вайне. Задуменна пакідалі мы паляну, і неяк самі па сабе прамовіліся ўголас харальна-ўзьнёслыя вялюгінскія радкі:

З усіх сабораў ёсьць сабор,
дзе згодзен я маліцца:
у сьпелым леце, сьпелы бор,
зьвіняць твае *капліцы*.

Як бачым, дзевяць беларускіх палкоў выступілі на баку Напалеона супраць расейскіх войскаў. Адным з напалеонаўскіх военачальнікаў і арганізатарам славутай імпэратарскай гвардыі быў нараджэнец Слоніма генэрал Ян Канопка. Трэба сказаць, што слонімцы ў француска-расейскай вайне доўга не вагаліся, каму дапамагаць. Пакуль Францішак Сапега, баючыся помсты Напалеона за колішні адзюльтэр з мадмуазэль Жорж, хаваўся ў Расеі, сяляне Слонімскага павету на заклік генэрала Рэнье 15 ліпеня 1812 года дружна прысягнулі французкаму імпэратару. А слонімскі падпрэфэкт Бронскі нават меў напагатове два мундзіры – расейскі й францускі. Падчас прачулай прамовы ў Слонімскім касьцёле ў дзень народзінаў Напалеона 15 жніўня 1812 года падпрэфэкт нават пусьціў скупую мужчынскую сьлязу, прыгадваючы бліскучыя перамогі імяніньніка.

Калі ж неўзабаве Слонім быў заняты расейцамі, Бронскі выступіў на гарадзкім пляцы з ухвальнай прамовай у гонар Аляксандра I. І зноў удала, праўда, ад лішніцы пачуцьцяў на гэты раз заплакалі слухачы.

Зь імем генэрала Яна Канопкі зьвязаная адзіная тагачасная згадка пра Дзярэчын, што трапілася на вочы аўтару гэтых радкоў. Пэўна, празь мястэчка неаднойчы праходзілі маршам і кавалерысты Сьвэрса, і артылерыя Багратыёна, што ў розны час базаваліся ў ваколіцах Зэльвы й Ваўкавыска. Але зьвестак пра гэта мне адшукаць не ўдалося, як не пашчасьціла адшукаць дзе-небудзь інфармацыю і пра непасрэдны ўдзел дзярэчынцаў у напалеонаўскай ваеннай кампаніі. Будзем спадзявацца на далейшыя росшукі, а пакуль вернемся да камандзера імпэратарскай гвардыі.

Генэрал Ян Канопка з паплечнікамі й невялікім вайсковым адзьдзелам наведаўся ў родны Слонім. Удзень гвардзейцы папаўнялі запасы фуражу ў навакольных вёсках, тлумачылі слонімцам намеры Напалеона аднавіць Вялікае Княства Літоўскае, а ўвечары шпацыравалі з маладымі паненкамі над

зарослай лозамі Шчарай. Нечакана ў Слонім уварваўся кавалерыйскі полк расейскага генэрала Чапліца, перад гэтым прайшоўшы імклівым маршам амаль сотню кілямэтраў. Канопка, імітуючы сутычку, пачаў адводзіць непрыяцеля ў напрамку да Дзятлава, а казну і генэральскіх жонак (сваю й генэралаў Зайчыка й Дамброўскага) пад аховай нешматлікага эскорту выправіў у Дзярэчын. Але Чапліц у пагоню за чужымі жонкамі ды грашыма паслаў эскадрон Арнольдзі. За пяць кілямэтраў ад Дзярэчына, каля вёскі Галынка, расейцы дагналі ўцекачоў. Завязаўся няроўны бой. Казну Арнольдзі захапіў, а вось генэральскія жонкі пасьпелі пераправіцца на пароме цераз рэчку Луконіцу й неўзабаве агойтваліся ва ўтульным дзярэчынскім палацы.

Што Дзярэчына не мінулі вайсковыя шляхі-дарогі 1812 года, сьведчыць і помнік на местачковых могілках, пастаўлены на мейсцы апошняга спачыну расейскага генэрала Ермалая Гампэра. Гампэр трыццаць шэсьць гадоў свайго жыцьця правёў у няспынных паходах: то душыў паўстаньні й блукаў па Альпах разам з А. Суворавым, то хадзіў на Парыж з М. Кутузавым. Ваяваў з французамі пад Менскам, Слонімам і Зэльвай і быў узнагароджаны за адвагу імянной залатой шпагай з дыямэнтамі. Вярнуўшыся з Эўропы, Е. Гампэр раскватараваў свой полк у Дзярэчыне, дзе й памёр праз два гады спакойнай цывільнай сьмерцю. На працягу многіх гадоў вучні Дзярэчынскай школы даглядалі магілу, па складах разьбіраючы выпетраны пад ветрам і дажджом надпіс на паколатай труніцы: «Его превосходительству господину генералу-майору Гамперу, бывшему шефу Смоленского Драгунского полка. 25 ноября 1814 года, Деречин.

*Не пышный мавзолей,*
*Любовь – монумент твой.*
*Почий, великий муж,*
*Бессмертие с тобой».*

Але раскватараваныя па ўсёй Беларусі расейскія войскі не маглі вынішчыць у душы паняволенага народу спаконвечнага імкненьня да свабоды й незалежнасьці. У лістападзе 1830 года выбухнула новае нацыянальна-вызвольнае паўстаньне супраць царскай Расеі.

Адным з чынных удзельнікаў яго быў і сын Францішка Сапегі – трыццацітрохгадовы князь Яўстах Каятан Сапега, які з 1821 года жыў на эміграцыі ў Англіі. Дачуўшыся пра пачатак паўстаньня, князь пакінуў маёнтак у графстве Лянкашыр, магілу памерлай пры няўдалых родах у 1824 годзе жонкі Мары Патэн Больд і тэрмінова выехаў на Радзіму. Удзельнічаў у баявых дзеяньнях у ранзе падпаручніка пры генэралу Яну Скрынецкім, быў узнагароджаны Залатым Крыжам Віртуці Мілітары. На тэрыторыі Беларусі паўстанцы найдаўжэй здолелі пратрымацца ў Гарадзенскай губэрні, дзе яшчэ ў траўні 1831 года расейскія войскі цярпелі паразу за паразай. Напэўна, у гэты час Яўстах Каятан Сапега не прамінуў наведацца ў Дзярэчын, паўнапраўным гаспадаром якога зьяўляўся пасьля сьмерці бацькі.

Калі паўстанцам тэрмінова спатрэбіліся грошы, Яўстах Сапега, доўга не думаючы, прадаў Ружанскі маёнтак за гатоўку. Дакумэнт пра гэтую куплю-продаж захоўваўся ў адным з польскіх архіваў і зьнік у часе ваеннай калатнечы ў 1939 годзе. Учынак князя заслугоўвае павагі нашчадкаў, асабліва калі ўлічыць той факт, што ахвотнікаў ахвяраваць сваімі маёнткамі дзеля ідэі знаходзілася няшмат; пасьлядоўніцай князя можна назваць хіба Эмілію Плятар.

ПАСЬЛЯ задушэньня паўстаньня над Беларусьсю навісла чорная ноч русыфікацыі. Зь дзяржаўных пасадаў звальнялі чыноўнікаў-каталікоў, сканфіскоўвалі маёнткі паўстанцаў, быў скасаваны Статут Вялікага Княства Літоўскага, зачынены Віленскі ўнівэрсытэт. Многія паэты-вялікадзяржаўнікі, натхнёныя перамогай генэрала Івана

Паскевіча, складалі ўзьнёслыя стансы «на взятие Варшавы», нават будучае «сонца расейскай паэзіі» Аляксандар Пушкін у адным прыватным лісьце ваяўніча накрэсьліў: «Варшава павінна быць разбураная!»

Яўстах Каятан Сапега разам з сотнямі сваіх паплечнікаў быў вымушаны выехаць на эміграцыю – спачатку ў старую добрую Англію, а потым у Францыю, дзе настала пасяліўся пад Парыжам у гарадку Бяланкурт.

Разам з Людвікам Ельскім князь засноўвае фінансава-прамысловае таварыства, якое дарэшты збанкрутавала ў 1841 годзе. Яўстах Сапега, уклаўшы ў яго ледзь не астатнія грошы, апынуўся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Але праз дзесяць гадоў неўтаймоўны князь стварае яшчэ адзін банк, узяўшы ў хаўрусьнікі Ксавэра Браніцкага й Людвіка Валоўскага. На гэты раз фартуна ўсьміхнулася Яўстаху Сапегу. Банк дапамагаў эмігрантам асталявацца на чужыне, ягоныя закладнікі паціху назапашвалі сродкі для новага збройнага чыну. Ды Кастусю Каліноўскаму князь дапамагчы ўжо ня мог – ён памёр 16 лістапада 1860 года ў Парыжы й быў пахаваны на Манмартры.

Але вернемся на тры дзесяцігодзьдзі назад. Князь Яўстах Каятан Сапега меў адрознае ад бацькі ўяўленьне пра княскі гонар і не прыняў прапановы цара Мікалая I аб вяртаньні сканфіскаваных маёнткаў узамен на просьбу аб вернападданьніцтве. Усе маёнткі, у тым ліку й Дзярэчын, былі сэквэстраваныя, маёмасьць – вывезеная спачатку ў Гародню і Беласток, а потым у Пецярбург. Мясцовыя жыхары спрабавалі ўратаваць найбольш каштоўныя рэчы, частка іх была сьпешна пад аховай начнога змроку вывезеная і схаваная ў Юндзілавічах пад Ружанамі, частка прыхаваная ў кляштарных лёхах. Але пасьля катаваньняў распарадчыка дзярэчынскага маёнтка юндзілавіцкі схоў быў выяўлены. Дый за кляштарныя муры зазірнула пільнае вока – 14 красавіка 1832 года гарадзенскі губэрнатар атрымаў данос зь Віленскай рымска-каталіцкай кансысторыі «о по-

ступке приора Деречинского доминиканского монастыря и прочих духовных и светских лиц, участвовавших в сокрытии имущества из конфискованного имения князя Евстафия Сапеги и обнаружении виновных в оном злоупотреблении».

За ўчыненае «злоупотребление» манахаў-дамініканаў чакала суровае пакараньне – сам цар апэратыўна вырашыў лёс дзярэчынскага кляштара. 14 чэрвеня 1832 года зь Пецярбурга ў Вільню для гарадзенскага губэрнатара Мураўёва было адпраўлена сакрэтнае распараджэньне: «Государь Император высочайше повелеть соизволил: осмотреть строение, находящееся в Гродненской губернии в Слонимском уезде – Деречинского доминиканского монастыря, предназначаемого к обращению в казенное ведомство.

В следствие чего, по распоряжению господина военного министра, командирован для осмотра сих строений 5-го Военно-рабочего батальона прапорщик Казаринов, и поручено ему составить планы и описание сим строениям.

Уведомляя о сем Ваше Превосходительство, я покорнейше прошу Вас, милостивый государь, отдать распоряжение о допущении прапорщика Казаринова к таковому осмотру, с оказанием ему содействия к исполнению возложенного на него поручения. Генерал-адъютант кн. Долгоруков».

Пакуль прапаршчык Казарынаў лазіў па кляштарных мурах, выконваючы волю манарха, у сьценах сьвятыні заўзята гаспадарылі іншыя «спэцыялісты». Бібліятэку з 1200 тамоў (найперш кнігі па гаспадарцы, богаслужбовую літаратуру) разьмеркавалі паміж рознымі міністэрствамі, ведамствамі ды праваслаўнай царквой, а рэшту (унікальныя выданьні XVI і XVII стагодзьдзяў на незразумелых лацінскай, польскай і нямецкай мовах) перадалі ў Дэпартамэнт духоўных справаў замежных веравызнаньняў.

30 жніўня 1832 года старшыня Гарадзенскай казённай палаты накіраваў у Пецярбург наступнае пасланьне: «Его Сиятель-

3 Зак. 1378

ству господину Министру финансов. Вашему Сиятельству казенная палата имеет честь донести, что драгоценные вещи князя Евстафия Сапеги доставлены в Гродно из имения его Деречина. Ныне по вскрытии сих вещей и освидетельствовании ■ присутствии чиновника министерства финансов Архипова, оные приготовлены в 29 паках к отправлению ■ С. Петербург... Во исполнение же предписания Вашего Сиятельства от 31 мая 1633 Казенная палата при сем честь имеет представить рыцарские серебряные наручники или бражолеты весом 72 золотника... кубок золотой весом один фунт 18 золотников, по надписи и древности своей оказавшийся особенной редкости... При сем имеем честь присовокупить, что крест серебряный с распятием Христовым весом 2 фунта 72 золотника принадлежит Римско-католическому исповеданию, ■ икона, изображающая с одной стороны Богоматерь, а с другой Михаила Архангела, в серебрянном окладе, принадлежит, как из надписи на оной видно, Греко-униатской Барколабовской церкви, состоявшей в Могилевской губернии... А шкатулочка, черепахою выложенная, в коей помещается миниатур мертвого лица жены князя Евстафия Сапеги, – ■ Департамент государственных имуществ для пересылки оной в Лондон к посольству нашему и доставления по назначению князю Сапеге».

Забягаючы наперад, скажам, што ў выпадку з скарбонкай рабаўнікі першы й апошні раз паказалі высакароднасьць. Ці атрымаў князь дарагую рэліквію, невядома, а ўся ягоная астатняя маёмасьць раздавалася направа і налева. За найбольш каштоўныя рэчы паміж ведамствамі ўзьнікалі спрэчкі. Паказальны ў гэтым сэнсе лёс прыгаданага ўжо залатога кубка. Яго яшчэ тольні везьлі з Гародні ў Пецярбург, а ў сталіцы ўжо пачалося змаганьне за скрадзенае золата. 4 верасьня 1832 года ў Дэпартамэнт горных і саляных справаў прыйшла тэрміновая дэпеша зь Міністэрства фінансаў, у якой паведамлялася, што сярод «серебрянных и золотых вещей, назначенных по Высочай-

шему повелению к доставлению на С. Петербургский Монетный двор, находится золотой кубок с изображением Российского герба, что сей кубок принадлежал некогда Российскому Царскому двору, но в 1612 году, во время взятия Москвы поляками достался бывшему тогда в Польских войсках князю Сапеге и от того времени хранился в виде драгоценнейшего памятника в его фамилии». Далей ішла настойлівая просьба не трымаць кубак у Дэпартамэнце, а як найхутчэй перасл ац у Міністэрства фінансаў. Урэшце кубак паводле асабістага распараджэньня цара быў дастаўлены на захаваньне ў Эрмітаж, дзе, будзем спадзявацца, зьберагаецца да сёньняшняга дня.

Імпэратар Мікалай I зажадаў уласнаручна перабраць і астатняе нарабаванае дабро. Дзеля гэтага міністар імпэратарскага двара князь Валконскі накіраваў наступны ліст обэр-гофмаршалу Нарышкіну: «Вчерашнего числа привезены в С. Петербург из Гродно и поставлены на Эрмитажном спуске 25 ящиков с картинами, эстампами, мозаиками и книгами, взятыми из секвестрированного имения князя Евстафия Сапеги.

По высочайшему повелению Государя Императора покорнейше прошу ваше высокопревосходительство приказать 18 ящиков (с 1-го по 18-й) вскрыть и заключающиеся в них картины, эстампы, мозаики и проч. выставить в Эрмитаже, для представления Его Императорскому Величеству... а 8 ящиков (с 19-го по 26-ой) с книгами, кои высочайше повелено отдать в Императорскую публичную библиотеку, отправить к г. Министру народного просвещения».

Аднак перш, чымся ў Эрмітаж наведаўся цар, выстаўленыя на паказ творы мастацтва і каштоўнасьці агледзеў «действительный статский советник» Лабенскі, які мусіў канстатаваць пэўныя недахопы. Несумленныя аматары беларускай даўніны знайшліся й сярод расейскіх дзяржаўных мужоў – рэвізор зафіксаваў, што ў шостай скрыні няма карціны пад нумарам 154, з адзінаццатай

нехта вывалак пад сурдзінку тры эстампы, а зь сямнаццатай зьнікла старадаўняя падарожная карта.

Пасьля прагляду цар «высочайше повелеть соизволил», што пакінуць у Эрмітажы, што накіраваць у Акадэмію мастацтваў, што ў Імпэратарскую Тэатральную дырэкцыю, а што адвезьці на парцалянавы завод. У хуткім часе чыноўнікі дакладвалі, што жывапісец парцалянавага завода тытулярны саветнік Канунынікаў прыняў сорак восем «эстампаў этрускаў», а супрацоўнік Эрмітажа, прафэсар першай ступені Аляксандар Варнак атрымаў пад расьпіску «альбом, состоящий из семнадцати рисунков на пергамине в эмблематических видах пером рисованных купидонов». Старажытныя манэты й мэдалі патрапілі ў Мінц-габінэт.

Праз два гады ў Пецярбург прыбыла новая партыя нарабаваных каштоўнасьцяў. 28 чэрвеня 1834 года обэр-гофмаршал Нарышкін ізноў атрымаў ад прыдворнага міністра Валконскага цыркуляр: «Государь Император, осмотрев разложенные в Испанском зале Эрмитажа картины, портреты, медали и другие вещи (всего 37 ящиков), высочайше соизволил сделать оным различные назначения, а некоторые повелел уничтожить.

Препровождая к Вашему Высокопревосходительству реестр всем означенным вещам, с отметками, куда какие из них высочайше назначены, покорнейше прошу Вас приказать доставить оныя по назначению, исключая следующих в Императорскую Академию Художеств и в Царскосельский Его Величества Арсенал: ибо за оными присланы будут приемщики от действительного тайного советника Оленина и коллежского советника Седжера, назначенные же к уничтожению картины и другие вещи сжечь».

Спальваліся найперш карціны зь сюжэтамі на гістарычныя тэмы, якія, на думку манарха-мастацтвазнаўцы, маглі выклікаць у гледачоў непажаданыя думкі пра былую веліч Рэчы Паспалітай.

Залаты крыж, выяўлены ў фамільнай сапегаўскай скарбніцы, быў перададзены дзярэчынскай праваслаўнай царкве, антык-

варную зброю адвезьлі ў Анічкаўскі палац у Пецярбурзе, кнігі – у тамтэйшую Публічную бібліятэку.

Разьмеркаваўшы столькі каштоўнасьцяў па шматлікіх установах, імпэратар Мікалай I усё ж не ўсьцярогся ад спакусы сёе-тое пакінуць сабе на памяць – «Его Императорскому Величеству вследствие Его на то соизволения особо были оставлены два рыцарские браслета».

Увогуле ж зь Дзярэчына толькі карцінаў і каштоўных упрыгожаньняў было вывезена 303 пуды 25 фунтаў. За перавозку іх з Гарадзенскай казённай палаты ў Пецярбург рамізьнікі запатрабавалі 1821 рубель 45 капеек асыгнацыямі. А вывозіліся ж яшчэ зброя, мэбля, посуд, адзеньне й нават бялізна, якую, паводле «высочайшего повеления», «пустили с торгов». Адных толькі старадаўніх гадзіньнікаў з боем зь дзярэчынскага палаца было вывезена каля дзясятка.

Вопісы сканфіскаваных рэчаў, копіі якіх аўтару гэтых радкоў удалося атрымаць з Варшавы й Пецярбурга, складаюць 124 старонкі дробным канцылярскім почыркам. І гэта, трэба думаць, далёка ня ўсё. На жаль, ня ўсе вопісы чытэльныя з-за выцьвілага атраманту. Патрэбна карпатлівая праца спэцыялістаў, каб падрабязна даведацца, што пісалі зь Дзярэчына ў Пецярбург амаль сто семдзесят гадоў таму прапаршчык Казарынаў ці пасланец міністэрства фінансаў Архіпаў. Але й тыя сьпісы, якія можна расчытаць, надрукаваць цалкам у нашым дыярыюшы не ўяўляецца магчымым. Таму проста перагорнем акуратна разьлінееныя ды завераныя неабходнымі подпісамі старонкі.

«Реестр медалям и монетам из имения князя Евстафия Сапеги:
- саксонская монета 1363 года;
- талер испанского короля Карла IV, 1804 года;
- медаль в честь воздухоплавателя Бланшара, 1788 года;
- талер епископа Колонского Максимилиана, 1666 года;
- талер его же, 1674 года;

– голландский талер, 1699 года;
– флорин Фридриха Вильгельма, герцога Бранденбургского, 1684 года;
– флорин польского короля Иоанна Казимира, 1668 года;
– флорин Фридриха Вильгельма Прусского, 1680 года;
– грош Сигизмунда Августа, короля польского, 1547 года...»

Забягаючы наперад, заўважым, што ня ўсе манэтныя скарбы расейцам удалося вывезьці зь Дзярэчына. Гадоў дваццаць таму аматар дзярэчынскай даўніны Вячаслаў Качук адкапаў на адным зь мясцовых гародаў цэлы гаршчок старадаўніх манэтаў XVI–XVIII стагодзьдзяў. Амаль усе яны ня выклікалі сумненьняў пры дataваньні – на іхніх напаўсьцёртых баках можна было разгледзець год чаканкі, на некаторых добра захаваўся старажытны беларускі гэрб «Пагоня». Але адну незвычайную манэту, што адрозьнівалася ад сваіх таварышак таўшчынёй і вагой, мне было даручана везьці на апазнаньне ў сталіцу.

У акадэмічным Інстытуце гісторыі археолягі Міхась Чарняўскі ды Мікола Крывальцэвіч доўга пакручвалі дзярэчынскую манэту ў руках, разглядалі ў лупу ледзь прыкметны профіль. І ўрэшце аднадушна прыйшлі да высновы, што гэта рымскі аўрэўс часоў імпэратара Комада, які жыў ажно паўтары тысячы гадоў таму. На Беларусі падобная знаходка – вялікая рэдкасьць. Я схаваў манэту за пазуху й трывожным крокам скіраваўся дадому. У кожным закутку мне мроіліся твары падступных нумізматаў, у чыіх калекцыях гэтак бракуе рымскіх аўрэўсаў. Я страціў раўнавагу і супакоіўся толькі пасьля вяртаньня ўнікальнай манэты ўладальніку.

ЗРОБІМ выпіскі зь яшчэ аднаго дакумэнту – «Описи вещей, конфискованных у князя Е. Сапеги и доставленных в Гродненскую Казённую палату, а из оной по назначению отправленных в Императорский Дворец генваря 14 дня 1833 года»:

«...– подсвечников бронзовых, тройных, изображающих фигуру женщины – 2 шт;
– бюстов бронзовых древних философов – 2;
– бронзовых жбанков или кувшинов с крылатыми нимфами – 2;
– коник бронзовый на деревянном постументе с доскою мраморною – 1;
– подсвечников бронзовых на постументах, изображающих муринов, на головах которых по три подсвечника – 4;
– паникадило бронзовое – 1;
– часы парижские древние, на постументе, бронзою украшенном, в месяц раз заводящиеся – 1;
– рам позолоченных – 81».

А вось «Опись конфискованным вещам князя Евстафия Сапеги, отправленным в Императорский Дворец декабря 26 дня 1832 года»:
«– статуя Орфея из мрамора канарийского, работы Каневи (?) – 1;
– статуя большая, изображающая весталку, из алебастра – 1;
– фигура мраморная, изображающая богиню Гебу, держащую кувшин и чашу – 1;
– икона из алого мрамора плоской резьбы в раме черной, изображающая Магдалену кающуюся и держащую Христа на кресте – 1;
– икона на сером камне в такой же раме, изображающая Адама и Еву; у первого одного пальца, а у последней всех пальцев на левой руке нет и рука треснутая – 1;
– фигур мраморных с постументами, изображающих египетских богов – 3;
– вазон алебастровый малый, составный с крышкою, коей край немного треснутый – 1;
– урнов глиняных этрусковых – 5;

– постумент из бронзы с тремя фигурами бронзовыми с корзинкою хрустальною и обручем бронзовым – 1;
– чаша большая Дианы, мраморная с пьедесталом на четырех столбах, из них один сломан – 1;
– кадильница бронзовая большая с крышею на постументе, дротик и около его змея виющаяся – 1;
– люстр хрустальных для восьми свечей – 2;
– сливочников фарфоровых – 6;
– кофейников фарфоровых – 2;
– тарелок фарфоровых глубоких и менших – 82;
– для охлаждения питья в бутылках подстава для льда – 1;
– хрустальные бокалы, один с крышкою цельный, а другой треснутый с позолотою и цветами – 2;
– рюмка гранёная большая с изображением оленя – 1;
– графинов разных хрустальных больших и малых гранёных – 44;
– для фруктов хрустальных гранёных блюд – 2;
– чашек зелёного стекла с поддоном и позолотою по краям с гирляндами для варенья – 4;
– для мелкого сахару сахарницы хрустальные гранёные с крышками и блюдечками – 2;
– судок с тремя графинами с пробками бронзовыми – 7;
– рюмок для шампанского с крышками и без крышек – 7;
– для водки – 30;
– для холодного пунша гранёных – 13;
– кружек ликёрных с ручками – 6;
– люстр мраморных с цепями бронзовыми – 2;
– жерандолов хрустальных с бронзою – 2;
– ваз продолговатых мраморных с бронзою на ножках с кольцами – 2;
– ваза из порфира высотою больше пол-аршина с поддоном, в коей ушко отбито – 1;
– фигура алебастровая, представляющая три грации, держащих корзину – 1;

– бронзовых фигур вызолоченных, представляющих две женщины, держащих одна в левой руке трубу, а другая в правой руке венок, стоящие на бронзовом пьедестале – 2;
– каменная баночка с крышкою на винтах, вмещающая в себе семь маленьких баночек – 1;
– группа разных фигур из слоновой кости в малом виде – 1;
– зеркальных стёкол длиною в один аршин, шириною в одиннадцать с половиною вершков цельных – 19» і г. д.

Зьдзіўляе ўніклівасць пецярбургскіх пісарчукоў – у вопіс занесеныя нават гаплікі для ваконных занавесак.

Асобным сьпісам ідуць срэбныя рэчы:
– ваз овальных с крышками, внутри вызолоченных – 2;
– подсвечников круглых – 11;
– скороспелок для приготовления кушанья – 2;
– ложек разливательных – 5;
– шпилек для жареных птиц – 14;
– солонок, внутри вызолоченных – 8;
– рыцарских наручников или бражолеток – 2;
– крест с распятием Исуса Христа вышиною в пол-аршина – 1;
– образ с изображением на одной стороне Матери Божией, а на другой Михаила Архангела, кругло-продолговатый в окладе вызолоченном – 1;
– самовар внутри вызолоченный в 9 литров – 1;
– умывальное блюдо с кувшином и мыльницею кокосовою, снаружи вызолоченное – 3;
– ложек хлебальных – 77;
– вилок – 70;
– для солонок лопаточек – 12;
– фигур для подсвечников, изображающих мужские лица с поддонами на ножках – 8;
– подносов круглых малых – 2» і г. д.

А ўсяго ў сьпісе налічваецца пяцьдзясят пяць назваў. І заважыла ўсё гэтае срэбра адзінаццаць пудоў трыццаць чатыры

фунты. У сьпісе сканфіскаванай зброі, якую перад адпраўкай у Пецярбург часова зьберагалі ў памяшканьні Слонімскага земскага суда, знаходзім дваццаць адно найменьне: штурмакі турэцкія й ангельскія, стрэльбы звычайныя й духавыя, пісталеты ангельскія й шаблі вугорскія, меч абасечны ў скураных похвах і нават спраўны лук.

Прапаршчык Архіпаў, як прадстаўнік міністэрства фінансаў, сумленна апісаў усё, што ўяўляла зь сябе хоць якую каштоўнасьць і не патрабавала вялікіх затратаў на перавозку, ды зьехаў на берагі Нявы. Здавалася, палац апустошаны дарэшты. Ажно не. У сакавіку 1833 года нейкі Анісімаў дакладае наглядчыку Імпэратарскага палаца ў Беластоку, што ў разрабаваным дзярэчынскім маёнтку засталіся, аказваецца, «некоторые весьма хорошие вещи, как-то: разные мебели красного и простого дерева, кровати, матрасы, набитые конским волосом...»

Празь месяц ля Дзярэчынскага палаца захопнікі ладавалі новы абоз: «комодов малых с четырьмя ящиками – 2; стол раздвижной на 24 особы тополевого дерева – 1; кровать двуспальная с бронзою, двумя матрацами, набитыми хорошим конским волосом – 1; кушетка, обитая черным холстом – 1; подушек с конскими волосами – две; с перьями две, итого – 4...»

Ёсьць народная прыкмета – што пад галаву пакладзеш, тое й сьніцца. Калі гэта сапраўды так, то расейскаму імпэратару, як толькі ён заначоўваў у сваёй беластоцкай рэзыдэнцыі на сапегаўскіх матрацах і падушках, павінны былі прысьніцца грывастыя коні Францішка Сапегі, якія паварочвалі гарматы паўстанцаў пад носам у царскіх карнікаў. Цікава, як спалася манарху пад артылерыйскую кананаду?

АСАБЛІВУЮ каштоўнасьць мелі жывапісныя карціны, зьбіраныя многімі пакаленьнямі князёў Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне. Сотні твораў былі вывезеныя ў Пецярбург, каб узбагаціць расейскія музэі. На жаль, складаль-

нікі вопісаў падалі толькі візуальнае апісаньне карцінаў, замаўчаўшы, а хутчэй папросту ня ведаючы, імёны аўтараў. Зазірнем у «Опись картинам знаменитых художников, статуям и прочим древностям в доме Его Сиятельства (два апошнія словы закрэсьлены чыёйсьці рашучай рукой. – М. С.) князя Евстафия Сапеги в имении Деречин находящимся».

«Картины, на холсте писаные и изображающие:

– портрет короля Набугадоносора с супругою;
– Юдиту, держащую голову Голофермеса, в рамах вызолоченных;
– Исуса Христа у Марты и Магдалены находящегося, в рамах вызолоченных;
– Давида с мечом;
– поляков, просящих Ивана Кузьму на престол;
– святую Магдалену кающуюся, в рамах вызолоченных;
– Диану с нимфами, митологические изображения, в окладах вызолоченных;
– воскрешение Лазаря, в окладах простых;
– супругу короля Митридата, в простых окладах;
– охоту на льва, в рамах старых простых;
– императора Нерона и супругу его в окладах с берегом позолоченным;
– арестантов, выходящих из Бастилии, без окладов;
– гишпанских солдат, несущих больного, без рам;
– Бахуса, при нем негра и женщину, в окладах черных;
– Христа, изгоняющего торговцев из церкви Иерусалимской, в рамах черных с берегами вызолоченными;
– на холсте, изображающем княгиню Францову Сапежину в рамах вызолоченных;
– князя Евстафия и Ангелии Францовой Сапеговой, в рамах вызолоченных;
– Щесного с супругою его Потоцких, в рамах вызолоченных;
– короля Собеского с супругою его, в окладах простых;

– на доске Кристины Масальской, ■ окладах вызолоченных;
– императора Октавия Августа, сидящего на престоле, принимающего королеву Клеопатру;
– Купидона с Дианой, в окладах вызолоченных;
– на доске и холсте побег Матери Божией ■ Египет, в рамах вызолоченных;
– на доске Богородица, держащая Исуса Христа, в рамах вызолоченных;
– на жести изображение богини Венеры, в рамах вызолоченных;
– на бумаге сухими красками за стеклом ■ рамах вызолоченных изображение С. Иосифа и Богородицы с Христом малым;
– на холсте, представляющая лунную ночь, живописца Верне-та;
– на холсте, представляющая кораблекрушение, Вернета;
– портрет на холсте графа Замойского;
– на доске изображение женщины, несущей рыбу в корзине;
– портрет на холсте Г. Виттовой;
– на листах медных вырезано родословное дерево князя Сапеги;
– картина, изображающая историю Александра Македонского живописца Смуглевича;
– на медном листе с рамою из черного дуба представлен въезд в триумфальные ворота Александра Македонского живописца Смуглевича;
– на холсте изображение князей, Подканцлера, заступающего место Епископа, и начальствующего во время Польши Гетмана;
– на доске изображение короля Фридерика со свитою, навещающего короля Цитена;
– на холсте изображение женщины в смертном одеянии, на казнь осужденной;

– копершпік малый, изображающий Его Величество Николая I и Супругу Его с наследником престола;
– на холсте представляет С. Иоанна, говорящего проповедь;
– картина на холсте, изображающая поклонение царей Христу Спасителю;
– на холсте представляет короля Фридерика Прусского, в младенчестве будущего;
– на холсте изображающая портрет княжны Сапежиной;
– на холсте представляет Гетмана Сапегу;
– образ на доске С. Иоанна Крестителя;
– на холсте изображение Саваофа;
– на холсте представлен король Польский Август 2-й;
– портафель зеленого сафьяну в футляре;
– план столичный С. Петербурга с изображением знаменитых проспектов;
– большая карта города Парижа;
– карта всей Европы на холсте»...

Многія зь пералічаных вышэй твораў (як, напрыклад, «Пакланеньне трох цароў» П. Вэранэзэ) можна й сёньня пабачыць у залях Эрмітажу. Некаторыя паводле Рыскага замірэньня ў 1923 годзе апынуліся ў Варшаве, адзінкавыя трапілі ажно ў Афрыку, у сталіцу Кэніі Найробі, дзе ашчадна перахоўваюцца ў адным з прыватных збораў.

Пра час, калі партрэты змагароў за незалежнасьць нашай зямлі Францішка і Яўстаха Каятана Сапегаў, а поруч зь імі й творы выдатнага беларускага мастака Ф. Смуглевіча, зоймуць пачэснае месца ў Нацыянальным мастацкім музэі Беларусі, застаецца толькі марыць.

У Гарадзенскай Казённай палаце быў наладжаны своеасаблівы сартавальны пункт, дзе атрымлівалі заказы й разьмяркоўвалі рэчы. Чамусьці доўга не знаходзілася ахвотніка на сапегаўскія асабістыя ўзнагароды. Відаць, расейскае чынавенства не магло

адважыцца забраць тое, што калісьці само й давала. Урэшце ордэн Сьвятога Станіслава, разам зь ім і два ордэны Белага Арла ды Мальтыйскі Крыж былі адпраўленыя ў Капітул расейскіх ордэнаў.

Мелі клопату супрацоўнікі Казённай палаты й зь бібліятэкай Яўстаха Сапегі. Прыйшло распараджэньне – кнігі пераглядзець і ў Пецярбург этапаваць самыя каштоўныя. Разгубленыя гарадзенскі чыноўнік пісаў у Дэпартамент дзяржмаёмасьці: «Из доставленных в Гродно 2451 книг отправлено к министру Императорского Двора только 2151, а остальные 294 («остальных» мела быць 300. – *М. С.*), яко требующие переводчика и совершенно малозначащие, писанные по большой части на польском языке, и по несколько десяток экземпляров одного издания (што ўскосна пацьвярджае думку пра існаваньне дзярэчынскай друкарні. – *М. С.*), оставлены здесь впредь до особого распоряжения».

Падобна, што «особое распоряжение» было дадзена толькі праз шэсьць гадоў – у 1838 годзе загадчык бібліятэкі Гарадзенскай губэрнскай гімназіі Яўстах Арлоўскі прыняў пад расьпіску 279 тамоў, сканфіскаваных у бунтарнага цёзкі.

Астатнія кнігі паехалі ў Пецярбург, дзе зь цягам часу сапегаўскі кнігазбор быў расьцярушаны па прыватных, адукацыйных, публічных і ведамасных бібліятэках.

У Цэнтральным Дзяржаўным Гістарычным архіве Расеі ў Санкт-Пецярбурзе захоўваецца каталёг кнігазбору Яўстаха Сапегі. Ён апублікаваны польскім дасьледнікам Юзафам Ваякоўскім тры гады таму ў Варшаве. Зь яго вынікае, што ў Дзярэчынскай бібліятэцы Сапегаў меліся кнігі на французкай, нямецкай, італьянскай, гішпанскай, ангельскай, расейскай, польскай, лацінскай, грэцкай і нават арабскай мовах. У каталёгу 2157 назваў, што мае невялікае разыходжаньне зь сьпісам кнігаў, адпраўленых у 1832 годзе ў Пецярбург з Гарадзенскай

Казённай палаты. Выпішам у перакладзе на беларускую мову самыя цікавыя, як нам падаецца, выданьні:

Році. Помнікі Францыі (Парыж, 1745);

Поўны збор твораў Ж.-Ж. Русо (Базэль, 1793);

Поўны збор твораў Вальтэра (Гота, 1785);

Карповіч. Прамова падчас каранацыі караля Станіслава (Вільня, 1789);

Кальмэ. Гістарычны біблейскі слоўнік (Парыж, 1730);

Гісторыя маёнткаў графа А. Суворава (Лёндан, 1799);

Падарожжа спадара Вэяна ўглыб Афрыкі (Брусэль, 1791);

Валіцкі. Гісторыя Коданскага абраза Найсьвяцейшай Панны Марыі (Торунь, 1720);

Тамбэ. Падарожжа па Усходняй Індыі (Парыж, 1810);

Мэдалі Людовіка Вялікага з гістарычнымі камэнтарамі (Парыж, 1723);

Саваль. Гісторыя і пошукі старажытнасьцяў горада Парыжа (Парыж, 1724);

Дзю Бо. Крытычныя разважаньні пра паэзію й выяўленчае мастацтва (Парыж, 1770);

Эшар. Даведнік для падарожнікаў па Эўропе (Ваймар, 1805);

Мале. Мастацтва садоўніцтва (Парыж, 1670);

Карб'е. Кветкі хірургіі (Парыж, 1634);

Габінэт Людовіка XI (Парыж, 1661);

Марціні. Гісторыя жыцьця й дзейнасьці Людовіка Вялікага (Гаага, 1741);

Лестваль. Дзёньнік Гэнрыха III, караля Францыі (Гаага, 1744);

Кальер. Як весьці перамовы (Лёндан, 1750);

Кароткі выклад гісторыі Рыму (Полацак, 1795);

Успаміны й разважаньні пра галоўныя падзеі эпохі Людовіка XIV (Ротэрдам, 1716);

Гісторыя славутых жанчынаў (Лёндан, 1766);

Гісторыя барацьбы Ерусалімскага Царства (Парыж, 1679);

Львоў. Падарожжа ў Гішпанію (Варшава, 1773);
Барон. Мастацтва гэральдыкі (Парыж, 1684);
Нарыс пра спосабы, злоўжываньне й вынікі катаваньняў (Лязана, 1768);
Справа Ірляндыі (Дублін, 1785);
Касон. Гісторыя Рыму Ціта Лівія (Парыж, 1771);
Грэцкія анэкдоты (Парыж, 1731);
Бурнэ. Нататкі з гісторыі Вялікай Брытаніі (Гаага,1725);
Круа. Канстытуцыі галоўных эўрапэйскіх дзяржаваў (Парыж, 1791);
Катрэнье. Нататкі з гісторыі й геаграфіі Эгіпту (Парыж, 1841);
Дасье. Жыцьцяпісы Плутарха (Маастрыхт, 1778);
Шарлевуа. Гісторыя Парагвая (Парыж, 1757);
Цуды Галяндыі (Гаага, 1700);
Палітычныя прамовы Макіявэлі (Амстэрдам, 1711);
Гісторыя Расейскай імпэрыі ў часы Пятра Вялікага (1763);
Брызон. Арніталёгія (Парыж, 1760);
Жаночая батаніка (Парыж, 1807);
Кляро. Элемэнты гэамэтрыі (Парыж, 1741);
Бэзу. Курс матэматыкі (Парыж, 1788);
Вэрдзі. Кароткая анатомія чалавечага цела (Брусэль, 1759);
Сыстэматычны збор расейскіх законаў (Пецярбург, 1817);
Афарызмы М. Мэсмэ (Парыж, 1786);
Кінг'ен. Ахова пчолаў (Булён, 1771);
Жанкур. Дыялёгі нябожчыкаў (Гаага,1760);
Вальтэр. Лісты, стансы, оды (Парыж, 1799);
Марэль. Расповяды геніяў (Амстэрдам, 1782);
Ляфорс. Мастацтва даглядаць ногі (Парыж, 1783);
Вэргілій. Творы (Парыж, 1769);
Мэмуары маркізы дэ Пампадур (Льеж, 1766);
Каталёг з падказкамі для кнігара (Бэрлін, 1755);
Вопыт выкарыстаньня артылерыі (Амстэрдам, 1771);

Мон Разар. Як дапамагае артылерыя на вайне (Парыж, 1780);

Д'Урцюбі. Падручнік артылерыста (Парыж, 1793);

Цісо, Грэну. Падручнік генэрала й афіцэра (Гаага, 1790);

Разважаньні пра ўсходнія лазьні (1762);

Тацье дэ Сальжан. Нататкі пра земляробства (Леаполь, 1777);

Гістарычныя эсэ пра Парыж (Лёндан, 1759);

Гісторыя ангельскіх рэвалюцыяў (Парыж, 1750);

Камп. Падарожжы першых мараплаўцаў (Парыж, 1802);

Французкі дэкамэрон (Амстэрдам, 1776);

Крэбілён. Кароткая гісторыя Японіі (Лёндан, 1735);

Кох. Эўрапэйскія рэвалюцыі (Парыж, 1790);

Падарожжа ў Турцыю (Варшава, 1789);

Зборнік вершаў французкіх паэтаў (Парыж, 1752);

Тэатральны слоўнік Парыжа (Парыж, 1756);

Марсэ. Лёгіка і прынцыпы граматыкі (Парыж, 1750);

Сэрвантэс. Гісторыя Дон Кіхота (Парыж, 1754);

Гісторыя каралёў Польшчы (Амстэрдам, 1733);

Робэртсан. Ангельская клясыка (1828);

Энцыкляпэдыя расьлінаў (Лёндан, 1829);

Псальмы Давыдавы (Жэнева, 1689)...

Як бачым, у дзярэчынскай сапегаўскай бібліятэцы мелася чытво на любы густ і розум. Патрэбную кнігу мог адшукаць у фамільных зборах і Аляксандар Міхал-гаспадарнік, і Магдалена Агнешка-тэатралка, і Францішак-артылерыст-падарожнік, і Яўстах Каятан-паўстанец.

На месцы зруйнаванага дзярэчынскага палаца пабудаваліся і жывуць людзі. Там, дзе стаяў дамініканскі кляштар, – цяпер дзіцячы сад. Захопнікі вывезьлі ўсё – ад залатога кубка да звычайных падушак. Мінула сто семдзесят гадоў. Але ўсё ж людзкая памяць неўміручая. Дзярэчынец можа ня ведаць, хто кіруе ім з Зэльвы ці з Гародні, але ведае дакладна, хто такі быў Сапе-

га. I назваць яго «таварышам», як зрабіў нядаўна адзін з высокіх беларускіх кіраўнікоў, у любога, хай сабе й ня вельмі адукаванага, местачкоўца не павернецца язык. Гэта сёньня. А ў далёкім 1861 годзе, калі да Дзярэчына дайшла чутка пра сьмерць князя Яўстаха ў Парыжы, людзі шчыра смуткавалі. У касьцёле была адпраўлена памінальная імша. Наколькі гэта быў незвычайны і ўрачысты абрад, сьведчыць дакумэнт, які зьберагаецца ў гарадзенскім гістарычным архіве.

«Его Превосходительству Господину Гродненскому Гражданскому Губернатору Действительному Статскому Советнику и кавалеру Ивану Абрамовичу Шпееру.

Слонимского Земского Исправника Маслова

Рапорт.

24-го числа текущего мая месяца в Деречинском Римско-Католическом костеле совершена была панихида по умершему за границей Евстафию Сапеге.

По дошедшему о том до меня сведению я в тот же день отправился на место в м. Деречин и застал еще под конец совершаемое богослужение, где узнал, что панихида эта заказана была помещиками Слонимского уезда: Станиславом Юндилом и Iохимом Чудовским; совершали ее десять человек ксендзов, преимущественно из Слонимского Бернардинского монастыря, над устроенным на катафалке под балдахином пустым медным гробом; при гробе стояло четыре ассистента, из молодых людей, в черных фраках, с трехцветными – пунсового, синего и белого цветов – лентами на плечах. Пред гробом повешен был портрет покойного Сапеги, а над балдахином рисовано-вырезной герб его, внизу прикреплена была трехцветная кокарда. Богослужение кончилось в час пополудни, народу было довольно много, помещиков всего пять человек, а именно: Станислав Липский, Генрих Полубинский, Иван Полубинский, Казимир Эйсман и Захарий Яголковский. По окончании богослужения помещики и ксендзы отправились на

обед к местному приходскому ксендзу Любатынскому и около 6 часов вечера разъехались по домам.

О чем Вашему Превосходительству, на основании предписания от 19 апреля за № 67, имею честь почтительнейше донести, присовокупив, что во время совершения этого богослужения и после оного порядок и спокойствие нарушены не были. 7 мая 1861 года».

Як бачым, існавала адмысловае «предписание» адсочваць падазроныя мерапрыемствы, прытульлем для якіх зрабіўся касьцёл. Таму й ня дзіўна, што празь некалькі гадоў ён пайшоў дымам у неба...

Вернемся ў далёкі 1866 год, у дзень 18 жніўня, і паглядзім на здарэньне вачыма слонімскага прыстава Зайцава: «Я нашел башню на том костеле с правой стороны сильно дымящеюся, [redacted] в минут несколько таковая воспламенилась огнем, который при сильном ветре мгновенно распространился по всей крыше костела, а от той уносимые по направлению ветра огорелые с крыши гонты, падая на жилой дом и строения настоятеля того костела, а также на дом солдатки Елеоноры Протасовой и строения крестьянина Романа Дзедовича, зажгли таковые, которые при всех усилиях местных жителей и нижних чинов квартирующей нарезной батареи не могли быть спасены... Из местного дознания оказалось, что сего же числа в десять часов утра костельный органист мещанин Степан Яцевич с крестьянином Иосифом Гайдашем и работником последнего Николаем Домостоем были на той башне, откуда начался пожар, выкуривали появившиеся там в куполе пчелы и чрез неосторожность при сильном ветре нечаянно забросили огонь...»

Далей прыстаў пералічыў згарэлыя пабудовы, зьнішчанае ў вагні касьцельнае абсталяваньне, у тым ліку вялікі арган, і прыкінуў у грашах прычыненую шкоду – 34 313 рублёў срэбрам, зь іх касьцёлу – 25 000 рублёў.

Цікава, што ўжо ў акце архітэктара Ціхвінскага, які на просьбу мясцовых каталікоў неўзабаве агледзеў касьцельны

будынак, прагучалі дзіўныя прапановы. Спадар архітэктар замест выкананьня сваіх прафэсыйных абавязкаў пачаў зьбіраць... заявы праваслаўных вернікаў аб перадачы касьцёла ім, бо тых, хто жадае маліцца паводле ўсходняга абраду, шмат, а царква малая. Ціхвінскі нават падлічыў, што перабудова касьцёла ў царкву абыдзецца ў параўнальна невялікую суму – 8500 рублёў.

Але высілкі архітэктара не далі жаданага выніку. Магчыма, улады пабаяліся міжканфэсыйных сутычак – а дзярэчынская каталіцкая парафія была даволі шматлікай. Цішком яе проста зьліквідавалі.

Вось які дакумэнт паступіў 22 чэрвеня 1867 года з канцылярыі Віленскага, Ковенскага, Гарадзенскага і Менскага генэрал-губэрнатара і галоўнага начальніка Віцебска-Магілёўскай губэрні М. Мураўёва да чыноўніка ніжэйшага рангу – гарадзенскага проста-губэрнатара: «Возобновление означенного костела (у Дзярэчыне. – М. С.) вы находите не только ненужным, но даже вредным для интересов православия, так как некоторые из прихожан присоединились к православию, а остальные происходят большею частию от смешанных браков или родились от совращенных из православия. Вы сообщили, что при Деречинском костеле считается постоянных прихожан, вместе с причисленными к нему из бывшего Луконицкого прихода: 380 лиц мужеского и 413 лиц женского пола...»

Далей мураўёўскі генэрал-ад'ютант (подпіс неразборлівы) падтрымлівае ідэю гарадзенскага начальства аб залічэньні сямісот дзевяноста трох дзярэчынскіх каталікоў да... Слонімскага прыходу. Захацеў, напрыклад, Станіслаў Юндзіл Богу памаліцца – запрагай, пане, брычку і едзь за трыццаць пяць вёрстаў.

Зразумела, што многія мястэчкоўцы палічылі за лепшае наведваць царкву. І гэта, з гледзішча царкоўных уладаў, было нармальнай зьявай. А вось адваротны пераход – з праваслаўя ў

каталіцтва – кваліфікаваўся як адзін з найстрашнейшых грахоў. Пры ўваходзе ў Дзярэчынскую царкву вісела афішка зь пералікам людзкіх злачынстваў. Дык вось, галоўным «злодеянием» лічылася «отступление от веры православной». А потым ужо ішлі: «смертоубийство, воровство, блудодейство, скотоложество, корчемство вином, снятие с мертвого одежды»...

Некальки дзясяткаў гадоў дзярэчынскія вернікі-каталікі будуць абіваць парогі расейскіх адміністрацыйных уладаў, перш чым ім выдзеляць кавалак зямлі на пабудову новага храма.

Памяць пра Яўстаха Сапегу шануецца ў Дзярэчыне й сёньня. Улетку 1999 года мясцовыя энтузыясты ўстанавілі ў адноўленым колькі гадоў таму местачковым касьцёле мэмарыяльную дошку з наступным тэкстам:

«Яўстаху Каятану Сапегу
(1792–1860)
уладару Дзярэчына
удзельніку нацыянальна-вызвольнага
паўстаньня 1830–31 гг.»

Адзін з энтузыястаў, паэт і прадпрымальнік Валянцін Дубатоўка, нават адмыслова паехаў у Парыж, каб завезьці на магілу князя жменьку дзярэчынскай зямлі. Ён не сьпяшаўся ні на Пляц Пігаль, ні на вуліцу Мулен Руж, куды мужчыны ўсяго сьвету выстойваюць чэргі. Яму не карцела агледзець горад з вышыні Эйфэлевай вежы. Ён не пабег напрасткі ў Люксэмбургзкі сад, куды ў гады незабыўнага юнацтва клікаў непаўторны голас Джо Дасэна... Валянцін, ступіўшы на парыскі брук, адразу пачаў напытваць дарогу на могілкі Манмартра. Цэлы дзень ён праблукаў сярод пампэзных помнікаў, учытваючыся ў эпітафіі на розных мовах, але магілы Яўстаха Сапегі так і не знайшоў. Не дапамаглі й роспыты ў загадчыка могілак... Прыехаўшы дамоў, Валянцін Дубатоўка не апусьціў рукі й пачаў шукаць дасьведчаных людзей. Падказка нечакана прыйшла з Найробі... Але мы зноў забягаем наперад.

МАГЧЫМА, нехта з чытачоў-землякоў папракне аўтара гэтых радкоў у нелюбові да праваслаўя. Маўляў, апісвае пажар дзярэчынскага касьцёла і тым самым распальвае міжканфэсыйную варожасьць. Прызнаюся, я таксама хрышчаны ў дзярэчынскай праваслаўнай царкве, дзе ў маленстве адстояў з маці не адну ўсяночную і пра якую мяркую больш падрабязна расказаць далей.

Але можа і праўда варта на нейкі час забыцца пра паўстаньні, рабункі ды пажары й пацікавіцца, якімі мірнымі клопатамі жылі дзярэчынцы ў мінулым стагодзьдзі.

1817 год. У Дзярэчыне пры касьцёле адчынілася парафіяльная школа, заняткі ў якой наведваюць сорак вучняў. Такім чынам, прагрэс адукацыі відавочны – як памятаем, дзярэчынская Вайсковая акадэмія была разьлічаная толькі на трыццаць курсантаў. Ахвотныя маглі аддаць сваіх дзяцей у слонімскія базылянскую альбо лютаранскую школы, а ў 1825 годзе распачала сваю працу Жыровіцкая духоўная вучэльня (сёньняшняя сэмінарыя).

На шараговага дзярэчынца прыпадала сем вёдзер алкагольных напояў, у тым ліку пяць з паловай вёдзер гарэлкі, выробленай на мясцовым бровары. Пакуль яшчэ ня ўведзеная дзяржаўная манаполія на продаж хмельных напояў, і ў мястэчку без асаблівых цяжкасьцяў можна знайсьці мейсца, дзе маглі б пачарыцца (узьняць чаркі) кумы ці добрыя суседзі.

Але ў салодкія абдымкі Бахуса дзярэчынцы траплялі пераважна ў сьвяты, напрацаваўшыся за тыдзень у полі. У ваколіцах мястэчка пераважала трохпольная сыстэма землекарыстаньня. Двух-трохгадовы адпачынак замяняў зямлі ўгнаеньні, і ўраджаі зьбіраліся нядрэнныя. Час высьпяваньня азімага жыта сяляне вызначалі наступным чынам: «На Міколу (9 траўня) павінен быць сторож (колас), потым два тыдні мае выплываць (каласіцца), тады два тыдні наліваць, два – пасьпяваць, ну а потым пара жаць». Зямлю аралі драўлянай, гэтак званай падляскай, сахою – з дву-

ма жалезнымі сашнікамі. Бульбу асыпалі баразьняком, у садзе ўпраўляліся з падольнікам.

Апрача прыгонных сялянаў, што працавалі ў князя, былі ў Дзярэчыне й сяляне дзяржаўныя. Яны павінныя былі ставіць рэкрутаў для войска, даваць падводы на розныя патрэбы, несьці вайсковыя пастоі ды адбываць шарваркі. Апошняе азначала рамонт дарогаў, мастоў і гацяў. Шарваркавая павіннасьць забірала амаль тыдзень на год – тры дні з падводаю і тры пешыя.

Пасьля сэквэстрацыі сапегаўскія ўладаньні былі аддадзеныя ў 24-гадовую арэнду панаяжджалым з Расеі службоўцам. Мястэчкам Дзярэчын, ■ разам зь ім маёнткамі Паляжын, Мошкі й Галынка завалодаў сэнатар Казначэеў, ад якога паселішчы былі перакупленыя генэрал-лейтэнантам Зэйме. Іншыя маёнткі, што належалі да дзярэчынскай аканоміі, таксама займелі (ледзь не напісаў – зэймелі) новых гаспадароў: Крупава – Рахманава, які неўзабаве прадаў яго Данілаву, Старыя Мілавіцы – Лебедзева, ад якога маёнтак перайшоў да былога пэрмскага губэрнатара Пагодзіна. Новыя Мілавіцы дасталіся Віткоўскаму, на Засьценак паклаў вока Леляkoў, Мяхоўск спадабаўся Чапліну, а Букштава ўпанаравіў нейкі Бурцаў.

Для ўсіх уладальнікаў маёнтка Дзярэчын быў складзены новы пералік сялянскіх павіннасьцяў. Паглядзім жа, чым «завінаваціліся» беларускія сяляне розным бурцавым, рахманавым ды казначэевым:

«1. Всякий крестьянин с полууволоки земли, называемой усадебною, должен отслужить Двору в неделю барщины с упряжью или пешо, как Двор пожелает, мужеских три дня и женский один день. Чинш по назначению инвентарному должен уплатить. Когда же более полууволоки земли... обязан уплатить от четвертой части уволоки 90 копеек серебром.

2. Гвалту или толоки, от Св. Ивана до Покровы (кроме барщины) всякий крестьянин сколько щитает людей к работе спо-

собных, столько до Двора работников дать обязан, оставляя одну особу в доме для смотрения за огнем... Всякий год должно быть показано чрез официянта казённого, увольняются от служения толоки старые от шестидесяти лет, а молодые от двенадцати лет.

3. Сторожество поочередно во Дворе обязаны служить, за которое должно быть принято в барщину столько дней, сколько находится на сторожестве.

4. Вартовников поочередно до Двора и досмотра сжатого хлеба должны давать. Вартовник обязан сходить из варты рано, чтобы мог того же дня отслужить барщину.

5. Шарварков щитается в год двенадцать дней...

7. Талек две и ваг 2-фунтового льну или шерсти должны выпрасть... Принимать барщины за две тальки три дня, а за ваг двуфунтовый тоже три дня.

8. Чтобы Двор не обременял крестьян работами, постановляется, что пеший и упряжный должен приходить на работу летом в шесть часов утра, и зимою равно с выходом солнца и до заката должен работать. В половину же дня на один час давать отдохнуть для накормления скота и подкрепления людей, кроме орания и боронования, которые отбываются по размере полей на морги, в сей работе умеренность по силе упряги должна быть соблюдена...

13. Подати своевременно должны собираться, дабы крестьян чрез экзекуцию не приводить в расстройство...

15. Напитком в корчме шинкарь не должен крестьян занимать под ответственностью».

У гэтым дакумэнце кожны сказ прасякнуты «клопатам» пра селяніна. Праца ў полі з шасьці раніцы да заходу сонца лічыцца не «обременением», арандатар турбуецца, каб не ўчыніць селяніну празьмернага «расстройства» праз экзэкуцыю, нават наведваньне карчмы – і тое абмяжоўваецца.

Але забаронены плод адразу здаецца незвычайным смакоцьцем, і ў шынок дзярэчынцам захацелася яшчэ больш. І вось

13 жніўня 1845 года ў мястэчку абвяшчаецца вырак мірскога суда: 15 сялянаў (сярод іх Гаўрыла Конік, Георгій Чарток, Восіп Сакалоўскі, Іван Грэцкі) паставіць у рэкруты. За што? За «пьянку, дурное поведение и буйство...» Сапраўды, мецьме рацыю клясык: «Ой, гарэліца мая, што ж ты вычаўпляеш?»

У 1848 годзе пасьля ўсіх канфіскатаў ды іншых induратурбацыяў араты за дзень мог зарабіць 30 капеек, касец – 25, перавозчык на 20 вёрстаў меў паўрубля. Для параўнаньня: бутэлька віна каштавала каля 10 капеек. А калі б хтосьці з кімсьці зажадаў зьесьці пуд солі, то спатрэбілася б складчына ў дзевяноста сем з паловай капеек. Зрэшты, можна было разьлічыцца й цэтлікамі – такія свайго роду асыгнацыі прыдумалі гандлярыгабрэі з прычыны недахопу разьменных манэтаў (цэтлікі мелі вартасьць ад 5 да 75 капеек).

Не міналі дзярэчынцаў і хваробы. І ратунку ад іх людзі павінны былі шукаць у большасьці выпадкаў самі. Вось як лекавалі ў тыя часы пры захворваньні халерай: хворага ў ложку націралі сумесьсю воцату, піва й гарэлкі. Відаць, сродак быў ня надта дзейсны, бо падчас эпідэміі, што ахапіла паселішчы ў трохкутніку Дзярэчын–Зэльва–Дзятлава ў 1848 годзе, памёр кожны чацьвёрты хворы.

Першы дзярэчынскі шпіталь, як ужо згадвалася, заснавалі ў 1637 годзе Канстанцін і Сафія Палубінскія (дарэчы, адзін зь першых шпіталяў на Беларусі быў адчынены ў 1508 годзе ў суседняй Зэльве). Разьмяшчаўся ён пры дамініканскім кляштары ды быў разьлічаны на дванаццаць чалавек. Дык вось, і праз дзьвесьце гадоў у мястэчку працягваў функцыянаваць той самы шпіталь з тою самаю колькасьцю месцаў. І гэта пры тым, што да Дзярэчынскага маёнтка належалі Ружанскае ды Зэльвенскае графствы, дзе ніякіх мэдычных установаў не было. Такім чынам, на дванаццацімесцавы дзярэчынскі шпіталь прыпадала каля дзесяці тысячаў (!) душ насельніцтва. Пры шпіталі знаходзіліся лекар, два фэльчары, наглядчыца, хлопчык-памагаты

й вартаўнік. Прычым фэльчары павінны былі ўвесьчасна выяжджаць у навакольныя вёскі.

Дзярэчынскі лекар Старжынскі ня раз зьвяртаўся ў адпаведныя інстанцыі, каб зьмяніць становішча да лепшага. Ён пісаў, што фэльчарам часам даводзіцца ехаць у далёкія вёскі за 40–50 вёрстаў; што неабходна ўвесьці пасаду яшчэ аднаго фэльчара зь месцажыхарствам у Зэльве; што хлопчык-памагаты на імя Іван атрымлівае ў год усяго чатыры з паловай рублі, якіх недастаткова для пражыцьця; што дзярэчынская адміністрацыя парушыла заведзены спрадаўна парадак і перастала пастаўляць шпіталю мёд, воск, сала, масла, сьпірт, гарэлку, воцат ды іншыя аптэчныя прыпасы на прыгатаваньне лекаў; што для выезду да цяжкахворых ён вымушаны трымаць каня за ўласныя сродкі; што з часу сэквэстрацыі Дзярэчынскага маёнтка зь ягоных прыбыткаў на патрэбы хворых не было затрачана ні капейкі...

Нарэшце ўлетку 1838 года ў дзярэчынскі шпіталь наведалася адмысловая люстрацыйная камісыя. Яна, апрача адзначанага вышэй, выявіла, што лекар Старжынскі два гады зусім не атрымліваў аніякага заробку, «занимался содержанием лазарета и пользованием крестьян бесплатно». Пасьля хадайніцтва камісыі лекару далі гадавы аклад 300 рублёў, але адначасова забавязалі купляць за свой кошт мэдыкамэнты. І зноў яму прыйшлося нясоладка. Бо ў той год на вёску Барадзічы навалілася эпідэмія нэрвовай гарачкі, змаганьне зь якой забрала з кішэні лекара трэць ягонага заробку.

ПРЫ ўспаміне пра вёску Барадзічы ў аўтара гэтых радкоў часьцей затахкала сэрца. Менавіта ў гэтай бабулінай вёсцы я пражыў найлепшыя леты свайго юнацтва, сустракаючы цёплыя вечары й сьцюдзёныя ранкі на лаўцы пад разлапістым каштанам зь мілай істотай, што адгукалася на імя Ленка. Гэта яе ініцыялы стаялі над першым маім вершам пра каханьне, які быў надрукаваны ў абласной газэце

«Гродненская правда» ў 1983 годзе... А яшчэ я аднойчы паставіў у нялёгкае становішча пастара барадзіцкай эвангэлічнай суполкі. Бабуля прывяла мяне на сход і дала ў рукі духоўны сьпеўнік. Гартаючы яго, я сустрэў знаёмы верш:

*В минуту жизни трудную,*
*Теснится ль в сердце грусть,*
*Одну молитву чудную*
*Твержу я наизусть...*

Пасьля сходу й супольных сьпеваў я запытаўся ў пастара, хто зьяўляецца аўтарам песенных тэкстаў, якіх у сьпеўніку налічвалася больш за тысячу. «Сьвятыя апосталы», – бяз каліва сумневу ў голасе адказаў пастар. І тады [redacted] на свой страх і ўсеагульны почут заявіў, што верш «В минуту жизни трудную...» напісаў не сьвяты апостал, [redacted] паэт Міхал Юравіч Лермантаў. І бойка прачытаў увесь верш на памяць. Пастар яўна разгубіўся ад гэткай літаратурнай абазнанасьці ды нахабства сямігадовага падшпарка. А бабуля з тае пары перастала браць мяне з сабой у малельны дом.

Як імкліва праляталі летнія вакацыі ў Барадзічах! Учэпістая дзіцячая памяць захавала дзясяткі людзкіх абліччаў. І ў тым, што барадзіцкія дзядзькі ды цёткі зьявіліся на сьвет і ў сваю чаргу гадавалі дзяцей і ўнукаў, была несумненная заслуга й дзярэчынскага лекара Старжынскага.

САМААХВЯРНЫЯ высілкі лекара далі свой плён. Пасьля звароту чарговай камісыі Гарадзенская Казённая палата нечакана расшчодрылася. На куплю мэдыкамэнтаў Старжынскі пачаў атрымліваць дадатковыя сто рублёў. Апрача гэтага яму была выдзелена казённая ардынарыя – своеасаблівы паёк, які атрымлівалі дзяржаўныя дактары. На жаль, мы ня ведаем, як забясьпечваўся самым неабходным лекар, а вось ягоныя падначаленыя фэльчары да 54 рублёў срэбрам мелі: жыта – 4 бочкі, пшаніцы – 2 чвэрці, ячменю – 3 бочкі, аўса – 5

бочак, грэчкі – 2 чвэрці, гароху – 1 чвэрць, 1 парсюка, паўпуда сьвечак; звыш таго, цалкам кампэнсаваліся выдаткі на ўтрыманьне каня і выдзялялася сена на карову.

Хлопчык-памагаты Іван апрача свайго мізэрнага заробку атрымліваў: жыта – 1 бочку 2 чвэрці, пшаніцы – 9 гарцаў, ячменю – 3 чвэрці, гароху – 9 гарцаў, солі – 6 гарцаў, сала – 24 фунты, палатна – 18 локцяў, адну сярмягу, адну пару ботаў і кожныя два гады – паўкажушак. Дзякуючы намаганьням Старжынскага, яму прызначылі новае жалаваньне ў палову фэльчарскага заробку – 27 рублёў.

Была зацьверджана яшчэ адна фэльчарская пасада. Такім чынам, у родныя аўтару гэтых радкоў Барадзічы цяпер часьцей завітваў фэльчар з Зэльвы, ад якой да вёскі было ўсяго нейкіх дзьве вярсты.

Гарадзенская Казённая палата таксама прызнала, што «в устройстве лазаретной одежды и посуды предстоит экстренная надобность».

Жыхары паважалі лекара Старжынскага. Ягоную прафэсыйнасьць мусіла прызнаваць і губэрнскае начальства. Наўрад ці зь якіх іншых куткоў Гарадзеншчыны прыходзілі гэткія суцяшальныя справаздачы, як зь Дзярэчына. 27 чэрвеня 1840 года дзярэчынскі лекар паведамляў цывільнаму губэрнатару Р. Допэльмайру, што з студзеня да чэрвеня ў местачковым шпіталі вылечыліся 85 чалавек, 11 далечваюцца і толькі 1 памёр.

Пакуль дзярэчынскі шпіталь правярала люстрацыйная камісыя, у ваколіцах мястэчка выбухнула новая эпідэмія нэрвовай гарачкі – на гэты раз у вёсцы Пляцянічы...

ПАЖАДАЕМ лекару Старжынскаму мужнасьці ды плёну ў змаганьні за чалавечыя жыцьці, ■ самі замовім фурманку на бліжэйшай ад Дзярэчына Алексіцкай паштовай станцыі ды праедземся колькі вёрстаў па Слонімскім тракце. Рамізьнік ахвотна раскажа, што паштовы

гон па ім пачынаецца зь першага траўня, калі падсыхае зямля. Але ўсё роўна езьдзіць па тракце цяжкавата, бо шлях у 156 вёрстаў (адлегласьць паміж Слонімам і Гародняй) у многіх месцах праходзіць па пясчаных узвышшах. Грузнуць колы, стамляюцца коні. Даводзіцца штогод пасыпаць дарогу верасам, сёлета (а едзем мы па тракце ў 1849 годзе. – М. С.) пасыпалі 115 вёрстаў. На Алексіцкай паштовай станцыі маецца 14 коней, зь іх да дзесяці звычайна бывае ў разьездах. Хоць станцыя й лічыцца паштовай, большасьць выяздаў адбываецца па казённых справах, калі, скажам, тэрмінова патрабуецца завезьці куды-небудзь дзяржаўнага чыноўніка. Многа й прыватных разьездаў – да касьцёла, да шлюбу, на пагасьціны... А яшчэ рамізьнік захоча пахваліцца сваёй пісьменнасьцю і, пераказаўшы вычытанае ў «Гродненских губернских ведомостях» паведамленьне пра 43 пажары ад маланак і сьмерць 21 чалавека ад перуна, спытае: за што Бог незалюбіў тутэйшы люд?

Не знайшоўшыся, што адказаць дзядзьку, мы моўчкі падамо заробленыя ім 20 капеек і каля змураванага калісьці дамініканамі прыдарожнага слупа высадзімся з фурманкі. Дзярэчын адсюль відзён, як на далоні.

Вунь леваруч ад дарогі ўзвышаецца былы сапегаўскі палац з высокімі падвойнымі калюмнамі. Цяпер у ім разьмяшчаецца 3-я артылерыйская брыгада расейскай арміі. Невядома, чым займаліся ў вольны ад манэўраў ды іншай вайсковай муштры час дзярэчынскія артылерысты, але іхнія суслужбоўцы з іншых вайсковых фармаваньняў часам паводзілі сябе далёка не як акупанты. Яны праводзілі этнаграфічныя дасьледаваньні, апісвалі замчышчы й курганы, вымяралі вышыню над роўнем мора, запісвалі народныя звычаі. Напрыклад, прапаршчык Анісімаў з раскватараванага ў Слоніме палка на працягу пяці гадоў занатоўваў, калі замярзала і ачышчалася ад крыгаў Шчара. Ён жа дапільнаваў 14 сакавіка 1848 года прылёт буслоў. А ягоны аднапалчанін Парчэўскі назіраў за імі некалькі гадоў і вызна-

чыў, што звычайна буслы прыляталі 12 сакавіка і скіроўваліся ў вырай 8 верасьня – 186 дзён штогод была наша радзіма «зямлёй пад белымі крыламі», як потым ласкава назаве Беларусь Уладзімер Караткевіч. Праз колькі гадоў усе назіраньні вайскоўцаў будуць абагульненыя сябрам-супрацоўнікам імпэратарскага Расейскага Гэаграфічнага Таварыства падпалкоўнікам Генэральнага штаба Паўлам Баброўскім і выдадзеныя ў 1863 годзе пад назвай «Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния».

Шмат цікавых зьвестак пра мінулае Гарадзеншчыны знайшоў я ў гэтым таўшчэзным, на тысячу старонак, фаліянце. Але найбольш мяне ўразіў адзін запіс, які належаў самому П. Баброўскаму. Падпалкоўнік Генэральнага штаба, прыгадваючы розных нападнікаў на Беларусь, пісаў пра «опустошительные войны шведского короля Густава», «разорения семиградского воеводы Ракоция» и «НАШЕСТВИЕ (выдзелена намі. – *М. С.*) царя Алексея Михайловича в 1654 году». Як бачым, зусім ня ў адпаведнасьці з статутам характарызаваў дзейнасьць аднаго з расейскіх цароў падпалкоўнік.

Праваруч ад галоўнай дзяржынскай вуліцы, над возерам, раскінуўся сад. Пры князях яго даглядалі некалькі садоўнікаў, цяпер экзатычныя расьліны нікому не патрэбныя. Зойдзем у аранжарэю, захапіўшы з сабой вопіс, складзены прыкладна ў 1842 годзе, і паспрабуем пазнаць, дзе тут растуць *грэвія, шпармэнія афрыкана, малалейка* ды *юка глiёруса*. А яшчэ ж недзе павінны быць чатыры *туі арыенталіс*, восем *літэцыяў* і тры *ляўрусы*.

Але з сваім веданьнем батанікі, як ні стараўся, я адшукаў толькі цытрынавыя й памаранцавыя дрэвы, якіх у вопісе налічвалася адзінаццаць.

Прайшоўшы па вуліцы сотні тры крокаў, спынімся перад будынкам царквы Раства Багародзіцы. Яна была збудаваная

напрыканцы XVI стагодзьдзя й надоўга перажыла сваю старэйшую сястру – царкву Сьвятога Спаса, пра лёс якой не захавалася зьвестак. Магчыма, яна перастала існаваць у другой палове XVIII стагодзьдзя, пасьля чаго, у 1768 годзе, два праваслаўныя дзярэчынскія прыходы былі аб'яднаныя ў адзін.

Драўляная царква Раства Багародзіцы даўно не паднаўлялася і мае варты жалю выгляд. У параўнаньні з мураваным касьцёлам яна значна прайграе. Апошняя акалічнасьць не дае спакойна спаць абаронцам краёвага праваслаўя. Ужо колькі гадоў ідуць спрэчкі пра выбар лепшага месца для новага мураванага храма, складаюцца і перарабляюцца каштарысы. Існуюць два варыянты будаваньня: на цэнтральнай плошчы, насупраць былой княскай аканоміі, і паблізу скрыжаваньня Слонімскай і Зэльвенскай вуліцаў, дзе яшчэ захаваліся будынкі плябаніі старога касьцёла Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі. Урэшце быў зацьверджаны другі варыянт, і ў 1851 годзе ў Гарадзенскую палату дзяржаўнай маёмасьці паступіў праект архітэктара Тышэцкага і цывільнага інжынэра Чагіна. Праект быў падтрыманы з умовай замены мураванага купала на драўляны – тым самым чыноўнікі заашчадзілі ажно 237 рублёў 8 капеек дзяржаўных грошай (гэта пры тым, што на пабудову царквы казна выдзеліла 34 тысячы рублёў срэбрам).

Будаўніцтва распачалося ў 1854 годзе і працягвалася ажно адзінаццаць гадоў. Чамусьці памешчык Завадзкі (яму дастаўся выгадны падрад на будоўлю) ня вельмі прысьпешваў свайго дойліда Пятрова. Памешчыцкае марудзтва некаторыя праваслаўныя вернікі растлумачвалі ўсюдыіснай польскай інтрыгай. А таму пасьля задушэньня паўстаньня 1861 года будаўніцтва храма ўзяў пад свой асабісты кантроль кіраўнік губэрнскай Казённай палаты Курлоў. Будаўніцтва было завершана літаральна пад канвоем вайсковага станавога прыстава паручніка Трыстанава і чыноўніка Акініна.

Казённых грошай на нутраное ўбранства царквы не хапіла, і старшыня мясцовага праваслаўнага камітэта Якуб Сончык пайшоў з шапкай па мястэчку. Ахвяраваных местачкоўцамі 800 рублёў ледзьве хапіла на самае неабходнае царкоўнае начыньне й на адліўку невялікага пудовага звона. Астатнія чатыры званы былі перацягнутыя салдатамі з былога дамініканскага кляштара. Самы вялікі – вагой 15 пудоў – пералілі з старога пашкоджанага звона, які быў пазначаны 1617 годам.

Другі – дзесяціпудовы – датаваны 1717 годам. Пазней, падчас адбудовы новага дзярэчынскага касьцёла, гэты звон быў спатрабаваны каталікамі назад і вісіць на касьцельнай званіцы да гэтае пары. Улічваючы, што з усіх сваіх меднагалосых супляменьнікаў ён адзін здолеў прысучасьніцца да нас на зыходзе дваццатага стагодзьдзя, будзе ня лішне распавесьці пра яго крыху больш падрабязьна.

Звон быў усьцягнуты на вежу новазбудаванага касьцёла ў 1910 годзе. (Дазвол на будаўніцтва ўпаўнаважаны ад вернікаў Дзярэчынскай, Старавескай і Курыловіцкай воласьцяў Ігнат Лукашэвіч атрымаў у 1905 годзе. Сяляне сабралі 6000 рублёў, астатнія генэрал-губэрнатар заабавязаў пералічыць на касьцельны рахунак «госпожу Полубинскую, согласно ее обещанию».) З вышыні ён аглядаў навакольле – вёскі Алексічы, Катчыну, Лабзова, Паляжын, Малую і Вялікую Угрынь, Савічы, Грабава, Крывічы. Яго прызвычаенае да малітоўных сьпеваў вуха ніякавела, калі замест узьнёслага рэлігійнага гімна «Te Deum laudamus» («Божа слаўны») чула зьняважлівыя абяцаньні начальніка польскай дзяржавы Юзафа Пілсудзкага, які перад вайной прыжыўся ў Дзярэчыне ў выглядзе бюста, пасадзіць не-ўзабаве ўсіх беларусаў на адной лаве. Звон яшчэ здалёку бачыў капэзэбоўскага дзеяча Сяргея Прытыцкага, які сьпяшаўся ў мястэчка зь недалёкага хутара Сьніткаў, дзе хаваўся ад агентаў дэфэнзывы. Звон калаціўся ад страху, калі на мястэчка падалі нямецкія авіябомбы. Яму займала мову, калі да яго даносіліся



Гэрб Сапегаў.

4 Зак. 1378



Францішак Сапега –
генэрал літоўскай артылерыі
й паплечнік
Тадэвуша Касьцюшкі.



Яўстах Каятан Сапега –
удзельнік нацыянальна-
вызвольнага паўстаньня
1830–1831 гг.



Партрэт жонкі
Францішка Сапегі Пелагеі
з Патоцкіх
(«Дзярэчынская Тэрпсыхора»).
Мастак Элізабэт Вігі-Лебрун. 1774 г.



Дзярэчынскі палац. Архітэктары Я. С. Бэкер і Л. Гуцэвіч.
Фота Яна Булгака. 1933 г.



Дзярэчынская карчма «Пад залатой зоркай». Архітэктар Я. С. Бэкер.
XVII стагоддзьдзе.

Дзярэчынскі кляштар дамініканаў.
Фота 1930-х гг.



Вежа кляштару дамініканаў.
Фота Яна Булгака.
1933 г.



Старажытныя манэты, знойдзеныя ў Дзярэчыне.
Зьлева направа: рымскі аўрэўс часоў імпэратара Комада (180–192 гг.); паўгрош літоўскі й паўгрош польскі. XV–XVI стагодзьдзі.



Так выглядаў дзярэчынскі палац,
пабыўшы вайсковым шпіталем і казармай. 1920-я гг.



Паола Вэранэзэ. «Пакланеньне трох цароў».
XVI стагодзьдзе.
Адзін з сотняў шэдэўраў, вывезеных зь Дзярэчына.
Цяпер зьберагаецца ў Эрмітажы.




Плян цэнтральнай часткі Дзярэчына. 1850 г. Зьберагаецца ў Цэнтральным дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве Расеі (г. Масква).

1 – дом палкавога камандзера й канцылярыя; 2 – палкавы шпіталь на 99 хворых, аптэка, лябараторыя, прыймовы пакой і кватэра лекара (у былым палацы Сапегаў); 3 – шпітальная лазьня й пральня; 4 – памяшканьне для супрацоўнікаў шпіталю й кухня; 5 – сталярная майстэрня; 6 – памяшканьне для пажарнай службы; 7 – кузьня; 8 – памяшканьні для палкавога абозу; 9 – вайсковыя казармы (у былым кляштары дамініканаў); 10 – стайня й сьвіран; 11 – царква; 12 – стары касьцёл.



Дзярэчынская Спаса-Праабражэнская царква. Фота 1955 г.



Паштоўка з праектам дзярэчынскага касьцёла. Архітэктар У. Міхневіч. 1905–1910 гг.



Мураваная калюмна каля вёскі Алексічы. XVII стагодзьдзе.



Дзярэчынскі ваяр
Валяр'ян Махамэт.
1930-я гг.



STAROŻYTNA POLSKA

pod względem

HISTORYCZNYM, JEOGRAFICZNYM

I STATYSTYCZNYM

opisana przez

Michała Balińskiego i Tymoteusza Lipińskiego

WYDANIE DRUGIE

poprawione i uzupełnione

przez

F. K. Martynowskiego.

Tom IV.

WARSZAWA.

NAKŁAD DRUK S. ORGELBRANDA SYNÓW,

[illegible]

1886.

Тытул «Старажытнай Польшчы
ў гістарычным, гэаграфічным
і статыстычным апісаньні»
М. Балінскага й Ц. Ліпінскага.
Варшава, 1886 г.



Местачковая плошча. 1930-я гг.



Надпіс на адваротным баку здымка: «Будоўля казармы для ўкраінцаў. Дзярэчын, 28 лістапада 1943 г.».



Вучні Дзярэчынскай польскай школы. 1930-я гг.





# ŚWIADECTWO SZKOŁY POWSZECHNEJ

Chołodówna Maria
(nazwisko i imię)

urodzona dnia 16 grudnia 1925 r. w Dereczynie,
powiatu słonimskiego, religii (wyznania) prawosławnej
uczęszczała do klasy szóstej i otrzymała
za rok szkolny 1938/39 oceny następujące:

| | |
|---|---|
| sprawowanie | bardzo dobry |
| religia | bardzo dobry |
| język polski | dostateczny |
| język | |
| historia | dostateczny |
| geografia | dobry |
| nauka o przyrodzie | dostateczny |
| arytmetyka z geometrią | dostateczny |
| rysunki | dobry |
| zajęcia praktyczne | dobry |
| śpiew | dostateczny |
| ćwiczenia cielesne | bardzo dobry |

Opuściła dni szkolnych 13, w tym nie usprawiedliwiono —

Na tej podstawie przechodzi do klasy siódmej.

*Publiczna Szkoła Powszechna* stopnia ...
Nr ... im. Kazimierza Pułaskiego
w Dereczynie (powiat Słonim)
dnia 31 czerwca 1939 r.

Nr 1




Opiekun(ka) klasy — Kierownik(czka) Szkoły

Skala ocen: bardzo dobry, dobry, dostateczny, niedostateczny.

Sygn. P. 10.
Drukarnia Państwowa nr 166157.
Cena 8 gr.

Пасьведчаньне аб заканчэньні польскай школы, выдадзенае Марыі Холад. 1939 г.



Генэрал Ермалай Гампэр
закончыў свой зямны шлях
у Дзярэчыне 25 лістапада 1814 г.



*На добрую і доўгую памятку дружбы Антону Борику ад Ст. Льва кн. Сапегі. Бэрлін у Нямеччыні Студзеня 7 дня*

Заснавальнік «Сындыкату
Сапегі для Эўропы й Азіі»
Станіслаў Леў Сапега-Ваявода
ўмеў пісаць па-беларуску.



Парадны ўваход
дзярэчынскага палаца.
Канец 1930-х гг.



Ян Пятроўскі.
ЗША, Флярыда, 1991 г.



Князь Яўстах Севярын Сапега ў Дзярэчыне. 1997 г.

крыкі ды лямант сілай гнаных у калгас людзей. Моўчкі сачыў ён за аўтамабільным картэжам Пятра Машэрава, які некалькі разоў праяжджаў праз Дзярэчын.

Людзі звыкліся з маўчаньнем звона. Па касьцёле не адзін дзясятак гадоў гуляў вецер, на сьценах з чырвонай цэглы мясцовая моладзь прызнавалася ў каханьні – над усімі ўзвысілася імя Сьвета.

І раптам звон азваўся. Сярэдначы ўсё мястэчка прачнулася ад важкага бомканьня. Гэта быў як знак звыш, як напамін пра вечнасьць зьняверанаму люду. Ніхто ўначы не адважыўся падысьці да касьцёла. Раніцай мужчыны ўбачылі зьвіслую долу вяроўку... Якім чынам адчайны званар залез на саракамэтровую вышыню, калі ўнутрывежавая лесьвіца дзе дашчэнту струхлела, а дзе й папросту адсутнічала, – так і засталося таямніцай. Магчыма, гэтаму паспрыялі чыесьці палкія пачуцьці да тае самае невядомае сёньня шырокай грамадзкасьці Сьветы...

Летась аўтар гэтых радкоў, сабраўшыся з духам, па сьвежа-...ыпучых сходах ажыцьцявіў узыходжаньне на касьцельную ...ку. Стараючыся не глядзець уніз праз вузкія шчыліны-вок...я, дзе стоячы на адной назе, дзе сагнуўшыся ў тры пагібелі, ...дзеў пазелянелы ад часу звон.

Па акружнасьці йшоў ледзь чытэльны надпіс: «За памерлых ...а Бога просіць і хвалу Богу ўздае». На баку лёгка чыталіся ...д адліўкі й традыцыйнае прызнаньне: «Fecit me Ioannes ...omaszewicz» («Мяне зрабіў Ян Тамашэвіч»).

Але вернемся ў дзевятнаццатае стагодзьдзе, на скрыжаваньне Слонімскай і Зэльвенскай вуліцаў. Апрача згаданых трох званоў, на званіцу дзярэчынскай царквы былі ўзьнятыя яшчэ тры: два трохпудовыя і адзін маленькі, трыццаціфунтовы.

Храм у пляне меў крыжападобную форму ў бізантыйскім стылі, увенчваўся пяцьцю драўлянымі купаламі. У даўжыню складаў 35, у шырыню – 27 і ў вышыню – 23 аршыны. У царкве апрача галоўнага ўваходу былі двое бакавых дзьвярэй; сярэд-

5 Зак. 1378

няя частка акрэсьлівалася чатырма калюмнамі, на якіх мацаваўся галоўны васьміваконны купал. У прытворы месьцілася рызьніца і лесьвіца на хоры й званіцу. Дах і верхнія часткі купалоў абабілі бляхай. Алтар займаў плошчу 7 на 8 аршынаў.

Урачыстае асьвячэньне новага храма адбылося 19 верасьня 1865 года, у дзень сьвятых пакутнікаў Трафіма, Савы й Дарымэдонта, дзеля чаго ў Дзярэчын прыехаў япіскап берасьцейскі й вікарый Літоўскай эпархіі Ігнацій. Напярэдадні вечарам яго хлебам-сольлю сустракала тутэйшае духавенства і прыхаджане.

Не зважаючы на чуткі, што цалкам запоўненая царква можа абваліцца, народ на сьвята пачаў зьбірацца яшчэ з ночы. У шэсьць гадзінаў раніцы зь дзярэчынскага новага храма да Бога адляцела першая ранішняя малітва, лёгка вымкнуўшы зь сьвежаатынкаваных сьценаў пад звонкія сьпевы вучняў Слонімскай духоўнай вучэльні, якімі кіраваў купец Барзоў, і хору хлопчыкаў зь мястэчка Азярніца.

Пачалі зьяўляцца дэлегацыі ад суседніх прыходаў. Сьвятар зэльвенскай царквы Аўгуст Куцэвіч арганізаваў і ўзначаліў хросны ход з Зэльвы. З высока ўзьнятымі харугвамі й малітоўнымі сьпевамі вернікі прайшлі амаль дваццаць кілямэтраў, каб павіншаваць сваіх дзярэчынскіх аднаверцаў.

Тым часам уладыка Ігнацій зь сьвітаю, дэманструючы пераемнасьць традыцыяў і ўвесьчасна ўслаўляючы Госпада, па жывым людзкім калідоры перайшоў з старой царквы ў новую, дзе адслужыў першую літургію. Потым адзін зь дзярэчынскіх сьвятароў, Іпаліт Канцэвіч, выступіў з прачулай прамовай, якая павінна была асабліва спадабацца ачольніку дваранства Ізвекаву, павятоваму спраўніку Заградзіну, прыгаданаму раней Акініну ды іншым чыноўнікам, што прыехалі ў гэтыя мясьціны з усходу «на ловлю счастья и чинов».

«Храм сей, – старанна выгаворваў кожнае слова сьвятар, – да напоминает вам, прихожане, возвращение ваше под родной кров православной Христовой церкви. Приходите в оный

с сердечною к Богу благодарностию, приходите с теплою молитвою, приходите с прошениями за Августейшего ревнителя и защитника православной веры Государя Императора Александра Николаевича, вызвавшего вас к новой жизни и с отеческой заботливостью помышляющего о вашем благоденствии. Ветхий же и убогий ваш храм да будет памятником прошедшего, когда ваши прадеды, отторгнутые от православной церкви, терпели скорбь и темноту от поработителей. Вспоминая это прошедшее, утверждайтесь в вере, совершенствуйтесь в терпении, бодрствуйте и подвизайтесь, да не оскудеет в вас сокровище веры... Возлюбленные! Помолимся при сем Господу Иисусу Христу, да с освящением сего нового храма Божия прекратятся среди нас разделения в вере, и да процветает единение духа [redacted] согласии веры, [redacted] союзе мира и любви, да соединятся у подножия сего престола отпадшие от матерних недр соборной православной церкви с православноверующими и прославят вкупе с нами едиными усты и единым сердцем Отца и Сына и Святаго Духа».

Нягледзячы на відавочнае красамоўства айца Іпаліта, наўрад ці «отпадшие от матерних недр» (меліся на ўвазе тыя, хто спрадвеку наведваў касьцёл) кінуліся запісвацца ў праваслаўе, маючы свой храм і свайго сьвятара. Праз год касьцёл згарыць, ксяндза забяруць у Слонім, і агітацыя ў айца Іпаліта, трэба думаць, пойдзе спраўней. Яго «ревностное служение» заўважаць, узнагародзяць набэдранікам і скуф'яй, начэпяць на шытыя золатам сьвятарскія строі бронзавы мэдаль «В память усмирения польского мятежа 1863 года»...

Пасьля сканчэньня багаслужбы япіскап Ігнацій бласлаўляў народ, якога каля царквы сабралася некалькі тысячаў чалавек. Проста на плошчы перад сапегаўскім палацам былі засланыя сьвяточныя сталы з гарэлкай, пірагамі, рознымі мяснымі стравамі. Хор пеўчых выканаў народны гімн. Салдаты 3-й артылерыйскай брыгады, раскватараванай у Дзярэчыне, стаялі ў ганаро-

вых каравулах і зайздросна паглядалі на падвяселеных местачкоўцаў. У самім палацы быў падрыхтаваны шыкоўны абед на 80 пэрсонаў.

Пасьля абавязковых тостаў за імпэратара і ўвесь ягоны род, за мітрапаліта Іосіфа (Сямашку), за начальніка краю графа М. Мураўёва япіскап падзякаваў і абвесьціў архіпастырскае блаславеньне ўсім, хто браў пасільны ўдзел у пабудове храма: дзярэчынскім сьвятарам Іосіфу Міхалоўскаму і Іпаліту Канцэвічу, местачкоўцам Кузьме Дубічынскаму, Якубу Сончыку, Антону Мартасэвічу і пісару з суседняе вёскі Курылавічы Сьцяпану Кахановічу.

У 1871 годзе дзярэчынскую царкву наведваў гарадзенскі губэрнатар Зураў, у 1884 – ягоны пераемнік Пацёмкін. Ды й рознае іншае – царкоўнае і сьвецкае – начальства не мінала дзярэчынскага праваслаўнага прыходу, які па колькасьці прыхаджанаў быў самы вялікі ў губэрні.

А 8 жніўня 1898 года на прывабныя драўляныя купалы з хаты купца Бэкенштэйна ледзь не пераскочыў чырвоны певень. Храм уратавалі зялёныя кроны дрэваў і некалькі местачковых сьмельчакоў, якія ўскараскаліся да самых крыжоў і бясьперапынна палівалі купалы вадою.

Трэба зазначыць, што і ў будзённыя дні царква рэдка калі пуставала – у мураваную браму бясконца йшлі вясельлі ды хрэсьбіны, скіроўваліся жалобныя працэсіі. Царкоўная кніга зафіксавала ў 1870–1879 гадох 665 шлюбаў, 3864 хросты, 2801 адпяваньне. Праз дваццаць гадоў гэтыя лічбы значна ўзрасьлі – з 1890 да 1899 года ў прыходзе пашлюбавалася 894 пары, нарадзілася 5110 дзяцей і памерла 3320 чалавек.

Паводле спавядальнай ведамасьці ў 1865 годзе ў дзярэчынскім прыходзе налічвалася 5244 душы, а за наступныя трыццаць чатыры гады колькасьць прыхаджанаў ледзь не падвоілася й напрыканцы дзевятнаццатага стагодзьдзя складала 9731 душу. Натуральна, прырост насельніцтва (а ён быў значны) не за-

бясьпечваў такога вялікага росту колькасьці прыхаджанаў. Што ж адбылося? Калі эпархіяльны служка уважліва ўчытаўся ў статыстыку, то ўбачыў, што найбольш прыбыло вернікаў у дзярэчынскай праваслаўнай царквы акурат у 1866–1867 гадох, калі, як мы памятаем, з нагоды касьцельнага пажару была хуценька зьліквідаваная мясцовая каталіцкая парафія...

У той час цэрквы зьяўляліся даволі буйнымі землеўласьнікамі. Так, дзярэчынскаму прыходу ў 1865 годзе было нададзена 35 дзесяцінаў ворнай зямлі і 27 дзесяцінаў сенажацяў. У 1869 годзе царкоўны зямельны надзел значна ўзбуйніўся і ўжо налічваў 137 дзесяцінаў.

З паловы дзевятнаццатага стагодзьдзя дзярэчынскі прыход належаў да другое клясы, а гэта азначала, што ў ім павінны былі служыць два сьвятары, дыякан, два псалёмшчыкі ды прасфорня. Яны атрымлівалі наступны гадавы заробак: сьвятары – па 180 рублёў, дыякан – 80, псалёмшчыкі – па 40 і прасфорня – 24 рублі срэбрам.

У 1865–1868 гадох служкі дзярэчынскага прыходу атрымлівалі яшчэ своеасаблівую прэмію, альбо даплату «за шкоднасьць», – зь ліку 400 000 рублёў, выпрашаных вядомым «усмирителем», а дакладней вешальнікам М. Мураўёвым у расейскага ўрада для прапаведнікаў «истинно русской веры» ў Паўночна-Заходнім краі.

Пад чыім жа непасрэдным кіраўніцтвам адбывалася вяртаньне «отпадших от матерних недр» дзярэчынцаў ва ўлоньне праваслаўнай царквы?

Першым праваслаўным настаяцелем дзярэчынскага прыходу пасьля скасаваньня ўніяцтва быў Антоні Тупальскі, чый подпіс стаіць пад «злучальным» актам Полацкага царкоўнага сабора. Ён быў доктарам багаслоўя і кананічнага права, займаў даволі высокія пасады ў царкоўнай іерархіі, у тым ліку меў сан генэральнага вікарыя Берасьцейскай уніяцкай эпархіі, якою кіраваў больш за дваццаць гадоў пад апекай вядомага мітрапаліта

Іосіфа Булгака («чалавека вялікай набожнасьці, але слабахарактарнага, ворага матэрыяльнага й маральнага абнаўленьня ўніяцкага белага клеру» – так апошняга характарызавалі сучасьнікі). Потым Антоні Тупальскі зрабіўся заўзятым змагаром за праваслаўе, спрычыніўся да адкрыцьця Жыровіцкай духоўнай сэмінарыі. У Жыровічах ён нейкі час і жыў, бываючы ў Дзярэчыне зрэдку, летам любіў адпачываць у сваім маёнтку Нябайкі паблізу мястэчка, дзе яго аднойчы наведаў архіяпіскап Іосіф Сямашка. Апошняму пагасьціны настолькі спадабаліся, што, вярнуўшыся ў Вільню, ён замовіў партрэт гаспадара Нябаек акадэміку жывапісу І. Хруцкаму. У Жыровічах уладыка Антоні падшукаў сабе й зяця – ім стаў адзін з выкладчыкаў сэмінарыі, будучы вядомы багаслоў і пісьменьнік Плакід Янкоўскі. Непасрэдныя абавязкі дзярэчынскіх прыходзкіх сьвятароў у той час выконвалі Іаан Карнатоўскі й Леў Баландовіч.

Наступныя паўстагодзьдзя ў Дзярэчыне слова Божае прапаведавалі Стафан Бялевіч (1845–1849 гады), Стафан Тарановіч (1855–1856), Антоні Агіевіч (1858–1860), вядомыя ўжо нам Іпаліт Канцэвіч (1861–1872) ды Іосіф Міхалоўскі (1861–1872), Іосіф Целякоўскі (1873–1881 гады; дарэчы, бліжэйшы да Дзярэчына лес мае назву Целякоўшчына, але прасачыць этымалягічную залежнасьць паміж сьвятаром і лесам, альбо наадварот, надзвычай складана, і мы пакінем гэты занятак людзям больш дасьведчаным), Юстын Пахнікевіч (1881–1885), Аляксандар Прыгодзінскі (1881–1883), Іаан Беняшэвіч (1883–1888; памёр у Дзярэчыне і быў пахаваны каля царквы).

З 1888 года ў мястэчку жыў і працаваў сьвятар Іосіф Карскі, якога можна лічыць адным зь першых дасьледнікаў Дзярэчына. Ён цікавіўся гісторыяй мястэчка, зьбіраў зьвесткі пра побыт і звычаі дзярэчынцаў. Сабраныя матэрыялы айцец Іосіф абагульніў і ў 1901 годзе выдрукаваў у гарадзенскай губэрнскай друкарні асобнай кнігібкай пад назвай «Деречинский при-

ход. Краткое историко-статистическое описание» (адзіны вядомы паасобнік гэтага ўнікальнага выданьня зьберагаецца ў Санкт-Пецярбургскай Публічнай бібліятэцы). Краязнаўчая дзейнасьць сьвятара, плёнам якой нераз карыстаўся й аўтар гэтых радкоў, змушае нас больш уважліва прыглядзецца да ягонага жыцьцяпісу.

Іосіф Ігнатавіч Карскі нарадзіўся 5 студзеня 1864 года ў вёсцы Мікалаева Ашмянскага павету ў сям'і царкоўнага псалёмшчыка. Вучыўся ў Віленскай духоўнай сэмінарыі, з 1885 года выкладаў духоўныя сьпевы ў Жыровіцкай сэмінарыі, дзе адначасова займаў пасаду нагляддчыка. У 1887 годзе быў рукапакладзены спачатку ў дыякана, а неўзабаве і ў сьвятара Хацiслаўскай царквы. На ўласную просьбу 2 жніўня 1888 года быў накіраваны ў Дзярэчын. Браў актыўны ўдзел у дзейнасьці губэрнскага камітэта цьвярозасьці й нароўні з царкоўнымі школамі прыходу загадваў дзярэчынскай народнай чайной. На працягу многіх гадоў старшыняваў на іспытах падчас прыёму навучэнцаў у Дзярэчынскую, Курылавіцкую і Галынкаўскую народныя вучэльні, быў дэпутатам на губэрнскі эпархіяльны зьезд.

Айцец Іосіф быў адзначаны архіпастырскім блаславеньнем, узнагароджаны набэдранікам, скуф'яй, срэбным мэдалём у памяць цараваньня Аляксандра III і бронзавым – за дапамогу ў правядзеньні ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расейскай імпэрыі. Апошні адбыўся ў 1897 годзе, і пры ўдзеле айца Іосіфа ў Дзярэчыне было налічана 2679 жыхароў – 782 хрысьціяніны, 1881 юдэй і 16 мусульманаў. Хрысьціяне ў сваю чаргу падзяляліся на 435 праваслаўных, 342 каталікі й 5 лютаранаў.

Беларус з паходжаньня, айцец Іосіф, тым ня менш, ніяк ня мог зразумець, чаму дзярэчынцы размаўляюць на нейкай сваёй, адметнай ад іншых мове. Выклікаў у яго неўдаванае зьдзіўленьне й той факт, што ў некаторых местачкоўцаў, насьпех залічаных у праваслаўе, на покуці вісяць каталіцкія аб-

разы, а шмат хто нават у царкве жагнаецца паводле рымска-каталіцкага звычаю.

Многія меркаваньні айца Іосіфа Карскага выказаныя з пазыцыяў ваяўнічага праваслаўя. Але ня гэта галоўнае. Для нас галоўнае тое, што сто гадоў таму была напісаная першая кніжка пра Дзярэчын. І яе аўтар хай прыме ад нас паклон.

У ПОРУЧКІ з расейскай праваслаўнай царквой дзецьмі «отпадших от матерних недр» павінны былі займацца і школы. У разгар рэакцыі граф М. Мураўёў выказа думку, што ад талковых настаўнікаў для расейскае справы ён чакае больш карысьці, чымся ад бяздарных генэралаў. У сталіцы імпэрыі гэта разумелі й раней. А таму і ў Дзярэчыне на падставе «Высочайшего утвержденного положения в 22-ой день июня 1845 года открыто сельско-приходское училище». Дзярэчынская вучэльня была адной з 12 падобных установаў, якія йснавалі на даходы ад сканфіскаваных маёнткаў, што належалі зачыненым пасьля паўстаньня 1830 года рымска-каталіцкім кляштарам. У першы год існаваньня вучэльні на яе ўтрыманьне зь дзяржаўнае казны было дабаўлена яшчэ 250 рублёў. 27 вучняў мелі за настаўніка аднаго зь сьвятароў дзярэчынскай царквы Іосіфа Карнатоўскага.

У тым самым годзе ў мястэчку распачала працу й народная школа. Настаўнікаў для яе прызначалі на валасным сходзе – часта імі рабіліся афіцэры-адстаўнікі раскватараванай у Дзярэчыне артылерыйскай батарэі. Школа ня мела свайго памяшканьня, вандравала з хаты ў хату, вучні часам пісалі, улёгшыся на падлозе. Заняткі працягваліся ня больш як тры-чатыры месяцы на год. У 1874 годзе да валаснойуправы быў прыбудаваны трысьцен і аддадзены пад школу, якая да гэтага часу займела статус дзьвюхклясавае вучэльні. У 1914 годзе на школьных лавах сядзелі й засяроджана слухалі настаўніка 103 вучні. Настаўнікам тады працаваў у школе выпускнік Ваў-

кавыскай павятовай вучэльні Восіп Восіпавіч Хмылко, які быў узнагароджаны за службу срэбным і залатым мэдалямі. Апрача яго ў вучэльні працавалі яшчэ два выкладчыкі. Заробак іхні складаў адпаведна 660, 360 і 120 рублёў.

Штогод старэйшы настаўнік павінен быў запаўняць справаздачную ведамасьць, у якой сярод іншых пунктаў быў і такі: «Подробно изложить замечательные события в жизни училища, имеющие значение в религиозном и патриотическом отношениях». Запаўняючы ведамасьць за 1914 год, Восіп Восіпавіч Хмылко пад гэтым пунктам напісаў каліграфічным настаўніцкім почыркам: «17 октября учащиеся и учащие присутствовали на литургии, после которой прочитана была в классе брошюра «Милость Божия под царем».

У 1905 годзе ў Дзярэчыне пабольшала асьветных установаў – адчынілася жаночая аднаклясавая вучэльня пад кіраўніцтвам К. Ардынскай.

Існавала ў Дзярэчыне й габрэйская аднаклясавая (але двухгадовая) вучэльня. Захады да яе адкрыцьця Янкель Пінцоў распачаў у 1910 годзе. Але толькі праз тры гады, пасьля доўгай казённай перапіскі (чыноўнікаў цікавіла, колькі жыве ў мястэчку габрэяў, колькі ў іх дзяцей, колькі йснуе ў Дзярэчыне пачатковых габрэйскіх школак-хэдэраў і г.д.), быў дадзены дазвол, зацьверджаны плян і праграма вучэльні. Відно, што Янкель быў чалавекам неўтаймоўнай энэргіі, ён з задавальненьнем адчыніў бы ў мястэчку для супляменьнікаў пару ешыботаў ці мэдрэсэ, але мусіў здаволіцца звычайнай вучэльняй, прычым не казённакоштнай. За навуку, а таксама за падручнікі, сшыткі ды іншае школьнае начыньне павінны былі плаціць бацькі. Вучням выкладаліся прадметы: закон габрэйскай веры, расейская мова, арытмэтыка, пісьмо, вышываньне (для дзяўчат) і сьпевы. На распарадчыку вучэльні і настаўніку, тым самым Янкелю Пінцову, ляжала адказнасьць выхоўваць падапечных «в духе любви и преданности Престолу и Отечеству». Цікава, што нават на за-

коне габрэйскай веры ўсе малітвы павінны былі чытацца й тлумачыцца па-расейску. А на сьпевах вучні зацягвалі не «Гава нагілу», а «Боже, Царя храни» ды «Коль славен наш Господь в Сионе».

У 1878 годзе ў Дзярэчыне было 2269 жыхароў, у тым ліку 1725 габрэяў. У руках апошніх былі ўвесь гандаль і прамысловасьць. Увогуле, ва ўсёй Гарадзенскай губэрні, паводле падлікаў Ляхніцкага, у той час налічвалася ня больш за дзесяць купцоў-негабрэяў. У 1817 годзе ўсе судны на Нёмане, з дапамогай якіх ажыцьцяўляліся гандлёвыя зносіны Заходняй Беларусі з Караляўцом і Данцыгам, таксама належалі габрэям.

У сувязі з гэтым будзе цікава яшчэ раз зьвярнуцца да вынікаў усеагульнага перапісу насельніцтва Расейскай імпэрыі 1897 года. Паводле яго ў Слонімскім павеце на той час жыло 7 цыганоў, столькі ж чэхаў, 9 французаў, 109 немцаў, 181 украінец, 293 літоўцы, 2359 расейцаў, 2629 палякаў, 22980 габрэяў і 185579 беларусаў. Як бачым, габрэі складалі другую па колькасьці (пасьля беларусаў) групу насельніцтва Слонімшчыны. А ў Дзярэчыне, як мы маглі пераканацца вышэй, увогуле адсунулі карэнную нацыю на другое месца і налічвалі больш за палову ўсіх жыхароў. Насамрэч, Янкелю Пінцову было для каго старацца.

Калі ж пасяліліся габрэі ў Дзярэчыне? Перш чым адказаць на гэтае пытаньне, мне хочацца аднавіць адну гістарычную справядлівасьць. Апошнім часам дзяржава Ізраіль ушаноўвае тых людзей, якія дапамаглі габрэям у цяжкія хвіліны. Дык вось, я прапаную адзначыць адпаведнай рэгаліяй вялікага князя Вітаўта, які яшчэ ў 1388 годзе на тэрыторыі старабеларускай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага – забясьпечыў габрэям неабходныя прывілеі. Не атрымаў Вітаўт кароны пры жыцьці, дык няхай хоць пасьмяротна пабудзе праведнікам сьвету.

Як падае «Еврейская энциклопедия» пад рэдакцыяй Л. Кацнэльсона і Д. Гінцбурга, габрэі-арандатары зьявіліся ў Дзярэчы-

не ўжо ў 1619 годзе. А ў 1706 годзе дзярэчынскі кагал налічваў 404 прыхільнікі веры юдэйскай, у 1847 годзе ў местачковым габрэйскім таварыстве былі ўжо 542 чалавекі. Колькі габрэяў будзе ў Дзярэчыне яшчэ праз паўстагодзьдзя – мы ўжо ведаем.

І трэба сказаць, што яны ня спалі ў шапку. Мэер Вульфовіч у хаўрусе з Орэлем Дайхоўскім у 1888 годзе адчыняюць у мястэчку медаварны завод. Вось яго няпоўнае апісаньне, пададзенае ў слонімскую павятовую паліцыю:

«...3. Завод огневой, действующий без сил пара или воды.

4. Здание завода каменное, крытое черепицей, находится на Базарной площади. Главный вход в завод с площади ведет в сени. Из сеней направо – дверь в квартиру арендатора, другая дверь против главного входа – ведет на чердак.

5. Варочное отделение имеет входную дверь из сеней налево. В нем помещаются: медоваренный котел с печью, огревательная печь и 4 бродильных чана.

6. Подвал для хранения и очистки вываренного меда помещается ниже уровня мостовой, под квартирой арендатора...

7. Запасы припасов для варки напитка – мед, хмель и проч. будут помещаться в квартире арендатора, а вода доставляться из ближайшего колодца...»

Далей – болей. Прадпрыемствы пачалі адчыняцца адно за адным. Шлома Маньскі зажадаў наладзіць у Дзярэчыне мылаварную вытворчасьць. Гірш Бэкенштэйн заснаваў уласнае крэдытна-ашчаднае таварыства. Абрам Грынвальд трымаў аптэку. Мойшу Ванштэйну заманулася мець прыватны заводзік, і ён напісаў наступнае хадайніцтва ў губэрнзкую ўправу: «Руководствуясь 67 ст. т. XI ч. 2 Уст. о промышленности, я желаю устроить в своем собственном помещении... чесально-прядильный и ткальный завод, на котором будет находится ткальных для выделки сукна низшего сорта от двух до трех станков, чесальных и прядильных по одному. Чесальный станок будет приводится в действие силою одной лошади, другие же – ручные, без вся-

kих других приспособлений, kak, например, действием пара или воды...»

Пэўныя моўныя асаблівасьці дакумэнту тлумачацца тым, што Мойша Ванштэйн пісаў хадайніцтва ўласнаручна, без дапамогі валаснога пісара, які ахвотна адгукаўся на падобныя просьбы за колькікапеечную плату.

Захапіўшыся апісаньнем дзярэчынскіх храмаў, школьніцтва ды ткальна-часальнае прамысловасьці, мы ледзь ня выпусьцілі з-пад увагі чарговае паўстаньне, якое адбылося ў 1863 годзе. Праўда, упершыню Каліноўскі зьявіўся на Слонімшчыне яшчэ ў... 1615 годзе. Так, адзін з летапісаў паведамляў, што на жыхароў павету наганяў пострах казацкі атрад Каліноўскага: «Жалнеры и казаки Слонимски павет воевали и в Слониме на посаде за рекой многие дворы пожгли, и на них де прыходили мешчане и их многих побили и живых поймали человек з 70, а в воду посаживали, а иных вешали...»

Такі незайздросны лёс чакаў прышлых казацкіх разбойнікаў, ачоленых фамільянтам нацыянальнага героя Беларусі.

Апошнім часам у нашай краіне невядома адкуль пачалі зьяўляцца казацкія арганізацыі, якія без затрымак рэгіструе міністэрства юстыцыі. І мне прыгадваецца, як у 1995 годзе ў Белгарадзе на сьвяце славянскага пісьменства драматургу Алесю Петрашкевічу і аўтару гэтых радкоў было прапанавана стварыць казацкую структуру на Беларусі. Алесь Лявонавіч, відаць, зь цікавасьці да магчымага сюжэту, а ■ проста ад працяглага біцьця бібікаў выказалі пажаданьне азнаёміцца з статутам і мэтамі казацкае вольніцы. У той жа вечар да нас у гасьцініцу нанёс візыт галоўны ачольнік усіх расейскіх казакоў атаман Камшылаў з шматлікай сьвітай. Адзін пад'есаул зараз жа адчыніў дыплямат з дакумэнтамі, другі выставіў на стол батарэю пляшак з шматкаляровымі налепкамі, ад якіх у мяне пачало рабацець у вачах... Помню толькі, што Алесь Лявонавіч рубам ставіў пытаньне пра змаганьне патэнцыйных беларускіх

казакоў за адраджэньне Беларусі ў межах Вялікага Княства Літоўскага, [redacted] яму асалавела падтакваў, а атаман Камшылаў паныла церабіў срэбны аксэльбант на мундзіры...

Мы тады і ўявіць сабе не маглі, што ўсяго праз чатыры гады кіраваньня прэзыдэнта Лукашэнкі па некаторых гарадах Беларусі будуць маршаваць казацкія аддзьдзелы. А нядаўна, блукаючы па старых дзярэчынскіх могілках, [redacted] напаткаў пахілены помнік з надпісам: «Здесь погребено тело Николая Петровича Авдеева, есаула Войска Донского, умершего 7 марта 1870 года на 48 году от рождения. Блажен Его же избрал и приял еси Господи».

Так што на Беларусі насамрэч ёсьць месца сапраўднай казацкай прысутнасьці. І месца гэтае – дзярэчынскія могілкі.

Але мы адхіліліся ад асноўнай тэмы.

На жаль, зьвестак пра ўзброены ўдзел дзярэчынцаў у паўстаньні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага аўтару гэтых радкоў адшукаць не ўдалося. Але ёсьць пэўныя сьведчаньні, што кіраўнік нацыянальна-вызвольнага руху выяўляў цікавасьць да дзярэчынскіх ваколіцаў.

У 1862 годзе слонімскі прыстаў Л. Агацін даносіў губэрнзкаму начальству, што па тракце Слонім–Ваўкавыск (праходзіць за нейкіх дзесяць кілямэтраў ад Дзярэчына) праяжджаў невядомы і раскідваў аркушы паперы з надрукаваным тэкстам. Непісьменныя сяляне вёскі Шайнякі Марцін Мікуцін, Антон Агіевіч і Міхал Лукашэвіч, ня ведаючы, што гэта «Мужыцкая праўда», а не «паліцэйская», зьвярнуліся да вышэйпамянёнага прыстава. Ён прачытаў і запатрабаваў ад сялян падрабязнасьцяў. Тыя спалохана прыгадалі прыкметы незнаёмца: росту сярэдняга, чорнавалосы, вусаты, гадоў каля 35, праехаў па шашы 7 кастрычніка а пятай гадзіне... Прыстаў зьвярнуўся на бліжэйшую паштовую станцыю і высьветліў, што ў азначаны час па тракце з падарожнай за нумарам 16 668 праехаў «некто дворянин Викентий Калиновский».

Тры шасьцёркі на падарожным дакумэнце засьведчылі, што цёмныя сілы пачалі перасьлед Кастуся Каліноўскага...

У адзін год з Кастусём Каліноўскім адышоў у лепшы сьвет знаёмы ўжо нам мэмуарыст Лявон Патоцкі. І на пліце на віленскіх Лукішках, і на помніку на каталіцкіх могілках у Рызе, дзе ён пахаваны, адна і тая апошняя дата – 1864. Маці Лявона Патоцкага, Юзэфа з Тышкевічаў, знайшла апошні прытулак на сьвіслацкіх могілках, і сын штогод прыяжджаў пакланіцца яе праху. У 1858 годзе ён па дарозе зь Сьвіслачы завітаў у Дзярэчын і пакінуў нам шчымліва-паэтычнае апісаньне дзярэчынскага палацу, дзе колісь у маладосьці бавіў вечары з Францішкам Сапегам: «Што ўяўляе палац сёньня? Пустэча з абдзёртым дахам, з павыбіванымі вокнамі, па якой сьвішча вецер, з муроў якой ападае цагліна за цаглінай, падобная на ўдаву, пакінутую без пажыцьцёвай пэнсіі, на пакінутую сірату, падобная на магільны курган, які месьціць у сабе жменю попелу і сьлязьніцу як доказ, што сьлёзы над магілаю ліліся, а ўсёператвараецца ў прах!

Па тых пакоях, дзе яшчэ нядаўна было так шумна, весела, сёньня, як толькі праб'е поўнач, праходжваецца толькі княгіня Палубінская. Злачынства прыкавала яе да гэтых мясьцінаў, няскончаная пакута стрымлівае...»

Прыгадаем з смуткам усіх добрых людзей, што сталіся чыньнікамі дзярэчынскай гісторыі ў дзевятнаццатым стагодзьдзі, й пераступім парог стагодзьдзя дваццатага.

Як выглядаў Дзярэчын сто гадоў таму? На кірмашовую плошчу выходзілі чатыры вуліцы – Слонімская, Зэльвенская, Каменская й Палацавая. Па ўсходняй частцы мястэчка паралельна апошняй цягнулася Новая вуліца, якая пасьля перасячэньня са Слонімскай пераходзіла ў вуліцу Са́віцкую (не ў Савецкую, што пасьля 1939 года мусіла быць у кожным заходнебеларускім мястэчку). Працягам Зэльвенскай вуліцы пасьля павароту яе на Валькевіцкія горы і далей на Зэль-

ву зьяўлялася вуліца Ружанская, што скіроўвалася да Целякоўшчыны (назва лесу) праз частку мястэчка, менаваную Грудком. Плошча й цэнтральныя вуліцы былі акуратна забрукаваныя. Аўтар гэтых радкоў яшчэ пасьпеў з мамай за руку прайсьціся па дзярэчынскіх брукаванках. Я тады акурат прачытаў ілюстраваную кнігу пра розных афрыканскіх зьвяроў, і мне брук нагадваў тысячы ўтаптаных у зямлю чарапахаў. Потым бедныя чарапахі з майго дзіцячага ўяўленьня трапілі ў вечны палон пад асфальт... Дзярэчынскія брукаванкі ня толькі выслухоўвалі цокат падковаў і тарахценьне колаў. Яны натхнілі на стварэньне верша паэта, які хітра замаскаваў сваё прозьвішча ў адным з радкоў:

Дзярэчыне, Дзярэчын –
звычайны кут і гук.
Як *голуб* на парэнчы,
буркуе дбайны брук.

Празь мястэчка працякае маленькая рачулка Сіпа, у якой жанчыны мыюць бялізну, замочваюць аўчыны і воўну. Рэчышча яе настолькі пакручастае, што здаецца – выбегчы за мястэчка Сіпе ня хопіць сілаў. А тут яшчэ адкіды местачковага гарбарнага завода... Увогуле, з вадой дзярэчынцам не пашанцавала – у бальшыні калодзежаў яна непрыемная на смак, дыхціць вапнай. А таму многія не лянуюцца прынесьці вядро-другое смачнейшай зь дзьвюх крыніцаў, што знаходзяцца ў заходняй частцы мястэчка – Александрыі.

На пачатку стагодзьдзя ў Дзярэчыне месьціліся: валасная і мяшчанская ўправы, народная дзьвюхклясавая вучэльня, прыватная школа, прыймовы лекарскі пакой, сельская аптэка, аптэкарская крама, пошта, дзьве казённыя вінныя крамы, чайная камітэта народнай цьвярозасьці, гарбарня і медаварны завод, царква, сынагога ды некалькі яўрэйскіх малітоўных дамоў, разьніца, яўрэйская лазьня, пажарнае таварыства Івана Батракова. Забягаючы наперад, скажам, што дзярэчынскія пажарнікі

зь вялікай адказнасьцю ставіліся да выкананьня сваіх прафэсыйных абавязкаў. Па ўсім мястэчку былі выкапаныя глыбокія падземныя вадасховішчы. Адно зь іх, разьмешчанае пры Зэльвенскай вуліцы, зьбераглося да нашых дзён. Калі мы сёлетняй вясной адкапалі й прыўзьнялі масыўнае жалезнае века, нашым вачам адкрылася сапраўдная бэтонавая вязьніца, дзе дзясяткі гадоў нудзіцца ў няволі вада. Каб вымераць памеры вадасховішча, прыйшлося сточваць дзьве доўгія жэрдкі. Вады ў ім было – на дваццаць сучасных пажарных аўтамабіляў... Падрамантаваныя ў 1892 годзе былыя княскі палац і дамініканскі кляштар служылі казармамі аднаму з батальёнаў 117-га пяхотнага Яраслаўскага палка. У мястэчку стала знаходзіліся: прыстаў 3-га стану, паліцэйскі ўраднік, акцызны кантралёр, памочнік лясьнічага, лекар і ўчастковы сельскі фэльчар.

Нягледзячы на наяўнасьць у мястэчку адукацыйных установаў, асьвета пакуль што ня вельмі каб ахапіла дзярэчынцаў. З прыкладна дзьвюх тысячаў васьмісот жыхароў пісьменнымі лічаць сябе трохі больш за дзьвесьце.

З пэрыядычных выданьняў да Дзярэчына даходзяць «Gazeta Swiąteczna», «Tygodnik Lekarski», «Rocznik Gospodarstwa Krajowego», «Биржевые ведомости», «Сельский вестник», «Гацэфіра» і нават «Magazyn Mód». Пра знаёмства дзярэчынцаў з апошнім сьведчыць і адзін з сучасьнікаў: «Деречинские мещане ставят себя гораздо выше сельчан, от которых стараются разниться во многих отношениях, не исключая костюмов. Это особенно относится к парням и девицам, щеголяющим платьями, сшитыми по современной моде из хорошей материи».

У сьвяты праваслаўны люд ахвотна наведвае царкву. Мясцовы сьвятар айцец Іосіф ужо каторы год жаліцца эпархіяльнаму начальству на малазьмяшчальнасьць храма і настойвае пабудаваць яшчэ адзін, але просіць, крый Божа, не дзяліць дзярэчынскага прыходу. На аргумэнтацыю сваёй просьбы айцец Іосіф мабілізуе ўсю сваю сэмінарскую адукацыю і выказваецца

надзвычай велягурыста: «По моему мнению, двуклирность в приходе – есть дуализм, заключающий в себе логическое противоречие и несостоятельный с практической точки зрения». Зрэшты, спахапіўшыся, ператлумачвае свой мудрагелісты сылягізм зразумелай усім фармулёўкай – «где много нянек, там дитя без носа...» Але просьбы айца Іосіфа застануцца не задаволенымі, і дзярэчынцы будуць вымушаныя на вялікодную ўсяночную ды іншыя сьвяточныя службы выбірацца загадзя, каб заняць зручнае месца ў царкве. А то, калі яшчэ камандзеры прыгоняць паўтары сотні салдатаў, – не даступішся й сьвечку паставіць.

У сьвяты Дзярэчын ператвараўся ў сапраўдную праваслаўную Мэку. Сотні й сотні людзей ехалі на вазох ды йшлі пешкі з усяго абшару вялізнага дзярэчынскага прыходу – з Алексічаў, Букштава, Катчыны, Вялікіх і Малых Азёрак, Тамашоў, Лабзова, Савічаў, Грабава, Залацеева, Крывічаў, Нацкава, Ланцавічаў, Вайнілаўцаў (цяперашніх Ванілавічаў), Монькавічаў, Родзішкаў, Мілявічаў, Дараглянаў, Валькевічаў, Старавесі (зыначанай на Старое Сяло), Нябайкаў, Паляжына, Мяхоўска, Крупава, Лозаў, Саколкі, Цагельні. У некаторых з гэтых паселішчаў колькасьць вернікаў удвая перавышала колькасьць адзінаверцаў у мястэчку (напрыклад, у Дараглянах іх было 809, а ў Залацееве ажно 1254), але людзі павінны былі, часам за восем–дзесяць вёрстаў, дабірацца да адзінай на ўсю ваколіцу дзярэчынскай царквы.

На ўсе царкоўныя паслугі існуе адмысловы каштарыс. Вы задумалі пабрацца шлюбам? Калі ласка, за 3 рублі сьвятар тройчы абвядзе закаханую пару вакол аналою і скалане паветра магутным басам: «Честию и славою – венчай я!» Праз год ці два вашага першынца пахрысьцяць усяго за 30 капеек. Замовіць малебен каштуе 50, літыю – 20 капеек. Часам з просьбы вернікаў наладжваюцца хросныя хады ў вёсках – ад эпідэміяў ці вакол поля – дзеля лепшай урадлівасьці. Пасьля гэтага людзі мусяць скідвацца па 10–15 капеек і ахвяраваць царкве невялікі

адрэз палатна ад кожнага дворышча. Калі ж вы, барані Бог, задумалі памерці й хочаце, каб вас пасьля адпяваньня ў апошні шлях да самых могілкаў праводзіў сьвятар, – загадзя падрыхтуйце два з паловаю рублі. З гэтае сумы рубель застанецца яшчэ на паніхіду, і праз сорак дзён родныя бязь лішніх клопатаў паставяць за ваш вечны спакой сьлязьлівую сьвечку.

У Дзярэчыне жыве майстравіты люд, а таму вам няцяжка будзе зрабіць добры плуг ці падкаваць каня, скласьці печ ці змураваць хату, паднавіць колы ці нават зрабіць новы воз, на якім ня сорамна паехаць на вялікі кірмаш у Слонім. Жыхар вёскі Паляжын Мікалай Скок задумаў збудаваць сьвіран з часанага каменьня – у Дзярэчыне адразу знайшоўся й каменячос.

Не бракуе ў мястэчку і рамесьнікаў-габрэяў. За адпаведную плату вам пашыюць сукенку ці нагавіцы, шыкоўную блюзку ці фацэтны сурдут. Ёсьць у мястэчку свае ганчары, меднікі й нават ювэліры.

Жыве ў Дзярэчыне й некалькі татарскіх сем'яў. Яны вядуць спакойны лад жыцьця, пасьпяхова займаюцца гародніцтвам і ціха мараць пабудаваць у мястэчку невялікую мячэць.

Штотыдня ў Дзярэчыне адбываюцца дробнатаварныя кірмашы, на якія зьбіраецца ня толькі ваколічны люд, але й прыяжджаюць сяляне «з-за ракі», гэта значыць, ажно з суседняй Віленскай губэрні, зь Лідзкага павету, прывозяць разнастайны драўляны посуд.

Дабрабыту мястэчка спрыяюць і заснаваныя ў 1901 годзе вялікія кірмашы, якія праводзяцца шэсьць разоў на год – 7 студзеня, 9 сакавіка, 11 траўня, 8 чэрвеня, 5 верасня й 15 лістапада. На іх можна купіць практычна ўсё неабходнае для мястэчковага жыцьця, пачынаючы ад каровы і канчаючы каралямі. Маслабойшчыкі з навакольных маёнткаў, ня збыўшы на кірмашы ўсяго сыру і масла, наймаюць балаголаў і вывозяць прадукты сваёй вытворчасьці ажно ў Беласток, а часам і ў Варшаву. Аднак шасьціразовыя кірмашы ня могуць задаволіць усіх

патрэбаў мясцовага насельніцтва ў куплі-продажы, і ў 1912 годзе віцэ-губэрнатар дазволіць правядзеньне ў Дзярэчыне штомесячных – 20-га дня кожнага месяца.

Культурнае жыцьцё мястэчка даволі аднастайнае й складаецца з выпадковых заездаў якіх-небудзь вандроўных артыстаў. Праўда, часам вайскоўцы наладжваюць спэктаклі й арганізоўваюць танцы пад батальённы аркестр. Але палацавым мурам, якія калісьці чулі опэрных сьпевакоў, ажно няёмка слухаць жаласныя «рамансы», у якіх распавядаецца пра Марусю, што «от счастья слёзы льёт», альбо пра Надзечку, якая даверылася заежджаму прыгажуну ў пагонах:

*Ой вы, дзевачкі беларускія,*
*Не ўлюбляйцесь ў ваенных рабят,*
*Бо ваенныя – ўсе жанатыя,*
*Ў заблужджэньне прыводзяць дзяўчат.*

Перад танцамі дзецюкі для сьмеласьці забягалі ў вінныя крамкі. Чым жа яны ўзьнімалі свой жыцьцёвы тонус? Дамо слова сучасьніку: «Деречинец пьет водку, мёд, лимонад, «американский» квас и нечто вроде пива (настой, точно, коры, с примесью горечи – кукольвана или хины), но назвать его пьяницей нельзя. По крайней мере не приходилось встретить его на улице пьяным или валяющимся».

Пасьля таго як у другой палове дзевятнаццатага стагодзьдзя праз Зэльву была пракладзеная чыгунка, дзярэчынцы ўсё часьцей пачалі пазіраць у бок суседняга мястэчка. Усё ж жалезная каляіна несла з сабой дасягненьні сучаснай цывілізацыі, па ёй можна было хутчэй дабрацца да Варшавы ці Пецярбургу. А таму, не жадаючы пакідаць Дзярэчын на ўзбоччы, адмысловы губэрнзкі распарадчы камітэт 31 траўня 1913 года прымае пастанову пра будаўніцтва шашы Дзярэчын–Зэльва. Неўзабаве быў знойдзены й падрадчык – ім стаў пецярбургскі купец 1-й гільдыі Сімха Сталавіцкі. Каштарыс на будаўніцтва склаў

117 470 рублёў 8 капеек, зь іх прадпрымальны купец меўся атрымаць 95 053 рублі. Праца толькі распачалася, як грымнула Першая сусьветная вайна. Невядома, колькі грошай пасьпеў атрымаць Сімха Сталавіцкі й дзе ён потым падзеўся, але шаша паміж двума мястэчкамі была пабудаваная толькі на пачатку 30-х гадоў пры падтрымцы польскай адміністрацыі. І пабудаваная надзейна – за чатырнаццаць пяцігодак яе не змаглі разьбіць ні калгасныя трактары, ні вялікагрузныя аўтамабілі. Брукаванку схавалі пад асфальт толькі летась, сьпілаваўшы ўсе прыдарожныя дрэвы й падраўняўшы пагоркі. Кожны раз, едучы праз Зэльву дамоў, я прыгадваю яе, ранейшую, зь вялізнымі таполямі наўзбоч, з славутымі Валькевіцкімі горкамі, на якіх матацыкл ледзь не адрываўся ад зямлі, кіроўцу, гэта значыць мне, займала дух, а дзяўчаты за сьпіной пачыналі пішчаць і прыціскацца шчыльней...

У 1915 годзе Зэльва зраўнялася зь Дзярэчынам па колькасьці насельніцтва – у абодвух мястэчках было прыблізна па дзьве з паловаю тысячы жыхароў. Дзярэчынцы свае болькі несьлі лекару Вацлаву Навіцкаму, свае лісты й тэлеграмы – на пошту, якой загадваў тытуляваны саветнік Вячаслаў Бялецкі. Лесу на хату ці на дровы мог выпісаць Б. Максімаў, з дазволу начальніка лясьніцтва Дваракоўскага, які таксама стала жыў у Дзярэчыне. Мяшчанскую ўправу ўзначальваў А. Сінькевіч, у валасной – старшыняваў Ф. Сончык (а да Дзярэчынскай воласьці належалі дваццаць дзевяць паселішчаў).

Тым часам прамысловых прадпрыемстваў, дробных прадпрымальнікаў і гандляроў у мястэчку прыбывае. У рэвізскім сшытку за 1915 год іх налічваецца ажно дваццаць чатыры. Апрача прыгаданага ўжо медаварнага зьявіўся гарбарны завод (уладальнік – Зэльман Беластоцкі), на Кірмашнай плошчы гасьцінна расчынілі свае дзьверы дзьве карчмы й заезны двор (у першай карчме меў гэшэфт Эля Абрамовіч, другой і заезным дваром – своеасаблівым «гасьцінічным комплексам» – за-

гадвала сямейства Бэкенштэйнаў). Уся Кірмашная плошча як бы знаходзілася ў аблозе габрэйскіх крамаў. Абышоўшы яе па пэрымэтры, можна было наведацца ў дзьве бакалейна-галянтарэйныя крамы Айзіка Гальперына і Сьціркі Астрынскай, у краму мануфактурных тавараў Рубіна Бардаха. Лейзэр Вульфовіч тут жа скупляў зерне на перапродаж, Хана Ванштэйнава гандлявала дробнапрамысловымі таварамі, а Лейзэр Альпэрт трымаў краму па продажы лекаў і аптэкарскага начыньня (гэта пры тым, што ўласную аптэку меў на Палацавай вуліцы Абрам Грынвальд – навідавоку пачатак канкурэнцыі й у такой малаасвоенай галіне, як гандаль фармацэўтычнымі таварамі). Ганчарныя вырабы настойліва прапаноўваў пакупнікам Дышка Айзіковіч, пладовае й ягаднае віно прадаваў Орэль Дайхоўскі. На скураных абрэзках, тытуні й дробнай галянтарэі рабіла свой бізнэс Хая Бэркавічава. На Новай і Кірмашнай вуліцах адчынілі свае крамы Ёсель Гранеўскі, Абрам Грачук, Янкель Брукэр і Ганедля Блізьнянская... Трымальнікі крамаў мелі ад дзьвюх да дзесяці тысячаў рублёў гадавога звароту і, напэўна, не сумавалі падчас шабасу...

Спынімся на Кірмашнай плошчы й папросім прабачэньня ў цярплівага чытача, які згадзіўся на дзярэчынскія вандроўкі, ужо вымушана пабываў і ва ўкраінскіх Карпатах, і ў французкім замку Мантрэсо, і ў расейскім Белгарадзе... Наступная старонка нашага дыярыюша таксама выведзе нас далёка за дзярэчынскія ваколіцы.

Як мы ўжо ня раз згадвалі й прыводзілі гістарычныя сьведчаньні, у княскім родзе Сапегаў было нямала выбітных асобаў, што марылі пра незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны. 25 сакавіка 1918 года гэтая мара ўвідочнілася пасьля абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Пачалі зьяўляцца дзяржаўныя ўстановы, ішла праца над стварэньнем беларускага войска. Не маглі застацца ўбаку й нацыяналь-

на сьвядомыя прадпрымальнікі. У Менску сярод іншых была зарэгістраваная арганізацыя з надзвычай шырокім абсягам дзейнасьці. У статуце арганізацыі значылася, што яна будзе займацца «ўзаемавыгодным супрацоўніцтвам беларуска-літоўскіх банкаў і банкіраў, фабрыкаў, заводаў, прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў усіх відаў дзеля ўмацаваньня гандлю, прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, параходзтва, нагляду і ўліку гаспадарчых сувязяў і камэрцыйных інтарэсаў паміж заможжам і Беларусьсю-Літвой». Арганізацыя дзейнічала як супольны беларуска-літоўскі картэль і мела інтрыгоўную назву «Сындыкат Сапегі для Эўропы і Азіі на Беларусі». Заснавальнікам картэлю быў Станіслаў Леў Сапега-Ваявода, паводле адукацыі інжынэр-лётчык. Пасьля захопу Менска немцамі, ■ потым палякамі сындыкат вымушаны быў згарнуць сваю дзейнасьць на Беларусі. Затое пачынае актыўную работу яго бэрлінская кантора, якую ачоліў былы капітан царскай арміі й будучы слуцкі паўстанец Антон Борык. Сындыкат у 1919–1920 гадох меў уласных прадстаўнікоў у розных краінах і нават частках сьвету. Антон Борык насіў у кішэні пячатку з «Пагоняй», на працу стараўся запрашаць толькі сьвядомых беларусаў, якіх лёс закінуў у Бэрлін, і падтрымліваў шчыльныя сувязі з дыпляматычнай місіяй БНР у Нямеччыне. Бэрлінская кантора сындыкату падзялялася на фінансавы, прамысловы й гандлёвы аддзьдзелы й мела інфармацыйнае бюро. Апошняе кансультавала кліентаў у юрыдычных, тэхнічных, камэрцыйных пытаньнях, магло дапамагчы арганізаваць рэвізыю, гандлёвую экспэртызу, падшукаць прыватнага дэтэктыва.

За штодзённай мітусьнёй супрацоўнікі сындыкату не забываліся й пра духовыя каштоўнасьці. 4 сакавіка 1920 года з падказкі свайго шэфа Антон Борык напісаў у лісьце да рэдактара менскай газэты «Беларусь» Язэпа Лёсіка: «Ня маючы добрых вестак аб беларускім руху, ці, іначай, аб адраджэньні дарагой нашай Бацькаўшчыны-Беларусі, і ідучы насустрач шырэнь-

ню беларускай літаратуры за граніцай, мы, рабочыя-беларусы Бэрлінскай канторы «Сындыкату Сапегі для Эўропы і Азіі», як верныя і шчырыя сыны Бацькаўшчыны, просім не адмовіць у сталай прысылцы да нашай канторы па некалькі экзэмпляраў паважанай намі газэты «Беларусь», кошт за каторую просім указаць... Рабочыя канторы і сама кантора асыгнавалі каля 3000 марак (германскіх) на беларускія школьныя прыюты, дзе адукуюцца дзеці бедных грамадзян-беларусаў...»

На жаль, далейшая чыннасьць А. Борыка і ягонага прадпрымальнага шэфа ахутаная туманам невядомасьці. Хто ж ён быў, заснавальнік сындыкату, што падпісаў сябру-паплечніку ўласны фотаздымак: «На добрую і доўгую памятку дружбы Антону Борыку ад Станіслава Льва князя Сапегі. Бэрлін у Нямеччыні. Студзеня 7 дня 1920 г.»? Ці сапраўды належаў ён да княскага роду? Мусім прызнацца, што на радаводным дрэве Сапегаў, падрабязна апісаным польскімі дасьледнікамі, такога атожылка няма. Але ці ўсё ўлічылі шаноўныя прафэсары з Варшавы? У дынастычных магнацкіх родаў заўсёды існавала гэткая далікатная праблема, як пазашлюбныя дзеці.

Зрэшты, ва ўсе часы знаходзіліся аматары абвесьціць сябе нашчадкамі славутых фамілияў. Ужо ў наш час зь вёскі Малая Угрынь, што за нейкіх тры кіляметры ад Дзярэчына, вымкнуў у сьвет Валера Л., які ў юнацтве друкаваў у зэльвенскай раёнцы чужыя вершы пад сваім прозьвішчам, и ў сталасьці стаў Вадзімам Радзівілам і займеў дзіўнае хобі – падаваць у менскія суды зыскі на лідэра Беларускага Народнага Фронту Зянона Пазьняка.

Паўзіраемся ў аблічча заснавальніка сындыкату. Яно, вядома, і блізка ня мае мужных і валявых рысаў канцлера й гэтмана ВКЛ, чыім імем было гэтак зручна падпісвацца на розных камэрцыйных дакумэнтах. Нейкае далёкае падабенства можна пры жаданьні ўбачыць, сузіраючы партрэт Аляксандра Міхала Сапегі – такая самая круглявасьць і мілавіднасьць твару, высокі

лоб. Францішак – зусім інакшы тыпаж, ён абсалютна не падобны на свайго бацьку. Паўстанец Яўстах Каятан візуальна таксама не падыходзіць у прадзеды знаходліваму прадпрымальніку.

Магчыма, сындыкат і сапраўды быў створаны авантурыстам, які вырашыў дзеля поспеху справы скарыстаць гучнае прозьвішча. Магчыма, у Станіслава і былі нейкія падставы называць сябе князем (напэўна, Францішак Сапега, якога, як мы памятаем, сучасьнікі называлі Казановай Белай Русі, такіх падставаў пакінуў нямала па ўсёй Эўропе). А можа, гэта проста адна зь легендаў, якімі, паводле У. Караткевіча, чалавек павінен абрастаць, як карабель ракавінкамі.

Але паступова легендарныя часы ўсё далей застаюцца ззаду, і мы апынаемся ў эпосе, сьведкі якой адначасова зьяўляюцца й нашымі сучасьнікамі. Памятаю, як дзесяціклясьнікам я адведаў у вёсцы Вострава свайго далёкага сваяка, старога беларускага дзеяча Серафіма Татарына. На жаль, легкадумна паспадзяваўшыся на памяць, я нічога прынцыпова не запісваў. А васьмідзесяцігадовы, ужо зусім нямоглы дзед апавядаў тады, увесну 1984 года, пра многія цікавыя выпадкі з свайго жыцьця. Як ён у 1926 годзе перасылаў грошы на падтрымку дзіцячага часопіса «Заранка», што выдавала ў Вільні Зоська Верас. Як спрабаваў арганізаваць у Дзярэчыне гурток Таварыства Беларускай Школы. Як быў інструктарам Грамады на тры воласьці: Дзярэчынскую, Старавескую і Курылавіцкую. Як потым быў прызначаны сакратаром Дзярэчынскага падрайкама КПЗБ, а пасьля верасьня 1939 года абраны першым старшынёй Дзярэчынскага валаснога сялянскага камітэту. Прыгадваў стары падпольшчык польскія й савецкія турмы, дзе давялося адпакутаваць доўгіх 9 гадоў. Гэта ад Серафіма Татарына ■ ўпершыню пачуў, што ў Дзярэчыне нарадзіўся гісторык Ліпінскі.

Захацеўшы потым спраўдзіць інфармацыю пра земляка, я перагартаў усе беларускія энцыкляпэдыі й не знайшоў ні радка пра такога гісторыка. А ён, безумоўна, варты памяці нашчадкаў.

Цімафей Ліпінскі нарадзіўся ў 1797 годзе ў Дзярэчыне і ў пятнаццацігадовым узросьце выехаў у Варшаву, дзе з дапамогай дзядзькі паступіў на вучобу ў адзін з тамтэйшых ліцэяў. Пасьля сканчэньня Варшаўскага ўнівэрсытэта выкладаў у політэхнічным інстытуце (быў зачынены пасьля паразы паўстаньня 1830–31 гадоў). З 1833 года і да выхаду на пэнсыю ў 1851-м быў настаўнікам гісторыі, геаграфіі ды польскай мовы ў розных варшаўскіх школах. Апрача выкладаных прадметаў цікавіўся біяграфістыкай і нумізматыкай. Меў незвычайную памяць. Пры жыцьці выдаў чатырохтомавую «Старажытную Польшчу» (1846, у суаўтарстве з М. Балінскім; у чацьвёртым томе на с. 562 знаходзім артыкул пра Дзярэчын), «Апісаньне Радамскага павету» (выпраўлены і дапоўнены рукапіс ксяндза Ф. Сярчынскага, 1847), «Гістарычныя і нумізматычныя зьвесткі пра каранацыю абразоў Маткі Боскай у даўнейшай Польшчы» (1850). Пасьля сьмерці гісторыка яго сястра Кацярына Лявоцкая перадала ў адну з варшаўскіх бібліятэк шматлікія братавы манускрыпты, сярод якіх «Жыцьцяпісы выдатных польскіх дзеячоў 18 стагодзьдзя» і «Слоўнік прыказак, прымавак і крылатых выразаў польскай мовы», якія складаўся з дваццаці шасьці сшыткаў.

У 1932 годзе ў Дзярэчын на службу прыехаў дваццацідзевяцігадовы мэтадыст эвангэлічнай царквы Ян Пятроўскі. Наняўшы кватэру ў местачкоўца Гурыноўскага, ён энэргічна ўзяўся за працу. Такім чынам, Божае слова гучала ў Дзярэчыне з вуснаў ксяндза Пачабыта, праваслаўнага сьвятара і прапаведнікаэвангэліста. Варта дадаць, што ў той час у Дзярэчыне існавала ажно шэсьць сынагогаў.

Яшчэ нядаўна жыў у мястэчку Пятро Холад, які ў 30-я гады, нягледзячы на значную розьніцу ва ўзросьце, сябраваў зь Янам Пятроўскім. Паводле ягоных успамінаў, гаспадар Ян (а прапаведнік падкрэсьлена прасіў ужываць менавіта гэткую форму звароту) з усімі местачкоўцамі стараўся размаўляць толькі па-беларуску. У вольную хвіліну выбіраўся ў дзярэчынскія

ваколіцы з эцюднікам, маляваў вельмі прыгожыя пэйзажы. Зімой любіў катацца на лёгкіх фабрычных лыжах. Аднойчы, калі бацька Пятра Холада, шавец, зрабіў і падараваў прапаведніку цёплыя лыжныя чаравікі, той адзьдзячыў нейкай кніжкай пра Дзярэчын на польскай мове. Кніжку ў сям'і Холадаў доўга перахоўвалі за абразамі. На жаль, потым яна згубілася... Дзятва заўсёды зь нецярпеньнем чакала сьвятаў каля навагодняй ялінкі, якія вельмі ўмела арганізоўваў дзядзька Ян.

Якія зьмены адбыліся ў Дзярэчыне да таго часу? Галоўная вуліца ўвечары асьвятлялася электрычнымі ліхтарамі. На плошчы замест многіх дробных лавак зьявілася ўнівэрсальная крама, якою валодаў Хаім Віняцкі. Працаваў млын на нафце. Габрэі-балаголы вазілі пасажыраў на Слонім ці Зэльву. Яны ўтварылі своеасаблівую нацыянальную карпарацыю й, калі дзярэчынец Іван Сончык ды Іван Верабей з Вайнілаўцаў захацелі паспытаць рамізьніцкага хлеба, цалкам спаралізавалі беларускую ініцыятыву.

Ян Пятроўскі ў Дзярэчыне прапаведаваў ня толькі Хрыстовае вучэньне. Ён шукаў падпісчыкаў на беларускія пэрыёдыкі, стварыў у мястэчку суполку Таварыства Беларускай Школы. У прагазэце «Родны край» у рубрыцы «Паштовая скрынка» на працягу ўсяго 1933 года зьмяшчаліся рэдакцыйныя адказы «Гр. Пятроўскаму – Дзярэчын, Слонімскі павет». Прывядзем некалькі зь іх.

«Згодна з Вашым лістом, высылаем часопіс усім пералічаным Вамі падпісчыкам на Ваш адрас. Але было б лепш, калі б зацікаўленыя асобы пацьвердзілі сваё жаданьне... Апакоўка ў нас вельмі старанная, дык «расьцярушваецца», відаць, па дарозе... Ліст Ваш з прозьвішчамі падпісчыкаў атрымалі. Тры экзэмпляры статуту Таварыства высылаем Вам у закрытым пісьме... ТБШ якраз ладзіць шырокую працу па адчыненьні бібліятэкаў. Кніжкі даем дарма. Падайце аб сабе дакладныя зьвесткі, калі маеце самі весьці бібліятэку... Пісьмо Ваша з асьведчаньнем

грамадзяніна Ракевіча атрымалі і зараз жа распачынаем акцыю па залегізаваньні бібліятэкі ў вёсцы Угрын Вяліні...»

Ня ведаў я, перачытаўшы ў школьныя гады амаль усе кнігі угрынскай бібліятэкі, што заснаваў яе ў далёкія 30-я гады слаўны чалавек і шчыры беларус Ян Пятроўскі. У тую бібліятэку я часам наведваўся двойчы на дзень. Па дарозе ў Угрынскую васьмігодку [redacted] так наладоўваў кнігамі свой заплечны партфэль, што намаляваныя на ім «нупачакайныя» воўк з зайцам ледзь ня плакалі ад напругі, калі мне ўдавалася з трэцяга заходу зашпіліць замок. За чатыры-пяць урокаў я прачытваў кнігі пад партай і, вяртаючыся дамоў, заходзіў у бібліятэку зноў. Баючыся, што я закіну ўсю школьную навуку, мама нават хадзіла прасіць бібліятэкарку, каб тая трохі абмяжоўвала свайго самага актыўнага чытача... Заснаваная Янам Пятроўскім бібліятэка дзейнічае й сёньня, і я нават не бяруся вызначыць, колькі чалавек наведала яе за мінулыя амаль сем дзесяцігодзьдзяў.

Прапаведніку ад Бога, энцыкляпэдысту паводле абсягу ведаў, паліглёту Яну Пятроўскаму бракавала ў мястэчку суразмоўцы, зь якім можна было б пагутарыць на разнастайныя тэмы. Часам ён выбіраўся ў Слонім да Гальяша Леўчыка. Яны плавалі ў чоўне па Шчары, аглядалі гістарычныя камяніцы старога горада, вялі бясконцыя размовы пра беларушчыну. 20 красавіка 1936 года Г. Леўчык у лісьце да дзярэчынскага сябра дзяліўся сваім адкрыцьцём: «Знайшоў [redacted] цікавую зацемку па-польску аб Скарыне, аб якой ніхто з нашых і ў Вільні ня ведае. Дык я яе досьпісаў табе і ты можаш падаць яе ў «Сьветачы», як важны довад, што Скарына быў эвангэлікам...» Трэба адзначыць, што як бы Яну Пятроўскаму ні хацелася апынуцца ў адной канфэсыйнай плыні зь беларускім першадрукаром, ён усё ж палічыў неабходным выкласьці свае сумневы пісьменьніку-нашаніўцу.

У 1936 годзе Ян Пятроўскі назаўсёды пакінуў Дзярэчын. Цяпер ён жыве ў ЗША, у невялікім гарадку Гэйнсьвіль, што ў штаце Флярыда. Нягледзячы на паважны век, гаспадар

Пятроўскі да гэтай пары ня страціў надзеі наведацца на Бацькаўшчыну (а нарадзіўся ён ў Слуцку), прасіў слонімскага журналіста і краязнаўцу Сяргея Чыгрына падшукаць у Слоніме прыдатнае памяшканьне для свайго аб'ёмістага архіву й бібліятэкі...

Беластоцкая газэта «Новая дарога» 7 лютага 1943 года паведамляла сваім чытачам, што ў бэрлінскай выдавецкай фірме «Бэрнард і Графэ» выйшаў з друку беларуска-нямецкі й нямецка-беларускі слоўнік на 27 000 словаў, аўтарамі якога зьяўляюцца Я. Пятроўскі, В. Камароўскі і А. Калоша.

Ад таго часу Ян Пятроўскі выдаў каля трох дзясяткаў кніг. Ён зьяўляецца аўтарам унікальнага двухтомавага «Клясычнага грэцка-беларускага слоўніка» (1983), аналягаў якому няма на ўсёй постсавецкай прасторы. Ня страціў сваёй вартасьці й ягоны «Ангельска-беларускі слоўнік», выдадзены ў 1946 годзе ў Лінцы над Дунаем і перавыдадзены ў значна дапрацаваным выглядзе ў 1993-м менскім незалежным выдавецтвам «Тэхналёгія». Я. Пятроўскі першы пераклаў на беларускую мову Плятона, іншую грэцкую клясыку, уклаў трохтомавую анталёгію «Лепшыя думкі чалавека»... Гаспадар Ян разам з жонкай гаспадарыняй Аліцыяй стварылі ў ЗША Беларускі Харытатыўна-адукацыйны фонд Пятроўскіх, якім нямала зроблена для разьвіцьця беларускае культуры ў замежжы.

У аўтара гэтых радкоў стаяць на кніжнай паліцы трохтомавыя «Мэмуары» Яна Пятроўскага. Часам [redacted] бяру ў рукі другі том і адгортваю старонку з загалоўкам «Дзярэчын – малы Вэрсаль»...

ДЗЯРЭЧЫН спрадаўна быў ахутаны паданьнямі й таямніцамі. Дастаткова ўспомніць княгіню Палубінскую, якая некалькі стагодзьдзяў жыла ў дзярэчынскім палацы. А прыгаданы вышэй Серафім Татарын настойваў на йснаваньні ў мястэчку падземнага хода, які вёў у бок Ружа-

наў. Ён нават ведаў чалавека, які адважыўся прайсьці па тым ходзе цэлы кілямэтар...

Таму й ня дзіўна, што ў 1882 годзе ў Дзярэчыне нарадзіўся казачнік. Звалі яго Іван Макей. За жыцьцё зьмяніў ён не адзін занятак, парабкаваў, працаваў у пякарні, выяжджаў на заробкі ў Беласток. На ўсю ваколіцу не было лепшага прыдумшчыка й апавядальніка. Аднойчы студэнты сталічнага ўнівэрсытэта запісалі ад Івана Макея трыццаць казак, адна зь якіх, «Кіёчак», няраз зьмяшчалася ў розных зборніках і нават перакладалася на нямецкую мову. Зь 1904 да 1955-га, апошняга года свайго жыцьця, казачнік жыў у суседняй зь Дзярэчынам вёсцы Алексічы, дзе яго дагэтуль пашанліва прыгадваюць аднавяскоўцы.

22 чэрвеня 1941 года над Дзярэчынам натужна гулі цяжкія бамбавікі люфтвафэ. Некалькі зь іх, нібы баючыся, што не данясуць свайго сьмерцяноснага грузу да прызначанага месца, скінулі на мястэчка пяць авіябомбаў. Пры выбухах утварыліся вялізныя ямы, над якімі немцы праз два месяцы расстрэльвалі габрэяў. Потым дзярэчынцы жылі па нямецкіх пашпартах, Personalausweis, складзеных на дзьвюх – беларускай і нямецкай – мовах, ішлі ў партызаны і ратаваліся ад іх... Але пра гэта ўжо расказана і яшчэ будзе расказана іншымі. Аўтар гэтых радкоў адпачатку меркаваў распавесьці пра іншыя падзеі.

У кожнага народа ёсьць пасыянарныя асобы, якія акумулююць у сабе вызваленую творчую энэргію ды сілкуюць ёю падупалы ў неспрыяльны час народны дух. Такой асобай для беларусаў была й застаецца Ларыса Геніюш. Пасьля вызваленьня з бальшавіцкага лягеру ў 1956 годзе паэтка жыла ў Зэльве. Зь ёю сябраваў мой школьны настаўнік Пятро Мікалаевіч Марціноўскі. Ларыса Геніюш няраз бывала ў ягонай дзярэчынскай хаце, цікавілася старадаўняй гісторыяй мястэчка, а аднойчы папрасіла сфатаграфаваць ёй усё, што

засталося ў Дзярэчыне ад былой велічы. 5 сакавіка 1968 года ў Дзярэчын з Зэльвы прыйшоў ліст, які мне хочацца прывесьці тут з дазволу свайго настаўніка.

«Дарагі сябра Пётра! Учора мы атрымалі Вашага ліста, вельмі ўсьцешыліся, толькі трывожна, што ня лепшае Вам... Прашу прабачэньня, што не адведала Вас у больніцы ў Зэльве. Было ў мяне многа клопату з гасьцямі, ды пасьля ■ паехала ў Менск, калі вярнулася – Вас ужо не было ў Зэльве. Як ідзе лячэньне, якія рэзультаты, ці хутка мы Вас убачым? Белакоза ядуць поедам...

З Караткевічам мы выступалі на настаўніцкай канфэрэнцыі перад выкладчыкамі беларускай мовы. Міла было ў М. Танка, за сталом сядзелі тры Максімы: дзед, сын і ўнук. У мінулую нядзелю былі ў нас Вялюгіны. Яны прыяжджалі да Юркі Голуба на давясёлкі (жаніўся брат). Заехалі да нас, было вельмі цікава. Усё раскажу пры сустрэчы. Трымайцеся, мацуйцеся, каб паправіліся!

Дзякую за добрае слова аб маёй кніжцы («Невадам зь Нёмана». – М. С.)! Яна мае посьпех, нідзе нельга яе дастаць. Ляжыць толькі ў Ваўкавыску. Там няма, відаць, беларусаў...

У Караткевічы я вельмі расчаравалася. Ён дасканала піша, але так ужо п'е, што ня хочацца бачыць, як гіне харошы чалавек і вялікі талент. Я нядаўна бачыла фільм, у якім стары індзеец аддае апошні залаты пясок за чарку гарэлкі, а калі яе наліваюць ягонаму сыну, дык той плаціць за яе, а пасьля з абрыдлівасьцю вылівае на зямлю, як каляніяльную прыманку і спосаб зьняволеньня і згубы свайго народу... Цудоўна!

Летам прыедзе Юра зь сям'ёй, разам паедзем на Нёман ці Шчару, добра?.. Заставайцеся здаровыя! З пашанаю да Вас Ларыса Геніюш».

У кароткім лісьце, як блізкаму сябру, расказана пра ўсё, што ўразіла, што хвалюе, – і пра змаганьне Алеся Белакоза за Гудзевіцкі музэй, і пра танкаўскую дынастыю Максімаў, і пра пакланеньне Уладзімера Караткевіча шкляному богу...

Яны неаднойчы падарожнічалі разам. Пятро Мікалаевіч прыяжджаў у Зэльву на матацыкле, Ларыса Антонаўна сядала ў люльку, і вандроўка пачыналася – Дзярэчын, Гудзевічы, Жлобаўцы, дзе яшчэ захаваліся падмуркі радзіннай хаты паэткі.

У адзін з красавіцкіх дзён 1983 года ў нашай дзявятай клясе не было ўрока літаратуры – настаўнік паехаў на пахаваньне Ларысы Геніюш...

Мы ўжо згадвалі, што дзярэчынскія каталікі атрымалі дазвол на пабудову новага касьцёла ў 1905 годзе. Новапрызначаны пробашч ксёндз Адам Абрамовіч зьбіраў сродкі па ўсёй Гарадзенскай губэрні. Была нават выдадзеная адмысловая паштоўка з выявай касьцёла і тэкстам-просьбай аб дапамозе. Урэшце неабходныя 14 000 рублёў сабралі. У 1910 годзе храм быў належным чынам асьвечаны і дзеіў да 1945 года. Потым яго чакала доўгае, амаль паўвяковае занядбаньне. Велічны, унебаўзьлётны будынак касьцёла стаяў з абадранай страхой, бяз вокан і дзьвярэй, у калена завалены друзам. Мы, школьнікамі, уцёкшы з урокаў, любілі бавіць час пад яго чырвонымі сьценамі. Памятаю, мне доўга стаяла ў вачах танкастанная бярозка, што адчайна ўчапілася ў касьцельны мур на дзесяцімэтровай вышыні. Тады ж [redacted] напісаў верш «Стары касьцёл у Дзярэчыне»:

*...Расчынены сонцу, узьнёслы,*
*відзён з навакольных дарог.*
*Нібыта, сабраўшыся ў космас,*
*зь зямлёй разьвітацца ня змог.*

*А можа, таму не ляцішча,*
*што столькі ўжо летаў, з вайны*
*дзіравая стрэха сьвішча,*
*маўчаць анямела званы.*

*Мо рэха малітваў і крокаў*
*ў агні не згарэла датла...*
*Праз рэбры прастрэленых кроквау*
*струменяцца промні сьвятла.*

*Залечвае ранаў барозны,*
*і цьвіль атрасае наніз,*
*і туліць да вежы бярозку,*
*на свой падсадзіўшы карніз...*

Пятро Мікалаевіч Марціноўскі павёз верш у рэдакцыю зэльвенскай раённай газэты «Праца». Рэдактар М. Кузьняцоў прачытаў і сказаў, што рэлігійнай прапаганды на старонках узначаленага ім выданьня ён не пацерпіць. Так юнаму аўтару ўпершыню давялося сутыкнуцца з савецкай цэнзурай.

У 1989 годзе, падахвочаныя ветрам пераменаў, што нечакана падзьмуў і ў беларускія ветразі, мы зь дзярэчынскімі хлопцамі задумалі стварыць у мястэчку філію Таварыства беларускай мовы. Я зь Менску прывёз цэлы стос неабходных папераў. Установчы сход праводзілі ў касьцёле. Пасьля атрыманьня сяброўскіх пасьведчаньняў ды імправізаванай клятвы ў вернасьці беларушчыне мы яшчэ раз агледзелі занядбаны храм. У адным мейсцы на засьмечанай падлозе заўважылі нейкі незразумелы надпіс. Расчысьцілі сьмецьце і ўбачылі дзьве ўмураваныя ў падлогу пліты. Наступную гадзіну ўсё новастворанае таварыства, пабраўшы шкельцы і трэсачкі, па літары аднаўляла ледзь прыкметныя і зарослыя імхом словы. Тэкст аказаўся на лацінскай мове і нагадваў (наколькі хапала маёй унівэрсытэцкай дасьведчанасьці) надмагільныя надпісы зь якой-небудзь сапегаўскай пахавальні. Месцамі словы не распазнаваліся зусім, пліты былі пакалатыя і вышчарбленыя.

У Менску прачытаць яшчэ адну старонку дзярэчынскай мінуўшчыны мне дапамог вядомы лацініст Алесь Жлутка. Пась-

ля рэканструкцыі ды перакладу тэкст загучаў наступным чынам:

«Казімеру Сапегу,
пану найлепшаму ды найвялікшаму,
паручніку войска Вялікага Княства Літоўскага,
бацьку найлепшаму;

Язэпу Сапегу,
дыяцэзіяльнаму кад'юнтару Віленскага біскупа,
рэфэрэндарыю Вялікага Княства Літоўскага,
роднаму дзядзьку,
дзеля заслужанага ўшанаваньня;

Міхалу Сапегу,
падканцлеру Вялікага Княства Літоўскага,
найлюбімейшаму дзядзьку,
сэрца якога тут ляжыць.

Кавалерам ордэна Белага Арла,
мужам, найбольш аздобленым усялякімі цнотамі,
за Радзіму і Дом свой
князь Аляксандар Сапега,
граф у Чарэі, Высокім, Дзярэчыне,
ваявода полацкі,
польны гэтман Вялікага Княства Літоўскага,
кавалер ордэна Белага Арла і Сьвятога Станіслава,
паставіў гэты помнік у 1772 годзе».

Далейшыя пошукі дапамаглі вызначыць, што першапачаткова пліты знаходзіліся ў старым дамініканскім касьцёле, які, як мы ўжо ведаем, згарэў у 1866 годзе. Потым яны перахоўваліся пад скляпеньнямі занятага расейскімі вайскоўцамі кляштара, і пасьля пабудовы новага касьцёла зноў былі выцягнутыя на сьвет

6 Зак. 1378

Божы. Пажар і неаднаразовыя транспартоўкі не прайшлі для іх бязьсьледна – згубілася абрамленьне, быў адбіты выштукаваны з мармуру гэрб сапегаўскай радзіны, які, у сваю чаргу, складаўся з чатырох гэрбаў: Пагоні, Лілеі, Ліса і Збройнай рукі.

На жаль, падчас адбудовы касьцельнага будынка ў 1991 годзе пліты з эпітафіямі былі пахаваныя пад тоўстым слоем бэтону, трэба думаць, навечна. Праўда, сёньняшні настаяцель дзярэчынскага касьцёла, прыналежны да ордэну марыянаў брат Юзаф, мае намер аднавіць памятныя надпісы на лацінскай і беларускай мовах. Мы зычым яму Божае ўспамогі ў гэтай паважнай справе.

А тым часам нашае падарожжа па бальшаках, гасьцінцах і ледзь прыкметных сьцежках дзярэчынскай мінуўшчыны падыходзіць да свайго заканчэньня. Што ж яшчэ вартае ўвагі цярплівага чытача? Спадарыня Мнемазіна, апякунка памяці, паслужліва расчыняе свой раптуляр і прапануе на разьвітаньне амаль фантастычную гісторыю.

Гады два таму, калі толькі ўзьнікла задума напісаць пра Дзярэчын, дачуліся мы, што недзе ў Афрыцы жыве прамы нашчадак дзярэчынскіх Сапегаў. Праз колькі месяцаў ягонае месцажыхарства канкрэтызавалася: краіна Кенія, горад Найробі. Да гэтага часу галоўны ініцыятар і натхняльнік «дзярэчынскага праекту» Валянцін Дубатоўка здабыў у Варшаве сьвежавыдрукаваную кнігу «Сапегаўскі Дом». На першай старонцы шыкоўнага васьмісотстаронкавага фаліянта пазначана імя складальніка – Яўстах Сапега. Кніга нас уразіла – пад адной вокладкай было паяднана ўсё пра Сапегаў: падрабязныя біяграфіі, апісаньне маёнткаў, фамільныя партрэты, сабраныя з розных галерэяў сьвету. Знайшоў сваё месца ў кнізе і наш родны Дзярэчын.

Прайшоў пэўны час, і ў накрайсьветны горад Найробі, што прыляпіўся да ўсходняга боку афрыканскага мацерыка, паля-

цеў ліст зь сінявокай Беларусі. Мы, як умелі, адрэкамэндаваліся князю й нясьмела, ведаючы пра ягоны паважны век, прапанавалі пашпацыраваць дарогамі продкаў. Карацей кажучы, ажыцьцявіць падарожжа з краіны зебраў і сланоў у краіну буслоў ды зуброў.

Праз тры тыдні, 4 верасьня 1998 года, князь Яўстах Севярын Сапега выйшаў з вагона варшаўскага цягніка на пэрон гарадзенскага вакзала. Як і належыць князю – з грамадкай суправаджальнікаў, сярод якіх была доктар з польскай Акадэміі Навук пані Марыя Каламайская-Саед, адмысловы знаўца польска-беларускіх гістарычных сувязяў. Князь плянаваў наведацца ў Ружаны, Дзярэчын, Бярозу-Картузкую, падрабязьней азнаёміцца з старой Гародняй. Сэрца клікала яго і ў невялікую вёску пад Скідалем, Спушу, дзе 7 жніўня 1916 года князь прыйшоў на сьвет і дзе пражыў зь невялікімі перапынкамі дваццаць тры гады.

Якім жа чынам князь Яўстах Севярын Сапега апынуўся ў Афрыцы? Тут будзе ня лішне яшчэ раз зірнуць на сапегаўскае радаводнае дрэва. Пачнем зь вядомага ўжо нам Аляксандра Міхала, які абсталяваў у Дзярэчыне родавую рэзыдэнцыю. Аляксандар Міхал меў сына Францішка, Францішак быў бацькам Яўстаху-паўстанцу. Апошні даў жыцьцё Яну Паўлу Аляксандру, які пусьціў на сьвет Яўстаха Каятана, бацьку Яўстаха Севярына. Як бачым, легендарны дзярэчынскі Францішак Сапега даводзіцца прапрадзедам Сапегу – грамадзяніну Кэніі. Каб ня зьбіцца з пакручастых жыцьцёвых сьцяжынаў апошняга, варта бліжэй пазнаёміцца з жыцьцяпісам ягонага бацькі.

Яўстах Каятан Сапега нарадзіўся ў 1881 годзе ў Білцы-Шляхецкай паблізу Львова. Пасьля навучаньня ў Цюрыху (Швайцарыя) і шлюбу з Тэрэзай Ізабэлай зь Любамірскіх пэўны час жыў у родавым маёнтку Спуша (цяпер Старая Спуша). Быў у добрых узаемінах зь Юзафам Пілсудзкім, які спачатку паслаў яго на дыпляматычную працу ў Англію, а потым вылучыў на пасаду

міністра замежных справаў Польшчы. Яўстах Каятан меў сваё ўласнае глеðзішча на дзяржаўную палітыку ў адносінах да гэтак званых Крэсаў – спрадвечных беларускіх земляў, што апынуліся ў складзе польскай дзяржавы. А таму пасьля вядомага рыскага замірэньня быў вымушаны пайсьці ў адстаўку. У 1939 годзе быў арыштаваны энкавэдыстамі ў адным з сваіх маёнткаў і прыгавораны на Лубянцы да найвышэйшай меры пакараньня. Але неўзабаве бальшавікі зьлітаваліся й выслалі князя на бераг Белага мора, адкуль ён праз два гады быў вызвалены з дапамогай генэрала Андэрса. З адным з вайсковых адзьдзелаў свайго вызвольніка князь і апынуўся ў Кэніі, дзе праз нейкі час ачоліў афрыканскую філію Польскага Чырвонага Крыжа, што мела сядзібу ў Найробі.

Наўсьлед за бацькам у 1947 годзе падаўся й Яўстах Севярын Сапега, сустрэўшы Другую сусьветную вайну падпаручнікам-уланам і набыўшыся ў нямецкім палоне. У Афрыцы ён доўгі час быў прафэсыйным паляўнічым, што адбірала многа сілы й часу. Але таямнічая гісторыя ўласнага роду не давала спакою – сярод бяскрайніх афрыканскіх саванаў князю часта мроіліся зялёныя айчынныя краявіды.

Як жа арыстакрат і паляўнічы стаў апантаным дасьледнікам? Паслухаем яго самога: «У 1957 годзе наша дзесяцігадовая дачка Тэрэза запыталася неяк у мяне: што гэта за прозьвішча ў нас, яго гэтак цяжка вымаўляць маім школьным сяброўкам – Сапега; і што азначае слова «князь», якое я бачыла на адрасаваных да нас лістах? Аказалася, што ў дадатак да нейкіх агульнавядомых рэчаў я нічога не магу сказаць на гэтую тэму... З тае пары вось ужо амаль пяцьдзясят гадоў я стараюся кожную вольную хвіліну скарыстаць для паглыбленага вывучэньня неабсяжнай тэмы, якую ўмоўна можна акрэсьліць адным словам: Сапегі. Сёньня маю датычную нашага роду вялікую бібліятэку, каля шасьцісот фотарэпрадукцый з партрэтаў сваякоў і некалькі тысяч копіяў артыкулаў, мікрафільмаў і г.д. Няпроста было

зьбіраць гэта ўсё ў Афрыцы, тады намнога менш цывілізаванай, чым цяпер. Бывала, з ранку да вечара нагойсаешся па пустэльні за сланамі альбо зебрамі, ільвамі альбо антылопамі, ляжыш у намёце на раскладанцы і пры цьмяным сьвятле газьніцы гартаеш дасланыя кнігі пра сапегаўскі род – часам сьвежыя выданьні, а часам і сямнаццатага стагодзьдзя...».

Плёнам шматгадовых росшукаў князя сталіся «Паказальнік Сапегаў» – своеасаблівы праваднік па гісторыі роду, і прыгаданы ўжо «Сапегаўскі Дом», які выйшаў тры гады таму ў варшаўскім акадэмічным выдавецтве. Апошняя кніга ў Менску – на вагу золата, на яе палююць беларускія дасьледнікі, як некалі сам князь на антылопаў на берагах возера Вікторыя. «Сапегаўскі Дом» – каштоўная крыніца па гісторыі Вялікага Княства, да якой нам яшчэ шмат разоў вяртацца, каб больш упэўнена пачуваць сябе на скразьняках часу. Прыемна, што й мастацкае аздабленьне кнігі зробленае з улікам гістарычных рэаліяў – з выкарыстаньнем беларускай нацыянальнай сымболікі ды залатасьпеўных узораў слуцкіх паясоў.

Праляцеўшы й праехаўшы сем тысячаў кілямэтраў, князь Яўстах Сапега на беларускай зямлі ня траціў часу на адпачынак. Ён доўга блукаў па велічным і ў руінах Ружанскім палацы, нешта прыгадваючы ды летуценна ўсьміхаючыся. Ён схіліў галаву перад мэмарыяльным знакам свайму прадзеду і цёзку, паўстанцу Яўстаху Сапегу, у дзярэчынскім касьцёле. Ён цікавіўся, як паводле беларускіх законаў можна набыць кавалак зямлі ў Старой Спушы ды пабудаваць невялікі дом, каб было дзе спыняцца падчас наступных прыездаў... Ён шмат дзе пабываў і шмат пабачыў. Я неасьцярожна спытаўся ў князя, ці не хацеў бы ён зьезьдзіць у Нясьвіж? Адказ складаўся з катэгарычнага «не» й сярдзітай філіпікі на адрас Радзівілаў, якія ў час, калі трэба было адбудоўваць сваю дзяржаву, пілі гарэлку ды езьдзілі на мядзьведзях.

Даведаўшыся пра няўдалую пілігрымку на парыжскі Манмартр, князь прыгадаў, як ён гадоў дзесяць таму ўласнаручна паставіў памятны крыж на магіле апошняга ўладара Дзярэчына.

Пагалядзеўшы, як князь падпісвае «дзярэчынскім панам» «Сапегаўскі Дом», адзін з спадарожнікаў заўважыў, што прозьвішча Sapieha паводле правілаў польскай граматыкі мусіць пісацца не праз «h», а праз «g». «Sapiega – гэта ў Варшаве!» – рашуча адказаў князь свайму настойліваму апекуну.

Князь уздымаў кілішак з «Усяславам Чарадзеем» за будучае сонечнае лета на Бацькаўшчыне, жартаваў і размаўляў па просьбе прысутных на кэнійскай мове суахілі. А потым адыходзіў вечаровай Гародняй, і ў прыцемках здавалася, што на ягоную каржакаватую постаць хочуць абаперціся пахіленыя муры Старога Замку...

І няхай гэты ўспамін станецца апошняй старонкай нашага дыярыюша.

*1998–1999 г.,*
*Дзярэчын – Менск – Воўпа*

# ВЕЧНЫЯ БРАМЫ НЯСЬВІЖА

Упершыню [redacted] наведаўся ў Нясьвіж пешкі, як пілігрым. Вясёлай студэнцкай кампаніяй мы высадзіліся з электрычкі на станцыі Гарадзея й за некалькі гадзінаў адолелі пятнаццацікіляметровую адлегласьць да былой рэзыдэнцыі Радзівілаў. Цяжкія заплечнікі й чэрвеньская сьпёка прыкметна-такі пазбавілі нас вандроўніцкага імпэту, але сустрэтыя на паўдарозе застыглыя ў вечных абдымках дуб і сасна, што ўжо дзьвесьце гадоў сымбалізуюць вялікае каханьне, аднавілі яго з новай сілай. Помнік прыроды зрабіў на нас такое магутнае ўзьдзеяньне, што рысу горада мы пераступілі, несучы сваіх спадарожніц на руках.

Роўна праз дзесяць гадоў я ехаў па той самай дарозе ў камфартабэльным аўтобусе на традыцыйны фэстываль камэрнай музыкі «Музы Нясьвіжа», адкрываць які з прычыны непрыезду волатаў слова мусіў я. У галаве пачыналі паціху гучаць паланэзы Агінскага, зь якіх мелася складацца фэстывальная праграма, але вока пільна прыглядалася да прыдарожных краявідаў. Вунь хутар, на якім мы папаўнялі запасы пітной вады. Вокны забітыя дошкамі, панадворак зарос ярка-зялёнай травой. Вунь яловы лясок, у якім мы тады бясстрашна спыніліся на начлег, вырашыўшы праверыць на ўласным досьведзе слушнасьць народнай прыказкі, якая катэгарычна сьцьвярджала, што яловы лес прыдатны толькі для прадаваньня душы д'яблу. Раніцай мы пасаймікаваліся каля дагарэлага вогнішча й аднагалосна

вырашылі, што нашыя беларускія душы чамусьці не зацікавілі нячысьцікаў і засталіся пры нас. Праўда, нейкі жартаўлівы лясун усё ж не пакінуў нас без увагі й непрыкметна засунуў у мой заплечнік пудовую смалістую калодку. Адпачыўшы й добра пасьнедаўшы, я пёр раптоўна пацяжэлы рукзак кілямэтры два, пакуль не агледзеў нячысьцікавай дывэрсіі.

Я хадзіў па Нясьвіжы, і былыя ўражаньні нагортваліся на сёньняшнія, перамешваліся з прачытаным у кнігах.

Дзесяць гадоў – імгненьне для муроў, якія непарушна стаяць на працягу стагодзьдзяў. У знакамітым радзівілаўскім замку сёньня месьцішча санаторый для асабліва заслужаных грамадзянаў Рэспублікі Беларусь. Мужчынаў сталага веку, якія носяць ордэнскія планкі нават на казённых халатах, і бабулек – божых дзьмухаўцоў чамусьці мала цікавяць былыя гаспадары палаца. Са сьценаў санаторыя нахабна пазіраюць трохмэтровыя суворавы ды нахімавы, ствараючы ўражаньне поўнага захопу родавага гнязда Радзівілаў расейскім войскам. Зь якіх часоў і за якія заслугі вісяць тут партрэты ваеначальнікаў суседняй дзяржавы, высьветліць не ўдаецца, але іхняя прысутнасьць не абражае сёньняшніх часовых насельнікаў замка. Праўда, паўтузіну расейскіх палкаводцаў у масыўных пазалочаных рамах супрацьстаіць шматлікая зборная каманда беларускіх князёў і гэтманаў, што стоўпіліся на карціне, якой адведзена сьціплае месца ў більярднай. Прычым за зялёным полем, на якім гаспадараць даўжэзныя кіі, і Вітаўт, і Канстанцін Астрожскі созерцаць ненатуральна вырачанымі вачыма сыназабойцы Івана Жахлівага, зь якім мастакоўскі пэндзаль абышоўся таксама ня дужа літасьціва.

Па рыпучым паркеце мы праходзім анфілядай пакояў і трапляем у былую камінную залю, пераабсталяваную пад сталоўку. Камін наўрад ці запальваўся апошнія паўвека, маўклівы й халодны, ён нібы аглух ад частага бразганьня талерак. Паводле інвэнтару 1658 года, у замку налічвалася дванаццаць заляў.

Мяне апаноўвае цікавасьць – дзеля якіх надзённых патрэбаў выкарыстоўваюцца астатнія: рыцарская, мармуровая, гэтманская, паляўнічая, залатая? Але адміністратарка адмахваецца: маўляў, можа, вам яшчэ й падземную стайню паказаць? Расчаравана ўздыхнуўшы, ужо на ганку ■ прыгадваю дзесьці вычытанае пра тую самую стайню: нібыта дах яе падпіралі магутныя дубовыя калюмны, а конюх-англеец даглядаў паўсотню рысакоў, ходзячы па дыванах. Зьняволеньне коней у падзямельлі, хай сабе й шыкоўным, ■ вытлумачваю сабе дзіўнай любоўю Радзівілаў да іншай цяглавай сілы. Адзін зь яскравых прадстаўнікоў княскага роду, Караль Станіслаў Радзівіл, празваны Пане Каханку, любіў праехацца ў брычцы, запрэжанай шасьцерыком мядзьведзяў.

З возера нават у сонечнае надвор'е дзьме пранізьлівы вецер, уражаньне – нібы стаіш на беразе якой-небудзь Фінскае затокі. Калісьці на пацеху заезнае знаці па азёрных хвалях сьлізгалі бутафорскія караблі, рассыпаліся фэервэркі, імітуючы марскія бітвы. А сёньня ў даўжэзны човен, які сваім старэчым выглядам выдае на ўдзельніка тых грандыёзных баталіяў, рабочыя грузяць леташняе сапрэлае лісьце, што шчодра заслала насыпныя прыбярэжныя валы. Пасьля човен, відаць, успомніўшы сваё слаўнае баявое мінулае, занатурыўся, і яго доўга ня мог выцягнуць на бераг раззлаваны «зіл».

На супрацьлеглым баку возера, як выкінуты цунамі на бераг айсбэрг, бялеецца Слуцкая брама – помнік XVI стагодзьдзя. Даўно ўжо дарогі, шануючы яе паважны век, адступіліся ўбок, пад яе скляпеньні толькі зрэдку заходзяць турысты. Так і хочацца пакласьці ў адмысловае акенца якога-небудзь да сьмерці загнанага інфляцыяй беларускага зьвера, расчытаўшы строгі надпіс: «Тут сьвяты збор, тут мытны збор пакінь для Марыі, таму што кожны павінен Богу, а за гэта атрымаеш узнагароду на зямлі, а затым і на небе». Ды вакенца наглуха зачыненае, не чуваць галасоў мытнікаў, і памяць паслужліва прапано-

ўвае нешта весялейшае, зь іншае опэры, дакладней, зь песьні легендарнага рок-гурта «Мроя»: «Слуцкая брама – непадкупны мур, Слуцкая брама – сьведка авантур...»

Ад авантураў адразу ступіць на цьвінтар славутага на ўсю Усходнюю Эўропу нясьвіскага касьцёла, будаўніцтва якога закончана яшчэ ў 1593 годзе, неяк няёмка, і мы накіроўваемся ў стары радзівілаўскі парк. Па алеях павольна прагульваюцца адпачыньнікі. З-пад засені магутных дрэваў насустрач нам па чарзе выходзяць убранзавелыя славутасьці Ян Марыя Бернардоні, Тамаш Макоўскі, Мікалай Радзівіл Сіротка, Уладзіслаў Сыракомля, Якуб Колас. Зь нетраў памяці самі па сабе выскокваюць радкі расейскага паэта: «Приснилось мне, что [redacted] чугунным стал. Мне двигаться мешает пьедестал». П'едэстал зь беларускага каменю абцяжарвае нават тэмпэрамэнтнага італьянца з жаночым імем, і ён рухаецца паважна, нібы ў запаволеным кіно. Голас з мэталёвым адценьнем гучыць урачыста:

– Перад прыгажосьцю маіх храмаў кленчаць людзі ў Рыме і Кракаве, але толькі ў Нясьвіжы, паводле боскае волі, я стварыў цуд у выглядзе фарнага касьцёла. Мне суджана было нарадзіцца ў італьянскім горадзе Кома, праехаць амаль усю Эўропу, але толькі на сьвятой зямлі Беларусі Бог прыклікаў мяне да сябе. Я часам сумую па пяшчотных хвалях Нэапалітанскае затокі, па гатычных рымскіх саборах, але за чатыры стагодзьдзі я зжыўся зь Беларусьсю, мая душа зьлілася з адвечным спакоем вашай цудоўнай зямлі. Я не забыўся роднай сьпеўнай мовы, але беларускую вывучыў яшчэ ў шаснаццатым стагодзьдзі...

З-пад навісі пругкага і ўзорнага, нібы выразанага з бляхі, дубовага лісьця на алею выходзіць зграбны і ў бронзе мастак і гравёр Тамаш Макоўскі, які на сваіх творах падпісваўся на лацінскі манер – Маковіус, а часам проста пісаў: «Макаў выразаў у Нясвіжы».

– Я пабачыў паўсьвету, але нідзе не знайшоў краявідаў, прыгажэйшых за беларускія. Жадаючы дапамагчы падарож-

нікам зь іншых краінаў трапіць у наш цудоўны Край, я яшчэ чатыры стагодзьдзі таму задумаў выгравіраваць гэаграфічную карту Беларусі. Пасьля шматгадовых вандровак і карпатлівай працы я ў 1613 годзе ў Амстэрдаме выдрукаваў карту, якая мела вялікі посьпех у Эўропе й перавыдавалася ў 1631, 1653, 1662 і 1668 гадах на лацінскай і францускай мовах. Замежныя падарожнікі, купцы й каралі гаварылі мне дзякуй, але я быў найперш рады, што змог паслугаваць сваёй Айчыне...

Праз нейкі дзясятак мэтраў упэўненым гаспадарскім крокам дарогу нам заступае Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка, сам заўзяты падарожнік і пісьменьнік. У ягоным голасе й блізка не чуваць сірочых інтанацый, але князь прамаўляе ветліва:

– Нядаўна ў нашай фамільнай бібліятэцы мне паказалі кнігі Уладзімера Арлова й Леаніда Дранько-Майсюка. Файна пішуць хлопцы пра Парыж ды Лёндан, Амэрыку й Афрыку. Няйнакш начыталіся маіх «Вандровак», якія ўпершыню пабачылі сьвет ажно ў 1601 годзе і за наступнае паўстагодзьдзе перавыдаваліся дзевятнаццаць разоў. Мо й не выпадае маёй княскай мосьці выхваляцца, але менавіта мы з наваградзкай лекаркай Саламеяй Пільштыновай распачалі вандроўную тэму ў беларускім прыгожым пісьменстве.

На нашу просьбу пачытаць што-небудзь экзатычнае князь нечакана згаджаецца і, выцягнуўшы аднекуль з-пад крыса кнігу ў скураным пераплёце, спаважна дэклямуе:

– Калі мы ўехалі ў Ніл, на беразе было відаць вельмі шмат буслоў, якія прылятаюць у тыя месцы з нашых краёў. У жніўні Ніл мае звычку разьлівацца, і пасля паводкі на берагах застаецца безьліч рознай жыўнасьці – зьмеяў, вужоў, розных жабак. Выгадная спажыва для буслоў!

Улічваючы, што князь ня проста падарожнічаў, а зьдзяйсьняў паломніцтва ў Палестыну, значыць, павінен быў штодзённа настройваць свае думкі на высокі лад і не разлучацца з малітоўнікам, ягоныя патрыятычныя запісы пра буслоў вартыя бязь-

межнай пашаны нашчадкаў. Пакланіўшыся князю, мы скіроўваемся далей.

З-за шапаткога клёна выглядае шаснаццацігадовы сэмінарыст Кастусь Міцкевіч. Яму сумнавата ўвесьчасна знаходзіцца ў дзядоўскай кампаніі, ён хацеў бы расказаць нам, якія прыгожыя паненкі жывуць у Нясьвіжы, пачытаць прысьвечаныя ім свавольныя вершы. Але гэта немагчыма, бо пахмурны й вечназадумлівы дзед Якуб Колас, які сядзіць у Менску на ўласнай плошчы, катэгарычна забараніў яму прыгадваць што-небудзь такое, чаго няма ў чатырнаццацітомавым Зборы твораў.

На скрыжаваньні алеяў нас сустракае супрацоўнік канцыляры Нясьвіскага замка Людвік Кандратовіч, што падпісвае свае паэтычныя творы псэўданімам Уладзіслаў Сыракомля. Ён марыць напісаць гісторыю Нясьвіжа й роду Радзівілаў, збіраецца спагнаць кантрыбуцыю з расейскага паэта Л. Трэфалева, які прысвоіў ягонага «Паштальёна». Я палагоджваю аўтарскае самалюбства Сыракомлі, расказаўшы, як выдатна выконвае «Паштальёна» заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар Скарабагатаў – ад шкадобы па замерзлай дзяўчыне слухачы плачуць, і ад магутнага басу сьпевака дрыжаць шыбы любой, самай вялікай залі. На разьвітаньне Уладзіслаў Сыракомля чытае санэт пра пахаваньні Радзівілаў з кнігі «Успаміны пра Нясьвіж»:

*Пад даўняй сьвятыняй – дзён колішніх сховы:*
*Падземны там склеп, ёсьць алтар у ім, краты,*
*Эбэнавых трунаў там шэраг суровы –*
*Ляжаць у іх косьці, сатлелыя шаты...*

Сыракомлеў верш наводзіць нас на роздум пра марнасьць зямнога жыцьця, і мы ў лябірынце паркавых алеяў пачынаем шукаць дарогу да храма, на высачэзных крыжах якога, здаецца, дасыхаюць дзьве белыя аблачынкі. Падыходзім. Той самы, выштукаваны дойлідам, які адначасова Ян і Марыя. Першы помнік у стылі барока на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай.

Лашчыць вока расклад касьцельных службаў, напісаны на беларускай мове. Усярэдзіне хочацца перайсьці на шэпт альбо зусім замаўчаць, каб не абразіць недарэчным словам намоленых сьвятыняў. Масыўнае века, што закрывае ход пад скляпеньні да радзівілаўскіх саркафагаў, прымкнута яшчэ й на замок, ключ ад якога захоўваецца ў вельмі адказнай асобы. Я прыгадваю, як у свой час бясьперашкодна трапіў у падзямельлі Кіева-Пячорскай лаўры, змог наведаць крыпту Адама Міцкевіча ў касьцёле на Вавэлі, і мне робіцца сумна. Не, я зусім не нэкрафіл, але чаму я не магу вусьцішна пастаяць над апошнім прытулкам легендарнага Пане Каханку, пра якога напісаны з тузін раманаў? Над адным зь іх, які належыць пяру Юзафа Крашэўскага і які бліскуча пераствораны па-беларуску Васілём Сёмухам, я тыдзень таму правёў некалькі асалодных гадзінаў. Чаму я не магу выказаць апошнюю пашану праху аднаго зь першых беларускіх пісьменьнікаў, што высачыў родных буслоў аж на далёкім Ніле, Радзівілу Сіротку, які загадаў у тастаманце пахаваць яго ў адзеньні звычайнага селяніна, а на труніцы выбіць словы: «Прышэлец я і вандроўнік перад Табою, як і ўсе мае продкі»? Але ўсе мае сам-насамныя нараканьні ня вартыя й вышчарбленай капейкі, што ўшчамілася паміж камянёў на касьцельным ганку. Пасьля таго як нясьвіскі храм ад крыжоў да скляпеньняў аблазілі скарбашукальнікі з кіраўніцтва спраў прэзыдэнта, у мясцовых парафіянаў да ўсіх прыежджых адносіны ня дужа прыхільныя. А не даюць спакойна спаць аматарам скарбаў дванаццаць апосталаў, пяць зь якіх выраблены з чыстага золата, астатнія – з срэбра. Каштоўных апосталаў, нібыта насхаваных Радзівіламі перад уцёкамі за мяжу, шукалі яшчэ напалеонаўскія жаўнеры і гітлераўская спэцкаманда. Ніхто не знайшоў радзівілаўскага золата.

Прыемна прайсьціся ад касьцёла па вуліцы Адама Міцкевіча, сёлетняга юбіляра, мабыць, адзінага паэта ў сьвеце, якому пастаўлена столькі помнікаў – ажно пяцьдзясят чатыры. Але

што за дзіва – на крайнім будынку чытаем шыльду: Ul. Mickiewicza. На другім будынку чужамоўе працягвае рэзаць вочы: ул. Мицкевича. Ганарыся, Нясьвіж, – твае вулічныя шыльды пішуцца па-польску й па-расейску, хоць стаіш ты пасярод Беларусі.

На недалёкім пляцы роспачна разводзіць рукамі бронзавы Сымон Будны...

І ўсё ж у Нясьвіж езьдзіць варта. Каб у прагматычны век душа не развучылася адгукацца на хараство. Каб у старым парку разгаварыць амаль анямелыя постаці. Каб адчуць сябе пілігрымам на вышараваных да бляску за сотні гадоў камянях пад вечнымі нясьвіскімі брамамі.

*1998*

# БЕЛАРУСЫ
# Ў КАРАЛЕЎСКІМ ГОРАДЗЕ

Як завуць цябе, горад? Над будынкам чыгуначнага вакзала нэонавымі літарамі высьвечваецца тваё апошняе імя, нададзенае ў гонар усесаюзнага старасты, які не пашкадаваў ні свайго прозьвішча, ні нават сваёй жонкі – абы дагадзіць сыстэме, дзе меў зацішны закутак. У вулічным шапіку можна набыць гэаграфічную карту, на якой ты завесься на нямецкі лад горадам караля. А калі пройдзеш трохі цэнтральным праспэктам, натрапіш на невялічкую крамку, дзьверы якой упрыгожвае шыльда, што прымушае радасна адгукнуцца кожнае беларускае сэрца, – «Каралявец». Гэтае ж слова апаясвае круглую пячатку на запрашэньні, якое паведамляе, што з 4 да 8 красавіка 1996 года ў Каралявецка–Кёнігсбэргска–Калінінградскай вобласьці пройдуць Дні беларускай культуры. Прэзэнтаваць беларускую культуру з затузанай рэфэрэндумамі ды іншымі жыцьцёвымі амбарасамі мэтраполіі на берагі Балтыкі адважыліся выправіцца мужчынскі камэрны хор «Унія», бард і актор Віктар Шалкевіч ды аўтар гэтых радкоў...

Апрача «малаткастага й сярпастага», [redacted] ня меў за душой нічога, што дазваляла б бясьперашкодна пераадольваць межы. Рызыкуючы быць ссаджаным на беларуска-летувіскай мяжы і ўяўляючы сваё сумнае вяртаньне па шпалах у сталіцу суверэннай Радзімы, я нэрвова запіхваў далей пад вагонную лаўку лад-

наватую тарбіну. Яе зьмесьціва складалі кнігі – цэлы пакунак «Ад родных ніў» Ларысы Геніюш, якімі я думаў пацешыць тамтэйшых беларусаў.

Любы памежнік з чырвонаю зоркай на шапцы меў поўнае права абвесьціць выданьне Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне кантрабандай і дадзенай яму ўладай спыніць распаўсюджваньне нацыяналістычнай літаратуры.

Але міліцыянт са скрынкай на жываце – нібы катрыншчык – больш прыглядаўся да «Пагоні» на самаробнай вокладцы пашпарта, чымся да яго эсэсэраўскіх атрыбутаў усярэдзіне. А багаж пачаў пераглядаць увогуле ў суседзяў-украінцаў. Неўзабаве па ўсім вагоне ўсчаўся вялікі вэрхал, пачуліся жаночыя галашэньні й дзіцячы плач, падсьцёбнутыя катэгарычным, як у турме, «на выход с вещами!» Тут я зразумеў, што хваляваўся недарэмна і што асядланы збройным рыцарам на кані пашпарт СССР сапраўдны толькі для грамадзянаў новаўтворанага Саюза, а сыны й дочкі ненькі Украіны падлягаюць высяленьню зь цёплага цягніка ў трывожную прыгранічную ноч. Але самасьційныя, а таму непасьлядоўныя нашчадкі пышнавусага інтэгратара Багдана праявілі кемлівасьць і, відаць, дэзынфармаваўшы памежнікаў, што яны яшчэ з часоў Пераяслаўскай рады ў тым саюзе, супакоена вярнуліся на свае месцы, і мы паехалі далей.

Калі б знакаміты рэжысэр Андрэй Таркоўскі надумаўся аддаць даніну модзе й вырашыў ператварыць свайго «Сталкера» ў бясконцы сэрыял, здымаць натуру яму зручна было б у Калінінградзкай вобласьці. Наўсьцяж чыгункі ўвесь час мільгалі запушчаныя, кінутыя гаспадарамі сядзібы з забітымі вокнамі. Віктар Шалкевіч вывалак з свайго купэ на калідор нейкага бізнэсмэна-калінінградца, які доўга тлумачыў асаблівасьці йснаваньня расейскага анкляву, расказваў, чаму на гэтым кавалку зямлі пануе гэткая бязгаспадарчасьць.

На вакзале нас сустрэў старшыня Таварыства беларускай культуры і ўладальнік вышэйзгаданай крамы «Каралявец» Ігар Шаховіч. Гэта дзякуючы яму й ягонай жонцы Натальлі мясцовыя беларусы маюць магчымасьць пазьбегнуць канчатковай русыфікацыі. Гэта спадарства Шаховічаў на ўласных нэрвах, харчах і грашах выцягвае гэтыя Дні культуры, што сталіся традыцыйным штогадовым сьвятам.

Шаховіч яшчэ ў машыне робіць афіцыйнае спавешчаньне, што паводле ягоных падлікаў беларусам павінен быць кожны дзясяты калінінградзец, але ня ўсе пакуль прызналіся. Мы з Шалкевічам моўчкі настройваемся на абуджэньне гістарычнай памяці суродзічаў. А «Унія» ўжо два дні з посьпехам гастралюе па бліжэйшых мястэчках.

Па паўдні едзем у Праўдзінск. Па дарозе аглядаем мясцовую гідраэлектрастанцыю, збудаваную яшчэ немцамі. Ніягара! Хуткасьць вады ашаламляльная, ажно здаецца, што пад запрудай сядзіць нехта вялікі й сьцябае раку даўжэзнымі пугамі. Электрастанцыю ўжо каторы дзясятак гадоў рамантуюць, а калісьці яна сілкавала энэргіяй нават недалёкую Польшчу. Я стаю над бурлівым патокам, адчуваючы лёгкае кружэньне галавы, ды назіраю вясёлку, што адбіваецца ад белых надброўяў нерасталага набярэжнага сьнегу і ад раньняй лысіны неўтаймоўнага Шалкевіча, які бясстрашна прагульваецца над самымі вірамі.

На канцэрце ў праўдзінскім Доме культуры я маю вольную, а таму зашываюся на самую «камчатку» напаўцёмнай вялікай залі, якая паціху запоўнілася людзьмі рознага веку. Зладжаным шматгалосьсем «Уніі» заслухаліся нават дзяўчаткі ў каротких да неверагоднасьці спаднічках, а песьня на словы Уладзімера Дубоўкі «О Беларусь, мая шыпшына» да сьлёз расчуліла бабульку за маёй сьпіной. Шалкевіч сьпяваў і скамарошыў, як і належыць артысту лялечнага тэатра, таксама пад авацыі. Прыемнай не-

спадзяванкай для мяне сталася колькасьць мясцовых самадзейных артыстаў, калі на сцэну наўзамен прыежджым выступоўцам пачалі адзін за адным падымацца шматлюдныя рознаўзроставыя калектывы й сьпяваць... беларускія народныя песьні. Было такое ўражаньне, што дзея адбываецца дзесьці пад Слуцкам, а не ў былой Усходняй Прусіі.

Папераддзе мяне сядзела сямейная пара. Ён увесь час рываўся выйсьці, яна ўмольвала: «Ну посидим еще трошки». Накрэшце пасярод песьні «А дзе тая крынічэнька, што голуб купаўся» ён павярнуўся да мяне профілем шарыкава й прастадушна запытаўся ў жонкі: «Да нах... тебе эти песни?» Кабета ня вытрымала і, прыклаўшы да вачэй хусьцінку, падалася да выхаду. Следам патэпаў і муж.

Пасля канцэрта ў вячэры шпацыруем па цэнтральным пляцы Праўдзінска. Каб не расейскі трыкалёр і не дзьвюхгаловы арол на будыніне раённай управы, можна было б падумаць, што знаходзімся мы дзе-небудзь у Зэльве ці Калінкавічах, – нават самы чалавечны чалавек на пастамэнце гэткі самы, шэры й нецагледжаны, застылы ў знаёмай да болю паставе з выцягнутай рукой.

У недалёкім «питейном заведении», куды мы завіталі ну дальбог толькі дзеля цікавасьці, на засьмечанай падлозе сьпіць сабе чалавек. Культурна так, і відаць, што ня бомж, бо побач акардэон валяецца. Ніхто на яго не зважае, нават міліцыянты, што мелі нейкі інтэрас да шынкаркі, якая, нібы ў анабіёзе, нерухома сядзела за прылаўкам.

На пад'езьдзе да Калінінграда назіраем цікавае відовішча. Над ракой роспачна ўскінуўся да неба разьведзены немцамі пры адступленьні мост. Ня здолеўшы разабрацца ў папсаваным разводным мэханізьме, новыя гаспадары вымушаны былі пабудаваць поруч новы мост, а стары й праз паўстагодзьдзя выглядае нязгорш. У горадзе дапамагаем разысьціся нанач па ха-

тах двум паважным удзельнікам «Уніі», якія па дарозе добра-такі падвесялелі ад незьлічоных паказкаў Шалкевіча. Жадаючы як найхутчэй разьвітацца, знакаміты актор і бард замоўк, і басавітыя й барытоністыя мужчыны раптоўна адчулі недахоп жыцьцёвай энэргіі. Мясцовы паэт адразу рынуўся да адной з шматлікіх гандлёвых кропак. І толькі гэта басы й барытоны сталі шчыльнымі радамі ва ўтульным дворыку, як аднекуль вынырнула машына зь міліцыянтамі. Абаронцы правапарадку былі настроеныя дужа рашуча. І тут адзін з «уніятаў» прызнаўся, што ён заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, і ў пацьвярджэньне гэтага замахаў перад носам у маёра чырвоным пасьведчаньнем, атрыманым нібыта з рук самога Шушкевіча. Маёр далікатна патрымаў у руках кніжачку з «Пагоняй» на вокладцы, учытаўся ў подпіс. Праз імгненьне хлопцы ў пагонах узялі пад брылі й ад'ехалі. Мабыць, не схацелі ўсчынаць міжнароднага канфлікту, баючыся, што Шушкевіч скліча новую сходку ў Віскулях і горад Калінінград з кожным дзясятым жыхаром-беларусам адыдзе да Беларусі, паколькі некалі лічыўся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.

Для таго, хто, прачытаўшы гэтыя радкі, скептычна пасьміхнуўся, нагадаю больш блізкі па часе гістарычны факт. Пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны герой партызанскага руху ў маскоўскім штабе Панамарэнка змог паддобрыцца да Сталіна, і правадыр даў згоду на далучэньне нямецкага Кёнігсбэрга з навакольнымі землямі да найбольш пацярпелай у барацьбе зь нямецка-фашысцкімі захопнікамі Беларусі. Панамарэнка нібыта нават пасьпеў накіраваць у каралеўскі горад свайго ваяводу. Але Сталін нечакана раздумаў ашчасьлівіць беларусаў доступам да марскіх портаў. У выніку Беларусь і сёньня застаецца сухаземнай краінай.

Па вечаровым горадзе ўтрох робім імклівую праходку ў напрамку Шаховічавай гасподы. З вышыні маста цераз паўна-

водны Прэгал галоўны завадатар каралявецкіх беларусаў паказвае месца, дзе неўзабаве паўстане помнік Францішку Скарыну. Непадалёку пахаваны аўтар «Усеагульнай гісторыі й тэорыі неба» – знакаміты філёзаф Імануіл Кант. Яшчэ ў Менску, даведаўшыся пра маю паездку ў Калінінград, Янка Брыль наказваў перад дарогай: «Пакланіцеся там Канту». Але мае спадарожнікі сьпяшаліся на вячэру, і на магілу філёзафа я трапіў толькі на другі дзень, калі наўмысна адстаў ад кампаніі й паўдня блукаў на адзіноце па пыльных калінінградзкіх вуліцах.

На заключны канцэрт у старажытнай нямецкай кірсе, пераабсталяванай пад арганную залю, сабралася шматлікая й паважная публіка. Кожны, прымаючы ў падарунак «Ад родных ніў», называў дарагі сэрцу радзінны куток, прасіў перадаць паклоны сваякам. Случчына, Смаргонскі раён, Наваградак, Гародня, Рэчыца, Нароўля... На сьценах кірхі разьмясьцілася цікавая выстава мастака зь Віцебшчыны Крыцкага, які настала асеў у Калінінградзе.

Кіраўнік «Уніі» Кірыла Насаеў на ўзьнесенай пад храмавыя скляпеньні сцэне пасьвяшчэннадзеіў з камэртонам і – заляй завалодала малітоўна-ўзвышаная мэлёдыя.

Упершыню ў жыцьці даводзіцца чытаць вершы ў храме.

Анэкдотава-песеннае нашэсьце Віктара Шалкевіча сходу ўзяло ў палон нямецкую кірху з усёй яе шматвяковай прускай гістарычнай одумнасьцю. Толькі звыклыя да строгіх харалаў Баха арганныя лёхі зьнянацку папярхнуліся папулярнай на берагах Нёмна беларускай аўтарскай песьняй, у якой распавядаецца, як «нейкія засранцы папсавалі танцы, худыя, як цьвікі, кажуць, што бальшавікі»...

Пасьля канцэрта я, легкадумна праігнараваўшы запрашэньне капітана карабля-рэстарана «Віцязь» спадара Чарняўскага распачаць навігацыю па толькі што вызваленым зь лёдавай вязьніцы Прэгале, накіроўваюся спаўняць наказ – кланяцца Канту.

Вольная думка філёзафа сягала да зораў, а на зямлі ён заставаўся звычайным чалавекам, не пазбаўленым слабасьцяў і амбіцый. Імкнучыся заняць прафэсарскую пасаду ў Кёнігсбэргскім унівэрсытэце (славутым Альбэртыне, заснаваным у 1544 годзе), Імануіл Кант некалькі разоў пісаў сьлёзныя чалабітныя імпэратрыцы Лізавеце (у другой палове XVIII стагодзьдзя, пасля Сямігадовай вайны, Кёнігсбэрг нейкі час уваходзіў у склад Расейскай імпэрыі): «Найсьвятлейшая, вялікадзяржаўная імпэратрыца, самадзержыца ўсяе Расеі, найлітасьцівейшая ўладарніца і найвялікшая жанчына!» Падпісваўся вялікі філёзаф пад сваімі пасланьнямі, укленчыўшы долу: «Гатовы памерці ў сваёй найглыбейшай адданасьці Вашай імпэратарскай вялікасьці найвернападданы раб Імануіл Кант».

Эпісталярныя прызнаньні вялікага філёзафа адбіваюцца на маёй ужо цэлых пяць гадоў сувэрэннай душы смутай ды прыгнечанасьцю. Каб пазбегнуць дэпрэсіі, я пачынаю напытваць у добразычлівых месьцічаў месцазнаходжаньне вуліцы Афіцэрскай, дзе ў кавярні «Дыяніс» мае адбыцца разьвітальная вячэра для ўдзельнікаў Дзён беларускай культуры. Шлях вядзе мяне паўз велічэзны (дваццаць два паверхі) змрочны палац з павыбіванымі шыбамі. Устрывожана пытаюся ў сустрэчных дзяўчатаў, ці не вынік гэта бамбаваньняў авіяцыі аб'яднанай Нямеччыны, што жадае вярнуць страчаны пасля Другой сусьветнай вайны Кёнігсбэрг? Аказваецца, люфтвафэ тут ні пры чым. Проста калінінградзкія дойліды ўзьвялі палац на месцы ўзарванага старажытнага замка, паленаваўшыся праліччыць глыбіню падмуркаў. У выніку выведзены пад дах гмах даў трэшчыну, і ўжо пятнаццаць гадоў недарэчнае збудаваньне чакае, каб спатрэбіцца хіба на дэкарацыю экранізатарам вядомага рамана Ф. Кафкі.

Непадалёк ад замка я нечакана набрыў на яшчэ адну мэморыю, зьвязаную з Кантам. На месцы, дзе калісь стаяў ягоны

дом, устаноўлена шыльда з выслоўем філёзафа: «Дзьве рэчы напаўняюць душу ўсё новым і ўсё большым захапленьнем і багавейнасьцю па меры таго, як задумваешся над імі ўсё глыбей і даўжэй: зорнае неба нада мной і маральны закон ува мне».

Зорнае неба неаднойчы зачароўвала й мяне, таму я пасьля хвіліннага роздуму вялікадушна вырашаю дараваць Канту ягоныя вернападданьніцкія лісты.

Увечары, шчодра ўздаючы хвалу богу Дыянісу ў названай у яго гонар кавярні, мы не адчувалі сябе на чужой зямлі. Бо ад часоў Вітаўта й да нашых дзён жывуць тут людзі, што маюць гонар і няскоранасьць у душы, – беларусы ў Каралеўскім горадзе.

*1996*

# ПАЛІМПСЭСТЫ
# ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Дыктатура заўсёды мае патрэбу ў паэтах. Пасьля ўдалага закалоту ці мірнага захопу ўлады, збольшага вырашыўшы пытаньні ўласнага йснаваньня, кожны дыктатар ставіць пры сваім троне зэдлік для прыдворнага одапісца. І седала гэтае звычайна не пустуе, хіба што вершатворцу зручней агучваць свае хвалясьпевы стоячы на каленях.

Калісьці за складаньне рыфмаванага гараскопу царскай сям'і Сімяон Полацкі меў ад маскоўскага самадзержца шчодры на той час падарунак – паўпуда цукру. За прамінулыя з той пары тры з паловай стагодзьдзі ганарар зь вяльможных рук істотна пабольшаў. Зрэшты, царская ўзнагарода ў розныя часы можа быць рознай і залежаць ад нораву таго, хто ўзнагароджвае. За вернападданьніцкі панэгірык паэт можа атрымаць афіцыйнае званьне й пажыцьцёвы дабрабыт, а можа проста застацца на волі, што само па сабе ўспрымаецца як найвялікшая міласьць.

Прыдворная літаратура адмірае разам зь сьмерцю дыктатара і рэанімацыі не падлягае. У надта ўжо Выбраных творах Янкі Купалы (1946 год) – налічыў каля паўсотні вершаў, прысьвечаных правадыру. Творы гэтыя, даўжэзныя, як пугі, зоймуць паўтома Поўнага збору, які акурат цяпер выходзіць у сьвет. Чытаеш бясконцыя паўторы пра «мудрага Сталіна» і міжволі думаеш – не абцяжарваў сябе Купала пошукам якога сьвяжэйшага эпітэта, пісаў як адчэпнае. І пісаньне гэтае да беларускага прыгожага пісьменства наўрад ці мае нейкае дачыненьне. З

Поўнага збору яго, вядома, ня выкінеш, але ж і камэнтар павінен быць адпаведны.

Ня будзем удакладняць, колькі прасеў Я. Купала на тым мулкім калятронным зэдліку. У яго часы паэтаў, ахвочых да хваласьпеваў правадыру, мелася ці не залішне, і рассадзіць іх можна было хіба на даўжэзных лавах. Але паэты – люд ненадзейны. Сёньня, глядзіш, сядзіць разам з усімі, складае тое, што ад яго чакаюць, [redacted] заўтра раптам падхопіцца, перакуліць лаву і выскачыць за дзьверы. Нават той, «с фамилией чертовой», і то аднойчы напісаў, што вечна на зямлі будзе абуджаць жыцьцё Сталін, [redacted] потым агрызнуўся, як загнанае ў кут ваўчаня: «Мы живем, под собою не чуя страны...»

А дыктатары любяць паслухмяных, адданых творцаў. Змаганьнем зь непаслухмянымі заўсёды займаліся спэцыялісты. Турма, вар'ятня, пракрустава ложа цэнзуры, шантаж – магчымасьцяў запалохаць, зламаць чалавека ў іх хапала. І магчымасьці гэтыя, трэба думаць, выкарыстоўваліся напоўніцу. І выціскаў зь сябе спакутаваны нацыянальны геній: «Табе, правадыр, мае песьні і думы...»

За пасьляваенныя часы панаваньня камуністычнай ідэалёгіі большасьць беларускіх пісьменьнікаў як бы зьмірылася зь існаваньнем цэнзуры. Нельга пра гэта пісаць? Ня будзем. У гэтым была й свая засьцянковая рацыя – кожны літаратар мог у выпадку чаго самаапраўдацца: я здольны быў на большае, мне не далі рэалізаваць свой талент і г.д. Насамрэч, зьмесьціва шуфлядаў беларускіх літаратараў у постсавецкія гады, калі маскоўскія выдавецтвы не пасьпявалі выдаваць вялізнымі накладамі ўсё тое, што дзесяцігодзьдзямі пісалася ў стол, выглядала беднавата. Пісьменьнікаў, якія адважваліся зрэдку запярэчыць сыстэме, было няшмат, асобаў, якія змагаліся з гэтай сыстэмай, адстойваючы й сваю годнасьць, і годнасьць свайго народа, былі адзінкі.

У Ларысы Геніюш ёсьць верш, адрасаваны моладзі: «Трымайце лейцы моцна у далонях і не мыляйце роднай баразны». Яна мела права на такі запавет, бо роднай баразны не мыляла

нідзе й ніколі, бо ні на каліва ня схібіла ў высокім служэньні Бацькаўшчыне.

Упершыню яе пасьлялягерныя вершы здолелі прабіцца на старонкі беларускай афіцыйнай пэрыёдыкі толькі ў 1963 годзе – у «Полымі», «Голасе Радзімы», «Гродненской правде» зьявіліся невялікія вершаваныя нізкі. І хоць аўтарка не сьпяшалася далучацца да дружнага хору савецкіх літаратараў, што не змаўкаючы высьпеўвалі дыфірамбы ўладзе, было вырашана дазволіць выданьне яе кнігі. Праз чатыры гады пры спрыяньні Максіма Танка зборнік «Невадам зь Нёмана» з ураўнаважанай прадмовай Ю. Пшыркова пабачыў сьвет. Праўда, быў у той прадмове адзін фальшывы абзац, напісаны як бы навырост, з надзеяй, што так будзе, так павінна быць зь беларускім пісьменьнікам, кнігі якога выходзяць у дзяржаўным выдавецтве: «У гасьцінным уласным доме Геніюшаў часта бываюць пісьменьнікі й журналісты з Менска і Гродна, вучні мясцовых школаў і грамадзкія працаўнікі раёна. Ларыса Антонаўна часта выступае перад юнай зьменай...» Магчыма, гэткая ідылія і ажыцьцявілася б, калі б паэтка прыняла савецкае грамадзянства, уступіла б, як ёй настойліва прапаноўвалі, у Саюз пісьменьнікаў. Але нічога гэтага не адбылося, пастка спрацавала напуста.

Што ж уяўляла зь сябе першая на Радзіме кніга Л. Геніюш? Выбранае за амаль тры дзесяцігодзьдзі – з 1937 па 1966 год. Беларускі чытач прыняў зборнік прыхільна, зьявіліся рэцэнзыі (хоць часам іх аўтары мелі пэўныя непрыемнасьці). Чытач радасна адкрываў для сябе новага Паэта і наўрад ці заўважаў, што для самога паэта выхад доўгачаканай кнігі быў добра-такі азмрочаны. Затое беларуская эміграцыя, якая творчасьць Л. Геніюш ведала ня толькі з рэдкіх публікацый у менскіх пэрыёдыках, прыкмеціла, што нешта ў вершах ня так. Віншуючы «вельмі паважаную і дарагую спадарыню» з шасьцідзесяцігодзьдзем, Раіса Жук-Грышкевіч у лісьце ад 22 чэрвеня 1970 года абмовілася: «Трымала ў руках Ваш зборнік «Невадам зь Нёмана» й заўважыла, што «Зубры» зрэдагаваныя ў ім горай...»

Зборнік на грамадзкіх асновах адрэдагаваў Уладзімер Караткевіч, які на рэдактарскія заўвагі да свайго рамана «Каласы пад сярпом тваім» безапэляцыйна заявіў: «І коскі зь месца ня зрушу!»

У зборніку Л. Геніюш «Невадам зь Нёмана» было выкасавана 120 радкоў.

Я ня ведаю, дзе, калі й кім канкрэтна гэта рабілася, я проста канстатую факт, што шматлікія вершы Л. Геніюш падпалі пад цэнзурныя скарачэньні, што, зразумела, адмоўна адбілася на іх зьмесьце. Прычым скарачэньні гэтыя насілі відавочна ідэалягічны характар. Так, напрыклад, зь верша «Уздымам сэрц нашых шуміць Белавежа...» былі выкінуты дзьве страфы, што несьлі ў сабе асноўную сэнсавую нагрузку, служылі станавым хрыбтом усяго твора:

*Крывіч там стагодзьдзі загон свой старожа,*
*а звычаі, мова жывуць з году ў год...*
*Там Край, быццам казка старая, прыгожы,*
*удалы і верны краіне народ.*

*Калі для нас волі гарачай сьвітаньне*
*цудоўнаю блісьне над Краем зарой,*
*ад Угры па Буг мы спаткаць яго ўстанем*
*ўсёй дружнай, вялікай Крывіцкай сям'ёй.*

Выдавецкі рэдактар зборніка Анатоль Кудравец прыгадаў, што рукапіс трапіў да яго ўжо ў гатовым, «адрэдагаваным» выглядзе. Сапраўды, ці магла дзяржава даверыць такое адказнае рэдагаваньне супрацоўніку выдавецтва? Гэткі аўтар заслужыў на больш высокую ўвагу (як вядома, рэдактарам Пушкіна таксама быў не Жукоўскі і нават ня Бэнкендорф). «Высокая ўвага» чамусьці на дух не пераносіла слова *крывіцкі.* Калі надакучвала замяняць яго на *тутэйшы, бясстрашны, магутны* і нават *стыхійны,* зь верша проста здымаліся цэлыя строфы – не бяда, што часам ён выглядаў, як зьнявечаны зламыснай сякерай абрубак дрэва. У дзевяцістрофным вершы «Нішто так ня

міла» ахвярай цэнзуры сталіся шэсьць (!) чатырохрадкоўяў, у тым ліку найкрамольныя радкі:

*Ніишто так ня міла, як родны наш сьцяг,*
*як нашы дзядоўскія гоні;*
*нішто так ня міла, як тое дзіця,*
*што сэрцам вітае «Пагоню»!*

Цэнзарскі аловак нарозмаш выкрэсьліваў месцы, дзе паэтка асьмельвалася нагадаць пра даўнейшыя межы беларускай дзяржавы:

*Родны сьцяг наш горда*
*уздымаўся ўгору*
*ад балтыйскіх хваляў*
*аж па Чорна мора!*

Здавалася б, пры перавыданьнях да творчай спадчыны Л. Геніюш выдаўцы павінны былі паставіцца больш уважліва. На жаль, гэтага не адбылося – выбранае «Белы сон» (1990 год, укладальнік Б. Сачанка) даслоўна паўтарыла ўсе ранейшыя купюры. Праз шэсьць гадоў ужо й такі, «адрэдагаваны» варыянт выклікаў насьцярогу ў дзяржаўных куратараў літаратуры. З установы, якая займаецца разьмеркаваньнем дзяржаўных сродкаў у кнігавыдавецкай сфэры, у «Мастацкую літаратуру» быў накіраваны забаронны ліст: «Зборнік твораў Л. Геніюш здымаецца зь пераліку фінансуемых з-за таго, што гэтая ж пазыцыя на гэты ж год заплянавана ў «Юнацтве» вялікім накладам, і таксама з-за неаб'ектыўнай прадмовы да зборніка М. Тычыны (ухваленьне супрацоўніцтва з фашыстамі ў час Вялікай Айчыннай вайны)». Вялікім накладам у «Юнацтве» была заплянаваная ўсё ж «Споведзь», а ня вершы, пра што ў пільнай установе, безумоўна, ведалі. А чаго варты пасаж наконт «неаб'ектыўнасьці» аднаго з найсумленных дасьледнікаў літаратуры Міхася Тычыны – маўляў, гэта аўтар прадмовы вінаваты, што кніга не атрымае датацыі... Які відавочны «прагрэс» – тое, што выдавалася ў 1942, 1967 і 1990 гадох, трапіла пад забарону ў 1996-м!

Неўзабаве забарончая кампанія атрымала свой лягічны працяг. Нядаўна ў Г. Бураўкіна, У. Арлова й аўтара гэтых радкоў у дзесяці школах Гародні настаўнікі й вучні пыталіся: за што выключана з школьнай праграмы іх зямлячка Л. Геніюш? Падчас адной з сустрэч абураныя настаўнікі паказалі нам ліст з гарана, дзе загадвалася ня вывучаць на занятках творчасьць Л. Геніюш, Н. Арсеньневай ды М. Сяднёва. А незалежная гарадзенская газэта «Пагоня» 27 студзеня 1998 года выйшла з кідкім загалоўкам на першай паласе «Ларысу Геніюш рэпрэсавалі другі раз».

А робіцца гэта ўсё ў дагоду і па камандзе тых антыбеларускіх сілаў, якія сёньня ладзяць балтасараў баль на Беларусі. Праўда, на іхнія апантаныя заклікаваньні айчынная патрыятычная інтэлігенцыя адгукаецца ня вельмі ахвотна. Даводзіцца запрашаць плоймы чужаземцаў, якія заўсёды былі ня супраць пачаставацца на дармаўшчыну. А беларускія творцы, духоўныя водцы нацыі – у апале і пад забаронай. Дзіўна, чаму да гэтай пары кнігі Л. Геніюш і В. Быкава, забароненыя да выданьня, не забраны зь бібліятэкаў і ня спалены прылюдна на пляцы. Люд засумаваў па відовішчах – у 30-я гады ў Германіі кніжныя аўтадафэ зьбіралі тысячныя натоўпы.

Сёлета мінецца пятнаццаць гадоў зь дня сьмерці Ларысы Геніюш. З далечы часу, асабліва сёньня, калі разгарненьне беларускага нацыянальнага супраціву робіцца жыцьцёвай неабходнасьцю, асоба вялікай патрыёткі й паэткі паўстае ва ўсёй велічы. Слова яе павінна бязь перашкодаў даходзіць да чытачоў. І так будзе, нягледзячы на ўсе забароны, – адразу ў некалькіх недзяржаўных выдавецтвах рыхтуюцца кнігі Геніюш. Прыйдзе час, і яе творчасьць, узноўленая ў сваёй першароднай красе, пазбаўленая цэнзурных скаротаў, сабраная ў дыхтоўны нешматтомнік, стане агульнанацыянальным здабыткам. І, кажучы клясычным Жылкавым словам, «зь дзіўнай любасьцю чытацьмем тое мы, што захавалася на палімпсэсьце».

*1998*

# БРАТАНІЧ НЕБА Ў НІМБЕ ГАЛУБІНЫМ

Кітайская мудрасьць сьцьвярджае, што творцу толькі пасля сямідзесяці гадоў адкрываецца Боская таямніца. Няхай ты дзьве Сарбоны закончыў, адзін літінстытут і паўшколы Ахрэмчыка з падзячным лістом, але калі ня маеш сем дзясяткаў за плячыма, сапраўднае боганатхнёнае тварэньне застаецца для цябе недасягальнай марай. Зусім не зважаць на кітайцаў не выпадае – яны, кажуць, першымі навучыліся вырабляць паперу, чым зрабілі важкі ўнёсак у разьвіцьцё чалавечай цывілізацыі.

З гледзішча нашчадкаў Ду Фу ледзь ня ўся беларуская літаратура падпадае пад рэвізыю. Тых, каму пашчасьціла дасягнуць запаветнай мяжы і хто па-ранейшаму чуе (ці нарэшце пачуў) Боскія нашэпты, – лічаныя адзінкі.

Анатоль Вялюгін пасьпеў адсьвяткаваць свой сямідзесяцігадовы юбілей і пасьпеў на схіле жыцьця напісаць сваю найлепшую, на маю думку, кнігу – «Заклён на скрутны вір».

Неяк у школе настаўніца роднай мовы й літаратуры падаравала мне адзін з выпускаў штогодніка «Дзень паэзіі», спадзеючыся, відаць, разьвіць мае здольнасьці да рыфмаваньня. Але, выхаваны ёю ж на «Камсамольскіх білетах» і «Надзях-Надзейках», я меў у той час стойкі імунітэт да беларускай паэзіі. Да таго ж у галаве круціліся іншыя інтарэсы. Непадалёк ад нашай вёскі летам атайбоўваўся заклятаы вораг каларадзкіх жукоў «Ан-2», а зямля ўжо была сходжаная мной удоўж і ўпоперак – аж да мястэчка Дзярэчын уключна. Да яго цярэспале было кіляметраў тры, але ў яснае й ціхае надвор'е мястэчка пагрозьліва

даставала пікай касьцёла да нашага возера. Носячы зьнішчальнікам жукоў яблыкі з калгаснага саду, я грунтоўна рыхтаваў сябе ў лётчыкі, і настольным чытвом тады ў мяне была знойдзеная ў макулатуры кніга Марсэля Міжо пра аднаго адважнага францускага авіятара. Але аднойчы, каторы раз спатоліўшы свае нябесныя памкненні чытаньнем пра авіякатастрофы ў Альпах, Сахары й ніяк ня могучы запомніць поўнае імя героя Антуана Мары Ражэ дэ Сэнт-Экзюпэры, я ўзяўся гартаць падарунак настаўніцы. З усіх вершаў у памяці засталіся радкі пра сьмерць ваеннага лётчыка:

*Віры нябёс,*
*спаліўшы крылы,*
*цябе, саколе, узялі.*
*І праўда,*
*лётчыкаў магілы*
*спаткаеш рэдка на зямлі.*

І ў Экзюпэры ня было зямнога апошняга прыстанку. Яго таксама паглынулі «віры нябёс».

Тады я нават і не падазраваў, што мая пераджагнаная прапелерамі душа ўадначас займела шанец пабагацець адразу на дзьве паэзіі. Да «Маленькага прынца» было яшчэ далёка, а Анатоль Вялюгін (а менавіта ён быў аўтарам згаданага верша пра сьмерць лётчыка) у школьнай праграме ня значыўся.

Знаёмства з самім Вялюгіным было болей празаічным. Знаёмы паэт вырашыў звадзіць мяне на паказ мэтру. Імкнучыся паўстаць перад ягонымі вачыма разьняволеным і самастойным, я, нібы той казачны джын, палез у адпаведны посуд. І, відаць, задоўга не вылазіў, бо праз пэўны час ледзь не ўшчаміў сам сябе ў падвойных дзьвярах вялюгінскай кватэры. А яшчэ праз колькі хвілінаў вымушаны быў зрабіць спрынтэрскі кідок па даўжэзным, хоць на ровары езьдзі, калідоры ў напрамку магчымага месцазнаходжаньня аб'ектаў каналізацыі...

Назаўтра Вялюгін сам патэлефанаваў мне на працу й дыпляматычна распавёў, як ён цалаваўся з канём на вясельлі ў Юркі

Голуба, а нейкая кабета ў квяцістай шаляноўцы казала, што на гэткае здольны толькі паэт. Кабетай аказалася Ларыса Геніюш, ад якой Вялюгін тут жа атрымаў запрашэньне наведаць недалёкую Зэльву.

Нядаўна, рыхтуючы да публікацыі ў часопісе «Роднае слова» лісты Ларысы Антонаўны да Адама Мальдзіса, я быў прыемна зьдзіўлены, зь якой павагай і даверам адгукалася Геніюш пра Вялюгіна пасьля тых некалькіх выпадковых сустрэч: «...Зь Вялюгінскай галавы б'е розум, эрудыцыя, вялікія здольнасьці сапраўды таленавітага чалавека! Я ім захоплена! Яго твар мне нагадвае крыху Купалаўскі». Папераджываўшы над авантурнай задумкай маладога Барадуліна ехаць ваяваць у В'етнам, Ларыса Геніюш праз колькі радкоў вярнулася да ранейшай тэмы: «О юнасьць і яе ўзьлёт! Я зноў пра Вялюгіна, гэта такі цікавы й добры чалавек, што я не магу забыцца аб ім». Праз два тыдні Ларыса Антонаўна зноў дзеліцца з А. Мальдзісам галоўнай зэльвенскай навіной: «Я вам, здаецца, не пісала, што мы мелі прыемнасьць гасьціць у сябе Вялюгіных. Ня ведаю, але мы адчулі радасьць ад іх прабываньня ў нас і нейкую шчырую сяброўскасьць. Жаль, што яны былі коратка».

Пасьля сканчэньня ўнівэрсытэта мы з жонкай амаль чатыры гады жылі ў Заслаўі, дзе Натальля працавала ў музэі й дзе наняць кватэру можна было значна таньней, чымся ў сталіцы. Пачасту мы, пазычыўшы ў знаёмых ровары, ехалі напрасткі праз Валоўшчынскі лес на легендарную Лысую гару, дзе ў Вялюгіна было лецішча. Там, у падсуседзях у сьпелага бору, ён з жонкай Людмілай Мікалаеўнай звычайна жыў ад халадоў да халадоў, наяжджаючы ў Менск толькі пры пільнай патрэбе. Ад тых размоваў, вершаў у альтанцы засталося ў душы сьветлае рэха. Адданая больш за слуцкімі народнымі песьнямі, жонка «мурожную й росную» паэзію Вялюгіна прыняла без агаворак, кажучы, што ўжо за адно аблічча – сьветлае й узьнёслае – паэта можна было б узьвесьці ў почат сьвятых. Як дарагая памятка пра тыя лысагорскія сустрэчы засталіся надпісы на кнігах: «Натальлі й Міхасю Скоблам са шчырым пажаданьнем росквіту іх тален-

таў. І яшчэ: пакуль жывяце ў Заслаўі, запрашаю да сябе ў лясны дамок – Анатоль Вялюгін». На фотаздымку ў апошнім выбраным «Зь белага каменьня – сіняе пламеньне» ён выглядаў прыгорбленым, натомленым. «Дарагі Міхась, прымі гэту кніжэнцыю як даніну таму, на шчасьце перабытаму часу, з каменнай глыбы якога ўсё ж струменіла сіняе пламеньне. З абяцаньнем напісаць прадмову да тома паэзіі Міхася Скоблы – Анатоль Вялюгін. Валоўшчына, 19 чэрвеня 1993 г.»

Помніцца, я тады сказаў яму, што напісаць том паэзіі наўрад ці здолею. Але калі ён пастараецца перажыць свайго дзеда, стадванаццацігадовага Цярэшку Вялюгу, то я таксама пастараюся й гадоў так праз паўсотні прынясу яму рукапіс.

Ул. Набокаў параўнаў паэта з качагарам у труме карабля – ён нават ня бачыць, куды плыве карабель, але ведае цьвёрда, што агонь у топцы не павінен згаснуць. Ня ведаў і Вялюгін, як ягоны верш «Вечар» неаднойчы саслужыў добрую службу, палагодзіўшы ў жыцьцёвым моры адчайныя чаўны людскіх душаў. Ледзь толькі ў нас з жонкай ад маладой сямейнай неспрактыкаванасьці ўсчыналася спрэчка, мы пачыналі, як ратавальную малітву, чытаць «у асобах»:

*– Куды ідзеш, Наталачка?*
*– У агарод, Міхалачка.*
*– Па што?*
*– Па цыбулю.*
*– Пастой,*
*пацалую.*

Вось вам і практычная карысьць ад паэзіі. Там жа, на Лысай гары, пачуў [redacted] й большую частку вершаў, што неўзабаве склалі кнігу з таемна-страхотлівай назвай «Заклён на скрутны вір». Ня думаў я ў той час, што празь нейкі год з прычыны вечнай адсутнасьці аўтара рукапіс у выдавецтва давядзецца несьці мне.

Янка Брыль назваў «Заклён на скрутны вір» малітоўнікам. І сапраўды, у кнізе няма лішніцы, слова са словам счэплена на-

мёртва, як зьвенчакі ў ланцугу. Думка скандэнсаваная, вобразы ўштукаваныя ў вершы, нібы каштоўныя камяні ў дыхтоўныя аправы. Насамрэч, для тых, хто яшчэ захаваў здольнасьць прычашчацца словам, – сьвятое пісьмо.

На саракавінах па паэце за жалобным сталом устаў сівы пісьменьнік і доўга гаварыў пра вернасьць Вялюгіна былым ідэалам. Маўляў, ня здрадзіў, як некаторыя, старым савецкім сымбалям, пад якімі пражыў усё сваё некароткае жыцьцё. У пацьвярджэньне цытаваў вялюгінскія радкі:

*Памяці бронза,*
*скарбовае золата,*
*нафты растопіцы*
*і малака, –*
*усё,*
*што здабыта*
*сярпом і молатам,*
*пушчана*
*з малатка.*

Я быў знаёмы зь Вялюгіным намнога менш часу, чым сівы пісьменьнік, а таму засьцерагуся сьцьвярджаць гэтак катэгарычна. Але, чуючы ў вялюгінскай «Спробе тастаманту» скрушлівы ўздых: «столькі непатрэбшчыны ў падарожным набытку», спрабую вызначыць гэтую непатрэбшчыну ў немалым наробку паэта. Што ён, «перабіраючы ўсё па каліву», стараўся апускаць у апошніх выбраных, што перапісваў нанова? І прыгадваю, як паэт з эпічнай нясьпешнасьцю чытаў мне пераніцаваную «Паэму любові», адзін з найлепшых сваіх твораў, дзе, як рэфрэн у песьні, як замова, двойчы паўтараецца страфа:

*Чысты кужаль на золку*
*бяліла ты ў белай расе,*
*а крывёй тваіх кроўных*
*зара на тканіну цякла, –*
*і ты Сьцяг узьняла!*
*Сёньня думку галубім усе:*

7 Зак. 1378

*каб крывінка мая*
*у чырвонай палосцы была!*

Бязь цяжкасьці можна адшукаць у вершах Вялюгіна й гэткую ненавісную сяму-таму сёньня «Пагоню». А як трапна сказана паэтам пра наш мітынговы час:

*Ня злічыш да суботы*
*пад ветласьцю жалезнай,*
*на колькі тысяч ботаў*
*падкута незалежнасьць.*

Ды марны гэта занятак – дзяліць паэта: тут ён наш, там трошкі ваш, а ў там-тым творы – іхні. Хоць гэтая дзяльба не мінае, мабыць, ніводнага таленавітага творцы, які жыў у пераломны час. Купалу да гэтай пары дзеляць. Ня мецьме, напэўна, спакою і аўтар вядомай паэмы «Вецер з Волгі» – а як жа, яшчэ адзін exegi monumentum.

Зрэшты, калі ёсьць крэсіва, паэтычную іскру можна высекчы й з манумэнта правадыра.

Гартаю апошнюю вялюгінскую кнігу й не магу пазбыцца назойлівай думкі. Так, і вайну пераджыў, і букет хваробаў пад старасьць нажыў, і сямейныя трагеды не прайшлі бязьсьледна, але быў жа трывалай вялюгінскай пароды – чаму так імкліва згарэў? Мо таму, што неабачліва, раз за разам пачаў закранаць тэму сьмерці...

*Раніцай ганяе галубоў*
*чалавек сьмяротнага ўзросту.*

.....................................................

*Вясна гартае чарнавік*
*маіх астатніх дзён.*

.....................................................

*Адно скупое «ку-ку»,*
*і змоўкла варажбітка,*
*мне толькі год*
*(акрайчык)*

*пакінуўшы на жытку.*

*..............................................*

*Ары глыбей, варочай глыбы,*
*бо жыць табе астаўся дзень.*

Дасьведчаны ў паэзіі, ён і ў жыцьці ня бачыў патрэбы лічыцца з прымхамі й забабонамі? Але гэтая прымха жахае праўдзівасьцю. Тут дарэчнымі будуць развагі пісьменьніка Ф. Іскандэра: «У паэта, як і ў кожнага чалавека, можа ўзьнікнуць нясьцерпны боль, агіда да жыцьця, жаданьне пазбавіцца ад гэтага болю. Але, напэўна, ёсьць грандыёзная розьніца паміж жаданьнем разьвітацца з гэтым жыцьцём і яго зафіксаванасьцю ў паэтычным творы. Д'ябал хапае гэты верш і бяжыць да свайго начальства, нібы з даведкай: «Вось яго подпіс! Ён сам захацеў!» Д'ябал увогуле любіць даведкі».

На асновьдзі жыцьцялюбнай вялюгінскай паэзіі згаданымі вышэй вершамі выткаўся містычна-конавы ўзор. Зборнік «Заклён на скрутны вір» скончыўся «Заклятым годам» – творам разьвітальным, хоць апошнія радкі й пялегавалі надзею. Заклятым залом над паэзіяй абярнуўся зломам у жыцьці.

Анатоль Вялюгін быў шчодры і ў літаратуры, і ў побыце. Цэлую бібліятэку маглі б скласьці беражліва адрэдагаваныя ім, ахрышчаныя паводле аднаму яму вядомых сьвятцаў кнігі. Здаралася, Вялюгін пісаў да зборнікаў іншых паэтаў ня толькі прадмовы – у шэрагу выпадкаў гэта відно няўзброеным вокам. Сёйтой з паэтаў, відаць, цяпер вымушана прымоўкне – безь вялюгінскай падмогі. Шмат хто з творцаў і сёньня, мабыць, даношвае вялюгінскія гарнітуры, капелюшы й гальштукі. Не заўсёды вучні былі ўдзячныя свайму настаўніку. Складаліся абразьлівыя эпіграмы – Вялюгін ня быў анёлам. Але так павялося ўжо здавён, што калялітаратурнае жыцьцё нярэдка пранізана зайздрасьцю, непрыманьнем не свайго, узаемнай непавагай, што часам пераходзіць усялякія межы. І Рэмбо з Вэрленам страляліся, і Гумілёў Валошына на дуэль выклікаў, і Купала Коласа пасярод лужыны з машыны высаджваў...

Здаралася, былыя вучні, увядоміўшыся, самі пісалі прадмовы да кніг Вялюгіна. Цудоўнае эсэ Р. Барадуліна да апошняга вялюгінскага двухтомавіка, эмацыйнае й адначасна разважлівае ўступнае слова М. Стральцова да кнігі перакладаў «Журавлиный реквием», якая так і не пабачыла сьвету. А перакладалі Вялюгіна расейскія паэты першай велічыні М. Асееў, М. Забалоцкі, Б. Пастарнак, Ганна Ахматава. Адзін з найлепшых вялюгінскіх вершаў «Летнік» загучаў неяк па-ахматаўску першародна:

*К чубу липнут осы.*
*Летник вьётся лесом,*
*сенные очёсы*
*на ветвях навесом.*

Ахматава «пацяруху» пераклала не зусім дакладна як «очесы», але як яны, гэтыя незацяганыя «очесы», тут да месца.

Сам выдатны паэт і бліскучы крытык, М. Стральцоў да паэзіі А. Вялюгіна ставіўся пашанліва. Кажучы пра вялюгінскі «вобразны аскетызм, пругкасьць слова і чаканнасьць яго», Стральцоў цытаваў «Рыбацкі могільнік» і захапляўся: «Майстар, паэт Анатоль Вялюгін, майстар!»

Паслухаем, як майстар гаворыць пра майстра (пра адзін зь ягоных восеньскіх вершаў), бо стральцоўскі артыкул да гэтай пары ня друкаваўся.

«Здаецца, у Горкага дзесьці ёсьць сьведчаньне пра тое, як захоплены быў сталы ўжо Талстой «празаічнай» дакладнасьцю радкоў маладога Буніна:

*Грибы сошли, но крепко пахнет*
*В оврагах сыростью грибной.*

Талстым яны ўспрымаліся, напэўна, нароўні зь любімымі цютчаўскімі:

*И паутины тонкий волос*
*Блестит на праздной борозде.*

Таксама ж – пра восень.

Не дакарайце мяне суседзтвам імёнаў. Проста я хачу сказаць, што мастацтва Анатоля Вялюгіна вельмі высокай пробы і зайздроснага, ні ў кога не пазычанага майстэрства».

Наўсьлед за Стральцовым не ўтрымаюся й я, каб прылюдна не захапіцца вялюгінскімі радкамі – паўнагучнымі, дакладна-барэльефнымі, хоць спрабуй навобмацак:

*Пахошчы лета мёдавейна*
*нясе ў кашах вусаты Спас.*
*Папас крамяны і надзейны,*
*з гурком і яблыкам папас.*

*У нізкім небе хмарны статак*
*пасеш вачамі. Сьмех і грэх,*
*занятак старца, а дастатак –*
*маланкай спалены арэх.*

*Папас душы – як дол парожні,*
*дзе попел страт, сьляды падкоў,*
*на холадзе аўсянай пожні*
*зьсівелі вочы васількоў...*

Цаны няма ім, гэтым «зьсівелым вачам» выцьвілых на сонцы васількоў. Як і ні ў якіх каратах не вымераць таго залатога запасу вялюгінскай паэзіі, дзякуючы якому ёй не пагражае ніякая інфляцыя.

Аднойчы мне давялося быць сьведкам шчымлівай і ўзрушальнай сцэны: паважны навуковец, аўтар шматлікіх дасьледаваньняў і манаграфій, чалавек чулы, але ўраўнаважаны, паслухаўшы новыя вершы Вялюгіна, укленчыў і моўчкі, зусім не па-мужчынску, пацалаваў аўтару руку. Рэдкі ў наш час учынак, але й вершы вялюгінскія таго вартыя.

Я наведваў яго ў больніцы. У нэўралягічным аддзьдзяленьні паэт пачуваўся нязгорш, прынагодна ўсьміхаўся, жартаваў. Суседам па палаце аказаўся былы дырэктар аднаго з акадэмічных тэхнічных інстытутаў, даўні знаёмец. Інтэлігентны чалавек,

ён выявіў неблагі досьвед і ў літаратурных справах, сьмешна распавядаў пра сустрэчы з Кандратам Крапівой, захоплена чытаў уласныя экспромты. Помніцца дабрадушна-хітраваты вялюгінскі прыжмур: маўляў, і ў лякарні даводзіцца весьці адзьдзел паэзіі (як ён шмат гадоў вёў яго ў «Полымі», ды й паўсюль, дзе толькі ні заходзіла гаворка пра паэзію, – вялюгінскі аўтарытэт быў непахісны).

У чарговы свой прыход я не застаў яго на старым месцы, сусед устрывожана паведаміў, што зь Вялюгіным вельмі блага – у яго знайшлі новую хваробу й перавялі ў іншы корпус. У цеснаватай, напоўніцу заселенай новай палаце паэту бракавала прасторы, ён цяжка дыхаў, моцна зьмяніўся з твару. Разьвітваючыся, я ня мог пазбавіцца думкі, што гэтае спатканьне апошняе...

Сонечным кастрычніцкім днём мармуровы горад за паўночнай менскай ускраінай прымаў на вечнае пасяленьне нованага жыхара. Не раскідаў кветак вецер, не шугала залева, як напісаў адзін пасьпешлівы мэмуарыст. Да небакраю, як паспалітае рушэньне, цягнуліся незьлічоныя легіёны помнікаў. Доўга й няўмела забівалі цьвікі трунар – апошняя хата ўпарта не хацела зачыняцца, была зацеснай.

Паэта выпраўляла ў неба авіяшкола, лучылі белай повязьзю з сонечнымі высямі галубы (паэмку пра іх ён узьнёсла назваў сьвятасьпевам). Але зямное прыцягненьне падступна заманула ў жвірыстую яму.

Ён бачыцца мне не зблажэлым, на бальнічным ложку, а сьветлатвара-белагаловым, у рухомым сьнежнакрылым воблаку ля свайго лысагорскага лецішча.

Братаніч неба.

У галубіным німбе.

*1996*

# З ГЛЕДЗІШЧА ВЕЧНАСЬЦІ

Чортаў плюшч праз вузкую шчыліну залез на зашклёную кніжную паліцу й абхапіў сваімі бела-зялёнымі прысмочкамі кнігу. Ён прагна ўпіўся ў мяккую вокладку, расьпіхваючы цесны кніжны шыхт, прабіраўся далей, каб замкнуць кола сваіх драпежных абдымкаў. Спахапіўся я запозна – на факсымільным выданьні паэзіі Натальлі Арсеньневай «Пад сінім небам» назаўсёды засталіся сьляды, здавалася б, такой лагоднай і бяскрыўднай расьліны.

Потым ужо я даведаўся, што навуковая назва плюшча – сцындапсус, што ён зь сямейства ліянаў, што чортавым плюшчом яго спрадвеку меналі ў народзе. А таксама ня раілі трымаць у спальнях і паблізу працоўнага месца. А тады, зь цяжкасьцю адрываючы ад кнігі прысмочкі, гэтак падобныя да васьміногавых, я перажыў нейкі містычны страх, нібы ў самотнай інтэрнацкай кельлі прысутнічаў нехта невідочны. Праз некалькі дзён, нягледзячы на тое, што я сумленна працягваў выконваць інструкцыі жонкі (яна адпачывала на Случчыне) наконт паліву ўсяго ейнага батанічнага кутка, чортаў плюшч неяк увесь раптоўна пабляк, зьмізарнеў ды пачаў засыхаць. Яго не цікавіла сонечнае сьвятло, яму як бы падсеклі карані, як бы адарвалі ад крыніцы сілкаваньня.

Разгарнуўшы зборнік Арсеньневай, я быў літаральна прыгаломшаны выбухам фарбаў, фэерверкам веснавых радасных эмоцыяў:

*Неба сіняе, сіняе, сіняе...*
*Ані межаў у ім, ані дна.*
*На зямлі ж прыгажуняй-княгіняю*
*пазірае мне ў вочы вясна.*
*Лазьнякі срэбным пухам акрыліся,*
*вецер пыл па-над імі мяце,*
*тут – пралескі ў раўку затаіліся,*
*сіраціная фіялка цьвіце,*
*там – жаўцеюць вяночкі вясновыя*
*красак нейкіх, нязнаных яшчэ,*
*там – ізноў, залатыя, лілёвыя...*

І я зразумеў, што вампіры існуюць ня толькі ў абрыдлых, як горкая рэдзька, фільмах жахаў і ня толькі сярод людзей...

Постаць Арсеньневай ужо даўно набыла абрысы легендарнасьці ў гісторыі беларускага прыгожага пісьменства. Уявім: жыве ў невялікім амэрыканскім гарадку Рочастар паважнага веку жанчына. Атожылак на радаводным дрэве, якое ўзгадавала аднаго з геніяльнейшых паэтаў сьвету Міхаіла Лермантава. Вучаніца Максіма Гарэцкага ды Антона Луцкевіча. Каляжанка (па заходнебеларускім літаратурным руху) Максіма Танка – ён прысьвяціў ёй цудоўны верш «Нашы дарогі». Аўтар беларускага гімна «Магутны Божа» – яго пашанліва сьпяваюць беларусы па ўсім сьвеце. Ёй яшчэ ў 20-я гады прарочылі бліскучую будучыню літаратурныя мэтры. І разам з тым – амаль поўнае забыцьцё на Радзіме. Гадоў колькі таму мільгануў белым ветразікам на адраджэнскай хвалі амаль адначасова перавыдадзены выдавецтвамі «Мастацкая літаратура» і «Бацькаўшчына» яе першы віленскі зборнік (на які й паквапіўся падступны чортаў плюшч). Даволі вялікая нізка вершаў Арсеньневай зьмешчаная ў анталёгіі «Туга па Радзіме». Але, як заўважыла й сама паэтка, падбор аўтараў і твораў у той анталёгіі быў нейкі дзіўны. Дзіўнымі й незразумелымі можна назваць і адносіны дзяржаўнага выдавецтва да асобы Арсеньневай – так, яе вер-

шы вывучаліся ў школе, але выдаць грунтоўны том, на які даўно заслугоўвала паэтка, шмат гадоў нешта перашкаджала. Ажно пакуль Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку не дапамог фінансава. Кніга чакалася гэтак доўга, што выйшла зусім неспадзявана, асабліва калі ўлічыць сёньняшняе становішча нацыянальнай культуры.

Натальля Арсеньнева ўмее назіраць прыроду, мэмбрана яе душы адчувальная да ледзь улоўнага павеву прыгажосьці – ці гэта восеньскі ліст, ці кропля расы ў павуцінавых шатах. Увогуле незразумела, якую крамолу знаходзіла цэнзура ў бязважкай, як воблакі, пэйзажнай лірыцы паэткі. Відаць, прычына пададзронасьці карэнілася ў біяграфіі, якая, на думку ідэалягічных наглядчыкаў, не адпавядала савецкім патрабаваньням: а як жа, удзельнічала ў 2-м Усебеларускім Кангрэсе, не пажадала вярнуцца ў СССР пасьля вайны. Гэта ж яна, Арсеньнева, у 1942 годзе напісала верш «Жыве Беларусь», дзе ні слова ня сказана пра гераічную партызанскую барацьбу, дзе няма заклікаў накшталт «рэжце гітлерцаў паганых», а гаворыцца пра спробы станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці:

*Радасьць жаўранкам звоніць над хмарамі,*
*хай ня згледжу яе, не зьбяру...*
*Дні насталі важкія, змагарныя,*
*зноў*
*спрабуе расьці Беларусь.*

Што ж гэта былі за спробы?

Пасьля татальнай забароны ўсяго сапраўды беларускага, пасьля жахлівых трыццатых гадоў, калі нават гаварыць голасна на роднай мове на вуліцах Менску было небясьпечна (Арсеньнева ў сваіх успамінах прыгадвае на гэты конт перасьцярогу Кучара), – на Беларусі абуджаецца нацыянальнае жыцьцё: пачынаюць выходзіць беларускія пэрыёдыкі, дзейнічаць цывільныя ўстановы, працаваць школы. Нямецкія ўлады спрыялі беларусізацыі царкоўнага жыцьця, было распачата правядзеньне зямель-

ных рэформаў. Таму ня дзіўна, што многія беларусы актыўна падключыліся да працы па адраджэньні панішчанай бальшавіцкім рэжымам Бацькаўшчыны. Сваё сапраўднае аблічча фашысцкія акупанты пакажуць пазьней. Як можна было ўсё прадугледзець, цьвяроза ўзважыць у тых няпэўных, зьменлівых ваенных варунках, калі нават сёньня, маючы за плячыма сувэрэнную пяцігодку, беларускі народ так і ня ўцяміў, хто ўяўляе найбольшую пагрозу для яго самога.

У публікацыях пра беларускіх паэтаў ваеннага пэрыяду нене ды й прамільгне хоць і не катэгарычнае, згадліва-асьцярожнае вызначэньне «калябаранты». Ужываецца яно часам і ў дачыненьні да Арсеньневай. Дык у чым жа яе калябарацыянізм? Што вершы пра восень у акупаваным Менску, а не ў партызанскай зямлянцы пісала? Што адгукнулася на просьбу архіяпіскапа Філафея ды напісала «Малітву»? Што ўдзельнічала ў тым беззнадзейна-разьвітальным зьезьдзе-кангрэсе? У зборніку матэрыялаў кангрэса, выдадзеным у Мюнхэне ў 1954 годзе, надрукаваны сьпіс удзельнікаў гэтага надзвычайнага мерапрыемства з абавязковай пазнакай пасады дэлегата. Скажам, насупраць прозьвішча Р. Астроўскага так і пазначана – прэзыдэнт БЦР. Дык вось, Натальля Арсеньнева ўганараваная ў гэтым сьпісе высокай пасадай паэткі, як, дарэчы, і Ларыса Геніюш. Іх запрасілі на кангрэс не як заслужаных дзеячак, а як вядомых ужо на той час творцаў, каб надаць вагі арганізаванаму пад грукат савецкіх гарматаў сходу. А твораў, прысьвечаных акупантам, ні ў Арсеньневай, ні ў Геніюш папросту няма. Дык пры чым тут, скажыце, усе калябаранты разам узятыя і параўнаньні з зацягаӈым па шматлікіх опусах Кнутам Гамсунам, які адкрыта ўсхваляў фашызм? І сёньня знаходзяцца «выкрывальнікі» калябарацыянізму, што выступаюць прыкладна з тых самых пазыцыяў, што й «абаронцы» Н. Арсеньневай...

Натальля Арсеньнева дыфірамбаў гітлераўцам не сьпявала, наадварот, некаторыя творы непрыхавана бунтарныя:

*Годзе!*
*Годзе нарэшце,*
*годзе*
*чарвякамі зьвівацца, поўзаць!*
*Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,*
*хоць ісьці нам парой і коўзка, –*
*насьмяёмся яшчэ і зь ліха!*
*Досыць падаць прад кожным ніцма!*
*Лепш на момант агнём успыхнуць,*
*чымся літасьцяй век давіцца!*
*Што далі нам калі чужыя?..*

Верш «Годзе!» быў водгукам паэткі на забарону немцамі сьвяткаваньня 25-х угодкаў Першага Усебеларускага кангрэсу і надрукаваны ў «Беларускай газэце» 23 сьнежня 1942 года. З рук фашысцкіх спэцслужбаў, якія адразу вычулі ў вершы крамолу, аўтарку здолела выбавіць Юльляна Дубейкаўская – акупанты палічылі магчымым прыслухацца да запэўніваньняў сваёй перакладчыцы. Падобныя канфлікты паміж акупантамі й беларускімі прадстаўнікамі наўрад ці былі частымі, але ў Арсеньневай гэты выпадак не адзінкавы. Верш «Песьня каліноўцаў», напісаны да новай пастаноўкі п'есы Е. Міровіча «Кастусь Каліноўскі», разам з п'есай трапіў пад забарону адразу пасьля генэральнай рэпэтыцыі. Падобна на тое, што нямецкім літаратуразнаўцам у пагонах вельмі не падабалася ў вершах Н. Арсеньневай беларускае слова «годзе», і на гэты раз прамоўленае адкрыта і бязбоязна, як выклік:

*Але годзе!*
*Мы ўстанем!*
*Ціхім раньнем, на ўсходзе,*
*ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару*
*і ў сталёвым ад кос і ад песьняў паходзе*
*возьмем волю сабе і табе,*
*Беларусь!*

«Яшчэ адна вясна» – кніга сузіральная (нягледзячы на мноства клічнікаў у працытаваных творах). Нясьпешна ў душы паэткі нараджаецца верш-водгук на дасланы восеньню ліст, на прыляцелую зь неба закадаваную позву-сьняжынку, на прыветны пагляд княгіні-Вясны. Насамрэч, адносіны Арсеньневай да гэткіх звыклых нам усім пораў года нагадваюць стасункі дзе-небудзь на вялікакняжацкім двары – калі ўдзе вясна, дык «у вяночках пэрловых хмаркаў», «у цалунках гарачых сонцавых кос». І нават звычайныя ўборы – «у руні палёў» і «ў зеляніне садоў» – успрымаюцца як венцаносныя шаты. Увогуле, як заўважыла Ала Сямёнава ў прадмоўным слове, на звыклыя штогодні зьявы паэтка ўмее глянуць як на дзіва. Н. Арсеньнева разьсяляе сваіх багоў у прыродзе і сама як бы раствараецца ў ёй. У вершы «Гэтак будзеш ты мной» адбываецца цудадзейства – паэтка ператвараецца ў восень і пачынае жыць яе адчуваньнямі:

*Гэтак будзеш ты мной,*
*з маёй смагай і жалем,*
*я ж табою,*
*зыркою і перапялёстай.*
*Будуць людзі гукаць цябе проста*
*«Наталяй»,*
[redacted] *мяне клікаць «Восеняй»*
*гэтак жа проста.*

*І пачну я*
*табой*
*паміраць на галінах*
*звонка, шчыра і жоўта, і зырка-чырвона,*
*а ты –*
*мной угарышся у вершах і чынах,*
*я – рудым пусталістам,*
*а ты – пустазвонам.*
*А мо, сэрцам зьмяняўшыся,*

*буду я: «восень,*
*што за ўсіх залацей»,*
*ты ж – найбольшым паэтам.*
*Пахінуся табе недажатым калосьсем,*
*ты – заплачаш мне песьняй,*
*пачатай ня гэтта...*

Паэт – зьвястун свабоды, але яшчэ данашаэрным мысьляром сказана: каб адчуць, што такое свабода, варта панасіць кайданы. Знаходжаньне за кратамі дае абвостранае пачуцьцё свабоды, што ў сваю чаргу спрыяе творчаму самавыяўленьню. І сапраўды, у турме створана цэлая літаратура.

Але магчымыя выпадкі, калі турма абіраецца як сродак прыцягненьня ўвагі, папулярызацыі (Байран дзеля гэтае мэты трымаў гарэм). Пішацца правакацыйны тэкст, і творца сам сябе зачыняе ў вязьніцы. Пасьля выхаду на волю яму застаецца дробязь – напісаць выдатныя творы. Толькі тады арыштанцкая ватоўка на плячах (як гэта здарылася з Салжаніцыным і Бродзкім) мае шанец ператварыцца ў нобэлеўскі фрак.

Зьведала няволю й Натальля Арсеньнева. Праўда, казахстанская высылка доўжылася толькі з 1940 па 1941-ы год, а потым з хадайніцтва «высокапастаўленых асобаў» паэтка была вернута на Радзіму. Падставаў для шматгадовага абжываньня краіны пад назвай «архіпелаг ГУЛАГ» было больш чым дастаткова: «польская шпіёнка» (з Заходняй Беларусі ж), жонка афіцэра варожай арміі і г.д. Чым, якімі аргумэнтамі маглі адстаяць паэтку тыя «высокапастаўленыя асобы» з запалоханага і разгромленага ўшчэнт беларускага Саюза пісьменьнікаў перад бальшавіцкай уладай? Ці мо сапраўды вырашальную ролю адыграў той подпіс Арсеньневай, які, паводле сьведчаньня Максіма Танка, спачатку стаяў пад пісьмом заходнебеларускага народу вялікаму Сталіну? Потым подпіс нібыта зьнік– улады датумкалі, што сьціплая рамантычная паэтка ня вартая быць аўтарам гэткіх эпічных твораў. Напэўна, зразумела гэта й сама Арсеньнева – у

тым жа сорак першым ёю пачаты прысьвечаны «ўсім зняволеным» верш з вымоўнай назвай – «КРАІНЕ».

«Яшчэ адна вясна» – кніга настальгічная. Матыў звароту на Радзіму, абазваўшыся ў нешматлікіх вершах, паступова замоўк. Мары аб вяртаньні ўсьведамляюцца як нязбыўныя. І далёкая Беларусь, да якой за паўстагодзьдзя не ўдалося дабрацца, нібы ў сьпірытычным сэансе, перамяшчаецца за акіян («паэт жа – асілак»). І ўжо «вецер з Гудзону сяньня нейкі зусім беларускі», і ўжо:

*Слуцкім пасам бяжыць, зігаціцца дарога,*
*боты б'юць па ёй дактылі, б'юць анапэсты,*
*крэсяць рыфмы да змогі...*
*А мне сьніцца...*
*«Мы выйдзем» – граюць трубы, дзьмуць рогі...*
*Сакавік...*
*Менск...*
*Высокае Места...*

Цікава, што нават Набокаў, які адчуваў сябе ў англамоўным сьвеце як рыба ў вадзе, які неаднойчы гаварыў, што яму невядомае пачуцьцё настальгіі, і які, паводле ўласнага прызнаньня, мяняў краіны, як пальчаткі, пад канец жыцьця абмовіўся пра балючыя расейскія струны ў старой ліры (у яго была міжрэбравая нэўралгія).

Зрэшты, менавіта безрадзімец Набокаў найпраніклівей прызнаўся Айчыне:

*Воздух твой, вошедший в грудь мою,*
*Я тебе стихами отдаю.*

Часам, ідучы паўз Купалаўскі тэатр, прыгадваю, што ён за свой немалы век быў ня толькі прытулкам для Мэльпамэны. У гэтым тэатры 27 чэрвеня 1944 года праходзіў 2-і Усебеларускі Кангрэс – будынак і ўсярэдзіне й звонку быў аздоблены нацыянальнай сымболікай, ганаровую варту несьлі курсанты Беларус-

кай афіцэрскай школы. Менавіта ў сьценах гэтага тэатра на год раней прагрымела партызанская міна, разьлічаная на гаўляйтара. Але Кубэ ў тэатры не аказалася, загінулі цывільныя людзі, у тым ліку дзеці. Загінуў і першынец Натальлі Арсеньневай Радаслаў.

Памятаю, як зь сябрамі Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў мы спрабавалі адшукаць на Вайсковых могілках ягоны апошні прытулак. І хоць мы ведалі дакладна, што ахвяраў народных мсьціўцаў пахавалі паблізу царквы, пошукі закончыліся бязвынікова. За груваcткімі помнікамі расійскім генэралам ды іхным жонкам назаўсёды згубілася яшчэ адна беларуская магілка.

А тады, у 1943-м, маці не пракляла ў вершах забойцаў сына, свой найвялікшы боль змагла прыглушыць у сэрцы:

*Так, жыцьцю дагадзіць немагчыма...*
*Лёс – пражэрлівы, прагны стары...*
*Ён ня сьцішыцца, покуль ня выме*
*духу зь цела бяз права й пары...*

*Хай жа лепш і кусае і раніць*
*сэрца*
*болю калючы асьцюк, –*
*трэба, зубы зацiснуўшы, глянуць*
*проста ў злосныя вочы жыцьцю.*

Змагла, бо не было вінаватых у той міжусобнай калатнечы, калі свае забівалі сваіх.

Аўтарку кнігі «Яшчэ адна вясна» наблізіў да чытача Анатоль Кляшчук у сваёй адмысловай прадмоўнай фотанавэле. Усьцешна, што прызнаны наш майстар дабраў часу і скарыстаў магчымасьць наведаць славутую беларускую паэтку.

Вось ён, невядомы, таямнічы Рочастар. Тры пакаленьні Арсеньневых-Кушаляў – маці, сын, сынава дачка. Унучка лашчыць сабак, бабуля лашчыць на каленях сваю Беларусь – рассыпа-

ную па журботных і мужных, адчайных і малітоўных вершах выдадзенай у Нью-Ёрку кнігі «Між берагамі».

Вось яна, Натальля Арсеньнева, на амэрыканскай прызьбе – ва ўтульным прыхатнім шэзлёнгу ў атачэньні кветак. Глянеш, і чамусьці прыходзіць у галаву думка, што паэт у сталым веку мудрэйшы за любога філёзафа.

А вось пісаны рукой «другога сакратара Натальлі Кушаль (Арсеньневай)» пратакол устаноўчага сходу Беларускага Інстытута навукі й мастацтва, які дзеіць ужо некалькі дзясяткаў гадоў, робячы гэтак шмат карыснага дзеля беларусаў па ўсім сьвеце. Чаго вартая хоць бы славутая сэрыя бінімаўскіх выданьняў (мастацкая літаратура, дасьледаваньні, успаміны), куды ўвайшло ўсё лепшае, створанае беларускай эміграцыяй...

Чалавеку заўсёды хацелася ўвекавечыцца на зямлі – муміяй, помнікам ці высачэзнай пірамідай. Аднак усё зварачаецца ў прах, апрача таго, што было спачатку.

І нават калі спраўдзяцца прароцтвы незычліўцаў і чалавецтва перастане чытаць вершы (замяніўшы іх сурагатам камп'ютарных відэомаў зь якой-небудзь трасцай упрыкуску), настане дзень, калі ў кожным беларускім храме, настройваючы людзкія душы на высокі лад сумоўя з Богам, пачуюцца ўзьнёслыя словы: «Магутны Божа, ўладар сусьветаў...» Бо вечны Бог, і спрадвечная пад Ягоным апякунствам Беларусь. І гучацьме над сьветам увечненае Натальляй Арсеньневай яшчэ адно беларускае вячыстае Слова.

*1997*

# ЗАГАРТАВАНЫ МІЖАГНЁЎЕМ

Слова, як вядома, было на самым пачатку. Усе ахвярныя песьнясьпевы да неба, да сонца, да Бога вынесла зь зямное цямрэчы менавіта Слова. Так, нават для Таго, Хто ёсьць усюды, Які ўсё бачыць, Які ўсё чуе, – нават для Яго прамоўленае людзкое слова ёсьць неабходнасьць. Чалавек прамаўляе ў сусьвет з высачэзнага мінарэта, з напаўразбуранай манастырскай галубніцы, з падземнай пячоры, адрынуты й забыты самымі блізкімі вучнямі.

Слова – як вогнішча, з дапамогай якога язычніцкія жрацы-сьвятары ў старадаўнія часы ўздавалі хвалу багам. Якія дровы пакладзеш у агонь, гэткае й мецьмеш полымя. Не парушыш сьвятога правіла і з асьвечанай дубровы прынясеш чыстае дрэва – і ўскінецца да неба ачышчальнае полыска й доўга ня гаснуцьме ўночы. Зьдзейсьніш блюзьнерства, абразіш агонь сырым кустоўем, непатрэбным бадыльлём, што апынулася пад рукой, – і задушлівым дымам ахінецца навакольле...

Даглядаць агонь, карміць яго з далані – найпачэсны быў абавязак, найвялікшая адказнасьць. Служыць слову – ня менш клопатны занятак. Праз неасьцярожнасьць, неахайнасьць ці пасьпешлівасьць можна й галавою налажыць. Колькі іх, прыслужнікаў слова, жрацоў-самаахвярнікаў, паплацілася жыцьцём за свой зымправізаваны танец вакол кананічнага жэглішча. Колькі іх выгнанцамі разбрылося па сьвеце! Бяз права вяртаньня на родную зямлю, бяз права пачуць гімны жыцьцю ў роднай

мове, бяз права на старасьці гадоў укленчыць каля агню памяці, спрадвечнага зьніча, адагрэцца ды супакоіцца. А што можа быць страшнейшае за адлучэньне ад Радзімы?

Анафэма! І ў далёкім ад роднага котлішча Давыд-Гарадку на Палесьсі памірае АВІДЫЙ.

Анафэма! І на маскоўскіх пляцах палыхаюць вогнішчы з СКАРЫНАВЫХ кнігаў, а сам першадрукар (ён быў яшчэ і паэтам!), паблукаўшы па эўрапэйскіх сталіцах, вымушаны дажываць свой век садоўнікам пры чужым, хай сабе й каралеўскім, двары.

Анафэма! І на кракаўскіх могілках губляецца магіла адлучанага ад Беларусі Алеся ГАРУНА.

Анафэма! І мусіць прайсьці шляхамі лягернай «гээнны» Ларыса ГЕНІЮШ...

Парушыў заведзены кімсьці на гэтай зямлі парадак, асудзіў злачынства ці зьдзек з чалавека, любіш Радзіму больш чым трэба – пракляцьце табе й дзецям тваім, і слова тваё за сямю замкамі.

І траплялі за няблізкі сьвет паэты.

Натальля АРСЕНЬНЕВА, неўтаймоўная язычніца ў апяваньні прыроды, пясьнярка восені, – як жа яна адважылася ў акупацыйным 1942 годзе напісаць крамольныя радкі:

*Радасьць жаўранкам звоніць над хмарамі,*
*Хай ня згледжу яе, не зьбяру...*
*Дні настылі важкія, змагарныя,*
*Зноў*
*спрабуе*
*расьці Беларусь.*

Якая радасьць? Куды тая Беларусь расла? Ішла ж вайна народная...

Алесь САЛАВЕЙ, якога жыцьцё зрабіла фаталістам і які, не хаваючыся, дражніўся са сьмерцю, прадчуваючы сваю за-

гібель на чужыне. Як жа ён адважыўся друкаваць сваю паэму «На хуткіх крылах вольнага Пэгаса» ў фундаваным немцамі часопісе? Гэта ж людзі вершы чыталі, замест таго каб ісьці ў партызаны...

Масей СЯДНЁЎ – гэты ўвогуле самахоць вызваліўся з разбамбаванай немцамі савецкай вязьніцы. Хто дазволіў? Хай бы сядзеў да 1945 года, бальшавікі, вярнуўшыся, мо й выпусьцілі б...

Імя Міхася Кавыля ўпершыню сустрэлася мне ў пераліку дэлегатаў Другога Усебеларускага Кангрэсу, што адбыўся ў Менску ў 1944 годзе, – спаміж імёнаў Ларысы Геніюш, Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя, Хведара Ільляшэвіча, Уладзімера Клішэвіча, Лявона Случаніна. Матэрыялы Кангрэсу, апрацаваныя й выдадзеныя ў варожым на той час ( канец 80-х гадоў) Мюнхэне Беларускай Цэнтральнай Радай, пазычыў мне адзін аматар даўніны, які меў неблагі збор выдадзенай у вольным сьвеце літаратуры. Ён жа праз нейкі час пазнаёміў мяне і з паэтычнымі зборнікамі Кавыля. У хуткім часе пасьля выхаду ў сьвет (1990) трымаў я ў руках і ёмісты том кавылёўскага выбранага «Міжагнёўе». А неўзабаве надарылася магчымасьць пабыць на радзіме паэта.

У вёсцы Покаршаў на Случчыне пасохлі старыя вязы. Пад іхнімі агромністымі шатамі селішча не адзін дзясятак гадоў пачувала сябе, як пад надзейным абарогам. Не аднойчы залётныя буры ламалі сабе крылы на шырокіх крыжавінах, бездапаможна заблытваліся ў шырокіх кронах дрэваў. Ці то чарнобыльскі дождж наклікаў сьмяротную хваробу, ці то якая іншая пошасьць адабрала ў вязаў жыцьцё – хто ведае. І не падымаюцца ў вяскоўцаў рукі – сьпілаваць непатрэбны сухастой, дроваў на зіму назапасіць. Быццам спадзяюцца людзі, што ажывуць вязы, выбухнуць увесну зялёнай лістотай. А пакуль неба над Покаршавам – у кратах пачарнелых галінаў.

Маўчаць нежывыя дрэвы. Адляцела ў апошні вырай лісьце. А каб пяшчотны ветрык пагладзіў яго тут, на разпарасоненым гальлі, – мо й распавялі б старадрэвіны пра слаўную падзею на тутэйшай зямлі – Слуцкі збройны чын. А мо прыгадалі б вясёлага хлапца Язэпа Лешчанку, што нарадзіўся ў невялічкай хатцы каля саменькай вуліцы і блізу пятнаццаці гадоў пражыў сярод покаршаўцаў. Хлапца, які й стаўшы пасівелым дзедам, праз больш чым паўвекавую ростань, з далёкай Амэрыкі спрабуе дагукацца да любае сэрцу Случчыны.

Ці пачуе яго родная зямля, ці пазнае ў вядомым паэце Міхасю Кавылю таго падлетка Язэпа, што як паехаў у сталіцу па вялікую навуку, так і зьнік-прапаў у невядомасьці? Пэўна ж пачуе і пазнае, але ў адведкі запрасіць – дазвол адмысловы патрэбен, бо вёска ў калгас уваходзіць, а ў калгасах нашых гэткія парадкі. Таму й напытвае нясьмела паэт сьцежку да запаветнага парога, таму й просіць:

*– Каля Слуцку ёсьць адно сяло,*
*Невялічкае, двароў зь дзясятак.*
*Калі б вас туды як завяло,*
*Пашукайце, калі ласка, хату.*

У Покаршаў мы прыехалі на раварох у чысты жнівеньскі надвечар. Ахвочая на слова вясковая цётка правяла нас да двара Станіславы Андрэеўны Грузьдзевай – пляменьніцы паэта. Тут нас напаткала першае засмучэньне – два тыдні таму адляцела за акіян, пагасьціваўшы ў немалое мужавай радзіны, жонка Міхася Кавыля спадарыня Зося. Засмучэньне другое не прымусіла сябе доўга чакаць – зусім нядаўна, у 1991 годзе, як змовіўшыся, адышлі ў іншы сьвет родныя сёстры паэта Браніслава ды Ядвіля. Гэта пра іх ён прыгадвае ў аўтабіяграфічнай нататцы «Мой шлях»: «Я нарадзіўся 1 сьнежня 1915 года ў вёсцы Покаршаў на Случчыне. Хоць мы паводле колькасьці зямлі (чатыры дзесяціны ворнай) лічыліся сераднякамі, але жылі бедна,

часта недаядалі. Рэч у тым, што бацьку забілі на Першай сусьветнай вайне, і маці не магла даваць рады з гаспадаркай. А нас, дзяцей, было ажно пяцёра. Самая старэйшая сястра Франуся ў часе маіх нарадзінаў мела якіх восем гадоў. Па ёй прыйшла на сьвет Броня, а па Броні – Ядвіля. Два гады пасьля мяне нарадзілася Антаніна. Яна памерла зусім маладой».

Няма ўжо і сястры Франусі, на покаршаўскіх могілках знайшла сабе вечны супачын і маці паэта – Марыя Лявонаўна Лешчанка. Каля роднае хаты Міхася Кавыля адбылося ў нас кароткае знаёмства зь пляменьнікамі паэта. Аднаму чамусьці заманулася западозрыць нас у супрацоўніцтве з усяведнымі службамі, другі запрасіў у хату... глядзець мэксіканскі тэлесэрыял. Рухавая й гаваркая паэтава пляменьніца падсадзіла нас на прыхатнюю лавачку да бабулі Алесі (зрэшты, у вёсцы яе ніхто бабуляй ня кліча – у свае восемдзесят гадоў молада выглядае). У яе васільковых вачах сьветла адлюстроўваецца пражытае жыцьцё, куточкі падціснутых вуснаў раз-пораз кранае непаўторная маладая ўсьмешка.

А як жа, памятае яна свайго гарэзьлівага суседа, коней разам ганялі на начлег. Мабыць, добра адбіўся ў памяці той рамантычны начлег, калі нават у час ваеннага ліхалецьця, у 1943 годзе, паэт Міхась Кавыль згадаў яго ў адным сваім творы. Слухае бабуля Алеся верш з выдадзенай у далёкім Нью-Ёрку кнігі й летуценна ўсьміхаецца:

*Не забуду я, Алеся,*
*Час спатканьня над ракой,*
*Абдымаў нас ціхалесься*
*Вецер цёплаю рукой...*

Але вернемся ў думках з гасьціннага Покаршава сучаснага, што раскінуўся на некалькіх дагледжаных вуліцах, у Покаршаў 20-х гадоў, дзе было, паводле словаў Кавыля, усяго «двароў зь дзясятак».

Улетку будучы паэт зарабляў на хлеб для сям'і, пасьвячы вясковых авечак, і ўвесь астатні час вучыўся. Спачатку ў Грэскай сямігодцы, потым у Грозаўскай, потым зноў-такі ў Грэскай, якую закончыў пасьпяхова ў 1930 годзе. У тым жа годзе вырушыў у вялікі сьвет – паехаў у Менск і паступіў у Пэдагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага. Беларускую мову ў гэтай паважнай навучальнай установе выкладаў Антон Лёсік, літаратуру – Алеся Александровіч (сястра паэта). Пры тэхнікуме йснаваў хор, якім кіраваў слынны кампазытар Тэраўскі, у хоры падахвоціўся сьпяваць і юнак з Случчыны Язэп Лешчанка. Апроч хору, хлопец пачаў наведваць літаратурны гурток, дзе скрыжоўвалі дзіды ў спрэчках пра шляхі беларускага прыгожага пісьменства маладыя ды імпэтныя Максім Лужанін, Лукаш Калюга, Уладзімер Сядура, Сяргей Астрэйка... У дадатку да бабруйскай абласной газэты «Камунар» часта друкаваліся вершы, падпісаныя ўзьнёсла-паэтычна – Язэп Маёвы (гэткі модны на той час псэўданім абраў сабе Лешчанка). Пэдтэхнікумаўцы не цураліся жартаў, і значкі СВБ (Саюз ваяўнічых бязбожнікаў), якімі іх шчодра ўзнагароджваў атэістычны савецкі лад, з гонарам расшыфроўвалі няйнакш як «Саюз вызваленьня Беларусі». Вось за гэткія жарты ў 1933 годзе й трапілі ў бальшавіцкі канцлягер ледзь ня ўсе гурткоўцы. Язэпа Лешчанку завезьлі аж на Далёкі Усход. Там, у гэтак званым Сяданлягу, ён прабыў да 1936 года. Пасьля вызваленьня дадому ехаць не выпадала – Случчына ўваходзіла ў памежную зону, дзе забаранялася жыць розным «нядобранадзейным элемэнтам».

Лешчанка трапіў у Варонеж, дзе ўдалося атрымаць працу настаўніка і дзе яго застала вайна. Калі немцы акупавалі паў-Савецкага Саюзу, бальшавікі перасталі грэбаваць «ворагамі народа». Увесну 1942 года разьведчык Лешчанка ў складзе трох непераможных і легендарных савецкіх арміяў пад каман-

даваньнем слаўнага маршала Цімашэнкі трапляе ў «харкаўскім мяшку» ў палон. Зь нямецкае няволі яго неўзабаве выбавілі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Нямеччыне.

Пасьля спэцыяльных курсаў у польскім мястэчку Кельцы Міхась Кавыль прыяжджае ў Менск, дзе яго прызначаюць працаваць у прапагандовым адзьдзеле генэральнага камісарыята. У Менску ў той час дзеіла нямала беларускіх установаў – гаўляйтар Кубэ меў свой інтарэс да беларускага руху. Кавыль мусіў на машыне з акустычнай установкай езьдзіць па Менску і агалошваць франтавыя навіны. А яны былі ня надта вясёлыя. І аднойчы асьмялелы прапагандыст ледзь не налажыў галавою, не зусім шчыра напісаўшы ў данясеньні, нібыта ўсе месьцічы толькі й гавораць, што немцы вайну ўсё роўна прайграюць...

Не забываўся Кавыль і на сваё даўняе захапленьне – паэзію. Яго вершы друкаваліся ў «Беларускай газэце», «Шыпшыне», «Голасе вёскі».

У 1944 годзе Міхась Кавыль (пра гэта мы ўжо згадвалі) браў удзел у Другім Усебеларускім Кангрэсе. Грахоў, з бальшавіцкага гледзішча, у яго назьбіралася больш чым дастаткова – і міфічны СВБ, і палон, і дэлегацтва на Кангрэсе. Таму давялося шукаць прытулку ў Баварыі, у мястэчку Цытаў, дзе Кавыль працаваў нейкі час на авіязаводзе кіраўніком беларускай моладзі. Кіраваньне тое мела на ўвазе апеку падлеткаў перад нямецкай цывільнай адміністрацыяй. Даапекаваўся Кавыль да таго, што немцы далі яму паўгода канцэнтрацыйнага лягеру, але, Бог даў, неяк абышлося.

Вось што пра часы паваеннай калатнечы прыгадвае сам Міхась Кавыль. «Пачалося жыцьцё ў лягерох ДП перамешчаных асобаў. У гэтым няпэўным і невыразным часе апанавала мяне туга й роспач. Сябра мой Іван Кір'янаў, якому прысьвяціў першы свой зборнічак вершаў «Ростань», пакончыў самагубствам у Рэгензбургу. Я пастанавіў шукаць ратунку ў працы. Завербаваўся на тры гады ў Бэльгію капаць вугаль. Прамучыўся ў шах-

тах у Ля-Лювэры шэсьць месяцаў, дзе страціў на левай руцэ палец. Меўся атрымаць адшкадаваньне, але махнуў рукою на ўсё й пайшоў да лекара атрымаць спраўку, што ў капальнях працаваць ня мог. Мяне накіравалі ізноў у Нямеччыну ў лягер ДП у Натэрнбэрг. Гэта было ў 1948 годзе. З Натэрнбэргу перабраўся ў беларускі лягер Бакнанг. Тут крыху прыйшоў да сябе. Рэдагаваў газэту «Беларускае слова», і пасьля «Беларускую трыбуну», аж пакуль нябожчык пратапрасьвітар Мікола Лапіцкі не нагаварыў мяне ехаць у Амэрыку. Прызнацца, неяк не хацелася мне ехаць гэтак далёка. У Нямеччыне завяліся ў мяне добрыя знаёмыя, ды наагул цяжкі я на пад'ём. Але ўсё ж паслухаў я а. Лапіцкага і ў сакавіку 1950 году апынуўся ў Саўт Рывэры ў штаце Ню Джэрзы».

Міхась Кавыль – аўтар чатырох зборнікаў паэзіі. Да ўжо прыгаданай «Ростані» зь цягам часу дадаліся кнігі «Пад зорамі белымі» (Нью-Ёрк, 1954), «Першая рана» (Манчэстар, 1960), «Ціхія думы» (Саўт Рывэр, 1961). У 1990 годзе Беларускім Інстытутам навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку быў падрыхтаваны й выдадзены том выбраных твораў пісьменьніка «Міжагнёўе».

Вершы Міхася Кавыля праменяцца жыцьцяздольнай энэргіяй, яны дынамічныя і канкрэтныя. Нават у вершах-пэйзажах ёсьць акрэсьленасьць графічнага малюнка:

*Яшчэ сьнягоў ня выкіпела пена,*
*Вятры ільдзінак зорных не зьмялі,*
*А ўжо бруіцца па бярэзін венах*
*Прыглушаная музыка зямлі.*

І ўсё ж, як прызнаецца сам паэт, у яго творчасьці «пераважае грамадзянская лірыка, тэма волі й змаганьня». Бацькаўшчыне, запаветнай слуцкай зямлі прысьвечаныя многія вершы, а нават і паэмы Міхася Кавыля, адныя назовы якіх гучаць як прызнаньне ў любові да зямлі, што на мудрай лаціне завецца patria eterna: «Пад небам Случчыны каханай», «Закаханы я ў сонныя

сіні», «Случчына, мой сон ты сьветлакосы...» І сапраўды, яна вечная, Айчына. Пракаветная і неўміручая.

*Шмат мы зьмералі крокамі даляў,*
*Не адзін мілы вобраз пагас;*
*І жывых, нежывых пакідалі,*
*Але Край родны з намі, у нас.*

*Ён гамоніць, галосіць, трызвоніць*
*Цяжкім стогнам разьбітых званоў,*
*Гострым мечам нястрымнай Пагоні,*
*Гучнай славай палеглых сыноў...*

Паэт знаходзіць трапныя параўнаньні, прыглядаецца да ўсяго сьвежым вокам, і калі з жаўнерскага акопа, то – «зоры ў небе, як срэбныя росы, месяц – гузік на шэрым шынэлі». Калі зь вясковай маёвай вуліцы, то й ты, чытач, падзівіся, як «бэз расплюшчыў вочы сінія». Калі ж навакол тлумнае места, то – калі ласка – «бадзяйся вывіхамі вуліц».

Міхась Кавыль не пазьбягае публіцыстычнай завостранасьці. Свае сымпатыі й раней выказваў не хаваючыся, адназначна:

*Кожны крок са спадзевам трывожым,*
*Слоў вызвольных сьпісалі тамы;*
*І ў сьвятынях укленчваем: «Божа,*
*Збаў наш Край ад чырвонай чумы!»*

Трэба абмовіцца, што ў савецкай Беларусі пэўная цікавасьць да творчасьці Кавыля пэрыядычна зьяўлялася. Можна нават казаць пра ўплыў Кавыля на тагачасную беларускую паэзію. Інакш як зразумець той факт, што ў 1960 годзе ў газэце «Голас Радзімы», якая доўгі час манапольна ажыцьцяўляла сувязь мэтраполіі з замежнымі суайчыньнікамі, адначасова падпрацоўваючы «сувязной» у кампэтэнтных службаў, зьявіўся верш-падробка пад Міхася Кавыля, падпісаны адным зь ягоных

псэўданімаў. На правакацыю, праведзеную «янычарамі Масквы» (так іх ахрысьціў сам Кавыль), паэт адгукнуўся з гумарам:

*Быў у войску шэраговым,*
*Кандыбаў ад заду першым.*
*Чалавек я не вайсковы,*
*Ды ў мяне ёсьць зброя – вершы.*
*Я камандую радкамі,*
*Надаю імпэту рытму,*
*І сугучнымі палкамі*
*Вершы йдуць за мной на бітву.*

.......................................................

*А як нейкая пачвара*
*Пекане з засады ў душу,*
*Падымуся грознай хмарай,*
*Перуны на вас абрушу.*

Дасталося ў свой час на гарэхі ад Міхася Кавыля і ўбранзаведаму акадэміку Петрусю Броўку, і народнаму драматургу Андрэю Макаёнку, і штатнаму спэцыялісту ў эміграцыйнай літаратуры Леаніду Прокшу – у дасьціпных эпіграмах ды экспромтах.

Міхась Кавыль першы ў беларускай літаратуры стварыў вянкі санэтаў – «Цяжкія думы» (1956) і «Чорны лёд» (1958). І, як на маю думку, яны маглі б стацца ўзорам для напісаньня твораў падобнага кшталту – складаная кананічная форма не перашкодзіла паэту выказацца ўзьнёсла і адначасова разьнявolена:

*О, час жаданы у духмяным чадзе,*
*Чарэмхі водар, бэзу буйны хмель!*
*Калыша ноч пялёсткавую бель,*
*І ты адна, прысьнёная у садзе...*

Ужо больш за сорак гадоў жыве Міхась Кавыль у слынным сваёй беларускасьцю Саўт Рывэры. Ня так даўно сваімі рукамі,

талакой збудавалі тамтэйшыя беларусы ў гэтым мястэчку царкву сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Пры царкве дзейнічае бібліятэка, ёсьць нават банкетная заля, дзе адбываюцца розныя ўрачыстасьці. А яшчэ самыя галасістыя беларусы сабраліся ды заснавалі пры храме хор. Неяк, вярнуўшыся з заакіянскіх пагасьцінаў, кампазытар Зьміцер Яўтуховіч распавядаў мне, як ён сьпяваў партыю тэнара ў адным хоры з Міхасём Кавылём. Вынікам тых супольных сьпеваў сталася й творчае супрацоўніцтва. І вось пайшла гайсаць па Беларусі імпэтная песьня «Беларускія дзяўчаты» на словы Міхася Кавыля.

Кавыль за пісьмовым сталом працуе ня толькі на сябе. Разам з паэтам-земляком Янкам Золакам задумвалі выдаваць літаратурны часопіс «Прыйсьце», нават выйшла ў сьвет першая кніжка. Выданьне пакідала добрыя спадзевы, але, на вялікі жаль, першы нумар стаў і апошнім.

Другі праект – часопіс «Беларуская думка» – аказаўся больш удалым. Пачынаючы з 1963 года М. Кавыль як рэдактар падпісаў у сьвет больш за сорак нумароў.

У 1991 годзе Міхася Кавыля наведала карэспандэнтка «Голасу Радзімы» Таццяна Антонава. Распавядаючы пра часопіс «Беларуская думка», пісьменьнік зазначаў: «Выданьне гэтае йснуе выключна на ахвяраваньні эмігрантаў. З-за абмежаванасьці сродкаў часопіс выходзіць толькі раз на год. Накірунак яго [redacted] б вызначыў як антыкамуністычны. «Рысакоў татараў і манголаў Залыгала раскосая Русь. Закруцілі ў крывавае кола ленін-ханы маю Беларусь» (радкі з паэмы М. Кавыля «Непакорныя». – М. С.). Я глыбока перакананы, што камунізм і бальшавікі – гэта зло. І зь ім трэба змагацца, бо йнакш беларусы ніколі ня будуць жыць як вольныя людзі».

Міхась Кавыль мае двух дарослых сыноў – Міхася і Юрку. Гадоў зь дзесяць таму з жонкай Зосяй (родам яна зь вёскі Замасточча, што на Чэрвеньшчыне) перабраліся да новай асобнай гасподы. Вось як апісвае гэтую радасную і для амэрыканца

падзею сам гаспадар у лісьце да пляменьніцы Галіны Шчасновіч, якая жыве ў Слуцку: «Цяпер маем навіну: купілі сабе дом. Невялікі, аднафамільны, мае чатыры спальні, кухню, вітальню, страўню й два гаражы пад домам. Усіх восем пакояў! А яшчэ, што нам вельмі падабаецца – стаіць на высокім прыгожым месцы. Я вось думаю, як буду фарбаваць сьцены знадворку, дык і родную хату ўбачу...»

Покаршаў спадзяецца на сустрэчу з сваім слынным земляком. Вёска ў адвечных патайніках яшчэ зьберагае сваю беларускую душу. Цэлую касэту файных народных песьняў насьпявала нам адна покаршаўская бабуля. А на разьвітаньне прызналася, што яна яшчэ й вядунка, ведае магічную сілу слова, наладавала ў нашу торбу розных зёлак, карэньчыкаў, высушаных па адмысловым рэцэпце галінак з цудадзейнага дрэва *зашчырыны* – для лекаваньня ад усіх на сьвеце хваробаў.

За аселіцай нам трапілася на вочы перакошаная прыдарожная шыльда з перайначаным на расейскі манэр імем вёскі – Покрашево...

*1993*

# СЬВЕДЧАНЬНЕ СУПРАЦІВУ

Пра памяркоўнасьць і рахманасьць беларусаў даўно складзеныя показкі. Яны не абразьлівыя, як пра забытых цывілізацыяй чукчаў, і не зайздросна-падхалімскія, як пра кемлівых габрэяў. Анэкдоты пра беларусаў трагікамічныя, як і ўсё іх нацыянальнае жыцьцё. Памятаеце показку пра беларуса, які прыцярпеўся нават да пятлі?

Аднак талерантны ва ўсіх адносінах беларус – звычайны міт, прыдуманы й запушчаны ў масавую сьвядомасьць нашымі незычліўцамі. Прыгадайце, як часта можна сёньня пачуць быліцы пра працалюбны братні беларускі народ з вуснаў усходніх палітыкаў. А колькі мы ўжо начуліся пра ўласную памяркоўнасьць ад сваіх гаваруноў, якіх і сваімі назваць язык не паварочваецца – столькі зла ўчынілі яны Беларусі за апошнія гады.

Гісторыя народа творыцца яго дзяцьмі, што плоць ад плоці яго, што на яго зямлі «зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе». Давыд Гарадзенскі і Леў Сапега, кажуць, што вы былі вельмі памяркоўныя, баяліся, каб часам не пакрыўдзіць суседа-расьпеніцца?.. Тадэвуш Касьцюшка і Кастусь Каліноўскі, і вашай рахманасьцю нам сёньня тыцкаюць у вочы... Станіслаў Булак-Балаховіч і генэрал Вітушка, відаць, зашмат вы цацкаліся з ворагамі сваёй Айчыны, мала на той сьвет адправілі... І гэты пералік «рахманых» беларусаў можна доўжыць не на адну старонку. Кніга Юркі Віцьбіча «Антыбальшавіцкія паўстаньні і

партызанская барацьба на Беларусі» (Нью-Ёрк, БІНіМ, 1996) акурат і разбурае замацаваны стагодзьдзямі стэрэатып звышпамяркоўнага беларуса, які гатовы сьцярпець любы зьдзек і прымус, абы толькі вайны не было. Аўтар разглядае больш за дзясятак народных антыбальшавіцкіх выступаў, і гэта пасьля вялікага Кастрычніка, які, пачуўшы тысячагалосы адказ на пытаньне «А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?», нібыта запаліў перад беларускім народам зялёнае сьвятло на гістарычным скрыжаваньні.

Пра Слуцкае паўстаньне ведаюць усе. Ведаў і я, яшчэ задоўга да таго, як патрапіў сушыць цешчына сена на беразе сплытчэлай Лані. І кнігу А. Грыцкевіча «Вакол Слуцкага паўстаньня» чытаў задоўга да таго, як давялося запытацца ў дзевяностагадовага дзеда Грышкі пра даўнія падзеі на Случчыне. Бывалы дзед не сьпяшаўся кідацца ва ўспаміны перад малазнаёмымі людзьмі, але калі задумаў пахваліцца старой энцыкляпэдыяй і растлумачыць нам паводле яе мудрагелістае слова «прулялізм», з пажоўклага ад часу фаліянта вывалілася паштовая марка з надпісам «Асобны атрад БНР». Але толькі з кнігі Ю. Віцьбіча я даведаўся, што Слуцкае паўстаньне не было стыхійным бунтам пакрыўджаных прадразьвёрсткай сялянаў. Што гэта былі ваенныя дзеяньні рэгулярнага войска, падначаленага законнаму ўраду – Радзе БНР, супраць чужаземных захопнікаў. І што праўдзівей было б ужываць замест звыклых наймененьняў Слуцкае паўстаньне, Слуцкі збройны чын больш дакладную назву – Слуцкі Фронт БНР. Дзякуючы кнізе Ю. Віцьбіча, я пранікся яшчэ большай павагай да незнакамітага сёньня мястэчка Грэск, адкуль на мой сталічны стол звычайна трапляюць бульба, паляндвіца ды іншыя прысмакі. Не, я, пэўна ж, ведаў, што тутэйшую школу ў свой час скончыў паэт Міхась Кавыль, чуў, што празаік Алесь Жук паводле пашпарта – чалавек грэскі, бачыў, як тэрыторыю вакол пээмкоўскай канто-

ры часам падмятае ня хто iншы, як унук Язэпа Пушчы. Але сёлета, аглядаючы местачковыя ваколiцы з даху цесьцевага гаража (папросту кажучы, чакаючы чарговай порцыi смалы), я да бясспрэчнага геранчнага мiнулага Грэска далучаў i той зафiксаваны Вiцьбiчам факт, што чырвонаармейская рота, якая базавалася ў мястэчку ў канцы 1920 года, адмовiлася выступаць супраць слуцкiх паўстанцаў.

Апрача Слуцкага Фронту БНР Ю. Вiцьбiч падрабязна разглядае Вялiскае паўстаньне, сьведкам i ўдзельнiкам якога, налькi дазваляў юначы ўзрост, быў сам. Нездарма ажно да Кастрычнiцкае рэвалюцыi Вялiж на сваiм гэрбе меў «Пагоню»: на паўстаньне за паняволеную Бацькаўшчыну тут узьнялася найбольшая колькасьць змагароў – каля 50 000 чалавек. Пасьля паразы сотнi паўстанцаў былi расстраляныя чэкiстамi пад Вялiжам, на Пакроўскiм полi. Пiсьменьнiк прыгадвае, як у жнiўнi 1941 года на кургане памiж незьлiчоных брацкiх магiлаў быў пастаўлены вялiкi крыж з надпiсам: «Тут ляжаць забiтыя бальшавiкамi сыны беларускага народа, якiя загiнулi ў змаганьнi за нашыя шчасьце i волю. Вечная iм слава!» Памятны знак зьнiшчылi савецкiя салдаты падчас контрнаступу ў 1942 годзе.

Быў Слуцкi Фронт БНР, было найбольш масавае Вялiскае паўстаньне. А пра астатнiя ведаюць хiба гiсторыкi ды спэцыялiсты, што i ў савецкi час мелi доступ да спэцсховаў. А таму проста пералiчым iх, гэтыя агменi беларускага супрацiву, яны вартыя людзкой памяцi: Парэцкае (Дзямiдаўскае) паўстаньне, Гомельскае паўстаньне (Стракапытаўскi мяцеж), Дабранскае паўстаньне, Барысаўскае паўстаньне, Мiрскае паўстаньне, Нясвiскае паўстаньне, Койданаўская Незалежная Рэспублiка, Мсьцiслаўская сялянская дэманстрацыя, Панькоўска-Будаўскае паўстаньне, Бешанковiцкае паўстаньне, Барысаўскi галодны бунт.

Ю. Віцьбіч быў найперш пісьменьнікам, дасьведчаным у айчыннай гісторыі. Хто чытаў яго выдатны нарыс «Цячэ з-пад Сьвятое гары Нёман», думаю, са мной пагодзіцца. І ў кнізе пра паўстаньне мастакоўскі талент часам бярэ верх над дасьледчыцкім дарам. Неўтаймоўная пісьменьніцкая фантазыя атуляе скупыя факты карункамі народных легендаў і паданьняў. У артыкуле «Асобны Дабравольны адзьдзел БНР» гэта гісторыя зь Міронам Зайцам, які езьдзіў па заступніцтва да «бацькі» Балахона Балахонавіча, вартая зь цягам часу заняць месца ў адным з тамоў сэрыі «Беларуская народная творчасьць». Але ў дасьледаваньні Ю. Віцьбіча згаданы эпізод – хутчэй лірычнае адступленьне. Пісьменьнік выкарыстаў больш за дзьве сотні крыніцаў, большасьць якіх, асабліва працы расейскіх гісторыкаў-эмігрантаў, заслугоўваюць самай пільнай увагі. Ды й запісаныя ад непасрэдных удзельнікаў падзеяў і выкарыстаныя Ю. Віцьбічам успаміны робяць дасьледаваньне больш каштоўным і цікавым.

Адносіны беларускіх дасьледнікаў да асобы генэрала С. Булак-Балаховіча да гэтай пары застаюцца супярэчлівымі. Адны наўзахап цытуюць патрыятычныя «бацькавы» вершы, другія нагадваюць пра пагромы мірнага насельніцтва. Месца мяцежнаму генэралу ў нас пакуль што вызначана ў кнізе зь хітрай назвай «Сыны і пасынкі Беларусі» (1996, склад. С. Барыс), дзе Булак-Балаховіч апынуўся ў адной кампаніі зь вялікімі князямі, паэтамі, навукоўцамі й трыма генэраламі – амэрыканскім, Парыжскай Камуны ды Чырвонай Арміі. Кампанія нішто сабе, але чытач можа толькі здагадвацца, хто ў ёй сын, а хто пасынак. Выхад у Польшчы асобнай манаграфіі пра Булак-Балаховіча М. Цабаноўскага нашых афіцыйных гісторыкаў, зноў кінутых на пошукі нацыяналістаў-экстрэмістаў, наўрад ці наверне да думкі, што асоба генэрала й на Беларусі вымагае да сябе больш сур'ёзнага стаўленьня. Як застанецца без увагі

й прыведзены ў манаграфіі багаты ілюстрацыйны матэрыял, які дакумэнтальна пацьвярджае, што балахоўцы змагаліся пад беларускімі нацыянальнымі сымбалямі. Вядома, Ю. Віцьбіч, прысьпешваны заказчыкамі з амэрыканскага Інстытута вывучэньня СССР (пра гэта пазьней), ня меў такіх магчымасьцяў, як польскі дасьледчык, але й ён выявіў ды паспрабаваў увесьці ў навуковы ўжытак нямала невядомых раней дакумэнтаў. Як, напрыклад, гэты, нібы спэцыяльна адрасаваны тым, хто звык лічыць Булак-Балаховіча авантурыстам і рабаўнікам:

*«Атаман*
*Дабравольнага Народнага Аддзьдзелу*
*14 лістапада 1919 году*
*№ 734*
*Дзеючая Армія*
*Старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі праз Шэфа Ваенна-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі палкоўніка Езавітава*

*Зьяўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу неабходным, каб маё войска было выкарыстана для абароны цэласнасьці й непадзельнасьці маёй Айчыны, а таму прашу мой Урад залічыць мяне і мой аддзьдзел на Беларускую Службу.*

*Генэрал-маёр Булак-Балаховіч».*

Ю. Віцьбіч меў на мэце паказаць беларускі супраціў як маштабную зьяву. Маючы ў сваім распараджэньні ўсяго два месяцы, дасьледчык сьпяшаўся, а таму асобныя старонкі паўстанцкай кнігі аказаліся недапісанымі. І тут самы час сказаць, як увогуле ўзьнікла задума падобнага дасьледаваньня. Складальнік і аўтар прадмовы Л. Юрэвіч нагадвае, што тэму антыбальшавіцкай барацьбы Ю. Віцьбіч увёў яшчэ ў свае даваенныя мастацкія творы – аповесьці «Сьмерць Ірмы Лаймінг» (1932) і «Ашоно Габоо Бійрушалайм» (1933). Але ўшчыль-

ную падступіцца да гэтага маладасьледаванага абсягу нацыянальнай гісторыі пісьменьнік здолеў толькі ў 1952 годзе, калі Інстытут вывучэньня СССР выдзеліў яму неабходную на пражыцьцё стыпендыю і мізэрны адрэзак часу. Праўда, потым часу трохі дабавілі, але запатрабавалі скласьці яшчэ й бібліяграфічны даведнік «Другая сусьветная вайна на Беларусі». Выкананая Ю. Віцьбічам праца не задаволіла інстытуцкіх рэцэнзентаў. На іх думку, дасьледаваньне зьяўляецца «сэрыяй ня зьвязаных паміж сабой эпізодаў самага рознага кірунку, якія наўрад ці могуць быць аднесеныя да беларускага нацыянальна-вызвольнага руху». Папросту кажучы, калі б аўтар гэтак настойліва не акцэнтаваўся акурат на беларускім характары апісаных ім выступленьняў, рэцэнзіі, магчыма, былі б зусім іншымі. Ю. Віцьбіч зразумеў сапраўдныя прычыны адмовы і дэманстратыўна не адказаў на ліст намесьніка дырэктара інстытута А. Даліна. Трэба думаць, апошні адчуваў і нейкую сваю асабістую віну перад пісьменьнікам, які быў вядомы ня толькі ў беларускіх, але і ў расейскіх эміграцкіх колах. У адным зь лістоў (эпісталярны разьдзел маецца ў кнізе) намесьнік дырэктара прапанаваў беспрацоўнаму Ю. Віцьбічу прэстыжную працу выкладчыка расейскай мовы ў адной з вайсковых школаў. І сталы абаронца беларускіх інтарэсаў на старонках «Нового Русского Слова», аўтар папулярнай расейскамоўнай кнігі «Мы дойдем» (Нью-Ёрк, 1975), з гонарам адказаў: «Я не настолькі дасканала ведаю расейскую мову... каб выкладаць у амэрыканскай ваеннай школе... і адбіраць у больш вартага прэтэндэнта ягоны хлеб».

Сорак чатыры гады мінула, пакуль дасьледаваньне Ю. Віцьбіча выйшла ў сьвет асобнай кнігай. Пасьля сьмерці пісьменьніка рукапіс надоўга залёг у архіве, ня спраўдзіліся надзеі аўтара і на выданьне яго на францускай мове. Напэўна, з гледзішча дакладнай гісторыі праца Ю. Віцьбіча можа мець і шэраг неда-

хопаў. У чыхсьці вачох дасьледаваньне шмат траціць з-за ананімнасьці інфарматараў, у кагосьці выкліча скептычную ўсмешку гэткае ці не залішне лякапічнае апісаньне дзейнасьці аднаго з «найбольш ведамых партызанаў»: «Ён успамінаецца ў савецкім часопісе, менавіта: «Слабада Давыдаўка была акружана шляхецкімі пасёлкамі, адкуль часта выходзілі банды пад кіраўніцтвам Кісялька».

Ня будзем залішне патрабавальнымі да аўтара – ён ішоў па цаліку. Ягоная праца (нароўні зь нядаўна выдадзенымі «Нашай нівай» успамінамі ўдзельнікаў Саюза беларускіх патрыётаў «Гарт») як подступ да будучай гісторыі беларускага антыбальшавіцкага руху заслугоўвае самых пачціўых адносінаў. Як заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі з боку мэтраполіі ўсё лепшае з таго, што створана беларусамі на эміграцыі. Паводле падлікаў дасьледніцы Л. Фостар з Бостанскага ўнівэрсытэта, за паўстагодзьдзя (з 1918 да 1968 года) расейскімі эмігрантамі было напісана 1080 раманаў, 636 зборнікаў апавяданьняў, 1024 зборнікі вершаў, 99 зборнікаў драматычных твораў. Хто й калі складзе бібліяграфію беларускай эміграцкай літаратуры, якая амаль не зафіксаваная ў адпаведных артыкулах шасьцітомавага біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменьнікі»?

Кніга Ю. Віцьбіча «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі» пачынаецца велічным мартыралёгам «Памяці паўшых нязнаных Сыноў Беларусі ў абароне яе вольнасьці», дзе пералічваюцца змагары й пакутнікі за незалежнасьць Бацькаўшчыны, «замучаныя ў ссылках халоднага Сібіру, Калымы, Салаўкоў, Беламор-каналу, Ухта-Пячорскіх Сьмертных лягерох, загінуўшыя ў пясках Караганды, у стэпах Казахстану... бяз страху адышоўшыя ў жыцьцё вечнае ў Вронках, памёршыя ў казэматах Варшаўскае Цытадэлі...», загінулыя на Вялейшчы-

не, Наваградчыне, Случчыне, на зямлі Аршанскай, Мсьціслаўскай, Гарадзенскай і Магілёўскай...

Няма сёньня на Беларусі манумэнтальнага помніка ахвярам бальшавіцкага рэжыму накшталт таго, які аўтару гэтых радкоў давялося летась пабачыць на Ракавіцкіх могілках у Кракаве. Мала таго, ганьбуюцца й зьневажаюцца памятныя крыжы ў Семежаве й Курапатах.

Ёсьць такое кананічнае правіла – падчас памінальнае службы ў царкве павінны абавязкова ўслых прагучаць імёны тых крэўнікаў, каго мы, жадаючы памянуць, пішам на паперку і падаем сьвятару ў акенца. Дзякуючы карпатлівай дасьледніцкай працы Ю. Віцьбіча ўстаноўлены многія імёны, і сёньня можна замовіць імшу ў Беларускім Храме па загінулых ваярах, па тых, што «першымі паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

*1998*

# БУДУЙМА ДУХОЎНЫ ПАНТЭОН

Літаратурная дзейнасьць патроху перастае быць сьвятым таемствам. Мінаюцца тыя часы, калі Уладзімер Караткевіч, сядаючы за стварэньне нацыянальнай літаратуры (і ўсьведамляючы гэта), адчуваў патрэбу акуратна памыць рукі й апрануць чыстую кашулю.

Сёньня пісьменьнік (і не пачатковец ужо) можа, не раўнуючы як у карчму, «забегчы» ў прозу, паэзію ці «злабадзённую» крытыку, каб расказаць байку-другую, аблаяць некага – і далей паджгаць, да справаў сумнеўных, якія ня маюць нічога агульнага з сапраўднай творчасьцю. Асабліва злосьці й дробнае помсьлівасьці не бракуе ў мэмуарах некаторых літаратурных генэралаў. Адзін аднаго высьмейваюць, і няўцям ім, што ненадзейнае апірышча – пастамэнт, збудаваны на прыніжэньні іншага. Падобны жанр, надзіва папулярны апошнім часам, паклікаў да жыцьця дасьціпную й «канкрэтную» эпіграму Р. Барадуліна:

*Два літаратурныя Іваны,*
*змыўшы са сьпіны*
*цэкоўскі глей,*
*са свайго дзярма прымаюць ванны –*
*І самаакупней, І цяплей.*

Масей Сяднёў жыве ў мястэчку Глен-Коў пад Нью-Ёркам, далёка ад менскай калялітаратурнай мітусьні, ад барацьбы за прэміі, перавыданьні, прыжыццёвыя шматтомнікі й пасьмяротныя помнікі. Ці не таму ягоныя «назіраньні за літаратурным працэсам на Бацькаўшчыне» ўяўляюць вартасьць і з тае прычыны, што яны – погляд збоку, погляд найбольш аб'ектыўны, які мае на ўвазе найперш літаратурнае дасьледаваньне.

«Масеева кніга» – унікальнае, шмат у чым нязвыклае для беларускага чытача выданьне. Яго шматжанравасьць дазваляе аўтару выявіцца ў розных вымярэньнях, розных праекцыях, а чытач мае магчымасьць з свайго статычнага гледзішча назіраць рухомую постаць творцы. Зьмест кнігі склалі ўспаміны, старонкі дзёньніка, эсэ, пераклады, лісты. На першы погляд здаецца, што ў зборніку няма таго стрыжня, таго рубля (драўлянага, што не баіцца інфляцыі), якім можна было б надзейна ўціснуць бухматы воз з пахучым разнатраўем. Але рубель гэткі ёсьць, і часаны ён з настальгічнага дрэва – менавіта ўвесьчаснае вяртаньне з заакіянскай далечы на Беларусь, прызямленасьць аўтарскіх подумак Радзімай і не дае расьцерушыцца стажку «Масеевай кнігі» на асобныя шчынкі.

Калісьці слынны віцебскі мастак Марк Шагал, які фанатычна любіў свой родны горад і ўсё жыцьцё вяртаўся ў яго ў сваіх карцінах-снах, у шчымліва-сьветлых вершах, зьдзівіў эўрапэйскую грамадзкасьць адмовай наведаць Віцебск па дарозе ў Маскву. Мастак не хацеў, каб яго спасьцігла расчараваньне, асьцерагаўся трапіць на руіны гэткай дарагой яго сэрцу мроі. Падобнае балючае расчараваньне падпільноўвае кожнага абазнанага ў роднай гісторыі беларуса, калі ён упершыню прыедзе, напрыклад, у Полацак. Ведаючы пра Полацак як пра калыску беларускай дзяржаўнасьці, гэты беларус, ідучы на сьвятло Сафіі,

што «плыве над Дзьвіною, нібы карабель», рызыкуе заблудзіцца ў чырвоных аблупленых мурох сталінскіх забудоваў, заблытацца ў чужых прозьвішчах чужых герояў, што мелі да Беларусі досыць апасродкаваныя дачыненьні. Напрыклад, у Полацку і да сёньняшняга дня ёсьць вуліца Карла Маркса, на якой месьціцца дамок Пятра Першага, дзе знайшла сабе прытулак бібліятэка імя Міхаіла Салтыкова-Шчадрына, а перад дамком сядзіць калматабровы Леў Талстой...

Адведзіны М. Сяднёвым сучаснага Мінска таксама прайшлі пад пазнакай радасьці й расчараваньня: «У маёй памяці застаўся стары Менск – малы, больш утульны, асабісты, беларускі Менск. У ім я вучыўся, марыў, спадзяваўся, жыў у чаканьні нечага вялікага, што мае вось сёньня ці заўтра зьдзейсьніцца... Старога Менску, майго Менску, няма. Ёсьць Мінск, вялікі, прыгожы горад заходнеэўрапэйскага тыпу, з шырокімі вуліцамі і цудоўнымі плошчамі, але ўжо незразумелы, чужы мне... Мне неяк міжволі прыходзіла думка – зьехала некуды Беларусь, тая, што я ведаў, і пытаўся ў сябе самога, ці вернецца яна і калі?»

Зь цікавасьцю чытаюцца й крытычныя нататкі М. Сяднёва пра сучасную беларускую літаратуру. Напісаныя ў стрыманай манэры, безь непатрэбных рэвэрансаў, яны даюць выразнае ўяўленьне пра пэўны твор пэўнага пісьменьніка (Я. Брыль, І. Чыгрынаў, А. Кудравец, В. Хомчанка...). Праўда, часам М. Сяднёў акцэнтуе сваю ўвагу на неўласьцівых аўтару адметнасьцях, на перапевах з чужога голасу, як здарылася, напрыклад, з паважным беластоцкім літаратарам: «Ёсьць у Яна Чыквіна і вобразы, так бы мовіць, быційна-метафізычнага складу: «Мы ластаўкі, што ў палёце адчайным крылышкаюць над чужароднаю ім гладзьдзю вод». Ад назоўніка крылы ўтвораны дзеяслоў крылышкаць – цудоўна!»

Цудоўна, што Ян Чыквін вынаходзіць наватворы, але, думаецца, лепш за яго гэта рабіў «старшыня зямной кулі» Велімір Хлебнікаў, якому гэты наватвор і належыць: «Крылышкуя золотописьмом Тончайших жил, Кузнечик в кузов пузо уложил...» (Дарэчы, Алесь Разанаў, адчуўшы чужамоўнае гучаньне ў гэтым «крылышкуя», пераклаў яго як *крылцуючы.*)

Дзякуючы М. Сяднёву ці не ўпершыню загучаў па-беларуску «кінжальны радок» Мікелянджэла:

*Пад цяжкасьцю грахоў маіх і летаў*
*стаміўся я і ў жарсьці злой застыг.*
*Сьмерць наступіць гатова ў кожны міг –*
*спакутаванае сэрца сьведчыць мне пра гэта...*

Дасьледнікі й аматары літаратуры беларускай эміграцыі знойдуць у «Масеевай кнізе» цікавы эпісталярый: лісты Н. Арсеньневай, Ю. Віцьбіча, А. Салаўя, А. Адамовіча, К. Акулы. Іхняя перапіска з аўтарам адказвае на многія пытаньні, утрымлівае шмат невядомых фактаў з жыцьця беларускай дыяспары. Што да зьмешчаных у кнізе лістоў сучасных беларускіх творцаў... Ёсьць у іх і звычайная чалавечая нясьціпласьць, напрошваньне на пахвальбу («М. Сяднёва я не забываю, клапачуся аб ім, як аб сабе»), сустракаюцца й неабавязковыя сямейныя падрабязнасьці, наўрад ці вартыя публікацыі: «У нас у сям'і ўсё добра. Алесь расьце, яму прывезьлі з Амэрыкі дзьве соскі, але ён прывык да сваіх, ураджаньня амэрыканскія соскі на яго асабліваа не зрабілі...»

Асобнае прыгадкі заслугоўвае й зьмешчаны ў кнізе «Беластоцкі сшытак» – невялікае, напісанае ў нязмушанай манэры эсэ пра дзейнасьць Беларускага аб'яднаньня на Беласточчыне, кіраўніком якога быў таленавіты паэт Хведар Ільляшэвіч. Ка-

мітэт выдаваў газэту «Новая дарога». «Ільляшэвіч лічыў газэту сваім творам і радаваўся, калі ейны тыраж узрастаў. Ён любіў назіраць доўгую чаргу па газэту ў Беластоку. Любаваўся, калі бачыў, што па беларускую газэту большая чарга, чымся па польскую. Цешыўся, як малое дзіця, калі бачыў, як зімой прыяжджаюць на санёх сяляне купляць газэту ў Беласток». Беларускае аб'яднаньне самаахвярнай працай сваіх сяброў змагло наладзіць на Беласточчыне беларускае школьнае жыцьцё. Нягледзячы на складанае ваеннае становішча, высілкамі беларускіх патрыётаў было адчынена шмат беларускіх школаў, прычым нярэдка ў іх працавалі польскія й нават расейскія выкладчыкі – натуральна, папярэдне вывучыўшы мову. Як зазначае М. Сяднёў, «было нешта накшталт маленькага кароткага рэнэсансіку». Сёньня можна толькі зьдзіўляцца, што ў часе вайсковага рэзруху неяк знаходзілася магчымасьць выданьня беларускіх падручнікаў немалымі накладамі. Аўтару гэтых нататкаў прыходзілася трымаць у руках «Беларускую граматыку для школ» Б. Тарашкевіча і «Беларускі правапіс» А. Лёсіка, выдадзеныя ў акупаваным Менску ў колькасьці 100 000 (!) асобнікаў. Нашым бы чыноўнікам ад адукацыі ды гэткай руплівасьці, што была ўласьцівая тагачасным «калябарантам»!

У «Беластоцкім сшытку» М. Сяднёва сустракаем трапныя, псыхалягічна дакладныя дэталі, цікавыя моманты, што могуць ажывіць і затрымаць увагу чытача: «З задніх дзьвярэй у залю ўвайшлі два жаўнеры, гучна прывіталіся сваім «Жыве Беларусь!» Мы адказалі дружным «Жыве!» Гэта было надзвычайнай падзеяй. Іхняе вітаньне скаланула мяне да глыбіні – упершыню я пабачыў, пачуў беларускіх жаўнераў. Забягаючы наперад, скажу – хіба адсюль пачалася мая Беларусь, у гэтую часіну яна прайшла праз маё сэрца».

Адзін з філязофскіх абразкоў М. Сяднёва мае назву «Сум па духоўным Пантэоне». Сапраўды, Беларусь, падпіхнутая стырнікамі-няўдаліцамі ў багну сацыяльнай нэндзы, мусіць сёньня шукаць найперш духоўнага апірышча. Бо калі да тупкае зямлі далекавата і няма ўпэўненасьці ва ўласных плывецкіх здольнасьцях, дастаткова страціць апошняе – веру, і пачынаеш патанаць. Але Бог наўрад ці жыцьме ў недабудаваным Пантэоне. Нашы папярэднікі заклалі трывалыя падмуркі й узьвялі моцныя сьцены. Самы час падбаць пра дах, але пакуль – шукаем дошкі на рыштаваньні...

*1995*

# ПАД СЭРЦАМ У РАДЗІМЫ

Вышыня была наканавана яму ад нараджэньня – вёска Горна, прозьвішча Голуб. Раўнінная Зэльвеншчына тысячы гадоў захоўвала ад выветрываньня ды размываньня ледавіковую спадчыну – некалькі стромістых пагоркаў, – каб у трэці пасьляваенны год клапатліва падставіць плячо падлётку. З узвышэньня, як вядома, лягчэй узьлятаць. Ды і галубінае прозьвішча, думаецца, у яго невыпадковае.

Нягучнае, але старажытнабеларуска-біблейскае. І калі нейкі там гусак Рым уратаваў, дык голуб, прынёсшы пальмавую галінку да закінутага сярод бяскрайняга мора-акіяну Ноевага каўчэга, уратаваў усё чалавецтва.

Але біблейскі падтэкст прозьвішча ўраўнаважыўся язычніцкім коранем імя – ад Ярылы, што так неахвотна пераўвасабляўся ў сьвятога Юрага на хрысьціянскіх іконах. І гэта таксама было прадугледжана звыш, бо з праведнікаў звычайна бываюць дрэнныя паэты.

Юрка Голуб – паэт не ад абазнанасьці ў розных кшталту літаратурных хітрыках, паэт не ад унівэрсытэцкага філфаку, дзе пасьпяхова навучыліся рыфмаваць дзясяткі вершапісцаў. Ён паэт ад неба, паэт ад Яе Высокасьці Радзімы. Услухайцеся ў ня-

бесную прысутнасьць у назвах ягоных зборнікаў: «Гром на зялёнае гольле», «Дрэва навальніцы», «Сын небасхілу»...

Вось ужо дзесяць гадоў хаджу па сталіцы і ўсім даводжу, што Юрка Голуб – адзін зь лепшых паэтаў сучаснасьці. Ня вераць. Што Быкаў – апостал, Барадулін – салавейка Беларусі, Разанаў – геній (усе абазваныя прылюдна, праз друк) – вераць, а што Голуб – адзін з лепшых паэтаў – не. Тады я пачынаю казаць пра шчыльнасьць стылю (галоўны, паводле Барыса Пастарнака, крытэр ацэнкі паэта), паказваю ў адной з энцыкляпэдыяў запіс пра Голуба – валодае непаўторнай манэрай пісьма.

На сёньняшні час і сёньняшніх творцаў, імя якім легіён, – характарыстыка даволі рэдкая.

Апошнім часам у мяне зьявіўся аргумэнт, пацьверджаны жыцьцёвай практыкай, і я расказваю, як сёлета складаў зборнік паэзіі для школьнікаў. Пасьля набору беларускіх вершаў заморскі кампутар занэрваваўся ды раздрукаваў творы дваццаці трох паэтаў у аднаму яму вядомым парадку. Я адчайна блукаў па раскладзеных на падлозе вершах і спрабаваў сумленна разьмеркаваць паміж аўтарамі імі ж напісанае. Пры зьверцы выявілася, што я пераблытаў усіх з усімі. Менш блытаніны было зь вершамі Сербантовіча і Лісіцына – іхняя шчодрая мэтафарычнасьць пазнавалася адразу. І зусім без памылак склалася нізка Юркі Голуба – ягоны почырк быў відзён зь першага радка... У адказ даводзілася чуць пра зямляцтва...

Кожны раз мне нічога не заставалася, як выкарыстоўваць апошні козыр. І я выцягваў з запасьнікаў памяці якую-небудзь незнакамітую голубаўскую страфу:

*На вымоінах сьпешных дажджоў*
*Назіраньні страсаліся ў кузаў.*
*Ты паказвала:*

*...хлопчык ішоў...*
*...вербы сталі...*
*...развалена кузьня...*

Звычайна апошні доказ спрацоўваў, і неглухі да паэзіі чалавек згаджаўся з пашанотным месцам Юркі Голуба на шырокай лаве беларускай літаратуры.

Пяць дзесяцігодзьдзяў за плячыма. Пяць кніжак выдадзена. Як на першы погляд, дык і няшмат. Ды і танклявасьцю сваёй кніжкі тыя больш да твару пачаткоўцу. Але паэзія як золата – калі яго зашмат, яно таньнее. Вершы Голуба нешматслоўныя, як і іх аўтар. Але іхні настрой, іхняя інтанацыя могуць неяк самі па сабе ўспомніцца і празь дзесяць, і праз дваццаць гадоў.

*А словы сумныя увосень.*
*І нечакана з-пад пяра*
*Жураў абвесьціць, што пара*
*Сьнягі чакаць, ісьці у войска.*

*Кладзе спалоханы сланечнік*
*Панура голаў на платы.*
*Павольна чорныя плыты*
*На рэках раяцца аб нечым.*

*І лета згрэбена на сена.*
*І сьцежка ўночы не відна.*
*Губамі грэю да відна*
*Твае радзімкі, як насеньне.*

Кароценькі трохслупковы верш. А ў ім паэт ужыў сем мастацкіх тропаў! Гэта да ведама творцаў, якія апантана закладваюць свае цагляныя шматтомнікі ў падмурак пад будучыя

помнікі, але ў чыіх вершах самая сьвежая мэтафара – «дождж ідзе».

Вершы Голуба ашчадныя на эмоцыі. Паэт не шкадуе вобразаў, сыпле іх ня шчопцямі, ня жменямі – цэлымі прыгаршчамі, а воклічы захапленьня ці абурэньня скупа адмервае па кроплі, нібы мікстуру ў аптэцы. Я тройчы пералічыў: у зборніках «Векапомнае поле» і «Помню пра цябе» роўна па сем клічнікаў.

Паэт гаворыць нясьпешна, напаўголасу. І напаўголас ягоны – хай сабе нават і шэпт – непадробны, яму ўласьцівыя і свой тэмбр, і сваё дыханьне.

*Нас возера прысьніла.*
*Нас возера вязло.*
*І літасьці прасіла*
*Кляновае вясло.*

*Спакойная вада.*
*На беразе вугольле.*
*А нехта сьпіць, відаць,*
*У вопратцы на гольлі.*

*Які трывожны міг –*
*І войны...*
*І радзіны...*
*І як блізьняты – мы*
*Пад сэрцам у Радзімы.*

Ці ня гэтым адчуваньнем сябе пад сэрцам у Радзімы тады яшчэ малады паэт прыйшоўся да душы Ларысе Геніюш. Яна заапекавалася таленавітым земляком, пісала яму сардэчныя

лісты, а аднойчы прыслала цёплыя рукавіцы – каб грэў «лапяняты». Прачытаўшы часопісную падборку вершаў Юркі Голуба і яго літаратурных аднагодкаў, Ларыса Антонаўна 15 сьнежня 1966 г. напісала ліст, ад якога ў дзевятнаццацігадовага аўтара магла закружыцца галава: «Дарагі Галубок, харошы! Сёньня прыйшло «Полымя» і я ледзь бачу пісаць... ты гэта што прыдумаў, зубраня дарагое? Заплюшчваю вочы і здаецца мне, што гэта гаворыць зямля мая і адыходзіць з сэрца ўпарты боль і ноша цярпеньняў старых становіцца – неіснуючай. Дзякуй табе, зубранё, крылатае і надзейнае! Перадай ад мяне словы шчырага прызнаньня і вялікай радасьці сябрам тваім па пяру. Вершы Вашыя з сэрцаў Вашых, а сэрцы, як бачна, жывуць і крынічаць з роднай зямлі. Вітаю і блаславяю на магутную сілу Ваш першы, вялікі голас зубрыны! Жадаю Вам патрасаць ім пушчы і сэрцы і пяяць Беларусі па праву неадродных сыноў Зямлі гэтай! Жадаю Вам шляхоў лягчэйшых і ясьнейшых і сілаў, якія перамагаюць зло! Трымайцеся, дарагія! Застаюся зь вялікай надзеяй на Вас, з каханьнем і вераю ў Вас. Ваша: паэтка, змагар, вязень і друг».

Пасьля такіх словаў галубінае буркатаньне мела ўсе шанцы перайсьці ў магутны зубрыны рык. Але ломка голасу, як вядома, пагражае яго поўнай стратай. Голуб застаўся пры сваім, дадзеным прыродай, голасе. Хоць часам папрактыкавацца ў зубрыных арыях карцела. А як Белавежская пушча далекавата, ішоў у гарадзенскі рэстаран «Зубр»...

Маўчаць таму, хто мае ад Бога дар прамаўляць, невыносна. Але сёньня пропуск у друкарню паэтам выдаюць за іншыя таленты, якія да паэзіі ня маюць аніякага дачыненьня. Рукапіс новай кнігі Юркі Голуба ўжо некалькі гадоў ляжыць бяз руху ў выдавецтве. У тым самым, дзе зноў трапілі пад забарону вершы

яго славутай зямлячкі Ларысы Геніюш. Але іхняе слова не прыцьмее, бо распаленае на агнішчы любові да Бацькаўшчыны й гартаванае ў ззалелых водах Зальвянкі.

Чытач зачакаўся новай сустрэчы зь Юркам Голубам, і гэтае чаканьне павінна паддаць паэту яшчэ большага творчага імпэту. А я штодня атрымліваю шчодра апераныя мэтафарамі ўнебаўзьлётныя вершы – ня з рук лістаноша і не ў адзьдзяленьні сувязі пры наяўнасьці пашпарту. Іх мне прыносіць галубіная пошта памяці.

*1997*

# ТРЫЦЦАЦЬ СЭКУНДАЎ НА АЎТОГРАФЫ

На кожнае беларускае дзеяньне ўлады ліхаманкава стараюцца ўчыніць антыдзеяньне. Апазыцыя праводзіць кангрэс? Хуценька арганізоўваецца народны сход. Ствараецца незалежная радыёстанцыя? Даеш саюзнае тэлебачаньне! Вольная прэса шум падымае? А мы ў славянскі набат грымнем...

Калі група беларускіх пісьменьнікаў выехала ў Віцебск і правяла там паўтара дзясятка літаратурных сустрэчаў, з акцыяй у адказ узьніклі пэўныя праблемы. Каго паслаць? Сярод айчынных літаратараў да гэтай пары надзвычай мала выяўлена прыхільнікаў суцэльнай інтэграцыі. Тых жа, хто насуперак народнай мудрасьці паперадзе бацькі гатовы лезьці хоць у пекла, выпраўляць у падобныя паездкі рызыкоўна. Чытач пайшоў ня той, яго зоркай героя на пісьменьніцкіх грудзях ня зьдзівіш. І наўрад ці моладзь прыйдзе ў захапленьне ад гэтакіх, скажам, шэдэўраў на экалягічную тэму:

*А у водоёмов Беларуси*
*Хищники гнездятся хорошенько.*
*Кто они – дознаться не берусь я,*
*Если не поможет Лукашенко.*

І ўсё ж выйсьце знайшлі. Брыгада пісьменьнікаў была выпісаная з Расеі. Таленавітых. Вядомых. Загартаваных у клясавых баёх... Калісьці паводле аповесьці аднаго зь іх здымалі мастацкі

9 Зак. 1378

фільм. Выканаўцу галоўнай ролі не змаглі адшукаць па ўсёй неабдымнай матухне-Расеі. Знайшлі на Беларусі. Дзякуючы майстэрству Стэфаніі Станюты фільм «Разьвітаньне з Мацёрай» стаўся выбітнай зьявай у кінематографе. Прыйшоў час, і В. Распуцін прыехаў адзьдзячыць. Агітаваць за «единую и неделимую».

Усе выступы «братьев наших старших» старанна фіксаваліся й неаднаразова пракручваліся па беларускім радыё. Іх вырашана выдаць асобнай кнігай. Зайздросныя тутэйшыя пісьменьнікі жадаюць сваім маскоўскім калегам «усячаскіх благ», якія толькі могуць сустракацца на цярністым літаратурным шляху.

Аўтар гэтых радкоў меў гонар быць удзельнікам шматлікіх літаратурных сустрэчаў, якія праходзілі ў студзені–траўні гэтага года ў абласных гарадох Беларусі. Скептыкі, якіх апошнім часам напладзіў пануючы рэжым, могуць ісьці спаць – амаль усе сустрэчы адбываліся пры запоўненых дарэшты залях. У школах, вучэльнях, унівэрсытэтах, бібліятэках, дамах культуры і г. д. слухачоў захапляла, яднала і ўзвышала Жывое Беларускае Слова. Людзі прагнуць праўды й паэзіі. Не заўсёды могучы купіць мастацкую кнігу, імкнуцца чуць пісьменьніка безпасярэдна. І літаратары, хто адчувае сваім маральным абавязкам не маўчаць, калі йдзе павольнае зьнішчэньне іх краіны, павінны не адмаўляцца ад падобных запрашэньняў. На тых нашых сустрэчах стваралася ўражаньне, што ты перамясьціўся зь віртуальнай у сапраўдную Беларусь, дзе натуральна пачувае сябе беларуская мова, дзе шануецца сапраўдная беларуская гісторыя, дзе разумеюць згубнасьць палітычнага курсу сёньняшніх беларускіх уладаў. Час ад часу я туды вяртаюся і спадзяюся, што прыгадваюць тыя сустрэчы ня толькі выступоўцы, але й слухачы – гарадзенцы, берасьцейцы, магілёўцы...

# Гародня

Каб патрапіць усюды, дзе нас чакаюць, дзелімся на групы. На кожную прыпадае да шасьці сустрэчаў на дзень, падзеі вакол пачынаюць нагадваць шалёны калейдаскоп – прыязныя твары, кветкі, аўтографы. Праз кожныя дзьве гадзіны – пачуцьцё шчасьлівай спустошанасьці, да машыны ідзеш, як п'яны. За паўгадзіны пераезду зь месца на месца сілы не пасьпяваюць цалкам аднавіцца, але глянеш на Рыгора Барадуліна, які працуе ў гэткім самым напружаным рэжыме, і робіцца сорамна за сваю стому.

Агульная вечарына ва ўнівэрсытэце. Поўная заля. Прысутнічае і рэктар. Усіх разам – і менскіх, і гарадзенскіх – выступоўцаў набіраецца ажно цэлы паважны прэзыдыюм, можна і расслабіцца. Нечакана прафэсар А. Пяткевіч першаму дае слова самаму маладому. Няўпэўнена спрабую падняць настрой землякам, у адной з эпіграмаў мільгаюць «дзяржаўныя вусы»... Раптоўна ў сярэдзіне залі падхопліваецца маладзіца і крычыць: «Как вам не стыдно?!» На яе лямант людзі рэагуюць спакойна, а калі аматарка вусоў дэманстратыўна пакідае залю, праводзяць яе апладысмэнтамі. Супакоены, вяртаюся на месца і думаю, што на сёньняшняй вечарыне мне незаслужана выпаў падвойны гонар – распачаць прадстаўнічую сустрэчу (а выступаць рыхталіся Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Ул. Арлоў, Л. Баршчэўскі) і ачысьціць залю ад правакатараў.

Палац культуры хімікаў. Заля кладзецца покатам ад барадулінскіх «дурнотаў» (такі адпаведны нашаму часу жанр вынайшаў дзядзька Рыгор). «Дурноты» схопліваюцца на ляту, тут жа занатоўваюцца слухачамі. Як паказаць бяссэнсіцу змаганьня з нацыянальнымі колерамі? У Майстра пра гэта ўсяго чатыры радкі:

*Я ведаю, што ён даўно гатоў –*
*Указ чарговы, як заўсёды, сьмелы,*
*Што трэба перафарбаваць буслоў,*
*Бо кожны бусел – бел-чырвона-белы!*

Гарадзенская педвучэльня. Заварожвае дзяўчатаў Генадзь Бураўкін. Аказваецца, ён выступаў тут у 1958 годзе, ажно сорак гадоў назад! З таго часу нібыта нічога не зьмянілася – усё тыя ж захопленыя позіркі слухачак, усё той жа зачараваны жаночай прыгажосьцю, усьмешлівы і галянтны паэт. Калі Генадзь Мікалаевіч чытаў «Малітву», уся заля ціха паўтарала: «Божа, захіні маю Радзіму мудрасьцю, спакоем і цяплом».

Пасьля вечарыны на адным з найбагацейшых прадпрыемстваў горада –«Гродназнэрга» – кожны з выступоўцаў атрымлівае па вялікім шкляным зубры. Мой прыгажун на вуліцы высьлізгвае з кардоннае пакоўкі й разьбіваецца на дробныя аскепкі. Нейкі нядобры знак? Так яно потым і сталася – менавіта з «Гродназнэрга» дасылаліся ў «Славянский набат» лісты «ўдзельнікаў сустрэчы», у якіх ганілася ўся беларуская літаратура ўвогуле, а Быкаў і Барадулін называліся «литературными шабашниками».

На грудзях у дырэктара адной з гарадзенскіх школаў праменіўся бел-чырвона-белы сьцяжок. Я пацікавіўся: як ставяцца да гэтага ў гарана? І сівы чалавек ледзь прыкметна пасьміхнуўся – спачатку чапляліся, а потым прывыклі. У той самай школе пісьменьнікаў пасьля выступу паважна абыходзіў хлопчык Жэня, зьбіраючы аўтографы, як ясак з сваіх падданых. Для росьпісу ён даставаў з сумкі кнігі, што выходзілі й пяць, і дзесяць гадоў таму. Пасьля роспыту выявілася, што ён унук славутага Алеся Мікалаевіча Белакоза, сын ягонай дачкі Марыны, чый каштоўны падарунак – саматканы гальштук – вісеў у мяне на шыі.

Праз два дні мясцовая вертыкаль спахапілася ды забараніла-такі дзьве сустрэчы – у Скідалі і ў вёсцы Капцёўцы. Нягледзя-

чы на тое, што ў Капцёўскай школе за гадзіну да прыезду пісьменьнікаў адмянілі занаткі, мясцовыя школьнікі не сьпяшаліся дахаты. Сустрэча адбылася ў маленькай вясковай бібліятэцы, дарослыя слухалі пісьменьнікаў стоячы, дзеці прымошчваліся на школьных ранцах.

Журналісты незалежнай гарадзенскай газэты «Пагоня» падлічылі, што на трыццаці пяці літаратурных сустрэчах пабыло каля 9 тысячаў чалавек. А Лявон Баршчэўскі мусіў прызнаць, што за чатыры дні пісьменьнікі зрабілі больш, чымся Народны фронт за тры гады.

## Бярэсьце

У мясцовым унівэрсытэце павышаная ўвага да Алеся Разанава, які ў 1968 годзе пасьля сталічнага разгону нацыяналістаў мусіў давучвацца ў Бярэсьці. Алесь Сьцяпанавіч цярпліва тлумачыць вынайдзеныя ім квантэмы, у якіх усяго тры радкі, а сэнсу – на цэлыя паэмы.

Уладзімер Арлоў прыглушаным голасам, нібы на кансьпіратыўнай явачнай кватэры, чытае сваё эсэ «Незалежнасьць – гэта...», якое неўзабаве пасьля напісаньня было перакладзена на дзесяць замежных моваў і ня страціла актуальнасьці за восем прамінулых з таго часу гадоў.

Будучыя філёлягі вусьцішна прыслухоўваліся, як гучаць у арыгінале з вуснаў Лявона Баршчэўскага Міцкевіч і Байран, Вэрлен і Кітс, Шэлі і Шылер, Гётэ і Пятрарка. Агучаныя па-беларуску, яны, здавалася, заходзілі ў аўдыторыю, блукалі па даўгажэзных унівэрсытэцкіх калідорах, дзе ўжо колькі дзясяткаў гадоў студэнты похапкам перад іспытамі завучваюць на памяць іхныя біяграфіі.

У політэхнічным інстытуце на сустрэчу зьявілася непрадбачаная колькасьць слухачоў – каля пяцісот чалавек, якія не змаглі зьмясьціцца ў самай вялікай аўдыторыі. Пакуль шукалі ключоў ад актавай залі, згубіліся мікрафоны, пакуль шукалі мікрафоны, прапала электрычнасьць. Але сустрэча, што ўрэшце адбылася, па водгульлі ў слухацкіх сэрцах наўрад ці саступала паэтычным вечарынам у іншым політэхнічным – што грымелі калісьці на ўсю краіну саветаў і былі ўслаўленыя ў вершах А. Вазьнясенскага. Студэнты самазабыўна слухалі раньняга Разанава ў выкананьні позьняга. Алесь Сьцяпанавіч хітраваў, чытаючы верш «Арышт Кастуся Каліноўскага»:

*Усе ніты ў сувой,*
*у заклік пагалоскі*
*зьяднаць – і стаць сабой!..*
*Як зваць вас?*

Тут аўтар цягнуў ненатуральна доўгую паўзу, і аўдыторыя не вытрымлівала, выдыхала, як пароль: «Каліноўскі!» Так у галовах будучых беларускіх інжынэраў поруч з рознымі інтэграламі апыналася слова-код, слова-сымбаль. Дай Бог, каб назаўсёды!

У Бярэсьці гарадзкія ўлады вырашылі ўзяць пісьменьнікаў пад свой патранаж. Падчас сустрэчаў у школах паблізу выступоўцаў кожны раз зьяўляўся намесьнік мэра спадар Працэвіч. Да выбраньня на адказную пасаду ён сам працаваў дырэктарам школы, таму дзеля пэдагагічных мэтаў не цураўся самай няўдзячнай працы – нястомна інструктаваў нас перад кожным выступам. Заклікаў не закранаць перад дзецьмі палітычных пытаньняў, не прапагандаваць «отмененной на референдуме» нацыянальнай сымболікі. На пытаньне, як быць з балотам Пагоня, якое насамрэч існуе на Берасьцейшчыне ў Івацэвіцкім раёне паблізу вёскі Бабровічы, змагар з нацыянальнымі сымбалямі не знайшоўся, што адказаць. Але пільнасьці сваёй ня страціў, за

што й вымушаны быў перажыць некалькі малапрыемных хвілінаў.

Рэч у тым, што з намі ўвесьчасна езьдзіў сябра Згуртаваньня беларускай шляхты, мілы чалавек Аляксандар Усьцінавіч Карызна, які загадваў перасоўнай кнігарняй. За некалькі дзён Усьцінавіч звычайна прадаваў паўрафіка кніжак – на сорам занядбанаму айчыннаму кнігагандлю. Пільнае вока спадара Працэвіча высачыла, што ў перасоўнай кнігарні можна набыць ня толькі кнігі, але й сьцяжкі ды значкі з нацыянальнай сымболікай. І вось у сваёй былой роднай школе намесьнік мэра ўладна «наехаў» на Усьцінавіча: «Ты что это, старик, незарегистрированными символами торгуешь?!» Патомны шляхціц годна паслаў нахабнага незнаёмца падалей, ні на хвіліну не перапыняючы сваёй пачэснай справы. Раззлаваны віцэ-мэр зьявіўся ў актавую залю, дзе падлеткі акурат выстраіліся ў чэргі па аўтографы, і запатрабаваў, каб вучні неадкладна йшлі на ўрокі. На гэта дзеці дружна адказалі, што ў іх цяпер іншы дырэктар, што яны ўсе зьяўляюцца фанатамі беларускай мовы і любяць Беларусь, таму, маўляў, пажадана не перашкаджаць. Тады чыноўнік запатрабаваў, каб Васіль Сёмуха і Уладзімер Арлоў у аўтографах не пісалі пажаданьняў, а толькі расьпісваліся. «Я даю вам тридцать секунд на автографы», – строга папярэдзіў намесьнік мэра. На шчасьце, амапаўцаў паблізу не аказалася, і пісьменьнікі змаглі дакончыць сваю справу, лішне не сьпяшаючыся.

Патомны шляхціц Карызна спрычыніўся да яшчэ адной анэкдатычнай сытуацыі, што мела мейсца ў абласной бібліятэцы. Перад пачаткам вечарыны да мяне падышла адна з арганізатарак і спыталася, ці прыехаў Карызна. Я адказаў, што прыехаў – вунь у закутку кнігі прадае. «Как, – разгубілася арганізатарка, – он же лауреат Государственной премии!» І толькі ўгледзеўшы паблізу сцэны стэнд з выстаўленымі зборнікамі Уладзімера Ка-

рызны, я зразумеў, што мець рэдкае прозьвішча, накшталт майго, – вялікае шчасьце.

Часам прыходзіцца чуць, што на Берасьцейшчыне моцныя ўкраінскія ўплывы. Атрымліваючы безьліч запісак на самыя розныя тэмы, мы падсьвядома чакалі, калі ж хто-небудзь закране «палескую праблему». І дачакаліся.

На адной сустрэчы ў залі падняўся чалавек і на неблагой беларускай мове з пэўнымі фанэтычнымі асаблівасьцямі пачаў прэтэндаваць на ўсю Берасьцейшчыну як на спрадвечную ўкраінскую тэрыторыю. Каб спыніць непрыхаваную экспансыю, зь пісьменьніцкіх шэрагаў наперад выступіў этнічны паляшук перакладчык Васіль Сёмуха. З высока ўзьнятым Новым Запаветам, перастворaным ім па-беларуску, спадар Сёмуха нагадваў прарока Масея, які ведае, куды весьці аблудную паству. Але інтэлігентнае Сёмухава і мудрае Божае слова не спыніла сэпаратыста. Тады зь месца падхапіўся каржакаваты барадач і на мясцовым дыялекце прачытаў папулярную лекцыю пра сапраўдныя памкненьні «берасьцейскіх украінцаў», пасьля якой адзін зь іх прысаромлена замоўк, а заля выбухнула авацыяй.

Увечары таго ж дня ўкраінская тэма атрымала нечаканы працяг. Перад сном у сябравай бібліятэцы я натрапіў на цікавую кнігу – «Словник Берестейщини» Уладзімера Леанюка, усяго два гады таму выдадзены ў Львове. З гэтай своеасаблівай «энцыкляпэдыі» даведаўся, што амаль усе беларускія пісьменьнікі зьяўляюцца беларусыфікатарамі Берасьцейскага краю. Напрыклад, Уладзімер Караткевіч, аказваецца, калі пісаў пра Палесьсе, «губляв свою об'єктивность, припускався неточностей, вдавався до белорусіфікаціі украінськиї мови полешуків». Юрка Віцьбіч у вядомым нарысе «Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман» «торкався багатьох біл. топонімів, поширяючи понятьтя Білорусь і на Берестейщину». Пан Леанюк адным махам семярых пабівахам – беларусыфікатарамі ў яго зьяўляюцца і Якуб Колас, і

Уладзімер Калесьнік, і Генадзь Каханоўскі, і Мікола Улашчык... А Рыгор Шырма, «стоячи на біл. платформі, вдавався до перекладу місцевіх укр. пісень на біл. мову, вміщуючи іх до своіх біл. збірників». Пад пільным наглядам пана й маладзейшыя – аказбеваецца, Яўгенія Янішчыц «декларувала свій біл. патріотізм з безоглядностю неофіткі». А зь Нінай Мацяш за яе беларусыфікатарскія схільнасьці нават «полемізувала група робітників Берези». Цікавага запісу ў кніжцы ўдастоіўся й касманаўт П. Клімук. Пасьля пераліку ўсіх ягоных званьняў-дасягненьняў ідзе іранічнаякнічны сказ: «Уважае себе білорусом». Маўляў, у космас тройчы зьлётаў, ■ сапраўдных украінскіх межаў разгледзець ня здолеў – лічыць сябе чамусьці беларусам.

Па дарозе на Менск нас чакала чатырохгадзінная (!) сустрэча ў Белаазёрскім доме культуры, куды сышлася ледзь не палова горада. Белаазёрцы былі гатовыя слухаць паэзію ды прозу бясконца, але гаспадыня вечарыны, паэтка й перакладчыца Ніна Мацяш, напэўна, вырашыўшы, што яе землякі ўжо цалкам беларусыфікаваныя, не дазволіла выдаткоўваць пісьменьніцкую энэргію напуста і запрасіла дарэшты зьнясіленых літаратараў да сябе на вячэру.

## Магілёў

Першы выступ – у ПТВ мэталістаў. Старэнькі гукаўзмацняльнік пад назовам «Родина» бязбожна фаніць, са скрыпам праглынае беларускія словы, малаўцямныя, відаць, для яго зьвінчаных дзе-небудзь у Пензе электравантробаў. Прыгадваючы пачутую дзесьці прыпеўку:

*Радавод у нас адзіны,*
*тыя ж і паводзіны.*

*Толькі я люблю Радзіму,*
*а ты любіш Родину, –*

я назіраю, як магілёўскі бард Ігар Мухін-Рабянок упэўнена апрацоўвае пэтэвушнікаў. Праз хвіліну заля пачынае падцягваць: «Сьпі, пі гарэлку, гуляй, Северо-Западный край...»

Школы № 3, 25, 32, 40 – перад вачыма пачынае мільгаць звыклы калейдаскоп. У актавай залі школы-гімназіі № 30 на сьцяне вісіць трохмэтровая карціна «Человек с ружьём». Уражаньне, нібы выступаеш пад канвоем.

Магілёўскі графік не такі шчыльны, і ў першы ж дзень мы адведваем на могілках паэта Аляксея Пысіна, аглядаем Сьвята-Мікалаеўскі жаночы манастыр. Ігуменьня на імя Яўгенія расказвае, як бальшавікі з царквы сямнаццатага стагодзьдзя зрабілі турму. І калі аднаўлялі храм, у алтары знаходзілі людзкія чарапы. Ігуменьня сьлёзна просіць дапамагчы ў росшуках іканастасу, які забралі ў Менск на рэстаўрацыю. Куды яна толькі не зьвярталася, нават да самога прэзыдэнта, – а вынікаў ніякіх. Прапаў іканастас.

Найпрыгажэйшы будынак у Магілёве – касьцёл сьвятога Станіслава. Асьляпляльна белы, ён лунае ў паднябесьсі над прыземістымі камяніцамі, у якіх спыняліся расейскія каранаваныя асобы. На зацемку будучаму экскурсаводу – пры касьцёле запачаткаваўся фэстываль духоўнай музыкі «Магутны Божа», тут вянчаўся Зянон Пазьняк.

Музычная вучэльня імя Рымскага-Корсакава. Адміністрацыя разьбеглася, прадбачліва адчыніўшы канцэртную залю.

У адной школе ў габінэце беларускай мовы й літаратуры на сьцяне – завешаная нейкім невыразным краявідам «Пагоня». «Нядаўна была праверка, – тлумачыць настаўніца, – давялося схаваць». Разам з намі ў класе хлопчык гадоў дванаццаці: «Мама, можна ■ ўжо адвешу?»– і ходзіць кругамі каля таго стэнда.

На задніку сцэны тэхнічнага ліцэя – эмблема з «Пагоняй». Не пазайздросьціш магілёўскім працэвічам – збройны рыцар на кані ўваходзіў у склад гэрба Магілёва, на рэфэрэндуме магілёўскага гэрба не адмянялі – як змагацца?

На кожнай сустрэчы ў навучальных установах прысутнічалі строгія дамы з нататнікамі ў руках. На іхніх скамянелых тварах не праглядвалася й ценю эмоцыяў. Адзінае, што іх магло трохі разварушыць, – верш Уладзімера Арлова пра жаночыя грудкі ў аўтарскім выкананьні. Гэты твор, як мне здаецца, мог бы вярнуць да жыцьця і скіфскіх бабаў дзе-небудзь на скрыжаваньні стэпавых дарог...

Пасьля кожнай сустрэчы застаюцца на памяць прыгаршчы запісак.

«Ці было ў гісторыі, каб хто, апроч сатаністаў, забараняў сьвяткаваць у хрысьціянскай дзяржаве Вялікдзень?»

«Як вы лічыце, ці справядліва пастуліў наш прэзыдэнт у дачыненьні да З. Пазьняка і П. Шарамета?»

«А не боитесь ли вы, что за ваши пародии могут быть «ответные действия»?»

«Што трэба рабіць, каб такія сустрэчы былі часьцей? У двух словах – пра будучыню Беларусі».

«Падкажыце, калі ласка, куды я магу адправіць свае вершы й некалькі апавяданьняў? Пачынаючы паэт Кіцюбей Лёша».

«Як вы ставіцеся да пераважаньня рускай мовы над беларускай у нашай краіне?»

«Я вельмі захапляюся вашымі вершамі. Я хацеў бы ведаць, колькі зборнікаў вы маеце ўвогуле. Кавалік Сярожа».

«Ці ёсьць у вас «муза» па пашпарту? Дзякуем».

«Я в вас влюбилась, во всех!!! Таня. СШ № 26, 11 «Б» кл.».

«Паэт, часьцей дзяўчатаў ціскай –
І будзе шмат табе запіскаў!»

З заключнай вечарыны ў гарадзкім Доме культуры Валянцін Іванавіч Ермаловіч зрэжысаваў сапраўдны спэктакль – з рэмінісцэнцыямі ў мінулае, з пысінскімі вершамі. Заля доўга не адпускала пісьменьнікаў.

Праз два месяцы самы высокапастаўлены магілёвец на сустрэчы з сябрамі Рады Саюза пісьменьнікаў падзяліўся дадзенай яму інфармацыяй: «Прыязджают з Баршчэўскім у трудавыя калякцівы, скажут два-тры слова на матчынай мове і начынают: дзяржава – калгас, і дырэктар у ім Лука».

Сьведчу як непасрэдны ўдзельнік тых паездак – нагаворы ўсё гэта. Размова на сустрэчах вялася ўсё больш пра ўзвышанае, вечнае, слаўна-гістарычнае. Пра калгасы ў нас ёсьць каму выступаць.

*1998*

# ПАД АПЯКУНСТВАМ НЯБЁСАЎ

Беларускі паэт – як муэдзін на сьпічаку высачэзнага мінарэта. І да неба блізка, і сэрца млее ад вольнага птушынага палёту, а рэха няма. Як ні высільвайся ў паэтычнай казані, як ні старайся быць пачутым і зразуметым – няма рэха. Бо словы паэта патанаюць у навакольнай прасторы, ня маючы ад чаго адбіцца, каб вярнуцца зьмененым да непазнавальнасьці, але ўсё ж такі *вод-гукам*. Няўдзячнае неба глытае просьбы й грозьбы паэтаў моўчкі.

Альбэр Камю ў эсэ «Міт пра Сізіфа» згадвае літаратара, які, напісаўшы першую кнігу, стаў самагубцам, жадаючы прыцягнуць да сваёй паэзіі ўвагу людзей. Сёньняшнія «бумбамлітаўцы» абралі менш трагічны шлях і, напісаўшы новы твор, імпэтна грукаюць у тазік. І калі апошнія самаададана вераць у свае сілы, у моц тазіка і ў тое, што ледзь ня кожны прамоўлены або выбіты зь беларускага нацыянальнага тамтама гук ёсьць безумоўны складнік літаратуры, калі дапусьціць, што згаданы ў «Міце пра Сізіфа» літаратар верыў у рэінкарнацыю (а значыць, сьмерць уяўлялася яму рэччу звычайнай), то ў што верыць той, набліжаны да неба паэт, безнадзейна насычаючы пустэльню вакол сябе сваёй энэргіяй? Што чакае яго пад ганаровым, але безуважным апякунствам нябёсаў?..

Вершы Эдуарда Акуліна, ігнаруючы мудрае выслоўе «чым бліжэй да сонца, тым халадней», жывуць у палёце. То прымась-

ціўшыся на крылах паважных птушак (верш «А буслы белы гонар маюць...»), то ўзьнёсшыся на вежы касьцёла ў Ішкальдзі, то назіраючы, як «спалі з тонкіх шыяў шпіляў птушыныя каралі» (цудоўны вобраз!). Безьсюжэтныя, не абцяжараныя вялікім аб'ёмам, яны выпісаны лёгкім пяром. Ім не расплёсквацца ў чашах стадыёнаў, не страсаць долу люстры ў высокіх залях. І тут не месца папрокам, бо гэта паэзія іншага кшталту. Такую паэзію любяць закаханыя, у ёй цнатлівасьць пачуцьцяў спалучаецца з набліжэньнем, якое, аднак, не прыніжае, не засьмечвае адносінаў. Натура застаецца чыстай.

*Па меры таго, як памалу*
*з глыбі яна йшла на мель,*
*я бачыў: ад футарала*
*вызвалялася віялянчэль.*

Зь лепшых лірычных вершаў Э. Акуліна можна скласьці цэлую анталёгію. Там, дзе шчырасьць перажываньняў ураўнаважваецца сьмелай арыгінальнай вобразнасьцю, паэта, як правіла, чакае посьпех. Не заўсёды ўдача ягоная навідавоку, яе трэба ўмець заўважыць, пачуць. А пугу як ні складвай, смычок да скрыпкі зь яе наўрад ці атрымаецца.

Рэцэнзія Ф. Яфімава на зборнік паэзіі Э. Акуліна – менавіта пагладжваньне пугай. Прыгадайма асноўныя грахі паэта паводле спадара Яфімава: 1) апрабаваньне новых для беларускай паэзіі паэтычных формаў, якія крытык чамусьці называе архаічнымі; 2) залішняя складанасьць і перанаселенасьць асобных вершаў, паколькі шаноўны крытык не ўважае сябе за гурмана й любіць рыбу, якую «можна есьці безь парашкодаў»; 3) мастацкім вобразам паэта бракуе лягічнасьці; 4) паэту ня варта выконваць песьні на свае вершы пад гітару і г.д.

Пра новыя формы. Не бяруся сьцьвярджаць, што ўсе ронды, актавы, тэрцыны й трыялеты Э. Акуліна бездакорныя, але

само імкненьне паэта пашырыць абсягі беларускай паэзіі заслугоўвае павагі. Як і клясычныя спробы М. Багдановіча перасадзіць на беларускую глебу экзатычныя дрэўцы з заходнеэўрапэйскага паэтычнага саду. Навошта Максіму-кніжніку спатрэбілася гэтая працаёмкая справа, калі і ў той час асобныя з нашаніўскіх мэтраў, і амаль стагодзьдзе пасьля сп. Яфімаў даводзяць марнасьць і непатрэбнасьць падобных заняткаў (як зазначае сучасны крытык, «яны – як вышываньне па канве»)? Калі пагадзіцца з такой лёгікай, то ўсю сусьветную паэзію варта прызнаць за гэткае «вышываньне па канве», бо сапраўды новыя формы паэтамі вынаходзяцца далёка ня кожны дзень. Што да беларускіх творцаў, то яны ўвогуле ў сьвятле разважаньняў сп. Яфімава павінны выглядаць канчатковымі «форменнымі канфармістамі», бо дзясятак-другі відаў верша, што імі бязьлітасна эксплюатуецца на працягу дзесяцігодзьдзяў, ужо нават не канву нагадвае, а разьбітую каляіну, па якой, ляскочучы, сунецца воз за возам. Некаторым дасьледнікам, зрэшты, заманулася абвясьціць нацыянальным вершам элегію; маўляў, ціхмяным бязвольным беларусам яна акурат дарэчы, як торба жабраку. Але ж і элегія – парастак з чужога саду (дарма што добра прыжыўся). Калі ўжо вельмі хочацца нацыянальных формаў – папрасіце Алеся Разанава, ён прыдумае. І гэта будзе сапраўды наша-роднае-беларускае. А тое, што сп. Яфімаў чуць ня чуў пра туюгі й ня ведае, як да іх падступіцца, вялікага гонару яму як крытыку ня робіць. Адна надзея, што ў наступным выданьні «Паэтычнага слоўніка» В. П. Рагойшы зьявіцца вычарпальнае тлумачэньне гэтага экзатычнага чатырохрадкоўя са спасылкай на туюгі Э. Акуліна.

Пра залішнюю складанасьць. Уявім сабе, што кожны беларускі паэт скарыстаў усе з парадаў сп. Яфімава і над сваім сталом павесіў выслоўе М. Хайдэгера: «Прастата – вось адвечная таямніца вялікасьці». А як ці ня ўсе паэты мараць стаць вялікімі альбо хоць бы народнымі, то кожны не адмовіцца «папрасьцець».

І будзем мы зноў папера́дзе плянэты ўсёй – у простасьці сваёй і дахоладлівасьці. Аднаго я ня ўцямлю, дзе тыя архіскладаныя паэты на Беларусі, творы якіх трэба разгадваць, як шарады? Выходзіла нязвыклая беларускаму чытачу кніга А. Разанава «Шлях-360», дык П. Панчанка ў прадмове, і В. Бечык у пасьляслоўі ўсё растлумачылі. А камэнтар да джойсаўскага «Уліса» склаў больш за паўтысячы старонак. Не, хай ангельцы спрашчаюцца, беларусам можна й пачакаць. Што да складанасьці вершаў Э. Акуліна... Любы аматар паэзіі, які ўмее чытаць па-беларуску, знойдзе іх зразумелымі. Паэт сьвядома працуе ў традыцыйным кірунку, і калі замест мудрошчаў заходняга філёзафа паспрабаваць працытаваць што-небудзь адпаведнае з усходніх клясыкаў, то вельмі дарэчным у характарыстыцы Э. Акуліна выглядацьме з школьнай лаўкі знаёмае: «просты, як праўда».

Пра лягічнасьць мастацкага вобраза. На ўнівэрсытэцкім іспыце па лёгіцы мне выпала маляваць лягічны квадрат і тлумачыць яго будову. Намаляваўшы й адрапартаваўшы, я атрымаў заданьне на кемлівасьць: прыдумаць прыклад лягічнай высновы. «Воўк драпежнік, – асьцярожна пачаў я. – Наш дэкан – Воўк. Адсюль вынікае: наш дэкан – драпежнік». Мае філялягічна-лягічныя адкрыцьці не далі мне атрымаць выдатную адзнаку, і з той пары я запомніў, што лёгіка – пані падступная. Тлумачыць паэзію, расьпінаючы яе на лягічным квадраце, не гуманна і наўрад ці прадукцыйна. Сп. Яфімаў не знаходзіць лягічнасьці ў радках Э. Акуліна:

*Забяры мяне ў неба, маланка!*
*І хоць шчасьце з табою – на міг...*
*Я клянуся быць шчырым каханкам*
*У пякельных абдымках тваіх...*

Далей паважаны крытык выбудоўвае цэлы ланцужок здагадак, спрабуючы дасканальна ўявіць створаную паэтам зама-

лёўку. Цікава, якія сюррэалістычныя карціны апанавалі б сп. Яфімава, калі б ён паспрабаваў уявіць сабе радок А. Блока «О Русь моя, жена моя...»

Пра паэта-выканаўцу. Тое, што вершатворца (ня мае значэньня, Лорка ці Акулін) адчувае патрэбу ўзяць у рукі гітару, ёсьць цалкам нармальнае зьявішча: хоць музыку паэт Вэрлен паставіў вышэй за ўсё, паэзія ня згодная на ролю падчаркі. Дзьве сястры-ганарліўкі, кожная сама па сабе боскасьць і гармонія, імкнуцца да вышэйшага паяднаньня. І гэты жанр, больш старажытны, чым каменны саркафаг у Тураўскім музэі, заслугоўвае найсур'ёзных да сябе адносінаў. Нездарма ў слове *бард* чуцен водгук *арт*, што, як вядома, азначае мастацтва. Каб не адыходзіць ад прадмета гаворкі, заўважым, што само імя Эдуард тоіць у сабе нешта падобнае. Ведаю не адзін дзясятак шчырых прыхільнікаў аўтарскіх песень Э. Акуліна. Не экзальтаваных дзяўчатак-паклоньніц, якія жыць ня могуць без каханьня-з-прыдыханьнем пад даступныя кожнаму пяціпаламу тры акорды, а людзей сур'ёзных, сталых, абазнаных. Ведаю, што студыйны запіс песень Э. Акуліна імгненна разышоўся па ўсёй Беларусі, прынёсшы аўтару заслужаную вядомасьць.

Кнігу «Крыло анёла» сп. Яфімаў двойчы называе вучнёўскай, паблажліва ківаючы на малады век аўтара. Што ж, дай Бог майстрам-дзядам гэткіх сьвежых і паўнаважкіх радкоў, якія ў зборнік Э. Акуліна, відно, трапілі невыпадкова:

*Завостраны позірк косаў*
*зарэчны лужок абраў,*
*дзе белае срэбра росаў*
*апраўлена ў зелень траў.*

..............................................

*У супольнасьці з Сусьветам*
*бусел, шчыры служка Бога,*

*адпусьціў грахі ўсе Лету*
*з купала рудога стога.*

.................................................

*Восень прыйшла зьнянацку,*
*як тэлеграма ноччу.*

.................................................

*Агонь зрабіўся трэцім лішнім*
*і ўжо саромеўся гарэць.*

Раней усеагульна прызнаным лічыўся паэт, чый верш цытаваўся ў дакладзе высокага начальства з якое-небудзь нагоды. Творцу віншавалі, як імяніньніка, сябры-літаратары, імя паэта трапляла на першыя старонкі вялікіх газэтаў. Чытачы павінны былі пераканацца, што беларускія пісьменьнікі не дарма ядуць хлеб і што іхнія думы дапамагаюць высокаму начальству кіраваць дзяржавай. Апошні такі выпадак, здаецца, быў, калі Старшыня Вярхоўнага Савета М. Грыб узгадаў у сваім пасланьні да паспалітага люду верш Максіма Танка. Э. Акуліну шанцуе мо трохі менш: ніводзін высокі начальнік пакуль не дабраў часу зазірнуць у ягоныя кнігі. Але разоў колькі мне даводзілася быць відавочцам, як шырока разышліся ў народзе вершы Э. Акуліна.

Неяк, едучы па рэдкай цяпер брукаванцы Дзярэчын–Зэльва, я быў нямала ўражаны, як кіроўца, Валодзя Бартош, галоўны інжынэр мясцовага калгаса, галава якога, здавалася б, павінна быць занятая чымсьці іншым, «с чувством, с толком, с расстановкой», як быццам у БІМСХ (Беларускім Інстытуце Малапісьменных Сельскіх Хлопцаў – так жартоўна расшыфроўвалася гэтая абрэвіятура) вывучаў рыторыку, а не якія-небудзь трансьмісіі, прадэклямаваў невядома дзе вычытаныя ім радкі:

*... Максім, не вяртайся з далёкае Ялты –*
*цябе не пазнае тутэйшы народ.*

Праўда, пакуль нас трэсла й падкідала ў парожнім уазіку, які ймкліва ўзьлятаў на пагоркі, я ўчыніў сваймў спадарожніку допыт і выведаў, што, апрача верша пра Максіма, ён ведае на памяць яшчэ два шэдэўры сучаснай беларускай паэзіі – ананімныя паэмы «Сказ пра Лысую гару» й «Лука Мудзішчаў – прэзыдэнт». У чым я тут жа меў магчымасьць пераканацца. Даведаўшыся, што аўтар верша пра Багдановіча яшчэ жыве й вымушаны з абавязку службы час ад часу абкошваць тупою касою музэй вялікага паэта, галоўны інжынэр празь некалькі тыдняў спэцыяльна наведаўся ў сталіцу, каб пазнаёміцца з паэтам Акуліным, і прывёз навюткую, асаджаную па ўсіх правілах і накляпаную касу.

Я ўжо згадваў пра неабыякавасьць Э. Акуліна да клясычных кароткіх формаў. Практыкаваньні ў пераагучваньні іх на беларускі лад пайшлі на карысьць паэту. Ён звыкся выказвацца сьцісла, часам кароцячы верш на самай строме, – чытач, як гарналыжнік, зьдзіўлена азіраецца навокал: дзе б прызямліцца. Зрэдку паэт, захапіўшыся скарачэньнем радкоў, пачынае караціць словы, у выніку чаго зьяўляюцца слоўкі накшталт *спадарлівы* (сейбіт), *сяродку, цалунак, крыёма...* Маўляў, і без прыставак *га-* і *па-* можна дапяць, што да чаго. Праўда, Э. Акулін з посьпехам даказаў, што й эпічны размах яму падуладны, – славуты санэт М. Багдановіча «Паміж пяскоў Эгіпэцкай зямлі...» быў ператвораны ім у акрапаэму. Факт беспрэцэдэнтны ў гісторыі беларускай літаратуры, калі не лічыць працягу «Паўлінкі», ажыцьцёўленага Ф. Аляхновічам. І калі Купала, кажуць, ня крыўдзіўся на свайго авантурнага калегу, то Багдановічу на захавальніка сваёй памяці ківаць пальцам тым больш не выпадае.

...Ад таго часу, калі ўпершыню напаткаў ■ вершы Э. Акуліна на старонках «Маладосьці», мінула болей за дзесяць гадоў.

Але й сёньня памятаецца чатырохрадкоўе з тае падборкі, прысьвечанае Радзіме:

*Той, хто душой парожні,*
*перад табою вінны.*
*Бусел расьпяты над пожняй –*
*гаючыя успаміны...*

За дзесяць гадоў паэтам напісана нямала: вершы (і для маленькіх чытачоў таксама), паэмы, песьні, пароды... Выйшлі дзьве кнігі. Яшчэ ўсё жыцьцё наперадзе, але ўжо ўдакладнены, падкарэктаваны безапэляцыйны лацінскі афарызм іга facel poetam (гнеў спараджае паэта). Ня толькі гнеў, але й ціхі одум «перад высокаю красою». І пацьвярджаюць гэта спакойныя, разважлівыя вершы Э. Акуліна без трубадурскіх лямантаў ды назойлівых клічнікаў.

*1995*

# НАЎСЬЛЕД І НАПЯРЭЙМЫ СОНЦУ

*Уранку я выйшаў з дому*
*і ўвесь дзень ішоў*
*у кірунку да сонца.*
*Якім супярэчлівым аказаўся*
*мой шлях!..*

*А. РАЗАНАЎ*

Цень сонца?* – недаверліва пацісьне плячамі чытач. Маўляў, ня новае гэта – назвы-аксюмараны накшталт *гарачага сьнегу, чужой бацькаўшчыны* ці *сьвята пчалы.* Звычайнае паэтычнае красамоўства, чарговая выдумка мастака-летуценьніка. Паводле вядомай мадэлі гэткія арыгінальныя словазлучэньні можна ўтвараць бясконца, усё залежыць ад фантазіі аўтара: *халодны агонь, квадратнае кола, храм бяз бога* і г.д.

У выпадку з сонечным ценем, здаецца, ня ўсё так проста. Паводле тэорыі Абрама Мікаэля Айванхава, «сьвятло – дух жывы», звыклае для нас сонечнае сьвятло ня ёсьць тое сьвятло, пра якое гаворыцца ў Эвангэльлі. На пэўнай адлегласьці ад бачнага сонца знаходзіцца сонца нябачнае, якое й пасылае сваю энэргію нашаму сонцу як бы на перапрацоўку. Апошняе зь нябачнай энэргіі ўтварае знаёмае нам усім сьвятло й выпраменьвае яго на зямлю. У баўгарскай мове ёсьць нават два азначэньні

---

* Бадак А. За ценем самотнага сонца. Вершы й песьні. – Мн., «Мастацкая літаратура», 1995.

сьвятла (духоўнае, нябачнае – *виделина* і фізычнае, бачнае – *светлина*). Выходзіць, наша роднае сонца, адным бокам убіраючы, назапашваючы сьвятло, другім адкідае ў прастору самы звычайны цень, які на грубым, матэрыяльным узроўні перакрываецца сьвятлом іншага гатунку.

Магчыма, Алесь Бадак не пагодзіцца з гэткім адвольным тлумачэньнем назвы ягонай паэтычнай кнігі. Але шматзначнасьць, асацыятыўнасьць у паэзіі – ці так гэта дрэнна? Слова павінна працаваць напоўніцу. Тым болей слова-напачатку, слова-загаловак, слова-прыдзьвернік.

Вершы Алеся Бадака прагаворваюцца напаўголасу, іх можна чытаць без рызыкі ператаміць галасавыя зьвязкі. Аматары барабанна-барацьбітных хваласьпеваў мусяць лякатарна настаўляць свае аглушаныя вушы, каб вычуць паэзію паўтонаў. Вочы, прыцьмелыя ад штодзённых ура-сьвяточных салютаў, разгублена перадаверацца рукам, хоць рызыкоўная справа – шукаць паэзію навобмацак. Пальцы, нават самыя чуйныя, запатрабуюць выпуклых аб'ёмаў. І тут вершам А. Бадака можа сапраўды не хапіць рэльефнасьці, каб без памылак счытваўся код.

Творам А. Бадака ўласьцівы мяккі лірызм, давяральны тон. Паэт умее высачыць і да месца ўжыць трапную мэтафару, нечаканы вобраз. Але шмат якія творы адметныя менавіта адсутнасьцю выкшталцоных тропаў, іх прыцягальнасьць, іх паэзія ўзьнікае як быццам зь нічога:

*Я з вуснаў тваіх залатое віно,*
*Заплюшчыўшы вочы, да дна выпіваю.*
*Яшчэ ты са мною, а я ўжо даўно*
*Назад цябе зноўку чакаю.*

«Когда б вы знали, из какого сора растут стихи...» У вершах А. Бадака прысутнічае дамінанта менавіта росту – як паступальнага руху ўгору. Паводле згаданага ўжо Айванхава, ёсьць істоты, якія сілкуюцца энэргіяй сьвятла. Усё жывое імкнецца на спрадвечны маяк – сонца. Якой бы моцнай ні была сіла зямной

гравітацыі, дрэвы ўпарта, на працягу ўсяго жыцьця стараюцца пераадолець яе.

*Зялёныя аблокі дрэў*
*Застылі стомлена над намі.*
*У іх жыве птушыны сьпеў,*
*Бяздомны вецер сьпіць начамі.*

*Тут, дзе і тлум, і сьмерць, і грэх,*
*Што іх трымае ў дні цяжкія –*
*Зялёныя аблокі дрэў,*
*Цнатлівыя і маладыя?*

*О, так! Яны вось-вось, відаць,*
*Карэньне выцягнуўшы з глебы,*
*Спакойна, ціха паляцяць*
*У неба, ласкавае неба!*

Шлях паэта «ў кірунку да сонца» – не сьцяжына нацянькі празь лес, наўпрост да пэўна вызначанай мэты. Напралом ходзяць ваяры, без дарог, уподбежку скача па затоенай лугавіне дождж. Як сонца няспынна рухаецца па нябесным бальшаку, так і паэт павінен нястомна ісьці наўсьлед і напярэймы сонцу. Хвіліна таптаньня на месцы – і настане збой у гэтым супольным зладжаным рушаньні, і сьпіралепадобны паступальны рух абернецца кружляньнем па лябірынце. А ненадзейнае «прыцягненьне нябёсаў» наўрад ці зможа замяніць арыядніную нітку ды падказаць разгубленаму вандроўніку, у якім баку села зьнямоганае сонца.

Як пазначана ў выдавецкай анатацыі да зборніка А. Бадака «За ценем самотнага сонца», «у новай кнізе з рэаліямі сёньняшніх дзён цесна пераплятаюцца фальклёрныя матывы». І ўсё ж лаўры В. Аколавай, якой сярод беларускіх паэтаў у насьледаваньні народнай творчасьці належыць бясспрэчнае першынство, думаецца, не перашкаджаюць спаць А. Бадаку. Некалькі

вершаў-прыпавесьцяў, якія ўмоўна можна было б падзагаловіць «з народнага», не нясуць у кнізе асаблівай нагрузкі, ды й па мастацкім узроўні прыкметна саступаюць сваім арыгінальным пабрацімам. Радкі сур'ёзнага паводле задумы верша «конь бяжыць ды спатыкаецца, а Радзіма не канчаецца» гучаць гульліва, непераканальна. (Падаецца, што плённае супрацоўніцтва з кампазытарамі ў некаторых выпадках далося А. Бадаку ў знакі – паэт-песеньнік у ім самім дае ўрокі сьпеваў паэту.) Наўрад ці варта было ўключаць у кнігу і нізку песенных тэкстаў, якія жывуць сваім жыцьцём на сцэне. Але калі адкінуць музычныя хадулі...

Ня шкодзіла б паэту больш абачліва аднесьціся да ўвесьчаснага выкарыстаньня словаў накшталт *какетка, дзялок, сьляпец, страсьць, трус* (у сэньсе баязьлівец). Тая небясспрэчная акалічнасьць, што яны трапілі ў савецкія нарматыўныя слоўнікі, не пазбаўляе іх чужамоўнага гучаньня, ды й пры жаданьні ім зусім няцяжка падшукаць беларускія адпаведнікі. Ёсьць у зборніку й іншыя хібы: вятры ў аднайменным вершы размашыста ляцяць *па ціхаму небу* – яўна, як пісаў адзін паэт, «в сторону восточную». У вершы «Зорка» закаханы лірычны герой уздымаецца над зямлёй, самазабыўна *«закрыўшы вочы»*. Але закрываюць вочы чалавеку адзін раз у жыцьці, і звычайна ён іх заплюшчвае...

Зямны шлях наўсьлед сонцу вымушана пераходзіць у палёт, калі сонца знаходзіцца ў зэніце, проста над галавой, – любое гарызантальнае перамяшчэньне аддаліла б ад мэты. Крок убок – і шлях яшчэ болей здоўжыцца. Самы час разьвінуцца крылам.

*1995*

# САМАЗАБЫЦЬЦЁ ДУШЫ,
## альбо
# ГУСІ НА ДАХУ

Калі мне даводзіцца чуць, што беларусы – матрыярхальная нацыя, [redacted] скептычна пасьміхаюся. Скарыстоўваючы набыткі сусьветнай фэмінізацыі, з гонарам гаворачы пра духоўны подзьвіг беларускіх жанчынаў ад Эўфрасіньні Полацкай да Ларысы Геніюш, адэпты прыўкраснай паловы чалавецтва забываюцца, у якой краіне жывуць. Беларускі мужчына дзеля жанчыны гатовы амаль на ўсё, асабліва што датычыць духоўных подзьвігаў. Пешкі ў Ерусалім схадзіць? Калі ласка. Па Сібіры неабдымнай праехацца (такой бяды, што ў закратаваным вагоне)? І гэта можна.

Удасканальвайцеся, прасьвятляйцеся духоўна, а мы вас потым абагаўляць будзем. Калі ж справа заходзіць аб якой-небудзь непасільнай працы, скажам, адну з чатырох уладаў узначаліць, у ганаровых прэзыдыюмах пасядзець – тут вы, жанчынкі, пачакайце, не жаночы гэта занятак. Не ў Пакістане якім-небудзь жывём, самі справімся. Шмат у нас жанчынаў-навукоўцаў, [redacted] колькі зь іх – акадэмікі? Маем паўтара дзясятка народных пісьменьнікаў – і ніводнай народнай пісьменьніцы. Кажуць пра дыскрымінацыю жанчынаў у азіяцкіх краінах, але ж Зульфія ў іх была! А ў нас лядашчую дзяржаўную прэмію атрымаць, якой на касмэтыку адну й хапіла б, – і то праблема. Жанчыны ў нас як нацыянальная меншасьць, [redacted] меншасьцям трэба дапамагаць і рабіць выгляд, што яны з асноўным этнасам – нароўні. Жанчы-

ны й самі імкнуцца да пэўнай аўтаноміі ў літаратуры. Узьвялічваюць беларускіх гераінь, пішуць вершы, паэмы ды раманы пра Рагнеду, Барбару Радзівіл, Цётку. Ды творы іх па звыклай завядзёнцы часьцей рэцэнзуюць паплечніцы. Асьмелюся парушыць гэтае няпісанае правіла.

Кожны па-свойму шукае сваю сьцежку ў краіну паэзіі. Хто асьцярожна, вобмацкам, хто «сьледам за дзедам», дыхаючы таму дзеду ў патыліцу. Хто – як са стромы ў вір ныраючы, не зважаючы на вышыню й перасьцерагальныя воклічы. Ніна Аксёнчык, падаецца, належыць да апошніх, пішучы пра паэта як пра «пасрэдніка паміж зоркамі ў Сусьвеце», які праз «самазабыцьцё душы» вычувае мэлёдыі космасу.

Зь вершаў Ніны Аксёнчык пачыналася мая праца ў часопісе «Роднае слова». Упершыню рыхтаваў я да друку чужыя радкі, спрабуючы напоўніць новым зьместам паэтычную рубрыку. З таго часу заўсёды ўважліва прачытваў вершы паэткі, што ня вельмі часта сустракаліся на старонках пэрыёдыкі.

Першае, прыемнае ўражаньне ад зборніка «Споведзь арабіны» трымалася на творах, якія не зьдзіўлялі арыгінальнасьцю, але мелі свой, рамантычны настрой:

*Над зарой лілёвым вадаспадам*
*Пралілося неба на траву.*
*І рака замроілася садам,*
*Лёгенька ўздыхнуўшы на плыву.*

*Ці то белым полымем аблокі*
*Прыляглі на вербах, лазьняку,*
*Запаліўшы мройныя аблогі,*
*Ручнікі спусьціўшы у раку.*

*Ці то водгук зоркавага шляху,*
*Вечнасьці прызнальнае «люблю»,*

*Ахінуў мэлёдыямі Баха*
*І абняў заспаную зямлю.*

*Ой туманы, белыя туманы –*
*Мары-мроі золкавай зямлі...*
*Быццам дух, нябёсамі абраны,*
*Коні над вадою паплылі.*

Але чым далей я ўчытваўся ў кнігу, тым болей адчувалася ў душы нейкае раздваеньне, быццам вершы пісаў не адзін чалавек. Уперамешку з «застылым дыханьнем галін» (пра зімовыя дрэвы) скрыгатнулі, як ваганеткі па іржавых рэйках, нейкія «рытмы кампутарных фраз». Поруч зь вершамі-карацелькамі, што не прэтэндавалі на высокую паэзію, але, тым ня менш, гучалі ёмка й запамінальна («Навекі паслы Маёй Беларусі Для лета – буслы, для восені – гусі...»), трапляліся (у неблагіх увогуле творах) радкі пасьпешлівыя, нібы ў паліраваным стале негабляваная дошка: «Так сыходзіць неба ў адначасьсе Перад біблейскім ядзерным канцом...»

Зазірнуў у аўтабіяграфічную нататку:

«... нарадзілася ў вёсцы Аятчын Жыткавіцкага раёна... скончыла педінстытут, асьпірантуру... Кандыдат філялягічных навук». Навуковец зрэдчас перабівае паэта?

Але ў той самай нататцы ёсьць і іншае азначэньне: «мастачка-аматар». Гартаю кнігу, спадзеючыся напаткаць нацюрморт ці пэйзаж. Верш «Сакавіцкія воды» пачынаю чытаць, прыгадваючы раньнюю вясну на палотнах улюбёнага В. Бялыніцкага-Бірулі.

*...І змыецца ўсё, што балела*
*Скаванаму целу зямлі.*
*Адродзяцца нанава сьмела,*
*Як першынец, глянуць палі.*

*А воды, вясеньнія воды*
*Ня змоўкнуць –*

*Свой знойдуць праияг:*
*Прыроды жаданыя роды*
*Узыдуць пралескай жыцьця.*
*(Падкрэсьлена мной. – М. С.)*

Параўнаньне палёў зь першынцам штучнае, нацягнутае. Як могуць роды ўзысьці пралескай? Унутраная рыфма яшчэ больш падкрэслівае недарэчнасьць.

У кожнай паэзіі існуюць небясьпечныя рыфмы, на іх ужываньне ня шкодзіла б накласьці строгую забарону. У расейскім вершатворстве гэта аскомныя «берёзы – слёзы – грёзы», «кровь – любовь»... (Хрэстаматыйны верш І. Севяраніна «Классические розы» выратоўваюць толькі радкі малавядомага паэта І. Мятлева, скрадзеныя ды прысвоеныя «ананасна-шампанскім» каралём паэтаў: «Как хороши, как свежи были розы, Моей страной мне брошенные в гроб».) У беларускай паэзіі варта было б забараніць рыфмы «сонца – бясконца – ваконца», «Беларусі – гусі», «Радзіма – адзіна»... Ужытыя нібыта й да месца, яны, як калісьці штамп «сделано в СССР», сыгналізуюць пра не зусім добрую якасьць вырабу. Іншая рэч, калі над вершам стаіць пазнакаіндульгэнцыя «паводле народнага». Тут ужо мусіць прыцішыць імпэт самы мондры крытык: фальклёр шліфаваўся вякамі, а калі й зымправізавала трохі бабулька на свой мясцовы лад – зь песьні слова ня выкінеш. Ёсьць і ў Ніны Аксёнчык твор пра гусей, што ніяк не патрапяць даляцець да родных краёў:

*Ой, ляцелі гусі,*
*Ой, да Беларусі.*
*Дый не даляцелі –*
*За Дунаем селі.*

*Што ж вы, мае птахі,*
*Землю сіраціце?*

*Што ж да гнёздаў-дахаў*
*Болей не ляціце?*

Гусі на даху? Відаць, зблыталі свае гнёзды ў прыбярэжных зарасьніках з бусьлінымі. Але гусі – істота загадкавая, ад іх шмат чаго можна чакаць. Вунь аднойчы нават Рым ураталі. А мо гэта своеасаблівы палескі калярыт? Мост пад Жыткавічамі, кажуць, у чыстым полі больш за дзесяць гадоў будавалі, усе падарожнікі дзіву даваліся. А потым Прыпяць пад мост, як наравістага каня ў аглоблі, заганялі.

Ды агрэхі і ў клясыкаў сустракаюцца. Хто з нас з школьнай лаўкі ня ведае на памяць радкоў найлепшага паэта савецкай эпохі: «Партия и Ленин – близнецы-братья...» Але ж партыя жаночага роду, як яна магла быць братам самаму чалавечнаму чалавеку?

Адна з самых падступных спадужніцаў паэзіі – публіцыстыка. Незаўважна ўваходзячы ў давер, яна почасту выстуджвае верш, штучна падымаючы яго тэмпэратуру. Трэба мець талент, каб і на эмацыйным перападзе выгадаваць паэтычнае каліва. Ніне Аксёнчык гэта шчасьліва ўдаецца. Трапіўшы аднойчы на студэнцкі канцэрт у Менскім пэдагагічным інстытуце, я з прыемнасьцю пазнаў у добрай песьні верш паэткі, надрукаваны калісьці ў «Родным слове»:

*...Якой бы горкай доля ні была –*
*Зямля мая, ты вернасьць нараджала.*
*Хоць і ня раз з-пад белага крыла*
*Крывёй вякоў ты, Беларусь, сьцякала.*
*Гаротны твой, ды сакаліны лёс,*
*Як непадкупнай вернасьці аснову,*
*Праз вісельні і вогнішчы пранёс*
*Сьвятую споведзь матчынага слова.*

На асноведзі падобных твораў не губляюцца лірычныя вершы, што, як на маё гледзішча, складаюць лепшую частку збор-

ніка. Гэта «Купала», «Калі ўміраюць маладыя дрэвы...», «Лаўлю – і не пасьпяваю...», «Споведзь арабіны», «Перапёлачка трапяткая...»

Рызыкоўна пісаць вершы самазабыўна, як прадакляравала паэтка на пачатку кнігі. «Поэта далеко заводит речь». Словы жывуць на волі, любяць хаатычны рух, і калі іх выпусьціць з-пад увагі хоць на імгненьне, могуць апынуцца не на сваім месцы. Што азначае прыгожае словазлучэньне *«водгульле зор»*? А як адбылося, што стала *«кроў гарачая грымам падменена»*? Кроў і грым залішне розныя рэчы, каб пры выпадку іх можна было памяняць месцамі.

І ўсё ж першае прыйсьце адбылося, паэтка засьведчыла сваю прысутнасьць у беларускай паэзіі. А гэта няпроста – прыйсьці й прамовіць, каб пачулі. Іншаму дастаткова выказацца аднойчы, а потым і маўчаньне ягонае напаўняецца сэнсам. А іншаму й кароткая паўза пагражае забыцьцём. У Ніны Аксёнчык знойдзецца свой чытач. Калі нават дапусьціць, што нешматлікі прыхільнік беларускай паэзіі праявіць пэўную сквапнасьць і, прыдбаўшы першую кнігу паэткі, больш нікому не пазычыць яе, і схавае ў шуфляду, пад бэльку ці за абразы, усё роўна колькасьць яе знаёмых і сяброў вырасьце на тысячу трыста чалавек. А гэта лік не малы.

*1995*

# МОЙ ПАНЧАНКА

Паэты старэюць хутчэй за чалавецтва. Чалавек, пачынаючы ад Адама, не-не дый падмалодзіцца на цэлае жыцьцё – і пазнае сябе юнаком бацька ў сыне, дзядуля ва ўнуку. Таму чалавецтва і ў Мафусаілавым веку выдае на падлетка.

У паэтаў біблейскі ўзрост... Сапраўды, колькі гадоў Гамэру? Лёгка можна памыліцца на стагодзьдзе-другое, прыгадваючы славутага Міколу з Гусава. Адзначылі першае стагодзьдзе вечнасьці Максіма Багдановіча... Паэты старэюць хутка, але ім наканавана зайздроснае жыцьцё – вечная пара сталасьці, мудрасьці, развагі. Каб дапамагчы добрай парадай нам, нясьпелым на розум, па-дзіцячаму наіўным і бесклапотным.

Разбураюцца звыклыя ідэалы. Німбы над галовамі куміраў аказаліся звычайным падманам зроку. Ранейшыя сьвятыя – звычайныя грэшнікі й нават злачынцы. Ад адных патрабуюць пакаяньня, другім загадваюць сьпяваць замест «Інтэрнацыянала» «Пагоню», трэціх просяць гуртаваць сілы, каб бараніць тыя самыя сьветлыя ідэалы.

«Пасееш вецер – пажнеш буру», – кажуць у народзе. Што ж мы пасеялі? Калісьці ў часы маленства я быў вельмі ўражаны тым, што зярняты, якія шчодра сыпала калгасная сеялка на веснавую ральлю, аказваецца, атручаныя. Іх спэцыяльна пратручвалі на элеватары адпаведнымі хімікатамі, каб ніхто ня мог ска-

рыстаць калгаснае дабро. Як жа потым,– не магла даўмецца будзіцячая душа,– з атручанага насеньня вырасьце хлеб, які будзем спажываць?.. Ці ня гэткі хлеб мы елі ўвесь гэты час, і не хацелася нікому інакшых прысмакаў...

Людзі шукаюць апірышча – бо нельга душы чалавечай доўга блукаць у цемры, без прытулку й разуменьня. Многія кінуліся ў пошуках ратунку да царквы. Але як можна, пераплавіўшы звон на гармату, салютаваць пры кожнай нагодзе ў неба, нібыта ўслаўляючы імя Божае? Як можна з ваяўнічага атэіста зрабіцца адданым вернікам? Як можна гвалтоўна выкінуць на вуліцу музэй, запаліць у будынку сьвечку, памаліцца і сьцьвярджаць, што на ўсё гэта ёсьць воля Божая?

Найперш трэба навучыцца *«людзьмі звацца»*. Чытайма Купалу. Трэба паразумецца паміж сабой, убачыць, што *«мы ўсе разам ляцім да зор»*. Чытайма Багдановіча. Трэба адчуць сваю спрадвечнасьць на гэтай зямлі, паверыць у тое, што *«мы ёсьць, мы былі, мы будзем»*. Чытайма Геніюш і Караткевіча. Трэба, прайшоўшы агонь незьлічоных войнаў і ваду адзінага пакуль што сусьветнага патопу, паспрабаваць *«прайсьці празь вернасьць»*, зразумеўшы, нарэшце, што *«без чалавечнасьці ня будзе й вечнасьці»*. Чытайма Танка і Панчанку.

Гэта – вялікія. Зь імі мы ня маем права называцца беднымі, наракаць на абдзеленасьць лёсам.

Мала маем мы прыгажосьці, паэзіі ў сваіх душах. Не імкнемся да ачышчэньня праз слова. Часам можна пачуць, што некалькі тысячаў асобнікаў для паэтычнае кнігі – мізэрны наклад і г.д. Але ж Біблію Скарына таксама ня меў мажлівасьці выдрукаваць на ўсіх жыхароў Старабеларускае дзяржавы. А слова Божае ў роднай мове ўсё ж знаходзіла шлях да сэрцаў людзкіх... «Калі паэзія ёсьць, людзі могуць не заўважаць гэтага, але калі яе няма – людзі задыхаюцца», – гэта было сказана задоўга да на-

шага неспакойнага часу. І Божа збаў нас ад немагчымасьці дыхаць на поўныя грудзі...

...Гаспадыня Зоя Кірылаўна ў вітальні прымае з маіх рук мокры парасон і запрашае ў пакой паэта. Дзьверы за мной зачыняюцца, і я бачу дзьве крыніцы сьвятла. Гэта вочы Панчанкі. Яны ня сінія, не блакітныя, ня шэрыя, яны – сьветлыя. На зэдліку пры канапе міргае жаўтлявым свавольным вокам старэнькі прыймач. І мне адразу ўспамінаецца:

*Сяджу ўсю ноч каля прыёмніка,*
*За гузік шар зямны кручу.*
*То сьвіст, то твіст, то пра біёніку...*
*Чаго шукаю?*
*Што хачу?*
*Зямля падзеямі аглушана:*
*Эпоха мае бас густы.*
*Мы словападам зацярушаны,*
*Як сьнегам цёмныя кусты.*

Неяк ня думалася пра магчымасьць такой набліжанасьці: Дастаеўскі й Панчанка. А вялікі нашчадак зямлі беларускай (узгадайма маёнтак Дастоева, што на Піншчыне) – адзін з улюбёных пісьменьнікаў народнага паэта. Я адарваў яго ад чытаньня «Братоў Карамазавых». Кнігі складанай і заблытанай, «вяршыні, на якой дух займае», – прызнаўся быў Караткевіч. А перад «Братамі...» Панчанка перачытваў «Бесы». І гэта ў ягоным веку! Пасьля нядаўняга інсульту...

Панчанка бярэ ў рукі адзін зь сьветла-карычневых тамоў:

– *Чытаць Дастаеўскага можна ўсё жыцьцё. І кожны раз пачынаеш разумець нешта новае. Вядома, калі дваццацігадовым юнаком я, працуючы ў школе, імпэтна займаўся антырэлігійнай прапагандай і ня толькі прапагандай («Я цэрквы закры-*

*ваў, я абразы паліў»*, – прыгадаўся мне радок з пакаяльнага верша «Ратуйце нашы душы». – *М. С.), то наўрад ці ўсур'ёз задумваўся, што ёсьць Бог і для чаго ён патрэбны чалавеку. Якраз пра патрэбу Бога ёсьць добрыя думкі ў Дастаеўскага. Калі людзі вераць у існаваньне Царства Божага, то гэтая вера як бы стрымлівае, прымушае жыць па запаветах Божых. Але калі Бога няма, то ўсё дазволена. Пераступай мяжу налева і направа. І ня будзеш пакараны ні на гэтым, ні на тым сьвеце. Але ж калі чалавек вырашае прысьвяціць сваё жыцьцё служэньню Богу, ідзе, як мы кажам, у манастыр, то ён некалькі гадоў павінен праводзіць у штодзённых малітвах, рыхтаваць сябе. І гэта вельмі важна...*

Я ўзгадваю прынагодныя, як мне здаецца, радкі Панчанкі зь ягонай кнігі «Пры сьвятле маланак» (дарэчы, сам аўтар лічыць яе лепшай за іншыя, ну хіба яшчэ «Дзе начуе жаўранак»):

*Не спакушай нас высокай песьняй*
*Гэтак рана, Галяктыка.*
*Як валуны неачэсаныя, –*
*У нас цяжкія характары.*
*Ёсьць у нас і турмы*
*З арміяй канвойнай,*
*Ёсьць у нас плямёны*
*З каменнага веку.*
*Мы яшчэ у жорсткасьці,*
*Мы яшчэ у войнах,*
*Мы яшчэ у злосьці,*
*А ты нам – пра Вегу.*
*Мы яшчэ сварымся з-за прапіскі,*
*Загрудкі бяромся з-за розных прэмій...*

Чытаю з памяці ўслых, і Паэт нечакана, жартуючы, распавядае цікавы выпадак з жыцьця на «літаратурным алімпе»:

*– Дзяліў неяк адпаведны камітэт Дзяржаўныя прэміі СССР. Па разнарадцы перапала адна прэмія й беларусам. Думалі-варажылі высокія чыноўнікі – трэба даваць Панчанку. Ды тут падняўся сябра Камітэта Пятрусь Броўка ды паведаміў, што Панчанка піша вялікую паэму. Вось закончыць, маўляў, тады й прэмію дамо – наступны раз. Разьлік быў дакладны – Броўка сам стаў ляўрэатам. Праз некаторы час сустракае мяне адзін з камітэтчыкаў ды пытае: «Ну як там, Пімен, твая паэма?» А я пра тую паэму і ня думаў. І сьмех і грэх. А прэмія ад мяне не ўцякла...*

Наша размова перапыняецца – прыходзіць доктар з лечкамісіі. Колькі хвілінаў у пакоі гучыць чужая мова: чалавек у расхрыстаным белым халаце «деловито осведомляется о самочувствии», удакладняе з Зояй Кірылаўнай нейкія фармальнасьці й кіруецца да дзьвярэй. Панчанка ледзь пасьпявае сказаць наўздагон: *«Хрыстос уваскрос!»* (сустрэча адбывалася ў велікодныя дні). У пакоі запахла аптэкай...

Я – у працяг размовы – пасьпешліва дэклямую радкі з славутага «Сказа пра Лысую гару», спадзеючыся заадно даведацца, хто ж ён, таямнічы Вядзьмак:

*Наогул, з прэміямі туга –*
*Дайсьці няпроста да вянца:*
*Па зачараванаму кругу*
*Яны ўсё ходзяць без канца.*
*Пакуль разы са два, ня меней,*
*Абыдуць цалкам гэты круг –*
*Дык будзь ты, Грышка, тройчы геній –*
*Не дачакаўшы, спусьціш дух!*

Але Панчанка ўнікае размовы пра аўтарства паэмы...

Паэт і ўлада, адносіны моцных свету гэтага да беларускай культуры (нават на асновеДзі савецкай рэчаіснасьці) – тэма ціка-

вая, свайго роду фэномэн. Сапраўды, дзе яшчэ такое магчыма, каб кіраўнік дзяржавы ня ўмеў размаўляць на мове гэтай дзяржавы... Панчанка гаворыць нетаропка, пагладжваючы ката, які прылёг поруч на ложку і прымружыў вочы ад асалоды:

– *Уся бяда наша якраз у тым, што на Беларусі доўгі час не было беларускага талковага кіраўніцтва. Як у той прыпавесьці Караткевіча пра найгоршае ў сьвеце начальства... Праўда, Панамарэнка ў свой час ратаваў Купалу і Коласа – гэта калі былі замененыя ордэры на ордэны, Мазураў паспрабаваў быў выступіць на адным з партыйных форумаў па-беларуску, але калі Хрушчоў сказаў, што «ни черта не понятно», на гэтым усё і спынілася. Патолічаў, дык той за плянамі й пастаўкамі ўвогуле сьвету ня бачыў. Гэта ён нацягаў на Беларусь столькі розных заводаў. Нашым ці не адзіным чытачом з усіх высокіх начальнікаў быў Машэраў. Незалежны меў характар, не любіў, калі Масква ўмешвалася ў беларускія справы. За гэта і налажыў галавою... А пільнасьць, вядома ж, была. Памятаю, як паводле высокага загаду быў вымушаны перапісваць чатырохрадкоўе ў вершы «Родная мова», якое прыйшлося «не ко двору»:*

*Ці плачу я, ці пяю?*
*Восень. На вуліцы цёмна.*
*Пакіньце мне мову маю.*
*Пакіньце жыцьцё мне.*

*Так і друкаваліся ў зборніках радкі, якія задаволілі ўсіх:*

*Ці плачу я, ці пяю,*
*Ці размаўляю з матуляю –*
*Песьню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*

*А Міхась Стральцоў нават назваў іх «так шчасьліва народжанымі аднойчы, пранізьлівымі й прачулымі...»*

*Жыцьцё не стаіць на месцы, шмат зьменаў адбылося, шмат яшчэ адбудзецца. Ад аднаго хацелася б перасьцерагчы – ад пасьпешлівасьці. Неяк у Францыі мне давялося пабачыць Пантэон нацыянальных герояў. Дык вось, поруч з знакамітым рамантыкам Віктарам Гюго ды іншымі славутасьцямі, што чынілі добрыя справы дзеля сваёй Айчыны, там знайшлося месца й Напалеону Банапарту, які дажываў сваё жыцьцё на востраве Сьвятой Алены ў вялікай апале, адрынуты ўсёй Эўропай.*

Гаворка ізноў вяртаецца да літаратуры, і Панчанка добрым словам узгадвае Пташнікава і Казько (усё своечасова чытаецца ім), паказвае цэлы стос кніжак маладзейшых паэтаў, адзначае талент Лявона Галубовіча. Успамінае, як аднойчы адведаць яго ў лякарню прыйшоў Анатоль Сыс з цэлым абярэмкам кветак. Расказвае паэт і пра сустрэчу з Купалам, паказвае кнігі з аўтографамі тых, з чыёй творчасьці й складаецца беларуская клясыка. На старэнькім, 40-х гадоў, выданьні чытаю напісанае рукой Коласа: *«Дарагому Пімену Панчанку. Дык будзь жа, браток, паэтам-летапісцам і далей»*.

Прыемная неспадзяванка чакала мяне, калі адгарнуў том Івана Мележа: *«Дарагі Пімен! Адзін з самых радасных успамінаў майго юнацтва – сінія-сінія, чыстыя-чыстыя вочы аднаго, тады малавядомага паэта. І яго чыстая, шчырая, сьветлая кніжка «Упэўненасьць». Цяпер, азіраючыся, бачу: сінія вочы не ашукалі (хоць за жыцьцё пабляклі, сталі больш шэрыя): паэзія гэтага ўжо далёка-шырока вядомага «дзеда» – уся надзіва чыстая...»*

Значыць, і [redacted] не прыдумаў пра дзьве крыніцы сьвятла...

* * *

Памятаю даўнавата бачаныя два фотаздымкі з паэтам.

Усьмешлівыя Панчанка й Быкаў на нейкім зімовым сьвяце – у шыкоўных кажухах, ажно зайздрасьць бярэ – і па зімах тых марозна-сьнежных, і па кажухах, не на канвэеры зробленых, і па ўсьмешках зычліва-шчырых. І подпіс да здымка, што ўспрымаўся натуралёва й не выклікаў пярэчаньня нават у першакурсьніка-максымаліста, – «Народныя».

Здымак другі, хоць і быў выгледжаны ў адной з паважных энцыкляпэдыяў, выклікаў несур'ёзныя асацыяцыі з камсамольска-справаздачным мерапрыемствам: шчыльны падлесак рук, супакоеныя дружнай аднагалоснасьцю твары. І ў першых шэрагах – Пімен Панчанка з дэпутацкім сьцяжком на грудзях.

Памятаю, зь якой невялікай ахвотай купляў у букіністычнай краме апошні, чацьвёрты, том збору твораў улюбёнага паэта, большую частку якога склалі яго выступы на пісьменьніцкіх пленумах і г.д. Дзе паэт апынаўся ў неўласьцівай яму ролі статыста. Дзе творчая фантазія скоўвалася ідэалягічна выверaным і выдаваным разам зь пісьменьніцкім білетам рэгулямінам – як сябе паводзіць і гаварыць на падобных сходах. Панчанка вяртаўся дамоў і даваў волю пачуцьцям – да астатку выказваўся ў вершах...

Перачытваю Пімена Панчанку – і згадваюцца радкі Б. Пастарнака: «Сто слепящих фотографий Ночью снял на память гром». Так мне бачыцца панчанкаўская манэра: успышка бліца, імгненная фіксацыя й уштукаваньне гатовага твора ў дыхтоўную раму. Нездарма адна кніга Панчанкі гэтак і называецца – «Пры сьвятле маланак». Паэт ніколі не забываўся на праўдзівую, на мой погляд, формулу: мэтафары – паравозікі паэзіі. Няма

каму падпіхнуць хай сабе й не пустой пародай гружаныя вагоны – і стаяцьмуць яны нязрушна на ціхім паўстанку. У Панчанкі ж «чмыхнуў раз, чмыхнуў два шустры паравозік» – і верш ажыў, прыйшоў у рух:

*Вясьне так хочацца прысесьці*
*На сакавітую траву.*
*Каштанаў факельнае шэсьце*
*Ёй закружыла галаву.*

Памятаю (ці не зарана мэмуарысты настрой?) Каралішчавічы, 1984 год. Нас, студэнтаў-першакурсьнікаў, што жывілі свой няўмацаваны беларускі дух погаласкамі пра разагнаную «Майстроўню», пасадзілі перад высокімі гасьцямі – Н. Гілевічам ды І. Антановічам – і прапанавалі задаваць пытаньні. Мне карцела пацікавіцца ў партыйнага начальніка, ці не даводзіцца ён часам сваяком маёй бабулі Антановічысе, але больш спрактыкаваны асьпірант А. Бяляцкі (будучы водца «Тутэйшых») падбіваў на крамолу – спытацца, чаму мая родная «Гродненская правда» выдаецца не па-беларуску. Але цяжка было дачуцца праўды ў акругленых адказах прамоўцы. Ды й ня гэта здавалася мне тады галоўным. Як, дарэчы, і ня тое, што панараўны і ў паэзіі, і ў манэры трымаць сябе на сцэне Ул. Някляеў за бяседным сталом нечакана загаварыў не на той мове, на якой пісаў вершы, за якія быў на пачатку бяседы ўганараваны нашай усеагульнай увагай. Галоўнае было ў тым, што мы жылі ў невялікім дамку на ўзбоччы ад цэнтральнага палаца – на лецішчы Пімена Панчанкі! Мы доўга абвыкаліся ў адсырэлых сьценах з рагамі адліжных пацёкаў на шпалерах (лецішча ўзімку не ацяплялася), прымяраліся да не новых пашарпаных ложкаў і крэслаў (як у іх ляжыцца й сядзіцца класыку?), не адразу адважыліся ў

тых мэмарыяльных пэнатах на вакхічныя пасядзелкі з такімі ж бесклапотна-маладымі паэткамі... Пішу пра гэта без усялякай іроніі, проста хочацца, каб магчымы чытач зразумеў, кім ужо на той час быў для нас Панчанка.

А крытычныя папрокі можна закідаць каму заўгодна. З пазыцыі беларуса-незалежніка можна папракнуць Пушкіна зь яго недальнабачнымі радкамі: «Славянские ручьи ль сольются в русском море...» З антытаталітарнага гледзішча можна паўшчуваць Купалу, чые хлопчык і лётчык неабачліва ляталі над Крамлём. Можна ўпікнуць і Панчанку, што не на які-небудзь старадаўні курган ці замчышча (дзеля патрыятычнага выхаваньня) павёў унука, [illegible] ў Маўзалей. Мажліва, грэх з гэтага насьміхацца, ды сёньня, калі любы графаман пасьпешліва лепіць гліняныя камы-вершы на актуальныя грамадзянскія тэмы, дазволю сабе зацытаваць чатырохрадкоўе малавядомага расейца М. Глазкова, «паэта для паэтаў»: «Мне говорят, что «Окна ТАСС» Моих стихов полезнее. Полезен также унитаз, Но это не поэзия».

Адзінае, што ўспрымаю балюча, – старасьць паэтаў. У іх вершах столькі бруістай сілы, сьветлай стваральнай энэргіі, пра закон захаваньня якое можна прачытаць ня толькі ў аб'ёмістых тамах усходніх мысьляроў, але й у вершах Панчанкі.

Подумкі пра жніўную – і навечную! – пару ў жыцьці паэтаў я прысьвяціў Пімену Емяльянавічу:

*Шчыры пост*
*ці сьцяжынка наўпрост*
*на гульбу, да Абрама на піва...*
*У паэтаў біблейскі узрост*
*на вякі.*
*А камусьці на дзіва.*

*Сапраўды,*
*ці падлічым гады,*
*мы, што звыклі, шануючы меру,*
*мераць век даўжынёй барады,*
*ці падлічым, а колькі ж Гамэру?*

*А мо не ў галаве,*
*у пустым рукаве*
*загаіўшы няўгойныя болькі,*
*ведаць, колькі Скарына жыве,*
*і Мікола, што з Гусава, колькі?..*

*Мусім*
*не разгубіцца зусім*
*і засьведчыць, прысьпешыўшы крокі,*
*што вядзе нас за рукі Максім,*
*каб на сьвет паказаць на шырокі.*

*Шлях, раўней,*
*і, палетак, руней,*
*і над кветкай няхай пчала ўецца...*
*А паэты старэюць раней,*
*чым астатняе ўсё чалавецтва.*

*Барані*
*ад ліхой бараны,*
*Божа, душы іх – парасткі ў росах.*
*Ні калыскі у іх, ні труны,*
*толькі верш*
*на зямлі і ў нябёсах.*

*І адна*
*у паэтаў віна:*
*не ўміраюць і ў вечныя векі.*
*Ім гарэць ад цямна да відна,*
*Ім пятак не закрые павекі.*

*Ім касмічныя чуць галасы,*
*ім нязьменна*
*на лядах і галах*
*заставацца на ўсе на часы,*
*як Валошын у сонечных скалах!*

*1991, 1996*

# НЯ КРЫЖ, А ПЛЮС

На тыльнай старонцы вокладкі кнігі «Вяртаньне ў першы сьнег» – дата ўцэнкі – 10.08.79 г. – і чыйсьці размашысты подпіс. Вершы патаньнелі ў два разы й сталі каштаваць дваццаць капеек – як бохан хлеба ў тыя «прыільлічныя» гады.

На паэзію ўвесь час знаходзіліся ўцэньшчыкі (як і загоншчыкі). І на маёй памяці было – у нашай вясковай крамцы з надганачнай шыльдай «Товары повседневного спроса» прадавалі Танка па дзесяць капеек за том. Так і хацелася папрасіць мажную магазіншчыцу Вераб'іху, якая што заўгодна магла прадаць напавер, на разліў і ўвогуле па частках, – узважце мне вершаў на тры капейкі.

Паэзія можа падняцца ў цане ў букіністычнай краме. І то не за свой кошт, а дзякуючы выключна таму, што пэўная частка чалавецтва ажно дрыжыць, упадаючы за пажаўцелай ад часу і прапахлай мышамі паперай. Нядаўна напаткаў у «Вянку» на Траецкім зборнічак М. Машары. Тройчы пераплічыўшы колькасьць нулёў на цэтліку, я вымушаны быў канстатаваць сам сабе неверагоднае – кніжка сярэдняга заходнебеларускага паэта каштуе каля паўсотні даляраў (!). Чаму так? Год выданьня – 1928. А апантаны калекцыянэр год хадзіцьме з падцягнутым пасам, але патрэбны старадрук набудзе.

Цана на Барадуліна ў сэрцах нешматлікіх, ды стойкіх прыхільнікаў беларускай паэзіі ніколі ня падала. Ягоны паэтычны радок не паддаецца дэвальвацыі, нягледзячы нават на рэдкія па сёньняшніх часах частыя выданьні й перавыданьні.

На Беларусі паэтаў ніколі не бракавала. Многія зь іх напісалі творы, што застануцца, многія вартыя добрага ўспаміну. Але...

У каго кожны радок выверания, як гадзіньнікавы мэханізм, што й без груваcткагаківача не зьбіваецца з аднойчы абранага суладнага ходу? У каго ўвесьчасна і думка, і слова, і рыфма свежыя і пахнуць спрадвечнасьцю, беларускасьцю й глыбінёй, як увечненае паэтам Вечальле? У аднаго Барадуліна.

Хто здолеў апладніць мастацкім семем знаёмы з маленства фальклёр, узняўшы ўшацкія прыпеўкі й прыгаворкі да арыгінальнага твора (згадайма бліскучую «Смаргонскую акадэмію» ці нядаўняе «Здубавецьце»)?

Адзін Барадулін.

Каму муза засталася верная і ў пэнсійным веку, каго яна наведвае (на зайздрасьць і маладым, і сталым) надзіва часта?

Аднаго Барадуліна.

Хто ў блюзьнерска-сьвятым парыве стварыў Эвангельле ад найсьвяцейшага чалавека на зямлі – Мамы, тым ня менш рызыкуючы паводле царкоўных канонаў апынуцца ў адной гэрэтычнай «кумпаніі» зь Львом Мікалаевічам, аўтарам анафэмнага Эвангэльля для дзяцей?

Адзін Барадулін.

Хто ўмее напісаць аўтограф, адшукаўшы ў нетрах роднай мовы рыфму нават да такога імя-прозьвішча, якое ну аніяк ня хоча рыфмавацца, ды так, што шчасьлівы ўладальнік не-не дый пахваліцца адрасаванымі толькі яму радкамі майстра?

Адзін Барадулін.

Чые эпіграмы-экспромты (друкаваныя й не для друку) шырока разышліся ў народзе, чые словатворныя іранічныя рэплікі здольныя разварушыць любую сумную сходку?

Аднаго Барадуліна.

Хто з творцаў носіць пярсьцёнак з выявай «Пагоні» – як знак вечнага шлюбу з Айчынай?

Адзін Барадулін.

Хто зь беларускіх паэтаў аднолькава свой і ў Парыжы, і ў Пэкіне, і ў Нью-Ёрку, і ў Ерусаліме?

Мабыць, адзін Барадулін. Бо кожнае судакрананьне з праявамі іншага жыцьця імгненна ператвараецца пад ягоным заўсёды наўзгатоўным пяром у паэзію.

Беларускія грошы ніяк ня могуць зрабіцца канвэртоўнай валютай. Беларуская паэзія Барадуліна можа канвэртавацца на любых сусьветных рынках: яе ня сорамна разаслаць у канвэртах у Аўстралію ці на бераг Тэмзы, але хіба зможа ангелец адчуць, як пахне Вечалле?

Постаць Барадуліна зьвяртае на сябе ўвагу ня толькі якасьцю й колькасьцю твораў. Мне імпануе ягоная зацятасьць і грамадзянская сьмеласьць, калі паэт чытае вершы на апазыцыйным мітынгу, не баючыся, што адбяруць званьне народнага. Але для мяне важныя й чалавечыя ўчынкі паэта. Памятаю, як незадоўга перад адлётам у незваротны вырай да мяне на працу ў свой дзень народзінаў зайшоў Віктар Стрыжак і пахваліўся падарункам Барадуліна – кашуляй. Можна скласьці сяброўскі панэгірык, адбыць застольную рату насьпех купленай у падземным пераходзе вабнай кнігай, [redacted] тут, як сабрату, як сыну, – кашулю...

І ўсё ж Віцебшчына, якая «лёсам ня выпешчана», родавае гняздо Панчанкі, Вялюгіна й Барадуліна, дзякуючы сваёй небясьпечнай набліжанасьці (геаграфічна) да Расеі, хай сабе й

гады ў рады, але дазваляла сваім песьнярам двухсэнсоўныя выказваньні. Чытаючы іх у студэнцтве, мы дружна былі гатовыя абвінавачваць паэтаў у згодніцтве й г.д.

Пімену Емяльянавічу даставалася за радкі: «Калі ж хто загадае: «Ня трэба!» – Адрачэцца ад мовы народ...» Рыгору Іванавічу перападала за адзін-адзіны: «І калі нават мова мая замаўчыць...»

Што гэта за «калі»?! – экзэкутарствавалі мы, непагрэшныя...

Не пасадзіў беларусаў на адну лаву Пілсудзкі, не саслалі, не закатавалі, не зрусыфікавалі нас правадыры ўсіх масьцяў, значыць, і сёньня крыж ставіць на нас не прабіла гадзіна. Час настаў той, калі нават змайстраваны незычліўцамі крыж можа стацца для беларусаў плюсам. Народу можа пашэньціць у наш выкрунтасісты час сёньня, у паэта шанец ёсьць заўсёды.

*1996*

# ВЕРШАПАДЫ З КОСМАСУ САМОТЫ

На дасяжных маймu воку даляглядах паэзіі з сучасных паэтак найбліжэй адчуваю трох – Віславу Шымборску, Ліну Кастэнку, Данусю Бічэль. Полька летась атрымала Нобэлеўскую прэмію. Украінка шануецца ў сваёй дзяржаве як прыжыцьцёвы клясык. Беларуску выганяюць з Ажэшчынага дома на вуліцу, фактычна пазбаўляючы месца працы.

На мінулым пісьменьніцкім зьезьдзе адзін абласны літаратурны начальнік у стограмовых кулюарах наўзахапкі хваліўся, як ён добра пасябраваў з уладай – і службовую машыну яму выдзелілі, і пальму ў кадушцы пасярод ягонага габінэта паставілі. Узор прыгожага пісьменства для яго – жаласьлівыя лісты да прэзыдэнта, што піша ягоны зямляк, адзін з народных пісьменьнікаў.

Данута Бічэль, хоць і займае гэткую самую пасаду ў гарадзенскім адзьдзяленьні Саюза пісьменьнікаў, на працу ходзіць пешкі. Не атрымліваецца ў яе вялікага сяброўства зь мясцовай уладай, якая ў адпаведнасьці з рэкамэндацыямі са сталіцы нішчыць усё беларускае, адначасова патураючы палякам.

Грамадзянская мужнасьць як дадатак да таленту? Як у царкве – на табе прасьвіру дару Божага, але ж глыні й лыжачку кагору дзеля сьмеласьці. Гэта як простае беларускае зычаньне Таму, Хто надзяляе талентамі нашых творцаў.

Праглынулі свае прасьвіры й плітанулі ў бакавыя дзьверы. Пішуць, лунаюць у эмпірэях, спадзеючыся, што ўдасца пераседзець, перажыць, перавыдацца. Кнігавыданьне на ладан дыхае, а тут адразу дзесяць збораў твораў знаходзяцца ў вытворчасьці. Хто іх будзе чытаць, спадары клясыкі? Першы том аднаго з вас разышоўся ў колькасьці васямнаццаці (!) асобнікаў на ўсю Беларусь.

*Рапі* Віслава салідарна выглядае зь лесу філязафічнай мэтафорыкі й рашуча прамаўляе: *«Муза, ня быць баксёрам – значыць, увогуле ня быць...»*

*Господиня* Ліна, няйнакш прыгадаўшы нядаўняе наведваньне Беларусі, сумна прызямляе адзін з сваіх *«летючіх катренів»*: *«Грядущий хам вже навіть не греде – уже він сам в грядуще нас веде...»*

*Спадарыня* Данута падводзіць рысу пад пераклічкай: *«Сяглайце, паэты, коней – апроч нас няма тут войска...»*.

З усіх наведнікаў зэльвенскай хаты Ларысы Геніюш чамусьці толькі яе ўяўляю поруч з гаспадыняй. Сядзяць, гавораць пра Рагнеду, Максіма, Караткевіча, чытаюць вершы. Абедзьве панавітыя, бескампрамісныя, незалежныя. «Жанчына са слёз» – гэта іхняе, але больш стасуецца да іншых, астатніх...

Перачытваю яе кнігі – даўняе «Дзявочае сэрца» (падарунак А. Вялюгіна, які быў рэдактарам гэтай маленькай, на сорак старонак, кнігібкі), «Даўняе сонца» – адзінае пакуль што выбранае, леташні зборнік «Ты не самотны». Балючыя, трывожныя вершы – а на душы сьвятлее. Такая ў іх воля пачуцьцям, такі неабсяжны моўны простор! Яшчэ школьнікам прачытаў у дзіцячай кнізе «Дагані на кані»:

*Нечага,*
*чысцей галавенькі-жывічкі,*
*ад сутоньня да сонцаўставаньня*

*нечага шукаючы,*
*прамачыла чаравічкі.*
*А чаго – не ўяўляю дазваньня.*

Я тады не разумеў ні *«галавенькі»*, ні *«сутоньня»*, ні *«дазваньня»*, але верш зачароўваў сваім гучаньнем.

Калі ўвесну перад іспытамі яна прыехала выступаць у нашую Дзярэчынскую школу, ■ багавейна пазіраў на яе са швэдзкае сьценкі – месцаў на лаўках у спартовай залі не хапала. Каб госьця мела колькі хвілінаў на перадых, настаўнік літаратуры выпусьціў мяне. Дзяўчаты вырашылі падтрымаць свайго – як сорамна мне было за тыя воплескі!

Пасля сустрэчы ўва мне, як мора ў перлавічнай чарупіне, засталася гучаць стыхія беларускай мовы. А сярод гэтай стыхіі неназойліва рэзанавалі словы, нібы бакены-сьветлякі паказваючы шлях:

*Як пазнаць,*
*падказала краіна:*
*– Каго любіш?*
*– Люблю Беларусь.*
.......................................
*– Прыляцеў з-за мора*
*верны бусел*
*дваццаць пятага сакавіка.*

Яна тады падпісала мне «Дзе ходзяць басанож» – «*з пажаданьнем мужнасьці...*» Зялёная колерам кніга стала маім паэтычным каранам. Радзіму й паэзію я пачаў спасьцігаць адначасова.

Вершы яе запалоньваюць. Вобразаў у іх – россыпы. Адчуваецца, што зьявіліся яны ў выніку вызваленьня вялікай коль-

касьці энэргіі, – сублімацыя тут ці якое іншае мудрагельства спрычынілася, ня ведаю.

*Да цябе, як гольлечка да сонца...*

*.................................................................*

*Копʼі ялін шуганулі ў аблокі,*
*Шаломам неба зачэрпнула Нёмна...*

*.................................................................*

*Да цябе працягваю я рукі –*
*абдымаюць рукі Беларусь...*

Вершапады Дануты Бічэль. Схлынуць, адпусьцяць, і праясьніцца над імі зацярушаны залатым пылам космас самоты.

*1998*

# СЬВЕТЛАСЬЦЬ

Кніга можа быць намоленая, як ікона.

Намоленая ікона зьдзяйсьняе цуды, лекуе людзей. Намоленая кніга супакойвае, прасьвятляе, таксама цудадзеіць. Гэткіх кніжак у маім кнігазборы няшмат. З «Залатымі зярнятамі» Ул. Дубоўкі я хаваўся ў вялікую бочку для збожжа – басу – яшчэ ў дашкольным веку. «Вершы пяці кніг» Г. Бураўкіна туліліся ў пляскатым дэсантным заплечніку амаль два гады, калі я быў «акупантам» і таптаў жаўнерскімі ботамі вольналюбную летувіскую й заходнеўкраінскую зямлю. Віцьбічаў паэтычны нарыс «Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман» насіў за пазухай падчас нефармальнага студэнцтва... На бела-сінім «Каханьні» Раісы Баравіковай я, каб на тое мая воля, дазваляў бы маладым клясьціся пад вянцом. Не раўнуючы як на Бібліі.

Сёньняшнія маладыя чалавекі, што ўздымаюцца на аблокі закаханасьці па камасутравай лесьвіцы, паблажліва пасьміхнуцца. Але каханьня без паэзіі не бывае.

А паэзіі не бывае бязь любасьці й сьветлыні.

Над вершамі Раісы Баравіковай, нібы сьвітальная зара, займаецца аўра любові. Неба яе паэзіі, напоўненае, як паветраны шар, прычашчоным вышынёй духам, лёгка й паратоўна выхоплівае чытача з жыцьцёвае прозы. Гэта боскае ўмельства паэткі – растварыўшыся ў мове, у пачуцьцях, працягваць сьвяціць уласным сьвятлом, працягваць жыць у палёце насуперак гравітацыйным законам.

У Раісы Баравіковай аблічча сьветлае, як і яе паэзія. Калі б пісьменьнікаў пачалі называць велягурыстымі тытуламі накшталт Яго Вялікасьць дзяржаўны паэт, Яго Шматтомавасьць народны празаік, Яго Недасяжнасьць прэзыдэнцкі літаратар, я б зьвяртаўся

да паэткі проста й бязпадхалімна – Ваша Сьветласьць. Я ня ведаю, хто яшчэ ў мнагалюднай беларускай паэзіі заслугоўвае на гэткі княскі зварот. Адзін масьціты прызнаваўся, што пачаў пісаць ад злосьці. Мне здаецца, што Раіса Баравікова за ўсё сваё творчае жыцьцё не ўзгадавала й каліва нелюбові на сваім паэтычным палетку. І гэта як збавеньне, бо ад злосьці жанчына старэе.

Як момант лірычнага суперажываньня непрацяглы, так і вогнішча чалавечай жарсьці, на жаль, – ня вечны агонь. Полымя таксама зьнясільваецца, сівее, асабліва калі перад гэтым шугала пад нябёсы. Памятаю, як у фэстывальнай Піцундзе маскоўска-слуцкі паэт Пятро Кошаль, па-байранаўску кульгаючы ў кірунку да мора, смакаваў радкі: *«І ад радасьці хмельнае грузны, / абмінаючы дрэвы і пні, / прыпадзі да распаленых вуснаў / і ў высокія травы шпурні»*. І чулася ў ягоным смакаваньні, у ягоным самазабыўным дэклямаваньні шчасьце далучанасьці родавай повязьзю да зямлі, дзе жанчыны такія неўтаймоўныя ў каханьні. Верш не даваў спакою й мне, і, вярнуўшыся дамоў, я адшукаў ягоны працяг у зборніку Раісы Баравіковай: *«Закрычы па-дзікунску штосілы, абрываючы сукню зь пляча...»* Зьбянтэжаны такім Drang und Sturm, я вырашыў неадкладна паўстаць на абарону беларускіх мужчын і, найначай пад падступныя нашэпты вірутніка з-пад цёмнай гвязды, выступіў у вартым жалю парадыйным жанры.

...Ды вершы варушацца нязгаснымі яскаркамі ў апыленым роем гадоў попеле на прыцьмелым кастрышчы. І паэзія прыходзіць у нашае жыцьцё, каб прасьвятліць яго, зрабіць нас відушчымі й трывушчымі.

Наўмысна не цытую ўпадабаных мною вершаў Раісы Баравіковай. Яны не для чытаньня напаказ. Не ў дакор паэтцы скажу, што радкі яе пры чытаньні камусьці іншаму губляюць нешта няўлоўнае, істотнае. Вершы яе прагнуць непасрэднага сумоўя: паэт – чытач. А таму лепш на самоце яшчэ раз вярнуцца да чытанай ня раз, да намоленай кнігі, пазычыць якую шкада нават блізкаму сябру.

*1996*

# ПРА ВІКТАРА ШНІПА

Паэт пры жыцьці можа прайсьці дзевяць кругоў пекла, як Дантэ. Можа паўжыцьця пражыць у выгнаньні й памерці на чужыне, як Авідый. Паэты бываюць сьляпымі й найвідушчымі адначасова, як Гамэр, і бязногімі скараходамі па сусьветах паэзіі, як Арсень Таркоўскі. Паэтаў хаваюць у храмах, як Адама Міцкевіча, ці закопваюць без разьвітальнага слова й магілы, як Восіпа Мандальштама...

Але паэт зьдзяйсьняецца ў слове, і гэтым кампэнсуюцца ўсе яго зямныя й пасьмяротныя пакуты.

А таму найцяжэй быць паэтам народа, які нямее. Быць і сваёй прысутнасьцю абвяргаць яго адпрыродную немату, сьцьвярджаць яго Богам дадзены голас.

Віктар Шніп – паэт народны. Ня званьнем, ■ – сьветаадчуваньнем. Характарам сваім рахманым, маўклівасьцю, непрыкметнасьцю сваёй фізычнай асобы. І ў той жа час за чаркай – лепшага апавядальніка пашукаць. Чым не беларускі нацыянальны тыпаж? Калісьці М. Стральцоў пісаў пра нацыянальную літаратуру і прыводзіў у якасьці яскравага прыкладу купалаўскі радок «стагнаў яловы плот». Пэўна ж, на вялікай Беларусі можна сустрэць і паркан, і тын, і яловы плот. Але ж і папалазіў я праз гэтыя самыя яловыя платы ў Прыкарпацьці! Для мяне больш нацыянальная акурат шніпаўская паганская вогнепаклоньніцкая мэтафара:

*Вогнішча гадую, нас яно сагрэе...*

Агонь прасьвятляе думкі чалавечыя, агонь і паэзію ачышчае ад слоўнай лішніцы. А вогнішчы, агеньчыкі гараць у Шніпавых вершах часта, часьцей мо толькі Храмы сустракаюцца. А ў Храм беларус звыкся толькі сьвятам наведвацца, нязвыкла яму йсьці праз бясконцую вершаваную анфіляду цэркваў і касьцёлаў – зруйнаваных, апляваных, забытых, прыгожых, з Богам і бяз Бога.

Вядома, каб уважліва прачытаць усе вершы, якія друкуе сёньня Шніп, трэба больш не чытаць нічога. Неяк у адной сяброўскай, а таму не зусім пісьменнай, эпіграме пісаў я й такое:

*Купала з Коласам прыйшлі б*
*І сталі у чаргу за Віцяй,*
*Што азначала б: Віктар Шніп*
*За нас абодвух пладавіцей.*

Паводле чытачоў сваіх Шніп таксама народны. Адзін будаўнік зь няпоўнай сярэдняй адукацыяй пазычыў у мяне ўсе Шніпавы зборнікі і, прачытаўшы, настолькі ўразіўся, што пачаў пісаць сам. Першы яго верш быў пра Храм, пра наднёманскую Каложу... Згадаўшы будаўніка, я зусім не хачу сказаць, што элітарны чытач ня знойдзе спажывы ў вершах Шніпа. Яшчэ як знойдзе – калі пашукае.

Лягчэй быць прыкметным паэтам, калі твой профіль прыродай высечаны ў скалах і ўжо на адно гэта падзівавацца зьяжджаюцца на пустэльны бераг Чорнага мора сябры й незычліўцы, паэты й непаэты. Цяжэй стварыць паэзію са звычайнага, да чаго ўсе звыклі. Як той касьцёл у Ліпнішках на Лідчыне, выштукаваны ад падмуркаў да крыжоў з падабранага пад нагамі каменьня. Калі [redacted] чытаю вершы Віктара Шніпа, то ўспамінаю (Бог ты мой, і я не пазьбегнуў!) гэты храм.

*1998*

# НАСТОЯЦЦА
# Ў САРКАФАГАХ

Плыты беларускай паэзіі заносіць на імклівых паваротах Леты. Дый рухаюцца некаторыя зь іх на фарсаванай хуткасьці неапрабаваным фарватэрам. Абы не забросьнелым старыком, дзе цьвіце зялёная раска й рэхчуць лупатыя жабы. Але крый Бог не дагледзіць стырнік і ўзаб'ецца плыт на падступную водмель – гукай, лямантуй тады ў цемень начную, перакваліфікоўвайся ў бурлака. Рызыкоўная рэч – рухацца навобмацак. А калі ніхто з папярэднікаў бакена не запаліў? А ў кантовай дасавецкай бутэльцы, вылаўленай у хуткаплыннай рацэ, цыдулка з прывабліва-мройнымі словамі: «Паміж пяскоў Эгіпэцкай зямлі...». Яшчэ адна ідылія ў духу лятучага галяндца.

Другім пасьля Багдановіча на эгіпэцкія піраміды паклаў вока Юры Гумянюк. Сумовіцца з муміяй значна прасьцей, чымсьці з сярэднестатыстычным беларусам. Як, мабыць, і ўвесьці ў вушы фараону Тутанхамону, у чатыры разы старэйшаму ад Скарыны, што Гумянюк – самы выбітны паэта постсацыялістычнай эпохі на Беларусі.

У «псыхадэлічным мастацтве» Гуменюка мне імпануе разьняволенасьць, адсутнасьць любога думкапаклонства (хоць гэтак улюбёныя ім фараоны, як вядома, не любілі панібрацтва). Але Азырыс, Ізыда, Ра, Дыяген, ▪ ўперамешку зь імі Ленін, Тувім і Гілевіч адной сваёй прысутнасьцю наўрад ці змогуць намагніціць паэтычную прастору. Роля самога аўтара ў некаторых опусах амаль незаўважная. Расьпінаючы ненавісны сацрэ-

алізм на «крыжы беларускай паэзіі» й дэманструючы зайздросную нястомнасьць сваіх «зрокавых аналізатараў», Гумянюк шматкроць, з уласьцівай яму апантанасьцю, эксплюатуе зацяганы творчы мэтад «джамбулізму» – што бачу, тое з тым і сашчапляю. Каб не вырасьлі часам грушы на вярбе...

Але паэзія, адрасаваная фараонам, мусіць настаяцца ў саркафагах. Таму прапаную кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь пахадайнічаць перад эгіпэцкімі ўладамі аб кансэрвацыі вершаў Ю. Гуменюка ў пірамідах, часова зачыніўшы іх ад наведвальнікаў. Але няпэўнасьць застаецца: ці дажыве хто, каб паспытаць іх гадоў праз тысячу...

*1995*

# ПАД ПАГРОЗЬЛІВЫМ ЗНАКАМ ПЫТАЛЬНІКА

Без Радзімы жыць паэту невыносна.

Без магілы паэту беспрытульна ўдвая.

Уладзімер Дудзіцкі быў пазбаўлены і таго, і другога. Спачатку яго прымусілі пакінуць Беларусь, а потым адмовілі і ў праве на апошні прытулак. І калі гаркавага эміграцкага хлеба пакаштавалі (і каштуюць) многія, і гэта пачынае ўспрымацца досыць звыкла, то ў безмагільнай сьмерці ёсьць нешта містычнае. Як гэта – жыў сабе чалавек, пісаў вершы, кахаў жанчын – і раптам бязьсьледна зьнік. Ягоны прах не разьвеялі над беларускай зямлёй, як парэшткі аднаго расейскага пісьменьніка. Не замуравалі ў калюмбарыі з прычыны недахопу месцаў на гарадзкіх могілках. Не апусьцілі ў глыбіні акіяна, каб потым ускладаць памінальныя вянкі на абыякавыя хвалі...

Можна прыгадаць, што над тысячамі загубленых людзкіх жыцьцяў не стаяць помнікі ў курапацкім лесе ці на сьляпянскім конскім могільніку,ператвораным шэсьць дзесяцігодзьдзяў таму ў могільнік чалавечы. Але нашчадкі палеглых, ставячы сьвечку ў Курапатах пад сымбалічным крыжам, на якім пакута зьвіла гняздо з калючага дроту, ведаюць, што іхны крэўнік загінуў у гэткім жа лесе, над гэткай жа ямай, гэтулькі ж часу таму.

На занядбаных могілках у Ялабузе ёсьць сьціплая шыльдачка: «З гэтага боку пахаваная Марына Цьвятаева». І людзі могуць адведаць паэтку, прайшоўшы палову кладоў.

А тут няма куды прыйсьці ні нашчадку, ні чытачу. Як быццам распаўся чалавек на атамы пад узьдзеяньнем магічнай сілы. Непамысна. Нездарма Леанід Галубовіч, пішучы пра яшчэ аднаго гаротніка, незаўважна выгукнуў-паўтарыў разгублена, нібы ў маленстве:

*НяМА МАгілы*
*МАндальштаМА.*

Няма магілы й Дудзіцкага. І гэта як няскончаны сказ, незавершаны шлях – няма кропкі, няма супынку.

Паэт Уладзімер Дудзіцкі быў самотны. Бо ня меў кнігі вершаў ні з друкарні Марціна Кухты, ні зь якой іншай друкарні. Двойчы ягоныя рукапісы гінулі ў ваеннай калатнечы. З надзеяй на пазбаўленьне ад самоты пісаў сябрам з Вэнэсуэлы, што прэзыдэнтам гэтай паўднёваамэрыканскай краіны зьяўляецца пісьменьнік. Але які клопат першаму вэнэсуэльскаму пісьменьніку да адзінага на ўвесь мацярык беларускага паэта...

На ўсёй беларускай эміграцкай паэзіі ляжыць адбітак настальгіі. Аднак чалавек ня можа жыць адным сумам, адным ўспамінамі пра Бацькаўшчыну. Тым болей, што вярнуцца на Радзіму не ўяўлялася магчымым. І паэты ратаваліся хто як мог. Натальля Арсеньнева пераўвасаблялася ў восень, хавалася, нібы ў нірвану, у лістападны прысак, высноўваючы ў вершах мэдытацыйныя карункі. Рыгор Крушына кідаўся ў вір падарожжаў, наведаў ледзь ня ўсе краіны сьвету, напоўніцу насычаючы вершы экзотыкай. Масей Сяднёў спрабаваў даверыцца перакладам, уцякаў у сярэднявечча на сумоўе з Мікеляндзжэла...

Уладзімер Дудзіцкі ня змог вырвацца з гравітацыйнага поля Беларусі. Ягоная паэзія цалкам ва ўладзе традыцыйных беларускіх матываў, што часам дае падставы казаць пра пэўную аднастайнасьць. Магчыма, і сам паэт адчуваў пагрозу самапаўтораў, шукаў новых тэмаў. Але задуманы цыкль «Вэнэсуэла» так і не ажыцьцявіўся – зь яго напісалася толькі два вершы.

У спадчыне Дудзіцкага на асноведзі шматлікіх вершаў пра Радзіму, выгнаньне й каханьне вылучаецца «Адменная ода». Верш-абвінавачваньне Нямеччыне, ці не адзіны ў беларускай эміграцыйнай паэзіі. Паэты-эмігранты ахвотней прыгадвалі ліхім словам бальшавікоў, асьцерагаючыся згадваць у вершах краіну, на чыёй зямлі ў лягерох перамешчаных асобаў яны мусілі жыць даволі доўга. А тым часам над праскавышонай ваеннымі вятрыскамі Эўропай падзьмулі павевы халоднай вайны, і ўчарашнія ворагі на вачах ператвараліся ў хаўрусьнікаў. Уладзімер Дудзіцкі не пабаяўся выказацца суровым пракурорскім голасам, учыніўшы яшчэ адзін маленькі нюрнбэрг у час, калі падзеленая Нямеччына рабілася арэнай вялікай палітыкі.

*Не сьмяюся над горкай чашаю*
*і ня плачу – прабач.*
*Скажы:*
*хто учора за сьпінай нашаю*
*нашай сьмерці каваў нажы?*

*Лашчыў сьмерці халодным прысакам*
*на узьвівах свае вясны,*
*каб ня сьмелі узьняцца высака*
*залатыя у песьнях сны?*

*І цяпер, як апошнім дотыкам*
*вычуваю свой боль і сум,*
*над шпілямі халоднай готыкі*
*вусны гнеў мой табе нясуць.*

*Дзе нядоля мая прытуліцца,*
*ня пытайся пакуль – маўчы,*
*да палацаў на родных вуліцах*
*ты спаліла мае ключы...*

Ня вытрымаў тугі па Радзіме, выехаў у Савецкі Саюз... Трэба было быць вар'ятам, каб пасьля працы загадчыкам аддзьдзела культуры й асьветы ў акупаваным Менску, пасля згоды ўзначаліць беларускую сэкцыю радыё «Вызваленьне» паехаць у той Саюз, добраахвотна пайсьці на пагібель. Найхутчэй, Дудзіцкі быў зьнішчаны як магчымы энэргічны й здольны кіраўнік радыё ў Мюнхэне (аб чым яго папярэджваў і адзін зь нешматлікіх сяброў Юрка Віцьбіч). Наўрад ці гэта будзе калінебудзь высьветлена дакладна – спэцслужбы любой краіны ўмеюць хаваць сьляды.

Уладзімер Дудзіцкі на сваім прыкладзе як бы пацьвердзіў тэзу аб несьмяротнасьці паэтаў. Ёсьць дата й месца нараджэньня, а замест года сьмерці ў энцыкляпэдыях заўсёды стаяцьме пытальнік. Неўміручыя паэт і прамоўленае ім слова. Спаконвечная зямля, што натхняла і ў накрайсьветнай заакіянскай далечы. Ды неадчэпна брыдзе назіркам згорблены, як мураўёўская вісельня, пытальнік...

*1998*

# ЗЬМЕСТ

**Скобла Міхась**

С 44 Дзярэчынскі дыярыюш. Гістарычны нарыс, артыкулы, эсэ, — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 1999. — 272 с.; 16 с. іл.

**ISBN 985-6318-49-1**

Аўтар на прыкладзе свайго роднага мястэчка Дзярэчын паказвае, наколькі багатым з матэрыяльнага й духовага гледзішча было жыцьцё беларускіх паселішчаў у былыя часы. У XVII ст. у Дзярэчынскім тэатры ставіліся клясычныя опэры, функцыянавала вайсковая акадэмія, была вялікая калекцыя старадрукаў, шэдэўраў жывапісу ды іншых твораў мастацтва, сканфіскаваных дарэшты пасьля паўстаньня 1830–1831 гг. Пры напісаньні «Дзярэчынскага дыярыюша» шырока выкарыстаныя ўнікальныя матэрыялы з архіваў Гародні, Варшавы й Санкт-Пецярбурга.

У кнізе таксама змешчаныя эсэ пра выбітных беларускіх літаратараў Ларысу Геніюш, Натальлю Арсеньневу, Рыгора Барадуліна ды інш.

**УДК 882.6-4**
**ББК 84 (4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

МІХАСЬ СКОБЛА

ДЗЯРЭЧЫНСКІ ДЫЯРЫЮШ

Гістарычны нарыс

Артыкулы

Эсэ

Рэдактар Ліна Каўрус
Карэктар Натальля Кучмель
Вёрстка Алег Глекаў
Набор ЛарысаВаўчок
Тэхнічны рэдактар Ніна Гарбар

На першай старонцы вокладкі —
рэпрадукцыя карціны Сяржука Цімохава «Дрэва-стод».

Падпісана да друку 21.06.1999 г.
Фармат 70x100 $^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Karelia.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 14,28+0,84 укл.
Ул.-выд. арк. 11,29. Тыраж 1200 асобнікаў. Зак. № 1378.

Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор»
220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5. Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.1997 г.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні выдавецтва
«Беларускі Дом друку». 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.